## У НУМАРЫ:

*Марына ДАВІДЗЮК*

# РАЗУМЕЦЬ СЭРЦАМ

* * *

Так хочацца ўбачыць
цябе праз прызму
сівога туману...

Так хочацца адчуць
цёплыя далоні
твае...

Так хочацца прытуліцца
да твайго моцнага
пляча...

Але праз туман
бачыцца толькі
паўзмрок...

Побач толькі
цішыня...

І няўмела тулюся
ў сваю
адзіноту.

* * *

Без горкай думкі-авадня
Не пражыву ніяк ні дня.

Вось прычапілася дурнота,
Што ні гулянка, ні работа

Не абыходзіцца ні дня
Без горкай думкі-авадня.

**СПОВЕДЗЬ**

Сарамліва смяецца сонца,
салодкім сырадоем
сілкуецца сініца,



***Марына Давідзюк (Маркевіч) нарадзілася ў 1989 годзе ў вёсцы Чэрнічы Жыткавіцкага раёна. Скончыла філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны (2011), цяпер вучыцца ў магістратуры.***

светлазорнае срэбра
сыплецца са скроняў сутоння.
Спадзяешся саснуць на секундачку —
скрадваюць. Спапяляюць.
Спаць —
скрадваць
самакаштоўныя секундачкі
са свайго
«сібарыцкага» становішча.
Світанак спараджае свежасць.
Скарб — скіпетр скіфаў? —
Скарб —
спагада,
спачуванне,
спадчына.
Спакуса.

* * *

Стамілася...
Так хочацца рук, па-сапраўднаму мяккіх.
Вачэй, такіх родных і шчырых.
Яшчэ... цішыні. І прыемнага стану
Спакусы і бестурботнасці.
Гукаў — ані!
Словаў не трэба!
Я ўсё зразумею.
Сэрцам.

* * *

Заўсёды зайздросціла
(па-беламу!)
жанчынам,
якім геніяльныя мастакі
ўсіх часоў і народаў
прысвячалі свае творы.
Самой жа хацелася стаць
Жанчынай,
здольнай натхніць
Мастака
на стварэнне
Шэдэўра.
Нават калі гэты Шэдэўр
будзе ўвесь час
плакаць і прасіцца на рукі.

* * *

Мяккімі крокамі павольна ў душу
пракралася цяпло. Так добра стала...
А калі яно развярнулася
і ўжо хацела пакінуць мяне,
ледзь угаварыла застацца,
паабяцаўшы салодкія яблыкі
і ціхія крокі з раніцы,
каб паспаць долей засталося.
Проста радуюся.
Цікава,
а чаму цяпло выбрала мяне?

* * *

Чалавеку не патрэбны
зброя, сквапнасць,
прагавітасць, раўнадушша, атэізм...
Ён мае ўсяго гэтага даволі.
Яму патрэбны
каханне, спагада,
шчырасць, пяшчота, сяброўства
і звычайнае простае СЛОВА,
без якога ён — нямы.
Маючы магчымасць гаварыць,
галоўнае: не сказаць лішняе...
Гісторыя — гэта не толькі мінулае,
у асноўным —
гэта наша будучыня.
Таму:
«У час руху
трымайцеся за поручні».



*Яўген МАРТЫНОВІЧ*

# ЛІРЫЧНАЯ ПРОЗА

## АЎТОБУС 121

Вось едзеш у аўтобусе і дзякуеш Богу, што ён (аўтобус) не паспявае праскочыць на жоўтае святло. Яшчэ пару хвілін адтэрміноўкі «прысуду»... Праца... Яна за тым вось паваротам, ужо зусім блізка. Думаеш патроху, марыш: а раптам на працы трубу прарве самую старую ці мароз ударыць, як паабяцалі сіноптыкі: «Мінус 30 градусаў па Цэльсіі»!

Уявіце сабе: зімовы ранак панядзелка, радыёкропка нястомна паведамляе жыццярадасныя навіны, мама са злосцю намазвае маслам лусту батона: «Еш, каму кажу!» А ты не можаш праглынуць ні кавалачка! Мама пачынае злавацца яшчэ больш. І ты злуешся, і сабака злуецца, і нават бутэрброд злуецца: не хоча лезці ў рот.

У такой вось атмасферы ўсеагульнай любові ды цярпення я ішоў у школу.

Як жа я не любіў сваю школу, дакладней, тры школы (і ўсе яны былі падобныя, як піянерскія значкі)! Настаўнікі ўжо загадзя цябе ненавідзяць, і гэтая нянавісць разносіцца па школе з хуткасцю ветраной воспы. Тыдзень-другі, у верасні, цябе яшчэ церпяць, а далей… Шмат несправядлівасці адбываецца ў сценах школы. Але дзеці не могуць выказаць словамі гэтую несправядлівасць, не могуць выразна адказаць, што ж іх не задавальняе ў ёй. «Проста трэба добра вучыцца і тады не будзе аніякіх праблем!» Іншага варыянту не дадзена!

Я заўсёды пытаўся ў сябе: адкуль бярэцца гэтая нянавісць? Яны, настаўнікі, такія ж людзі, як і мы! Гэтак жа ядуць, ходзяць на дзвюх нагах, святкуюць Новы год, запрашаюць гасцей на свой дзень нараджэння, а часам нават, нібы малыя, дурэюць! А мы ў чым правініліся? Не ведаю... Ну ды ладна.

Часам находзіць нейкае дзіўнае аняменне, і жыццё праносіцца ў паскораным рэжыме. Нейкія рэчы пачынаюць губляць свае абрысы і сэнс, а прыпынкі мільгаюць міма цябе з хуткасцю шатла (часам іх аб’яўляюць, а часам без папярэджання зачыняюць дзверы... Адчуваецца «ўлада кнопкі». Што адчувае кіроўца, калі мае такую ўладу?). Хтосьці «прачынаецца» ў апошні момант і крычыць кіроўцу:



***Яўген Мартыновіч нарадзіўся ў Мінску ў 1985 годзе. Скончыў Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя М. Танка. Цяпер вучыцца ў БДУ на факультэце павышэння кваліфікацыі на базе Інстытута журналістыкі (спецыяльнасць «Літаратурна-мастацкая творчасць»). Працуе ў СШ № 201 настаўнікам па гітары. Публікаваўся ў газеце «Туризм и отдых», супрацоўнічае з часопісам «Рюкзачок».***

«Спыні! Спыні... Гэта ж мой прыпынак!» Але ён не чуе... Ці робіць выгляд, што не чуе. Людзі вакол шыпяць: «разява». Ці выкарыстоўваюць слоўцы мацней. Аддаўся чалавек марам, задумаўся, а на яго столькі злараднасці і пагарды сыплецца. Ранішні анабіёз не любіць трывогі!

Чым жыве гэты натоўп?..

Людзі чакаюць выхадных, а потым едуць у бясплатным аўтобусе ў «Еўраопт», каб запасціся пад завязку прадуктамі, а потым адправіцца на дачу паесці заслужанага шашлыку, паспяваць песень пад гітару... Тым толькі і жывуць тыдзень, тым толькі і дыхаюць, каб скінуць у пятніцу кайданы занятасці і акунуцца ў чароўны свет «пеннага напою» набытага па «жоўтым кошце». А потым зноў панядзелак...

Колькі цікавых рэчаў можна рабіць у аўтобусе: чытаць, слухаць музыку, тупа лупаціцца на іншых «хомо сапіенсаў», спаць, размаўляць, разглядаць узоры ад марозу на шкле... А часам можна стаць сведкам тэатральнага прадстаўлення.

Аўтобус дэмакратычны! Аўтобус сексуальны! Падлеткі акупуюць самыя зручныя месцы. Яны шчыльна прыціскаюцца адно да аднаго і гамоняць нешта нясkладнае. Усе іх прышчыкі рэагуюць ад дакрананняў і слоў. Калготкі ў сетачку, «блёсткі» і даўкі пах пудры прымушаюць хлопчыкаў гуляць у нейкія дзіўныя гульні.

Цікавы аўтобус вясною. Ён прасякнуты тэстастэронам. Аўтобус вылучае яго! Вечная карціна: дзяўчынкі хочуць вялікага кахання, а хлопчыкі проста хочуць...

А якія ж змястоўныя размовы часам можна пачуць ад старэйшага пакалення? Якія «цікавыя» гутаркі даносяцца да маіх вушэй! Ад іх мне становіцца брыдка:

— Заўтра будзе аванс. Куплю што-небудзь паесці...

— А я вось прыйду дадому і з’ем баршчочка... Як жа я хачу боршча, з кавалачкам мяска і смятанкай...

— А я за біточкі гатова забіць...

— Я б ад пячоначкі з цыбулькай не адмовілася...

— А я буду есці капусту! Хутчэй-хутчэй дадому! Мяне там чакае-недачакаецца капуста...

Часам людзі праяўляюць такую любоў да свайго страўніка і гастраноміі, што маглі б напісаць пра гэтую «любоў» паэму! Ніяк не менш! Але, пакуль не пішуць...

«Нешта мне душна... Хачу на паветра! Але гэта ж не мой прыпынак?! Ну і што? Прайдуся я лепш пешшу! Ну-ка, безквітковая душа, на выхад!»

## 133 ПРЫСТУПКІ

Большасць пад’ездаў Мінска чымсьці падобна: аблупленай фарбай, спецыфічным пахам смеццеправода, раскіданым па падлозе «спамам» з паштовых скрынак, сімпатычнымі радкамі бутэлек і россыпам недакуркаў, пакінутымі з учарашняга «свята жыцця».

Каты і коткі часта становяцца паўнапраўнымі гаспадарамі гэтых пад’ездаў. Бывае, сустрэнеш такога «кансьержа» на ўваходзе, а ён ляжыць на цёплай батарэі і мурлыкае пад нос сваю кацiную песеньку, чакае сакавіка. А пакуль адлежваецца, збіраючы даніну з чуллівых бабуль і цётачак.

Вось ужо другі месяц у гэтым пад’ездзе не працаваў ліфт. І жыхары звыкліся з гэтым фактам. Паабураліся трошкі, пашумелі ціхенька, а потым звыкліся. А можа адаптаваліся? Стары Дарвін хітра ўсміхнуўся б сабе ў бараду, яшчэ раз пераканаўшыся ў правільнасці ўласнай тэорыі: «Выжывае мацнейшы».

Як проста было ў дзяцінстве вырашаць няхітрыя задачкі, накшталт: «З пункта А ў пункт Б выехаў цягнік...» А цяпер? Ну як растлумачыць рашэнне такой простай задачы «пра зламаны ліфт» дзіцяці? Які тут правільны адказ? «Яго трэба адрамантаваць, — скажа вам дзіця, — калі нешта паламалася, гэта проста трэба паправіць». Як усё проста! Але, толькі не ў гэтым зачараваным пад'ездзе.

Кожны вечар, вяртаючыся з працы, Дзіма апранаў нязручныя накаленнікі і скураныя пальчаткі. Навошта? А затым, каб не здзерці калені і далоні ў кроў. Некалькі гадоў таму ногі перасталі яго слухацца з-за меапатыі. Год за годам хвароба метадычна «ела» мышцы яго ног. Лёгка адаптавацца да новых умоў, калі ў цябе здаровыя ногі. Але гэта быў не той выпадак.

Як складана навучыцца радавацца жыццю, калі не працуе ліфт! Але Дзіма радаваўся. Спрабаваў радавацца.

Ну вось, яшчэ адна цудоўная раніца! А наперадзе не горшы вечар. Таму што менавіта вечарам Дзіма падымаўся на свой сёмы паверх.

Яшчэ адзін лесвічны пралёт застаўся за спінай, яшчэ адна прыступка... Як жа іх шмат гэтых прыступак...

Сто трыццаць тры!!! Ён ужо палічыў іх.

Спачатку хацелася гучна і доўга лаяцца. Потым плакаць... Але ён усміхаўся. Няўжо звыкся? Не! З такімі рэчамі немагчыма звыкнуцца.

Суседзі... што падумаюць суседзі, калі ўбачаць паўзучага на карачках калеку? Паспачуваюць? Пагладзяць з жалем па плячы?

Хтосьці пройдзе міма, хтосьці кіне цікаўны позірк, хтосьці задумаецца пра тое, што «Як жа ўсё ж такі добра, што гэта не я так паўзу, што гэта месца ў жыцці займае нехта іншы, а не Я!»

«Усе яны думаюць, што я няшчасны. Яны шкадуюць мяне! Але не трэба. Чуеце?! Не трэба!!!»

Яшчэ адна пераадолена прыступка...

Заўтра спаборніцтвы, і мне трэба быць у добрай форме, толькі дзе ж знайсці яе, гэтую «добрую форму»?

«Чаму менавіта я?»

Ён перастаў задаваць гэтае пытанне ўжо 15 гадоў таму, калі даведаўся, што жыць з гэтым прыйдзецца ўсё астатняе жыццё. А медыкі сказалі, што яму засталося зусім мала. Успомніў аднакласнікаў, якія здзекаваліся з яго хваробы. Асабліва лютаваў Віцька. Калі нешта выбіваецца з нормы, чалавек пачынае палохацца. А яго ахоўная рэакцыя — напад! Вось і дзяўблі...

«Але, я жывы! Толькі бацькоў вельмі шкада».

Яшчэ адна пройдзеная прыступка...

«Бедная маці, яна ж не ведала, якія выпрабаванні ёй давядзецца прайсці з-за маёй хваробы. Ні адну ноч яна праплакала... Колькі ж я дадаў ёй новых зморшчын і сівых валасоў? Мне так шкада яе...

Але я навучыўся жыць! Мы навучыліся жыць!»

Яшчэ адзін лесвічны пралёт адужаў...

«Колькі ж розных думак лезе ў галаву... Пра што гэта я?.. Проста стомленасць, стомленасць ад немагчымасці нармальна жыць. Але што значыць «нармальна жыць»? Поўная лядоўня катлет, сыты жывот, здароўе ў кожнай клетачцы цела? Не ведаю... Проста не хочацца адчуваць гэтай стомленасці, проста хочацца выспацца і прачнуцца поўным сіл. Хіба шмат чаго я прашу ад жыцця? Мне б гэтага хапіла. Для мяне гэта шчасце...»

Яшчэ пару прыступак прапоўз...

«А хто сказаў, што шчасце лёгка даецца? Хіба хтосьці абяцаў мне яго? Яго трэба заслужыць, заваяваць? Тады я ўжо даўным-даўно заслужыў з дзясятак гэтых “шчасцяў” і ўзнагарод».

Сусед з ніжняга паверха спяшаецца на працу, а я яму загароджваю дарогу. Хмурыцца сусед. Відаць, незадаволены, што я ў яго скраў пару хвілін каштоўнага часу, ды і з жонкай, напэўна, палаяўся... Выціскае з сябе дзяжурнае: «Добры дзень»! Лепш бы проста прамаўчаў.

Колькі дурных думак лезе ў галаву. Усяго 133 прыступкі і кіламетры думак.

«Ізноў гэты кот! Ну што табе тут трэба? Гуляеш? Я табе не дам паесці. Няма ў мяне нічога з сабой. Прабач ужо! Пранырa... Добра кату. Ніякіх клопатаў. Усе жаданні празрыстыя і простыя, як лясная крынічка, халодны ручай. Як хочацца піць! Хочацца…»

І раптам Дзіма заплакаў.

Успомніў пра многае... І сумна неяк стала. Але гэтыя слёзы былі не ад жалю да сябе, не ад стомы ці крыўды на гэты свет. Ён не ведаў, адкуль яны ўзяліся. Доўга ўжо іх не было.

Дзіма не мог зразумець, што ж з ім адбываецца. Гэтае пачуццё захапіла ўсё яго сэрца. Пахі (нават не самыя прыемныя), святло, адчуванне стомленасці — усё гэта было яго ўласным жыццём. Ён адчуваў самае сапраўднае шчасце! І нічога душа яго змяняць не хацела...

## ТАМ, ДЗЕ ПАМІРАЮЦЬ МАРЫ...

*Кандуктар — работнік транспарту, які суправаджае аўтобус, тралейбус, трамвай (раней таксама дыліжанс), у абавязкі якога ўваходзіць продаж праязных квіткоў, назіранне за пасадкай пасажыраў (са слоўніка).*

У дзяцінстве я хацеў стаць лётчыкам. Мае мары, у адрозненне ад іншых савецкіх хлапчукоў, мелі пад сабою канкрэтную глебу: наша сям’я жыла ў адным з гарнізонаў Далёкага Усходу. Побач знаходзіўся аэрадром з цяжкімі бамбардзіроўшчыкамі: рэактыўнымі «Ту-22» і прапелернымі «Ту-95». Таму сваю мару я бачыў кожны дзень і пры вялікім жаданні мог нават дакрануцца да яе (часам бацька браў мяне з сабой на працу; ён быў спецыялістам па радыёсувязі). Але з узростам для мяне адкрылася простая ісціна: для таго, каб стаць пілотам, трэба мець добрае здароўе і вучыцца «на выдатна» амаль па ўсіх прадметах. Ні таго, ні іншага ў мяне не было. У школе я вучыўся на траякі, а здароўе маё кульгала на абедзве нагі.

Калі наступіў доўгачаканы момант вызначэння: кім жа ўсё-ткі быць у гэтым жыцці? Дакладнага адказу я не меў. Падазраю, што і большасць хлопцаў і дзяўчат майго ўзросту таксама не ведала адказу.

Дык што ж уплывае на выбар прафесіі? Няўжо толькі славуты «выпадак», а можа, прэстыжнасць, зарплата, «усыпаная касцямі» кар’ерная лесвіца. Няўжо пра гэта мараць маленькія хлопчыкі і дзяўчынкі?

Аднойчы, вяртаючыся з працы дадому, я задумаўся пра тое, што штурхае людзей займаць пасады, на якія ні адзін нармальны чалавек не згадзіўся б нават у самым кашмарным сне? Гэтыя думкі выклікала жанчына-кандуктар, што блу-

кала па салоне тралейбуса ў надзеі прадаць як мага больш квіткоў са свайго нашыйнага рулона. Яна была падобна да шматлікіх іншых прадстаўніц сваёй прафесіі: жоўта-сіняя форма, такі ж сумны і адутлаваты твар, патухлы погляд, замбіраваныя рухі цела, абмежаваныя прасторай салона і пасажырамі. Узнікла адчуванне, што дзесьці пад горадам існуе маленькі завод, які нястомна штампуе кандуктараў, настолькі яны ўсе падобны адно да аднаго. І мне зрабілася неяк няўтульна ад такой думкі, стала шкада гэтую жанчыну. Бо не пра гэта яна марыла ў сваім дзяцінстве…

Сумна тое, што людзі забіваюць сваю мару, не даўшы ёй нават нарадзіцца! Ходзяць на брыдлую працу, стаяць каля абменнікаў, у надзеі «на іншаземнае шчасце», глядзяць бязглуздую рэкламу, якая нажываецца на нашых страхах і дробных жаданнях. Жывём па інэрцыі, прапускаючы жыццё скрозь пальцы...

У кожным чалавеку ёсць дар. І гэты дар ад Бога. Але чамусьці мы хаваем гэты каштоўны падарунак, не распакаваўшы яго; не даём яму шанец пусціць расток. Гэта наша агульная бяда! Мы прывыклі глядзець толькі ўніз, нас прывучылі глядзець толькі пад ногі, каб не праваліцца ў каналізацыйны люк, ва ўсім шукаць падвох і падман. Мы настолькі да гэтага прызвычаіліся, што развучыліся глядзець адно аднаму ў вочы. Толькі дзеці яшчэ ўмеюць бачыць неба над галавой і пазнаваць у аблоках сваіх любімых персанажаў з мультфільмаў ды казак. Нам трэба вучыцца ў дзяцей дзівіцца і цешыцца мілым дробязям, якімі так шчодра прыпраўлена наша жыццё. Але мы ж дарослыя, мы ўжо забыліся, як гэта робіцца…

Жыццё коціцца ў вячэрнім тралейбусе... А вакол праплываюць тысячы людзей са сваімі няздзейсненымі марамі, са сваімі дробнымі клопатамі пра хлеб надзённы. Твары, загорнутыя ў газеты, або ў псеўда-раманы пра лепшае жыццё са шчаслівым канцом… Усе мы забыліся пра нешта галоўнае, пра тое, што прымушае заміраць сэрца ад адной толькі думкі...

Колькі яшчэ будзе разумных дыялогаў за чаркай, колькі яшчэ надарыцца страчаных магчымасцей ды шматспадзеўных «вёснаў»? А тралейбус так і будзе ехаць па сваім пракладзеным маршруце.

Лётчыкам я так і не стаў. Аднак, ні кроплі не шкадую пра гэта. Ды і да чаго марнаваць сілы на шкадаванні? Пражыўшы «чвэрць стагоддзя», я зразумеў адну простую рэч: для таго, каб адчуць смак палёту, зусім не абавязкова мець алюмініевыя крылы стратэгічнага бамбардзіроўшчыка.

## ЦУДОЎНАЕ ДАЛЁКА

*— Усе мамы і бабулі лічаць мяне станоўчым толькі таму, што ў мяне добры апетыт (з к/ф «Госця з будучыні»).*

Многія хлопчыкі 80-х былі таемна закаханы ў гераіню фільма «Госця з будучыні» Алісу Селязнёву, і марылі дапамагчы ёй знайсці гэты загадкавы «Мелафон». Я не быў выключэннем з гэтага правіла. Даходзіла да смешнага: садзіўся перад тэлевізарам з прамой спінай (здавалася, што гэта рабіла мяне больш мужным), апранаў бацькаў капялюш і лавіў з кінескопа прыгожы сумны погляд Алісы. Спадзяваўся, што яна мяне заўважыць. Але, так і не заўважыла.

## Цудоўнае далёка. Мінулае

Ёсць такія ўспаміны, якія грэюць душу. Вяртаючыся да іх, мы нібы пускаемся ў маленькае падарожжа па хвалях нашай памяці. Часам гэта нават карысна! Але не заўсёды. Бывае так, што людзі толькі і робяць, што жывуць гэтым «цудоўным далёка», тым самым заганяючы сваю душу ў тупік.

Мінулае, нават не самае вясёлае, набывае больш мяккія пастэльныя адценні. Забываюцца крыўды, няўдачы і паразы... І, як «лятучыя галандцы», з-за аблокаў мінулага, выплываюць толькі самыя яркія ўспаміны. Яно (мінулае), як быццам толькі з іх і саткана. Вось спытаеш чалавека: «Што ж было лепшым у мінулым у адрозненне ад сённяшняга дня?» І атрымліваеш у лоб адказы: «Піва смачнейшае. Сённяшняе піва — вада... А вось 20 гадоў таму зусім іншая справа», «Каўбаса натуральная», «Вада газаваная за 5 капеек». Дзіўна! У асноўным усе ўспаміны нясуць у сабе гастранамічнае адценне. Няўжо, акрамя гэтага, больш няма пра што і ўспомніць? Не ўсе, вядома, так адказваюць. Хтосьці прыгадвае тую страчаную дабрыню і чалавечнасць, якія былі раней, гасціннасць і сяброўства. Можна з гэтым пагадзіцца. Цяпер, у стагоддзе інфармацыі і хуткасці, народ стаў больш замыкацца ў сваіх маленькіх кватэрках. Гэта праблема нашай сучаснасці. І вырашаць яе прыйдзецца ў бліжэйшай будучыні.

Мне падабаецца акунацца ў мінулае: пабадзяцца па вулачках Старога горада, дакрануцца да яго «пернікавых» хатак, уявіць сабе, што па гэтых вузкіх вулачках калісьці хадзілі нашы прадзеды і прабабулі... Жылі, смяяліся, журыліся... Але потым я зноў вяртаюся на зямлю. Да свайго сённяшняга дня.

## Цудоўнае далёка. Будучыня

У канцы фільма Аліса распавяляла сваім сябрам з мінулага, кім яны стануць у будучыні… Надараюцца такія моманты ў жыцці, калі хочацца зазірнуць у будучыню хаця б на пару гадоў наперад; зазірнуць за куток часу! Колькі фантастычных фільмаў знята на гэтую тэму, колькі кніг напісана! Будучыня невядомая, таямнічая, вось і прыцягвае яна нас сваёй эксцэнтрычнасцю ды непрадказальнасцю.

Людзі марнуюць плойму грошай на разнастайных варажбітак, псеўда-аракулаў, гараскопы, абы толькі даведацца, што чакае іх наперадзе! Але навошта? Я ўвесь час задаю сабе гэтае пытанне. У дзяцінстве хацелася даведацца пра будучыню: што табе падораць на дзень нараджэння або Новы год? З кім будзеш танчыць на школьнай дыскатэцы? Атрымаеш ты «валянцінкі» ад усіх дзяўчынак свайго класа (а можа, нават суседняга!), ці не? Але гэта ж было ў дзяцінстве! Цяпер мне падабаецца маё цяперашняе. Няхай і недасканалае, але сапраўднае.

## Цудоўнае Цяперашняе!

Трэба вучыцца радавацца менавіта цяперашняму! Жыць у ім, мірыцца з ім, мяняць нешта ў сабе, калі што-небудзь не падабаецца. У якую б пару года і надвор’е гэта цяперашнее не прыйшло — цешыцца яму. Навучыцца карыстацца ўсімі сваімі пяццю пачуццямі, а пры магчымасці развіваць і іншыя! Удыхаць густыя пахі вясны, цёплыя пахі лета, даўкія водары восені і прахалодныя пахі зімы. У гэтым і ёсць шчасце. Не трэба яго шукаць у мінулым! Не трэба моцна разлічваць на будучыню. Трэба цалкам даверыцца цяперашняму. Упусціць яго ў свой дом і пасадзіць на самае ганаровае месца! Нельга трапляць у палон ні да мінулага, ні да будучыні. Лепш жыць у сапраўдным свеце, і быць сапраўдным сабой.

Алесь СПІЦЫН

# «І ЗЗЯННЕМ АДКРЫЛАСЯ СОНЦА...»

* * *

З вуснаў раны — у вусны зямлі
Пунсовая праўда цячэ.
Пі, маё птушанятачка, пі,
Я прынясу яшчэ....

Птах Зямля, падсілкуйся, прашу,
Крывавую праўдаю жыл.
Я вагніскі твайго не згашу,
А проста дадам сіл...

Птахам бела-блакітным ляці,
Бо шлях твой далейшы за мой.
Неба стала празрыстым; глядзі —
Я раблюся табой...

Творца мне даў сіланосную кроў,
Каб мог сілкаваць недарэк,
Страх нязбыцца і некалькі слоў —
Сэнс адгуляць свой век.

З вуснаў раны — у вусны зямлі
Пунсовая праўда цячэ.
Пі, маё птушанятачка, пі —
Я прынясу яшчэ...

* * *

Хлопчык
Выдзьмухнуў бурбалку
З маленечкай белае рамкі:
Ён выдыхнуў часцінку
Сваёй дзіцячай душы
У гэты вясёлкавы шарык...
І ззяннем адкрылася сонца...

І хлопчык падскоквае спрытна,
Смяецца, гуляецца з цацкай,



***Алесь Спіцын нарадзіўся ў 1979 годзе ў Мінску. Скончыў біялагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта і аспірантуру НАН Беларусі. Вывучаў тэалогію ў Маскоўскім Свята-Філарэтаўскім інстытуце. Друкуецца з 1993 года. Аўтар зборніка вершаў «Цені верасоў».***

І дзеліць забаўку з ветрам,
І маша заўзята далонькай,
Каб шарык былля не крануўся
І смерці не зведаў заўчасна...

І шчасна яму, і вясёла,
І гэтаму ёсць прычына,
Бо ён зразумеў трошкі болей
Бога...

* * *

Як закаханаму быць мудрым?
Ніяк зусім,
Ніяк зусім...
Магчыма, я цябе прыдумаў,
І шмат у чым,
І шмат у чым...

Ты недзе там, за небакраем,
Ты недзе там,
Я недзе тут.
І я гадзіны й дні чакаю,
Каб голас твой
Хаця пачуць.

Але твой вобраз прада мною,
Нібы бальзам,
Нібы бальзам.
Цябе не бачачы, яго я
Кшталтую сам,
Кшталтую сам.

І памыляюся, напэўна, —
Не без таго,
Не без таго.
І мучаць часам падазрэнні,
Што я зусім
Змяніў яго...

Ты не крыўдуй і не пужайся,
Калі што як
Зусім не так.
Даверым Богу, сэрцу, часу —
Няхай яны
Рассудзяць нас.

І нельга знаць: ці боль, ці радасць
Чакаюць нас
Сярод жыцця.
Але цяпер хачу прыпасці
Да рук тваіх
Ці стоп хаця б.

* * *

Раніца граецца, сонцавы струны
Дождж залаты (ці лімонны) кранае.
Вецер ледзь чутна чытае па рунах,
Падае лісце павольна й кранальна.

Цацкі нябёсаў падораны дрэвам:
Мройва салодкім святлом адлівае,
Цацкі зямныя ўздымаюцца ў неба,
Быццам паветраных шарыкаў стаі.

Цёпла... Пакуль цеплыні не аднялі.
Сонца пяшчотна падміргвае свету,
Раніца граецца — пэўна, спрыяе
Не сумаваць па мінуламу лету.

**ТРАКТАТ**
**АБ СЯДМІЧНІКУ**

Я падару табе
Белыя кветкі сядмічніку,
Маленькія, мілыя і кунежныя,
Такія ж безабаронныя,
Як праўда ў дзіцячых руках...

Яна менш праўдзівай не стане...

Але ты скажаш:
«Так мала,
Няўжо гэта ўсё, што ты мог...»
«Так мала,
Але ніхто ў свеце
Апроч мяне
Іх не падорыць...»

Праўда часта бывае невідочнай...

Ёсць тысячы, якія падорацъ ружы,
Дзясяткі, якія падорацъ лілеі,
І толькі адзін,
Які падорыць сядмічнік...
У якога хопіць на гэта адвагі,
Які ведае, дзе ён расце.

Праўда
Адкрытая
Нямногім...

* * *

Піце росы лёсаў босых,
Заплятайце вёсны ў косы,
Гэта люба — гэта проста,
Гэта шмат каму па росту.

Не пужайцеся нічога,
Спадзявайцеся на Бога —
Будзе простая дарога
Для вар'ятаў і нябогаў.

А калі прыгода дужа
Надта ўхопіцца за гужы,
Басаножыць будзем мужна —
Што па лужах, што па сцюжах.

* * *

Мне стала непатрэбнае паветра,
Хоць сэрца шчэ ганяла ў жылах кроў,
У міг, калі я стаў паверх сусвету,
І крок за крокам неўпрыкмет пайшоў.

Нябачная скаралася пратора,
Спыніўся час, як плынь Ярдан-ракі.
І зоркі расступаліся навокал,
І апускалі вострыя клінкі.

І я ішоў, забыўшы, што іду.
Імкненне ў сэрцы неба замяняла.
Штодзённая рэальнасць раставала
У падабенства крохкаму ільду.

Я не памёр — якраз наадварот,
Я страціў страх. Я бачыў толькі мэту.
Я йшоў жывы за крэсамі сусвету
Глыбей у сэрца — там ёсць Бог...



*Святлана САЎКО*

# АПАВЯДАННЕ



***Святлана Саўко нарадзілася ў 1987 годзе ў Мінску. У 2005 годзе скончыла СШ № 46 і паступіла на факультэт журналістыкі БДУ. Друкавалася ў рэспубліканскіх перыядычных выданнях. Цяпер працуе карэспандэнтам інфармацыйнага агенцтва «БелТА».***

## ГІСТОРЫЯ АДНОЙ АТЛАНТЫДЫ

Пераход — дзіўнае, дзікае месца. Горад у горадзе. Казалі, некалі ён квітнеў: тут было безліч шапікаў з рознымі прысмакамі, кавярня з найвыдатнейшай кавай, маленькія ўтульныя крамкі. Я не заспела тых часоў, заняпад апярэдзіў мяне. Кавярня яшчэ працавала, але гаспадыня пачала ўжо эканоміць на каве і малацэ. Купляла таннейшае, карыцу сыпала на краёчку нажа, імбірам, кардамонам у кубках увогуле не пахла. Некалі такая смачная кава пératварылася ў памыі. Я амаль не шкадавала, калі аднойчы раніцой ралеты кавярні так і засталіся апушчанымі.

Пакуль ніхто не можа даўмецца, адкуль ён прыйшоў, гэты заняпад. Можа звыш? Перадаўся паветрана-крапельным шляхам, як чума або свіны грып. Або з'явіўся тут, унізе, як нарыў ці фурункул. Як пухліна, што перакрыла ў мазгах важны сасуд і ўрэшце давяла нас да таго, што мы пачалі дабаўляць у каву кіслае малако?

Пішу ў капіравальным салоне. Салон — гэта, канешне, гучна сказана. Так, некалькі машын. Вось наверсе, за вуглом, казалі, адчыніўся сапраўдны салон. Туды перайшлі ўсе нашыя былыя кліенты. Да нас зрэдку па старой памяці забягаюць хіба толькі студэнты з мастацкай вучэльні. У нас танней і чаргі ніколі не бывае. Але кліентаў усё адно меншае з кожным днём. З аднаго боку гэта дрэнна, я часам захоўвала копіі іх рэфератаў, асабліва з ілюстрацыямі, каб паглядзець пасля. Успомніць падзабытыя словы «пастэль», «сангіна», «жывапіс», ад якіх патыхала пахам мастацкай школы. Там пахла пылам, фарбамі, зляжалай паперай. Іронія лёсу: замест таго, каб пісаць свае — ксеракапірую чужыя творы...

Чаму так склаўся лёс? І хто яго складаў, хто выбіраў толькі самыя цёмныя, самыя парэпаныя кубікі з канструктара жыцця? Хто складаў іх так бяздарна і бязладна, што замест замка атрымаліся разваліны? Каму толькі прыйшло ў галаву будаваць руіны?

Хацела стаць перакладчыкам. Быў час, школьныя настаўнікі не маглі нарадавацца маім поспехам. Але ўжо на першай раённай аліміядзе высветлілася, што ў нервовай

абстаноўцы, у якой звычайна адбываюцца розныя алімпіяды, я забываю родную мову, не кажучы пра замежныя.

Затым паспрабавала стаць мастаком. За чатыры гады, праведзенныя ў мастацкай школе, ні ў кога не ўзнікала сумненняў у маіх здольнасцях. Але на ўступных іспытах у каледж я з трэскам правалілася. З тае пары як адрэзала. За фарбы бяруся рэдка. Не, жаданне маляваць часам узнікае. Але толькі калі справа мая — дрэнь. У душы разлад, думак не сабраць. Калі я быццам у каменным мяшку, і кіслароду засталося на два ўздыхі.

Усё ж такі добра, што наведвальнікаў мала. Можна цалюткі дзень марнаваць паперу, прыхінуўшыся да спрацаванага бока капіравальнай машыны. Уключаю толькі адну, не столькі для працы, колькі для цяпла.

І вось я тут, ціснуся да цёплых бакоў капіравальных машын. І мне настолькі ўтульна, што выбірацца наверх няма ні жадання, ні сілы. Куды толькі падзелася ўся няўтрымнасць маёй натуры. Мяне быццам высмакталі гэтыя сцены. Я заўважыла, што яны сілкуюцца людской энергіяй, для іх водгулле чалавечых крокаў — дэлікатэс. Можа, знойдзецца хто-небудзь, хто падасць мне руку. Не падумайце, не трэба мяне валачы на сваім гарбе да скону. Толькі веры, хоць кропельку, дайце мне веры…

Нас у пераходзе засталося няшмат. Кветачніца Клава, прафесар гісторыі Арчыбальд Курачкін, я і... адзін стары бадзяга. Не магу адразу вызначыцца, хто ён і што ён. Па шчырасці, падобны да прывіда. Сухі. Каб не бачыла на ўласныя вочы, нізавошта б не паверыла, што час можа так высушыць чалавека. Да пергаментнага хрыбусцення скуры. Выцерусіць увесь пясок. Здаецца, з вока можна дастаць радужную абалонку, быццам кантактную лінзу. Пры гэтым стары яшчэ, як кажуць, ого-го, мацуецца, патрабуе, каб яго называлі Фёдаравічам, па-свойску.

— Я атэіст, — адрэкамендаваўся ён пры першай сустрэчы. — Прафесіянальны. Вось гэтымі рукамі знімаў некалі ў хатах іконы. Клялі людзі, казалі, каб яны табе паадсыхалі. Але, сама бачыш, усё на месцы.

І паказваў свае рукі, на якіх праступалі сінюшныя вузлы вен. Рукі, падобныя да высахлых яблыневых галін.

— Я сам сабе суддзя і гаспадар, колькі хачу жыву, калі пажадаю, памру, — гаварыў гэты зацягнуты ў скуру шкілет, раз-пораз паліруючы бруднай анучкай карычневую лысіну.

Я маўчала. Развагі старога мне не падабаліся, раздражнялі нават. Але я не ведала, што яму адказаць. Развучылася думаць. Жывучы ў пераходзе думаць не трэба. Нават шкодна. Калі пачынаеш думаць, раптам разумееш, што жыццё праносіцца над галавой, як хмары над пераходам. Пасля такіх думак я цэлы дзень хворая.

Добра хоць, што Фёдаравічу, па ўсім бачылася, патрэбны слухач, а не субяседнік. Маё маўчанне ён успрымаў як адабрэнне.

Перарыў. Думала. Дарэмна. Не магу пісаць. Кава нясмачная.

Клавачка. Трэба любіць бліжніх сваіх, і я цябе люблю, Клавачка. Толькі цярпець цябе не магу.

Кожную раніцу Клавачка павязвае белы фартушок, апранае белыя нарукаўнікі і пачынае афармляць вітрыну. Наноў расстаўляе ў даўгалыгіх вазах ружы, лілеі, гваздзікі. Яна належыць да старажытнага пераходскага роду, таму на нас, навалок, паглядае з вышыні сваёй пацешнай радавітасці. Яе прадзеды заснавалі ў пераходзе першы кіёск з прымітыўным прадуктовым наборам, які складаўся з яблыкаў і гумак. Адкрылі кавярню і гэту кветкавую крамку, каб закаханыя маглі піць каву і любавацца на купленыя або не купленыя кветкі.

Магазін працуе і сёння, вітрыны вабяць вока, але на вашым месцы я б нічога не стала ў Клавачкі набываць. Падвозу даўно не было. Ружы трымаюцца на хіміі-алхіміі, а гваздзіковыя галовы надзейна замацаваны на шпільках.

Мы ўсе тут у аднолькава безнадзейным становішчы. Што нам застаецца акрамя трывожнага чакання? Дакладна ўсведамляем, што больш так працягвацца не можа. Але што рабіць, не ведае ніхто.

І толькі адна Клавачка ўпэўнена, што яе сітуацыя часовая, больш таго — памылковая. Яна дагэтуль верыць у сваю выключнасць, у прэстыж старажытнага роду. Небарака, наіўная. Яе прадзеды даўно сатлелі і нічым не могуць дапамагчы сваёй безнадзейна самаўпэўненай наступніцы. Яе родныя разбегліся, па розных лесвіцах падняліся ўгору, пры гэтым кожны абяцаў вярнуцца і адрадзіць спадчыну. Адрадзіць пераход або забраць яе, Клавачку, з сабой. Яна ўпэўнена, што яны вернуцца, яна верыць, і за гэта я яе ненавіджу. У яе ёсць вера — тое, чаго я не маю, і чым так хачу валодаць.

Клавачка да ўсіх адносіцца з лёгкім адценнем пагарды. Але больш за ўсё да Арчыбальда Курачкіна. Прафесар-мовазнаўца, этнограф, ён гандлюе ў пераходзе кніжкамі, распрадае сваю навуковую бібліятэку. І як на тое ліха, закахаўся ў ганарыстую кветачніцу.

— Апчхі! — ад моцнага чыху Клавачка пахіснулася і ледзьве не зляцела з табурэціка. — А-а-ачхі-і-і!!! — заскакала кплівае рэха. — Хі-хі.

— Будзьце здаровыя, — ветліва пакланіўся Курачкін.

— Дзякуй, — суха адказала Клавачка і адразу адвярнулася, папраўляючы ружы ў даўгалыгай вазе. Прафесар не адпавядаў яе ідэалам мужчынскай прыгажосці.

— Вам трэба да доктара. Са здароўем жартаваць нельга! — не адступаўся назола-кавалер.

Пачуўшы такое ад каго іншага, Клавачка хутчэй за ўсё падыграла б, прыкінулася хворай. А што? Няхай пашкадуюць. Можа, удасца састрыгчы з гэтага якія-небудзь дывідэнды. У такія хвіліны я з задавальненнем назіраю за ёй. Дзіўлюся, чаму Клавачка дагэтуль гандлюе кветкамі, чаму не падалася, напрыклад, у тэатральны. Вось дзе б яе талент прыносіў карысць і радасць. А тут яна толькі дурыць людзям галовы.

Хутка мільгаюць вострыя локці, на тварыку прыязная, шырокая ўсмешка, калі ля яе кіёска спыняецца багаты на выгляд мужчына-пакупнік. І як адразу змяняецца Клавачка, калі за кветкамі падыходзяць пенсіянеры, студэнты або людзі з сярэднім даходам... Пахмурная, быццам восеньскі дзень, цэдзіць праз зубы. А ўлічваючы, што большасць яе пакупнікоў і былі студэнты, пенсіянеры ды сярэднячкі, то ў такім стане Клавачка праводзіла амаль цэлы дзень.

За ўвесь час, а круціцца прафесар у пераходзе з паўгода, некалькі кніжак ён усё ж такі прадаў. Фёдаравічу на самакруткі. Быў час, той працаваў дворнікам і замест кветак аднойчы высадзіў на клумбах табаку. Здаецца, пасля таго выпадку, яго і звольнілі. Затое табакі Фёдаравіч назапасіў на некалькі год наперад. А вось з паперай нявыкрутка атрымалася, я так падазраю, з-за Клавачкі.

Чаму? Чаму я тут? Што мяне трымае? Я не патрыётка. Хм, пераход. Ну што мне гэты пераход, у якім спрадвеку не было нічога свайго? Нават цукеркі ў кіёсках для верхніх, «зверху», тое, да чаго Яны прывыклі, што павінна ім спадабацца.

Мне б сысці куды-небудзь, сысці. Але куды? Тут мяне ніхто не трымае, але і там, наверсе, не чакаюць. Часам мне здаецца, што я рыбіна. І калі выцягнуць мяне з вады, то я загіну, задыхнуся.

Салон у заняпадзе, пераход у заняпадзе, амаль усе крамкі і шапікі зачынены. Мінакоў мала, за дзень чалавек 15. Большасць хмурныя чыноўнікі ці прафесары з кашчавымі партфелямі і ў строга пабліскваючых акулярах. На нас яны пагладаюць ні то з цікавасцю, ні то з агідай. На нашыя спробы загаварыць не рэагуюць. Мабільныя тэлефоны не ловяць сетку, з радыё чутно адно хрыпэнне, тэлевізара ў нас няма, а газеты чытаць — занятак несур'ёзны.

Так што сувязей са знешнім светам не маем. Пячорныя мы людзі, бледныя цені.

Чаму мы не ідзём наверх? Не ведаю. Магу казаць толькі за сябе: я няўдачніца, недарэка. Наверсе маё існаванне быццам карыкатура на сапраўднае годнае чалавечае жыццё. Чым я займаюся? Назіраю. Я люблю назіраць, яшчэ ў дзяцінстве любіла сядзець на балконе, звесіўшы ўніз ногі і разглядаць прахожых, лічыць чырвоныя або жоўтыя машыны. Гэта быў мой любімы занятак да той пары, пакуль ногі прасоўваліся праз рашотку. Потым давялося пайсці ў школу. Я і так даседзела амаль да васьмі гадоў, шмат хварэла, часта ляжала ў бальніцы. Бальнічнае жыццё мяне зусім разбэсціла. Вельмі хутка прывыкаеш да распарадку, калі нічога ад цябе не залежыць. Калі ведаеш, што а дзясятай раніцы будзе сняданак, а перад адбоем прыйдзе медсястра і зробіць укол.

З-за такіх як я заняпала не адна цывілізацыя. Што ж тут казаць пра нейкі пераход…

У кубак з кавай быццам каменьчыкі хто кідае. Лыжачка пачынае дрыжэць, нават у нагах непрыемна коле. Пад намі метро. Ідзе цягнік.

Калі-небудзь гэта павінна было здарыцца. І здарылася нарэшце. Сёння ў пераходзе не з'явілася аніводнага чалавека. Я чакала, уздрыгвала ад кожнага шолаху — усё дарэмна. Ніхто не прыйшоў. Больш таго, нават кава ў кубку перастала дрыжэць. Цягнікі перасталі хадзіць. Што ж там здарылася?..

— Атамная вайна, — безапеляцыйна заявіў Курачкін, які хацеў бліснуць ведамі, а можа пакрасавацца перад Клавачкай. — Атамная вайна, верхні народ вынішчыў сябе.

— І што цяпер? — баязліва глянула з-за свайго прылаўка кветачніца.

— Мы павінны заняць іх месца, і наноў засяліць зямлю, — адказаў Курачкін, але не вельмі ўпэўнена. — Як Адам і Ева.

Здаецца, астатніх насельнікаў перахода ён у разлік не браў. Я толькі хмыкнула. Фёдаравіч іранічна зашалясцеў мінулагодняй газетай.

— А тут пішуць, што канец свету прыйдзе толькі ў 20... годзе, — аўтарытэтна перабіў ён вучонага. — З-за незваротных кліматычных змен. Сонца патухне і гэтак далей.

Тут усе машынальна азірнуліся на ўсходнюю лесвіцу, на верхніх прыступках ляжаў сонечны зайчык. Выглядаў ён не зусім здаровым, але ж трымаўся. Усе ўздыхнулі з палёгкай.

— Прычым тут сонца! — разззлаваўся прафесар. — Атамная вайна кажу. Перабілі, патруцілі адно аднаго. А сонца як свяціла, так свяціць і будзе.

— Не кажыце, — задумліва прагугнеў Фёдаравіч. — Сонца свяціць не будзе, калі няма каму будзе свяціць.

— Адкуль вы ведаеце?

— Ды яно само мне прызналася.

Прафесар застагнаў і схапіўся за галаву.

— Можа, штосьці сасудзістае? — ні з пушчы, ні з поля ўлезла Клавачка.

Мне падалося, што ў кубку з кавай зазвінела лыжачка, азірнулася з надзеяй. Але лыжачка ляжала на стале. А што калі мы засталіся адны ва ўсім белым свеце?

Раней агульны настрой можна было назваць трывожным, а цяпер ён быў проста безнадзейным. Мы разбрыліся кожны па сваіх кутках. Клавачка зашылася за вазы з кветкамі, Курачкін зацягваўся цыгарэтай над сваімі кніжкамі і не шкадуючы страсаў на іх попел. І толькі Фёдаравіч сядзеў на пустой скрынцы, звесіўшы тонкія старэчыя ногі, і балбатаў, быццам нічога не здарылася.

— Грэшны, ох грэшны. Грахоў на мне, як смалы на чорце. Усё чым продкі перад Богам правініліся ды не павініліся. Зварылі поліўку. А я свайго дадаў і цяпер за ўсіх адзін сёрбаю. Каб было каму хоць частку грахоў перадаць, то можа б і не трымалі мяне, адпусцілі. Але ж я адзін, дзяцей няма, родных няма. Паслухай, а можа ты возьмеш? Ну крышку, кропельку, табе што, табе ўсё адно. Ты ж недарэка. Табе даруецца. Ну хочаш, запішы іх у свой сшытак. Як, які сшытак? Ды не прыкідвайся ты, быццам не разумееш нічога. Я бачыў, як пішаш у яго, прыхінуўшыся да цёплага бока капіравальнай машыны. Сіні сшытак з рыбкамі і чырвонымі палямі.

Ай! Асцярожней, не шчыпайся, ну чыста як гуска! Не, не, я не чытаў ні слоўца, праўда! Хочаш пабажуся?! Ай-яй-ёй! Ты што ж гэта робіш?

Я запуліла ў старога кубкам. Не трапіла. Шкада. Кубак шкада — разляцеўся на драбкі. Зрэшты, якая розніца. Усё адно кава ў ім больш не дрыжыць.

Потым пачаўся дождж. Нудны, доўгі, як у маркесаўскім Маконда. Лесвіцы былі мокрыя, у пераходзе запахла псінай.

Курачкін спачатку збіраў свае кнігі, каб не адсырэлі, а потым кінуў. Яны сталі першымі ахвярамі другога сусветнага патопу. Клавачка глядзела на яго, як на героя, быццам зачараваная. Хоць выглядаў Курачкін вельмі ж нерамантычна: мокры пінжак абвіс, нібы петушыныя крылы. Мне зрабілася млосна ад ягонага выгляду, і я адвярнулася, забілася ў патаемны куток паміж капіравальнай машынай і сцяной. Заплюшчыла вочы, у пераход з глухім гулам лілася вада. Інстынкт самазахавання падаваў адчайныя сігналы SOS, але яго ніхто не чуў. Мне снілася забытая кухня са старымі блакітнымі шпалерамі, маці мыла посуд...

Фёдаравіч да апошняга поўз на святло, чапляючыся за пярылы. У яго быццам нячысцік улез:

— Не хачу-у-у-у! — па-воўчы выў ён, разгойдваючы капіравальную машыну.

— А сам казаў, што смерці не баіцца, — з дакорам расчаравана ўздыхнуў Курачкін.

Клавачка глядзела на яго амаль з захапленнем. Цяпер гэта быў самы ўплывовы чалавек на зямлі.

Навошта мы засталіся тут? Здаецца, усё жыццё прамільгнула недзе над намі і нават канец свету прыйшоў без нас. Можа, ён забыўся пра гэты пераход. А можа, паспадзяваўся, што заняпад зрабіў сваю справу.

Дождж лье. Бясконцы дождж.

— Здаецца, нас залівае, — спакойна канстатаваў Курачкін, калі вада ў пераходзе паднялася да грудзей. Ліўнёўкі ўжо не спраўляліся з патокамі вады. Дождж быў ціхі і настойлівы. Па лесвіцах сцякалі спачатку ручаіны, затым маленькія рачулкі. Пад канец лінула суцэльным патокам. Мы нават не спрабавалі падняцца наверх.

Здаецца, ужо ніхто не сумняваўся, што на зямлі здарыўся Апакаліпсіс. Ён прыбярэ і нас. Салон падаўся самым бяспечным месцам. Расселіся па машынах, я са сваім

сшыткам, Клавачка з рэдкай архідэяй, нават Фёдаравіч з кіпай мінулагодніх газет. А вось Курачкін пусціў свае кніжкі плаваць па пераходзе.

Ён радаваўся нейкай хваравітай радасцю: і калі апускалася на дно чарговае выданне, і калі ён казаў, што нас залівае. Ён адзін радаваўся. Я думала, што вось і настаў канец майго недарэчнага жыцця. Фініш у маім стылі: непазбежны, быццам сняданак па раскладзе.

Клавачка ціха плакала. Яна думала, што вось, у чарговы раз, нехта наконт яе памыліўся, нават не спрабуючы выправіць папярэднюю памылку.

Прафесар адзін з усіх насельнікаў перахода заставаўся спакойным. У мяне дрыжэлі калені. Шкада, што кубак я ўжо разбіла. З якім бы задавальненнем запульнула ім у нашага псеўдапрывіда. Абы толькі не чуць гэтага скавытання. А можа, нават у Курачкіна. Яго вытрымка пачынала раздражняць. Паводзіць сябе так, быццам мае ў запасе акваланг.

Вада даходзіла ўжо да каленяў. Я сядзела, скурчыўшыся на капіравальнай машыне. Яна была халодная. Апошнія хвіліны свайго жыцця я пражываю на халоднай капіравальнай машыне. Ад гэтага стала зусім горка. Сітуацыя даходзіла да абсурду. Курачкін раптам нахіліўся і вылавіў з вады размоклую кніжку:

— Але адмовіўшыся ад карысці выразнай культуры ў яе поўнасці, народ схаваў незалежнасць духу. — Прачытаў услых і раптам зарагатаў, заглушаючы шум вады: — Ну што, народ? Можа, час выбірацца адсюль. Ці будзем чакаць, пакуль нас тут патопяць, як шчанюкоў?

— Куды мы пойдзем? — спалохана спытала Клавачка.

— Наверх!

— Сонца заб’е нас, як гэта было не раз з тымі, хто наважваўся вытыркнуцца з перахода.

— Адкуль ты ведаеш?

— Ніхто не вярнуўся назад. Усе абяцалі, але ніхто, ніхто не вярнуўся.

— А можа, яны не захацелі вяртацца? Навошта ім гэты пераход, што яны бачылі тут добрага? Вось ты, — да мяне. — Ты, напрыклад, што бачыла?

Я маўчала. Не ведала, што адказаць. Добрае было! Быў цёплы бок капіравальнай машыны, быў любімы кубак, які я так недарэчна разбіла. І сшытак з сінімі рыбкамі, яго я скруціла і запіхнула ў нагрудную кішэню курткі. А больш, здаецца, нічога і не было. Я не ведала, што адказаць, таму маўчала.

— У-у-у, — вёў на адной ноце Фёдаравіч, канчаткова, здаецца, звар’яцеўшы. «Падманшчык ты, а не прывід», — са злосцю падумала я.

— Хто са мной? — Курачкін рашуча саскочыў у ваду, якая даходзіла яму да грудзей.

Клавачка ганарліва адвярнулася. Курачкін працягнуў руку мне, і я без ваганняў сціснула доўгія пальцы.

...Калі з перахода адпампавалі ваду, то нікога не знайшлі: ні жывога, ні мёртвага. Другога патопу насамрэч не было. Канца свету таксама. Проста ўсе навакольныя вуліцы аказаліся перакрытымі з-за рамонту. Лапячы дзіркі, дарожнікі, па ўсім відаць, зачапілі камунікацыі, трубы лопнулі па іроніі лёсу якраз над пераходам. Я жыву наверсе, як заўсёды адна, і спрабую разабрацца: навошта? Як заўжды, мару пра ціхае месцейка. Шукаю новы пераход. Можа, не варта было абапірацца на руку? Мне сумна, бо і наверсе няма куды падацца. Мы ў пераходзе занадта ідэалізавана ўяўлялі сабе верхні народ. Верхні народ — гэта нашы былыя суседзі па пераходзе. Навошта тады было абапірацца на руку? Навошта?..

Юрась НЕРАТОК

# ТЭРАПІЯ

*Глабалісцкая фантазія*



*Юрась Нераток (Юрый Гарбачоў) нарадзіўся ў 1961 годзе ў вёсцы Баяры Мастоўскага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут (цяпер — БНТУ). Працуе ў навукова-вытворчым аб'яднанні «Цэнтр» начальнікам канструктарскага аддзела. Жыве ў Мінску. Аўтар кнігі вершаў «Фотаальбом», кнігі прозы «Закуцце» і іншых.*

***Нешта творыцца ў гэтым свеце: незразумелае, страшнае, таямнічае, унікальнае. Відаць, збываюцца прароцтвы старажытных майя і карабель цывілізацыі ідзе да дна. Няма размовы пра выратаванне пасажыраў і нават членаў экіпажа: не хопіць шлюпак, прэснай вады, ежы. Пра рэальнасць пагрозы ведаюць толькі тыя, хто кіруе плаваннем, і прафесіяналы. Пацукі з затопленых трумаў ужо скачуць у ваду, каб праз нейкі час загінуць у моры. Капітан не спяшаецца: месца ў шлюпцы яму забяспечаць тыя, хто спадзяецца, што за бездакорную службу іх таксама возьмуць з сабой. Дарэмна спадзяюцца: ратаваць будуць тых, без каго не абысціся на бязлюдным востраве, дзе небяспека абступіць з усіх бакоў. Пасажыраў заклікаюць не панікаваць, але на выпадак актыўнага абурэння зброя зараджана і знята з перасцерагальнікаў. Зрэшты, будуць выратаваны жанчыны і дзеці: свае жанчыны, свае дзеці.***

***Згушчаю фарбы! Дай жа Бог... Аднак, калі гэтым разам і абыдзецца, то прэцэдэнт, несумненна, выкліча рэцыдыў.***

## РЭЗЕРВАЦЫЯ

### Вогнішча Роздумаў

Адфільтраваныя бялявымі хмарамі сонечныя промні асвятлялі даліну. Сямёра гентэстраў сядзелі вакол вогнішча, якое сілкавалася паўгнілой драўнінай і сушанымі фунгамі. Драўніна давала сіні дым, які, прытуплены нюх і смак старых, успрымалі за салодкі, а жаўтлявыя клубкі фунгаў пыхкалі і прасвятлялі розум больш сталым, правакавалі на гаварлівасць і агрэсію тых, хто быў маладзейшым.

— Што, К*а*ні, зноў за сваё? — перарваў бяседу самы малады са старэйшын-гентэстраў, якому толькі ў мінулую зіму дазволілі прымасціцца каля вогнішча Роздумаў. — Усё не можаш вызначыцца «чалавекі» або «людзі» — то так скажаш, то гэтак. Кажы, як належыць: «*а*нтры»!

І не вытрымаў, перадражніў:

— «Вы некалі падпарадкоўвалі сабе ўсю прастору экумены і фрэмдаў вывелі вы…»

— Не «вы», а «мы», Руга, — прашамкаў Кані. І не прамінуў, каб не прыструніць малодшага: — Смаркачы з твайго вялізнага носа цягнуцца па зямлі, а ты кажаш словы, што прыніжаюць мяне?

— Кані, пойдзем за межы Зоны — і я заб'ю цябе.

— Наўрад я здолею дайсці да мяжы Зоны, — уздыхнуў стары. — А калі б і дайшоў, там нас абодвух схопяць лімгарды. Цябе адмалоцяць бастонамі і выкінуць, адкуль прыйшоў, а мяне — забяруць з сабой, пасадзяць у яму і будуць палохаць мной сваіх малалетніх інфанаў.

— Ты баязлівец, зморшчаны Кані! — пагардліва вымавіў Руга і адразу пачаў абзываць: — Тумігі-Кані, Маркела-Кані, Кані-Клык!

— Забі мяне тут, лапавухі Руга, — не здаваўся Кані. — Сапраўдныя людзі заўсёды забівалі там, дзе хацелі.

— І не баяліся фрэмдаў? Бо толькі ў іх ёсць ліцэнзіі на забойства і адлоў антраў! — насмешліва запярэчыў Руга. — Пах згарэлых фунгаў замутняе твой розум, Кані.

— Фрэмдаў тады не было, — цвёрда сказаў стары. — Так, быў Закон, які мог пакараць і нават знішчыць, аднак яго стварылі мы, людзі.

— А ці не было тады Закона ў яшчарак або жаб? А можа, у павукоў і пацукоў?

— Людзей тады было столькі, што калі б усё нашае племя захацела паказаць іх колькасць абедзвюма рукамі і пачало ляпаць пальцамі, то за гэты час дзве генерацыі сышлі б пад зямлю, — не звяртаў увагі Кані.

— Не дуры галаву, рыхтуйся да таго, што хутка ты сам не здолееш нічога, нават дыхаць. А ў дзень, калі племя будзе спяваць над табой меланхалічную каролу, я плюну ў твой твар.

— Ты маеш права выказаць сваё меркаванне мне ўслед, Руга. Так заўсёды было прынята ў людзей, — стомлена махнуў рукой Кані.

— Каноны племені не дазваляюць эстыматам варагаваць, — у спрэчку нарэшце ўмяшаўся гвідант Цэфа. — Раптам нас пачуюць маладыя? Іх пустыя галовы і лёгкія языкі разнясуць дрэнную пагалоску.

— Цэфа, ты, вядома, галоўны. Аднак ці не пайсці табе будаваць мурашнікі замест таго, каб кіраваць нашым шаноўным кансіліумам?

— Дзёрзкі Руга, нас шасцёра, а ты адзін. Калі мы забалатуем цябе, ты назаўсёды пакінеш вогнішча Роздумаў. Фрэмды пасадзяць цябе ў шкляную яму, якую будуць паласкаць толькі ў вялікі Месяц. А іх аднолькавыя дзеці будуць хадзіць вакол, віляць хвастамі, глядзець, як ты топчашся па ўласнай латрыне, і смяяцца.

— Давай-давай, Цэфа! Тры на тры — на маю карысць? Вось так! Не першы раз! І яшчэ не забудзь: для таго, каб прыбраць гентэстра, патрэбна канфірма фрэмдаў. А яны ой як не любяць, калі ў нас пачынаюцца звады!

— Добра-добра! — аслабіў націск гвідант. — Аднак табе семдзесят шэсць, а Кані-Клыку сто дванаццаць. Ёсць канон: паважаць старэйшых, бо яны злаўчыліся перажыць равеснікаў.

— А! — махнуў рукой свавольны Руга. — Мне надакучыла балбатаць з вамі. Хутка ноч, і я хачу правесці яе з жанчынай.

— У цябе няма жанчыны. Твая эдза сустрэлася з мадоннай Морта, і толькі таму да вогнішча Роздумаў прынялі менавіта цябе, а астатніх антраў вярнулі фрэмдам…

— Ты нічога не разумееш, Цэфа. Мне патрэбна *а*йна, любая жанчына.

— У кансіліуме не можа ўдзельнічаць персона, схільная да сексуальных жарсцяў.

— Затое любая вір*ы*на племені павінна падпарадкавацца жаданню старэйшыны. Ці не так, гвідант? Ды і што сур'ёзнага мы тут робім? Я, шчыра кажучы, пакуль не быў прыняты, думаў, што вы вызначаеце лёс племені. А на самай справе — песцiцеся і жыруеце!

— Вось няхай цяпер так думаюць астатнія…

Руга дастаткова рэзка ўзняўся, толькі шчоўкнуў спінны пазванок.

Цэфа ведаў, што галасаванне нічога не дасць: «тры на тры» было неаднойчы, будзе і цяпер. Сама працэдура, даведзеная да выканання фрэмдамі, практычна выключала радыкальныя рашэнні. Ведаў Цэфа і тое, што вырачыся нахабнага эстымата немагчыма. Ён шкадаваў, што сам прапанаваў прыняць Ругу ў Раду старэйшын, хоць і адчуваў, што гэта жаданне фрэмдаў, якое так ці інакш будзе рэалізавана. Не выключана, што і цаной пасады гвіданта…

Цэфа ўздыхнуў; у яго заставалася адзінае неаспрэчнае права — апошняе мудрае слова.

— Няхай добрая воля суправаджае дзеянні і намеры твае, а Юг*а*нта рассудзіць нас!

Руга сцепануў плячыма і хітнуў галавой. Потым развярнуўся і пайшоў.

* * *

Крокаў за трыста знаходзілася станавішча племені, адкуль некалькі маладых людзей, хто з таемнай павагай, хто з непаразумелай іроніяй, пазіралі за штовячэрнім рытуальным вогнішчам старэйшын. Яны марылі састарыцца, пазбегнуць усіх напасцей і гэтак жа вольна сядзець вакол свяшчэннага вогнішча.

— Сюды ідзе Руга. Пэўна, кансіліум паслаў яго з нейкай місіяй, — усклікнуў адзін з юнакоў.

— Ты кажаш лухту, Л*е*рта. Ён ідзе забраць адну з нашых эдзін. У яго ёсць права. — Фраза належала Ромпі, гвіданту маладых.

— Яны патрэбны нам, яны патрэбны нам, яны патрэбны нам! — замітусіўся Лерта. — Ім, ім, усё ім — нам не хопіць.

— Жыццё ўладкавана так, што ўсім усяго хопіць: ежы, адзення, сонца, жанчын, — адазваўся Ромпі. — Так вучыць мяне прадзед, гэтак яно і ёсць. Вогнішча Роздумаў хутка патухне. Надыходзіць ноч, трэба хавацца. Фрэмды не будуць чапаць эдзіну, з якой будзе Руга. Таму ўсе яны будуць старацца спадабацца яму. Лепш ноч са старым, чым рызыка быць забітай куглай фрэмда. А шкада, што няма жаночага вогнішча Роздумаў, а Лерта? — Ромпі падмаргнуў. — Можа б, і цябе старая на ноч выбрала!

— Жанчыны не старэюць. — Лерта не ўспрыняў абстракцыі. — Фрэмды ніколі не пакідаюць жанчын, нават тых, хто не нараджаў. Тых, каго нельга назваць ні маладымі, ні старымі, яны забіраюць да сябе кожную трынаццатую поўню. Толькі некаторых старых потым вяртаюць і прад'яўляюць Радзе. А на нас, маладых, палююць… Кажуць, што фрэмды жывуць у каменных скалах, якія пакінулі іхнія продкі, а не ў земляных норах, як мы. Дарэчы, ты не баішся, Ромпі, што кас*а*нт заб'е менавіта тваю каханую Бан*е*гу?

— Баюся, Лерта. Аднак спадзяюся, што яе кругленькі жывоцік саб'е прыцэл

фузілы касанта… Прадзед Кані расказваў, што каменныя хаціны пабудавалі некалі антры. А яшчэ яны ўмелі не толькі хутка рухацца ў жалезных шкатулках, а і лунаць у іх, быццам птушкі. А іх *ка*ры не трэба было цягнуць: яны ездзілі самі, бо мы прывучылі іх піць чорную жыжку.

— Твой прадзед Кані-Клык даўно зблажэў, Ромпі. Без фрэмдаў людзі проста вымерлі б! — Да размовы далучыўся яшчэ адзін хлопец, К*о*нвін. — Яны стварылі нас па сваім падабенстве, аднак мы аказаліся недасканалымі: ходзім на дзвюх нагах, маем поўсць толькі на галаве і зусім не маем хваста! А як выказаць пачуцці, калі няма хваста? Мы бездапаможныя жывёліны і не можам ні сагрэць, ні пракарміць сябе: нам усё даюць фрэмды.

— …якія забіраюць у нас жыццё, — завяршыў фразу Лерта.

— Толькі ў некаторых, неразумны спрачальнік! Яны ніколі не памыляюцца! Фрэмды дазваляюць нам спарвацца і размнажацца. Аднак мы не ўмеем сябе абмяжоўваць: калі яны не будуць нас знішчаць, мы запоўнім усю экумену і пачнём забіваць адно аднаго, калі даць нам удосталь ежы, мы будзем есці, пакуль нашы жываты не распухнуць і не лопнуць. Фрэмды ўсёмагутныя, іхняя воля — свяшчэнная. Нават сонца ўзыходзіць і заходзіць па іх волі!

Апошні аргумент Конвіна прымусіў змоўкнуць не толькі Лерту, але і Ромпі, які, зрэшты, вымавіў заключную фразу:

— Яны не маюць права забіваць мяне. І яны не здолеюць забіць мяне. Так па сакрэце сказалі гентэстры…

* * *

На вогнішча Роздумаў апускаліся прыцемкі; рабілася няўтульна, хоць Кані-Клык, падбадзёраны тым, што Руга сышоў, працягваў вяшчаць:

— Далёкія прашчуры казалі, што некалі мы гаспадарылі ва ўсім свеце. Мы разбуралі скалы, на якія цяпер не здолеем падняцца, мы ляталі на вышыню, у якой цяпер нічога не можам нават убачыць…

— У антраў былі крылы? — спытаўся Цэфа.

— У іх не было крылаў, аднак яны маглі з'яўляцца, — не вельмі ўцямна патлумачыў Кані перад тым як прадоўжыць. — Так, мы забівалі адно аднаго, але не дзеля забавы, як гэта робяць з намі фрэмды, а для таго, каб валодаць тэрыторыямі, жанчынамі, манетамі…

— Спыніся, эстымат. — Маналог Кані перарваў старац Шлос. — Я разумеў, пакуль ты казаў пра тэрыторыі і жанчын, але ты дзенькнуў нейкае незнаёмае слова. Гэта з мовы фрэмдаў?

— Не, Шлос, я гаварыў пра манеты. У нас, людзей, у старажытнасці быў такі сімвал магутнасці і ўлады. Зразумела, што гэтае слова нагадвае звінячую мову фрэмдаў. Яны ж таму нас і не разумеюць, што наша мова падаецца ім маруднай і глухой. Усё, што не звініць, для іх — гук нізкага паходжання.

— Забавіліся вы, браты эстыматы. Сонца асвятліла цёмную рысу далягляду, час адыходзіцца ад вогнішча. — Гвідант Цэфа быў спагадлівы да ўсіх, аднак не забываў пра функцыі кіраўніка.

— Заўтра яны прывязуць нам крэсіва? — спытаў Шлос.

— Фрэмды называюць крэсіва «індзь».

— Прывязуць індзь? — спакойна перапытаў Шлос.

— Канешне. І гнілых трэсак, і сушаных фунгаў.

— А сёння ноччу зноў будуць паляваць на маладых?

— Так заведзена, Шлос. Гэта малая плата за тое, што яны не даюць нам знікнуць. Фрэмды бяруць з сабой дрэсі-людзей, каб лягчэй было высачыць нашых.

— Чалавек лягчэй высачыць чалавека, чым гэта зробіць фрэмд-касант, — пагадзіўся Шлос. — За гэта дрэсі і кормяць…

**Канкет і Ромпі**

— О, выдатны самец, цяглiцы пад скурай так і перакочваюцца… І нас не заўважае : у іх дрэнны нюх і амаль адсутнічае начны зрок. Але чаму ён не хаваецца, у яго ж ёсць слых?

— Злітуйцеся, ам*а*та Канк*е*т, няўжо вам прыемна пасылаць куглу ў жывое цела, няхай безвалосае і бясхвостае?!

— Ціха-ціха, жаласлівы мой хельп*а*нт… Антры жывуць толькі з нашага дазволу. Я ж не б’ю цяжарных самак. Бач ты, як вушамі стрыжэ… Што ты разумееш у паляванні, Фроці! Магчыма, паляванне — адзінае, што засталося нам ад папярэдняй цывілізацыі.

Сполах выштурхнуў куглу з фузілы — чалавек упаў на спіну і задрыгаў нагамі.

Голас касанта стаў стражэйшым і пранізліва зазвінеў:

— Бяры двух дрэсі, няхай зацягнуць цела на кару. І жорстка з імі: калі што не так — бі бастонай!

Дрэсі, якіх падганяў хельпант Фроці, паслухмяна пабеглі да параненага чалавека.

Конвін і Лерта з логава назіралі, як дрэсі-людзі схапілі за ногі Ромпі і пацягнулі яго па каменні ў змрок.

— Вось бачыш, і фрэмды памыляюцца…

— Не. Значыць, так было патрэбна, — застаўся непахісным Конвін.

* * *

Касант правёў над галавой і целам чалавека дыф*і*на-пласцінкай.

— Выдатна, я заваліў звера, але ён яшчэ на дзве траціны жывы. Не будзем пакуль дабіваць, ён патрэбны свежым. Навука патрабуе ахвяр… Ведаеш, Фроці, за што мне падабаюцца антры? З іх неабавязкова здымаць скуру! Ліцэнзія сябе апраўдала!

Раптам самазадаволенасць Канкета змянілася спалохам, ён нават хвастом перастаў памахваць.

— Фроці, прыгледзься, што ты бачыш у яго на правым локці?

— На правым локці ў яго накрэслены дзве перакрыжаваныя бастоны — сімвал улады антраў, амата…

— Я параніў юнага гвіданта… — разгублена вымавіў Канкет.

— Хіба гэта забаронена, амата?

— У сёлетнім сезоне — так. Канклаў забараніў забіваць не толькі эстыматаў, але і маладых важакоў. А мая старая фузіла не блакіруе куглу, нацэленую на іх, я не паспеў мадэрнізаваць яе фармат.

— Вы не забілі яго, амата, а толькі паранілі, — паспрабаваў супакоіць гаспадара хельпант. — Давайце завязём яго ў рэс*а*ніку!

— Твая праўда, Фроці. Гэта адзіны спосаб пазбегнуць ссылкі, хоць кар’ера, лічы, загублена. Бо на мяжы Зоны давядзецца ўсё расказаць лімгардам.

Ромпі паварушыўся і глуха застагнаў.

Канкет узняў галаву і тонка з бразгатаннем падвыў. Фроці не бачыў яго хваста, таму па гуку не здолеў вызначыць: радуецца той або сутаргава рыдае.

Затым касант выхапіў з-за спіны бастону і спрытна выцяў па спінах абоіх дрэсі:

— Грузіце звера на кару, лайдакі!

Голас Канкета звінеў, а антры-дрэсі толькі нешта незадаволена прагулі.

## Гісторык і Біёлаг

— Ты зразумей, упартая галава, антры — ніжэйшыя істоты, якія ніколі не мелі ніякіх шанцаў. Яны ў прынцыпе не могуць быць самастойнымі, таму нам наканавана іх берагчы. Яны безабаронныя перад Прыродай. Бясшэрснае цела, пляскаты твар і, нарэшце, адсутнасць хваста — ды яны далікатнейшыя за гладыёлус, што расце ў тваім гаршчку!

— Яны размаўляюць, Бал*а*йла. І разумеюць адно аднаго. Я назіраў за гэтым шмат разоў. Зразумела, тэмы прымітыўныя. А што ты хочаш ад істот, у якіх мы рэгулярна перарываем повязь пакаленняў: забіраем бацькоў і матак, пакідаем толькі некаторых дзядоў, якім прадпісваем, як сябе паводзіць. Нават бабуль не астаўляем!

— Калі б я не ведаў цябе столькі гадоў, В*і*рга, то павінен быў бы дакласці ў Канклаў пра тое, што ты параўноўваеш фрэмдаў з антрамі. Якія бацькі-маткі, дзяды-бабулі?! У іх што, ёсць інстытут шлюбу? Ды яны савакупляюцца так, што бацька не можа вызначыць, дзе яго дзеці, а маці — чые яны! У нас таямніца нараджэння вызначана Законам, у іх — выпадковасцю. Кантроль над колькасцю адсутнічае ўвогуле. Яны не ізалююць дзяцей ад бацькоў, не перадаюць іх выхавальнікам. Толькі жывёлы не кантралююць нараджальнасць, а самі іх выхоўваюць! «Яны размаўляюць…» Я абараніў дысертацыю і, павер, даследаваў перад гэтым не адзін дзясятак антраў. У іх няма нармальнага моўнага апарата — язык надта кароткі і шырокі, зубы бліжэй, чым трэба, да насаглоткі, вусны маленькія, сківіца недастаткова выцягнута, а гартань апушчана. Яны могуць толькі невыразна гудзець або мыкаць! А разнастайнасць гукаў не большая, чым у нованароджанага фрэмда. У антраў няма навукі — значыць, у іх адсутнічае розум, у іх няма хваста — адсюль вынікае, што ім непадуладныя эмоцыі, якія можна выявіць у мастацтве. І гэта бясспрэчныя факты, дактрына нашага грамадства. Вось так, сябар мой Вірга!

— І ўсё ж у антраў магутны патэнцыял, Балайла. Мы жывём у дамах, пакінутых папярэдняй цывілізацыяй, а яны самі рыюць логавы і нават будуюць шатры, калі мы дазваляем ім браць драўніну. Замест таго, каб падзяліцца ведамі, мы пераканалі іх, што валодаем рухам Сонца!

— Мурашы таксама будуюць дзіравыя горы, ластаўкі клеяць гнёзды, восы ўладкоўваюць дуплы сотамі. Многія звяры рыюць норы. Гэта толькі пацвярджае іх жывёльнае паходжанне. Гэтак жа, як і няздольнасць адрозніць вымысел ад ісціны.

— Хлусню ад праўды, — удакладніў Вірга. — Калі ім стварыць умовы, у якіх жывём мы, яны многім здолеюць нас здзівіць.

— Ну, канешне, — саркастычна перабіў біёлаг і клацнуў зубамі. — Нагледзеўся на спектаклях выступленняў дрэсі-сабак, дрэсі-мышэй, дрэсі-антраў. Зразумела, антры — разнастайней за ўсіх. Аднак тыя, хто іх дрэсіруе, сцвярджаюць, што няма больш упартай скаціны. Яны нават галодныя могуць не спакусіцца кормам і не выканаць каманду.

— Ці не сведчанне розуму тое, што яны пераадольваюць інстынкт голаду, каб захаваць уласную годнасць? — лісліва спытаў Вірга. — А ці дазваляем мы ім рабіць тое, што яны хочуць самі? У нас жа толькі нявольнікі…

— Не гавары слова «нявольнікі» ў дачыненні да жывёл! Бог не даў ім волі! — раззлаваўся Балайла, які паспеў забыць, што ледзь не пырснуў слінай пасля слоў пра «ўласную годнасць» антраў. — Шукай інтэлект у курынай галаве, зваранай у тваім супе. І гэта ўжо не жарты, вальнадумец-рэпусíт Вірга!

Гісторык задуменна, але жвава пачасаў сябе за вухам і адпарыраваў:

— Я ведаю больш за цябе, Балайла. Ідзі адсюль.

— Статус забараняе такім чынам перарываць дыспут.

— Ты ў маім доме.

— Усё роўна! — віскнуў Балайла.

— Маё меркаванне больш значнае.

Абодва ўскочылі на карачкі, злосна бліснулі зрэнкамі і ашчэрыліся. Пры гэтым хвост Віргі быў прыціснуты да левага сцягна, а хвост Балайлы пагрозліва ўзняўся і знерухомеў.

— Балайла, ты ведаеш Статус. Калі ты мяне загрызеш, цябе спаляць. Маё імя не заплямлена. У мяне шэсць абалонак сацыяльнай абароны.

Балайла няпэўна махнуў хвастом.

— Пакуль «шэсць абалонак»…

Прыўзняўся на заднія лапы і стукнуў па дзвярной клавішы.

— Мы дрэнна пагаварылі, Балайла, не злуйся на мяне доўга. — Апошняй фразай Вірга азначыўся як больш мудры.

## Рэпусіт Вірга

Балайла не мог данесці Канклаву на Віргу: усё скончылася б тым, што ён сам бы атрымаў чорную кропку на лісце лёсу. Вірга быў адным з нешматлікіх вучоных Тутмондыі, якія валодалі ведамі найстаражытнай гісторыі. І з шасці абалонак сацыяльнай абароны тры не толькі ахоўвалі і забяспечвалі Віргу, але і ізалявалі яго веды ад распаўсюджання. Чэрава планеты час ад часу выкідвала факты існавання папярэдніх цывілізацый, якія былі настолькі супярэчлівымі, што давалі магчымасць выбудаваць любую канцэпцыю. А стварэнне канцэпцый з'яўлялася кормам для яго мозга і, пасля адпаведнай апрацоўкі, — базай для агульнадаступнай ідэалогіі Тутмондыі.

Балайла даўно сышоў, а ўвушшу Віргі стаяў ягоны віскат: «Твае погляды разыходзяцца з афіцыйнымі!»

«Розум. Вось чым мы адрозніваемся ад жывёл. Аднак, ствараючы ўмовы для развіцця іх розуму, хіба не робім мы небяспечнейшым уласнае існаванне? Заўсёды на планеце вылучаецца больш значны і магутны від, лідар з паспяховай эвалюцыйнай стратэгіяй. Сягоння гэта мы. Хто быў учора — невядома, хто будзе заўтра — залежыць ад нас…» — так сказаў на таемнай гутарцы секýрыт.

Зрэшты, трэба працаваць. Вірга выцягнуў свінцовую матрыцу, што засталася ад антраў, аднак і па сёння нераспазнаную ні антрамі-фаскінамі, ні сучаснымі навукоўцамі.

Папярэдняя цывілізацыя замест простай і зручнай дваічна-матрычнай сістэмы перадачы пісьмовай інфармацыі выкарыстоўвала груваcткую паслядоўную шматсімвальную літарную, у якой кожная асобная літара азначала, пэўна, нейкае падабенства гука. Разам з тым паралельна ў іх існавалі дзясяткавыя лічбавыя коды, якімі яны надавалі больш выразны сэнс тэкставым сендытам.

Вірга лёгка расшыфраваў асобныя сімвалы, але не мог даўмецца, на што разлічвалі тыя, хто сачыняў пасланне. «Цукар» — нешта белае, светлае, салодкае; «пясок» — дробныя сыпучыя каменьчыкі; «1954» — колькасць гэтых пясчынак; «Бакалея» — імя пісара, які пакінуў пасланне. Што хацеў сказаць нашчадкам невядомы майстар Бакалея гэтымі белымі каменьчыкамі, пра што папярэдзіць? Як яны былі раскладзены: малюнкам або тэкстам? Вірга ўзяў другі рарытэт «2071ЕР-7». У фрэмдаў толькі адзінка і нуль мелі сэнс, прычым нуль не абазначаўся, а адзінка была базавай кропкай. Праўда, апошнім часам з'явіўся значок «можа быць» або «варыянт», якім вучоныя карысталіся ў асноўным на стадыі вывучэння тэмы, у чарнавіках. Прысутнасць падобнага значка ў рабоце, што падавалася на разгляд Савета Вучоных, выключалася: работа не магла лічыцца закончанай.

Канкрэтныя тэмы не ішлі. Няхай з імі па зацверджаных методыках важдаюцца лернеры-вучні, а ён, рэспект, абагульніць і зробіць вывады.

Вірга ўвайшоў у прафесарскі пакой і крыкнуў хельпантцы Флэці, каб падала віянду для актывізацыі працэсу мыслення. Затым выпіў віянду і зрабіў Флэці заўвагу за стомлены выгляд і нізкую сервільнасць; зачыніў дзверы і вокны, каб застацца ў цемры. Выцягнуў алюмініевы фолій, які яму выдавалі для чарнавікоў, узяў у рукі найл і мартэлу і пачаў выкладаць думкі, якія нават яму, вядомаму парадоксу, здаваліся крамольнымі. А калі ўлічыць сілу Канклава і рашучасць Камісіі — такімі і былі.

«Глорыя Першародцу і Стваральніку! Без аніякага сумневу ў Афіцыйнай Гісторыі паведамляю, што адпаведна рэальнасці менавіта антры некалі валодалі светам, які цяпер падпарадкавалі мы. Цуд, што захаваў іх, тлумачыцца так: яны стварылі нас, фрэмдаў, што на мове тубыльцаў (асмелюся іх так назваць) азначае "чужынцы", і надзялілі нас інстынктам клопату пра іх. Маё адкрыццё ў тым, што мы называем сябе абсалютна сугучна, калі ўдвая знізіць актыўны рэгістр стэрта і ўвесці снуфы ў мову антраў. Непрыстасаванасць антраў да сучаснага жыцця тлумачыцца хуткім іх пакарэннем намі, вырываннем з працэсу выхавання старэйшага і сярэдняга звёнаў, ціскам на іх гентэстраў, адсутнасцю індывідуальнай праграмы для кожнай народжанай асобіны і татальным кантролем.

Знойдзены тысячы сведчанняў надзвычай высокай, хоць і празмерна заблытанай цывілізацыі. Большасць з іх не паддаюцца дэшыфроўцы, бо не нясуць прамой інфармацыі, з'яўляюцца ўскоснымі да розуму. Значыць, па псіхафізіялагічнай сутнасці яны бліжэйшыя да антраў, чым да нас. Гэтая тэза і прынятая ў дакладзе за дырэктыўную. Відавочна, што пісьменнасць антры выкарыстоўвалі для выказвання эмоцый, што натуральна, бо ў іх адсутнічае хвост. Нядаўна мы пераклалі шэраг наскальных надпісаў, на якіх невядомыя гісторыкі сцісла перадалі змену эпох: "Талян — міравы пацан", "Элен + Віктар = Любоў", "Усе лохі" — ад татальнага кіраўніцтва асобным рэгіёнам цераз канфармізм да поўнага лібералізму. І менавіта складаная пісьменнасць пры неразвітай мове служыла сродкам зносін між антрамі. Толькі гэтым тлумачыцца яе груваcткая структура.

Аднак узнікае яшчэ адна праблема: засталіся не толькі наскальныя выявы, але і будынкі, якія немагчыма зрабіць. Па рэштках рытуальных фундаментаў, разбураных пры зрушэнні падакіянскай цвярдыні, эксперыментальна вызначана іхняя вышыня — больш як трыста ўмоўных скачкоў. Асобныя блокі немагчыма падняць ні фрэмдам, ні цяперашнім антрам. Значыць, прадстаўнікі мінулай цывілізацыі былі значна буйнейшымі і мацнейшымі за сённяшніх або мелі ў якасці дрэсі вельмі магутных жывёлін, астанкі якіх часам трапляюцца. На карысць гэтай версіі сведчыць тое, што гэтыя магутныя звяры жылі ў спецыяльных рэзервацыях-ангарах і мелі металічны шкілет. Біёлагам удалося сістэмазаваць іх і падзяліць на класы і віды: краны, экскаватары, трэйлеры, бульдозеры, скрэперы, грэйдэры і гэтак далей. Усе яны канчаткова вымерлі.

Мяркую, што па будове розуму нашыя продкі былі бліжэй да антраў, чым да фрэмдаў, таму што іх імкненне мяняць свет было вышэйшым, чым прыстасаванасць да тых умоў, што існавалі.

Так, іхнюю цывілізацыю загубіла раз’яднанасць: яны мералі адно ў аднаго рост, прыкладалі да шкла пальцы і вушы, каб знайсці адрозненні, а затым падзяляліся па супадзенні гэтых фактараў і забівалі адно аднаго. Верагодна, скрытай прычынай агрэсіі была адсутнасць хваста як асноўны комплекс. Быў у іх дагэтуль нерасшыфраваны прынцып, за які яны несупынна змагаліся, — манеты.

Толькі ці былі яны без эмоцый? Пра гэта другая частка даклада. Фасы антраў з-за аголенасці і пляскатасці дастаткова выразна, калі прыгледзецца, перадаюць эмацыйны стан. Пачуцці сучасных антраў прымітыўныя, але міміка адлюстроўвае іх не горш, чым хвост. Гэта мой погляд, канешне. Аднак пастараюся пераканаць і вас».

Рэспекту падалося, што ў гэтым месцы Савет завішчыць і зазвініць. Ён як бы звярнуўся да залы: бліснуў вачыма, прымірэнча ўзняў лапу і зноў пачаў стукаць мартэлай па найлу.

«Як яны хмураць бровы, калі злуюцца, як ускідваюць уверх вочы, калі просяць, як крывяць вусны, калі незадаволены! Зразумела, што гэта малапрыкметна. І вушамі яны варушыць амаль не могуць. Вядома, што гартань у іх не развітая, таму пра нармальную мову гаварыць не даводзіцца. Яна занадта манатонная, каб выкласці доўгую абстрактную думку. Да таго ж віскат амаль адсутнічае, а звона не можа быць у прынцыпе. Іх мозг замаруджаны, таму пры хуткаплыннасці дзён яны не могуць здзейсніць нешта істотнае, калі не перадаць завяршэнне задачы наступным пакаленням. Але і пры гэтым я ўспрымаю антраў не больш і не менш, чым роўнымі сабе. Мем*о*ры Першародцу і Стваральніку!»

Вірга задумаўся. Замест ухвальнага скавытання або няхай сабе нават абуранага бразгату ён пачуў трывожную цішыню.

Таму тэзу пра тое, што абшарпаныя будынкі, у якіх фрэмды жывуць і па сёння, некалі пабудавалі цывілізаваныя продкі антраў, а не падаравала прырода, ён вырашыў не развіваць ні ў якім разе.



### Касант Канкет на мяжы

Лімгард Араг*а*нта здалёк убачыў вазок-кару, якую цягнулі па глыбокай каляіне дрэсі. Вопытнае вока памежніка і ў цемры лёгка вызначыла, што здабыча засмуціла касанта-паляўнічага і занепакоіла хельпанта-слугу. Лімгард аблізнуў нос і замёр.

Пост нельга было аб’ехаць — колы кары проста ўціснуліся б у грунт і затармазілі б цэнтральным брусам. Па меры набліжэння да лімгарда знешняе аблічча

паляўнічых мянялася: касант сціснуў сківіцы і наструніў вушы, а хельпант звузіў вочы ў кропку, якой з'яўляўся Араганта. Дрэсі па-ранейшаму цягнулі кару і нешта тужлівае мыкалі.

Згодна з рытуалам усе павінны былі спыніцца перад лініяй, праведзенай бастонай лімгарда, і прыўзняць галовы. Здабычы, зразумела, гэта не датычыла, а дрэсі… Ну што возьмеш з бясхвостых жывёл!

— Хацелася б вам дакласці, гранд, — паважліва пачаў Канкет, — пра некаторыя спецыяльныя абставіны палявання. Мне было даручана даставіць аднаго з антраў…

Касант прыціх, калі ўбачыў, як лімгард праводзіць дыфіна-пласцінкай над галавой Ромпі, і жаласна заскуголіў.

— Гвідант. Юны гвідант. Ты — малуціла, — прысудам прагучалі словы Араганты.

У Канкета задрыжэлі плечы; ён ледзь здолеў стрымацца.

— Гранд, мне было даручана даставіць паўжывую асобіну для пэўных мэт…

— Не паступала інструкцый пра эксклюзіўную здабычу гвідантаў.

— Магчыма, гэта не знакі недатыкальнасці, а шнары, драпіны, якія выступаюць скрозь бруд на голай скуры, гранд, — паспрабаваў дапамагчы гаспадару Фроці.

— Яшчэ адзін гук, акрамя дыхання, і ты будзеш пераведзены ў сервутулы. — Каб надаць рашучасць тону, лімгард адрывіста цяўкнуў і зазвінеў.

Ягоны хвост рытмічна і ўпэўнена хістаўся з боку ў бок.

Дрэсі-антры стомлена прыселі і пачалі падбіраць і есці чарвякоў, што выпаўзалі з цёплай глебы ў прахалоду ночы.

— Гранд, Статус не дазваляе камандаваць хельпантам у прысутнасці гаспадара без яго дазволу. І я не забіў гвіданта, а толькі падраніў.

Араганта задумаўся. Яшчэ не хапала, каб выкрыты касант-малуціла падаў на яго кляўзу! А фармальная падстава ёсць: сапраўды, лімгард прыструніў чужога хельпанта, чым парушыў, канешне, не Статус, але ўсё ж Кодэкс Гонару.

Далейшае адбылося нечакана.

Ромпі раптам ачуняў, ускочыў з кары, дзе да гэтага ляжаў у рытуальнай позе, выхапіў бастону ў Фроці і пабег у напрамку рэзервацыі.

Разгубіўся нават Араганта.

— Твая кугла не ўдарыла яго?

— Я не паспеў адфарматаваць фузілу, але, магчыма, яна адрэагавала на ягоны знак… — Канкет радасна завіляў хвастом.

— І ён не быў забіты або паранены, аднак, тым не менш, даехаў з вамі да мяжы рэзервацыі?

І касант, і хельпант апусцілі вочы і зашмыгалі насамі. І яны, і лімгард ведалі старажытную легенду: антр, які падмане фрэмда, — непераможны. А непераможныя робяць Рэвалюцыю. Гэта значыць — паўстаюць. А яшчэ і бастона ў руках жывёлы! Нашто яна яму? У яго ж няма права ёй карыстацца!

Сітуацыя рэзка памянялася: за тое, што адбылося на мяжы, адказваў лімгард. Ён умольна зірнуў на Канкета, з дакорам — на Фроці і вінавата падціснуў хвост. Цяпер кляўза з наступствам магчымага змяншэння пакета ўтрымання паказалася дробнай птушкай, якая напаскудзіла з вялікай вышыні. Аднак Канкет асуджальным віскам даў зразумець, што прынцыповасць не дазволіць яму ўтаіць факт парушэння ад Камісіі. Як з парушэння будзе выкручвацца сам касант — пакуль што было незразумела. Сітуацыя склалася даволі спрэчнай і рызыковай.

**Эскапада**

Світанак яшчэ не пачынаўся, калі Ромпі прыбег у рэзервацыю. Лерта, Конвін і Банега здзіўлена глядзелі на гвіданта і спалохана — на бастону ў ягоных руках.

— Ты… — пачаў Конвін і прыціх, таму што не ведаў слоў, якімі можна было б апісаць тое, што бачылі вочы і пра што падумала галава.

— Я ўцёк ад фрэмдаў і адабраў у іх бастону. — Ромпі, дзякуючы Кані, быў больш развітым.

— Фрэмды пазбавяць цябе знака гвіданта і заб'юць, а рэзервацыю пакрыюць ружовым туманам. У нас вывярнуцца лёгкія і вылезуць вочы. — Затое Конвін памятаў Карны Кодэкс.

— Не! — усклікнуў юны гвідант. — Яны будуць шукаць толькі мяне. А я вазьму Банегу, і мы ўцячом да мантэтаў-курганнікаў.

— Адумайся! Лепш смерць ад фрэмдаў, чым ад мантэтаў. Яны разрэжуць нас на кавалкі, на тры дні закапаюць у зямлю, а затым пачнуць раскопваць і з'ядаць… Яны ядуць падгнілых антраў.

— Кані распавядаў, што ў курганнікаў жыве дух волі і справядлівасці. Дастаткова перамагчы іхняга капацыту або любых двух баталантаў, каб цябе прынялі ў племя.

— Кані-Клык здзяцінеў. Ён не заўсёды адрознівае вечар ад раніцы, — запярэчыў Конвін.

— Яго розум заняты ўспамінамі мінулага і бачаннем будучага, таму сённяшняя мітусня не заўсёды падуладная стомленай за жыццё ўвазе. А ты падпарадкаваннем фрэмдам спрабуеш прыкрыць уласную палахлівасць!

Банега захоплена глядзела на Ромпі, які то распальваў, то азадачваў таварышаў. Ёй было ўсё роўна, што вырашыць каханы, — яна будзе з ім, пакуль лёс-Юганта іх не разлучыць.

— У курганнікаў вострыя кіпцюры і дужыя канечнасці. Нават разам мы не адолеем нікога з іх. Да таго ж там няма раўніны — адны горы: яны нападуць на нас раней, чым мы паспеем нешта сказаць.

— Ты ніколі не бачыў курганнікаў, Лерта. Страх перашкаджае табе думаць. А Кані бачыў і нават біўся з імі, калі жыў у Тутмондыі. Змагацца буду толькі я. І прапаную паядынак іхняму гвіданту. А калі пакажу сваю сілу, стану праваруч ад яго.

— Але ў курганнікаў няма агню! — не здаваўся Лерта.

— Кані дасць мне індзь. Мы распалім полымя і не будзем гасіць яго ніколі. Яно будзе захоўвацца ў чорнай жыжцы. Мы будзем самі збіраць, сушыць і паліць фунгі. І будзем цешыцца іх пахам, не чакаючы, пакуль Юганта і фрэмды дазволяць нам гэта зрабіць.

— Шлях да курганнікаў вядзе праз балоты. Нашыя целы патонуць у гразі, а раты напоўніць смуродная ціна.

— Кані зробіць су*о*і, у якіх можна прайсці м*а*рцу. А вось крываногія фрэмды лягуць на пуза, калі паспрабуюць нас дагнаць.

— Ты не зможаш усяго прадбачыць…

— Твая праўда, Конвін. Мы возьмем з сабой мудрага Кані і, калі ён стоміцца, будзем несці яго на руках або на спінах.

— Кані не падпарадкоўваецца табе, ён гентэстр.

— Ён мой прадзед, і гэта больш важкае званне, чым тыя, якія даюць нам фрэмды. — Ромпі задумаўся, ці не сказаў ён лішняе. — Але пакуль у мяне не адабралі знак гвіданта, вы абавязаны падпарадкоўвацца.

Конвін адчуў, што Ромпі лавіруе паміж законам і вальнадумствам.

— Тады і ты павінен атрымаць дазвол на эскападу Рады гентэстраў або самога Цэфы. Ці не так, Ромпі? Інакш ты станеш злачынцам — мальбанулай!

— Не надавай зашмат увагі працэдуры, бесталковы баязлівец. Я здзейсню эскападу, а ты застанешся. А перад тым як фрэмды пакрыюць рэзервацыю ружовым туманам, яны прадзіравяць табе кіслатой язык, якім ты цяпер гаворыш са мной, мальбанулай, і парэжуць на пялёсткі вушы, якімі ты мяне слухаеш.

Апошні аргумент падзейнічаў на Конвіна: было відавочна, што так і адбудзецца. Ён разгублена глянуў на спалоханага Лерту, а затым — спадылба — на Ромпі.

— Фрэмды прыдумалі працэдуры для таго, каб пазбавіць самастойнасці антраў. Нас з табой, Конвін… — дабіў сумневы гвідант.

**Разбор**

Яўгеній Фёдаравіч Жалруневіч дачытаў няроўныя радкі і па чарзе пакруціў двухбакова спісаныя восем лісткоў, быццам шукаў прабелы, куды магло б змясціцца недасказанае.

Узяў адзін з лісткоў і прагледзеў яго пад святлом: некаторыя дзівакі часам да таго на паперы і стрыжнях эканомяць, што гатовы шпалеры вачыма прапаліць, каб выказацца! А цвічком або пазногцем на газеце — тым больш.

Пасада галоўнага ўрача Навастаўбцоўскага ПНД і званне прафесара не дазвалялі Яўгенію Фёдаравічу аддавацца эмоцыям. Ну яшчэ там з жонкай або, скажам, з былымі аднакурснікамі… Але не на працы. Нават у канцы дня.

Ён паклаў лісткі на папку «Дакументы на разгляд», з якой іх выцягнуў, і выклікаў па селектары старшую медыцынскую сястру.

* * *

— Святлана Аляксандраўна! Як «гэта» трапіла мне на стол?

— Дык ардынатар з чацвёртага аддзялення Андрэй Грыніч дзяжурыў і сярод ночы ў хворага адабраў. А зранку вам паклаў. Вы ж цэлы дзень у міністэрстве былі.

— Чаму без суправадзілаўкі?

— Першы год працуе, стаміўся, можа.

— Выкліч-ка, Света, мне гэтага стомленага…

— Ён сёння адпачывае.

— Лагічна: стаміўся — адпачывае. Ну добра, заўтра. А я яшчэ дома пад каньяк перачытаю.

Старшая медсястра выцягнула з кішэні зялёнага халата блакноцік і зрабіла ў ім пазнаку.

***Заканчэнне будзе***



*Вікторыя ЛЯЙКОЎСКАЯ (ТРЭНАС)*

# АПОШНІ ШАНЦ



***Вікторыя Ляйкоўская (Віка Трэнас) нарадзілася ў 1984 годзе ў Мінску. Скончыла філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта, цяпер — рэдактар аддзела паэзіі часопіса «Маладосць». Аўтар зборнікаў вершаў «Цуд канфіскаванага дзяцінства», «Экзістэнцыйны пейзаж».***

* * *

Не губляй раўнавагі. Не страчвай сябе самога,
Адшуканага ў выклятым пекле між тысяч дарог,
Ашуканага, ды не забытага ўважлівым Богам.
Бачыць ён. Кожны ўздых. Кожны жэст. Кожны крок

Будзе ўлічаны. Нават калі не хапае паветра,
Б’ецца чыстае сэрца часцей — адно на дваіх,
Ды разумным — табу, калі іншым — права на вета.
Ведай, вартым і верным даецца па веры іх.

Прачытай і адчуй — прарываецца плач праз радкі.
Лёс ад нас — на адлегласці выцягнутай рукі.

* * *

У вершаў, пасаджаных на ланцуг,
Страчаны розум і сточаны зубы.
А ў іншых, падобных да валацуг,
— Прага бязглуздае згубы.

Прарок, дзе ісціны не відно —
Прыдумай сістэму мер, ці
Паэзіі застанецца адно —
Памерці.

**АПОШНІ ШАНЦ**

Пахне вільготнай зямлёй. Вясна прыйдзе хутка.
Час не прыспешвай, бо ўсё будзе добра —
ты скажаш ціхутка.
Бо наш цягнік ужо блізка — ад шуму звініць у вушах.
Мы не спазняемся. Проста чакаем апошні шанц.

* * *

Прыемна, калі ў тваіх вачах — мора.
Ціхае, спакойнае, бязмежнае.

А я маленькім караблікам плыву па ім.
Шторм ужо адышоў, застаўся за небасхілам.
А я гляджу ў твае вочы, нібы гойдаюся на хвалях.

## НОВАЕ ДЗІКАЕ ПАЛЯВАННЕ

прашу цябе, захоўвай раўнавагу,
іначай нам не выжыць
ідуць не менш як мы адважныя
па нашым следзе выжлы
на поўсці іхняй цемра згусткамі
крыві на ловах
каб абыходзіць насткі, пусткамі
ідзі над прорвай
яны не менш як мы разумныя
ды толькі
без сэнсу ім высочваць нас
без толку

* * *

Цёплай восенню пахне.
Ты — зырка-пяшчотны агонь.
Я — агмень, табою запалены.

## МОЎКНЫ СВЕТ

Пах скошанай травы. У цэнтры горада.
Стаю, збялелая ад гора, гордая,
І ў твары выпадковых слухачоў
Крычу. І чуе нават хмарачос.

Мне набалелы белы бэз. Мой толькі смутак.
Май мае што сказаць, ды суму так
Няёмка перад ім, і ён дажджом прайшоў.
Мне млосна без цябе. І ў гэтым шоу

Я стану мурашом на той травінцы,
Якую ты сарвеш. Ты ў навальніцу
Ідзі. Там будзе верш. Там горад наш увесь.
Знайдзі. Разгавары мой моўкны свет.



*Валянціна КАДЗЕТАВА*

# АРТЫКУЛ 7 «Б»

***Аповесць***



***Валянціна Кадзетава нарадзілася ў 1951 годзе ў вёсцы Мікалаеўка Добрушскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыла Мінскі педінстытут. Працавала настаўніцай Лукскай сярэдняй школы Жлобінскага раёна. Друкавалася ў шматлікіх рэспубліканскіх перыядычных выданнях. Аўтар кніг прозы «Ад кахання не паміраюць», «Ля трох пуцявін» і іншых.***

Першае, што ўбачыў Андрэй, калі прачнуўся, быў новенькі «Акіян». Прыёмнік стаяў на тумбачцы побач з ложкам. «Трэба ж прымроіцца такому!» — падумаў Андрэй і заплюшчыў вочы. Калі ён расплюшчыў іх, прыёмнік па-ранейшаму стаяў на тумбачцы. Не, не сон! Дык значыць, гэта і ёсць сюрпрыз, які бацькі падрыхтавалі яму да дня нараджэння!

А вечарам Андрэй атрымаў яшчэ адзін, не менш радасны падарунак. Калі ён разгарнуў газету, каб даведацца пра раённыя навіны, у вочы яму адразу кінуліся радкі:

Узняўся яркі сцяг зары —
Насустрач з'езду!
Ідуць па полю трактары —
Насустрач з'езду!
Імкнуцца воды бурных рэк —
Насустрач з'езду!
Ідзе рабочы чалавек —
Насустрач з'езду!

Яго, Андрэевы, вершы! Цэлая нізка вершаў! Праўда, ягоныя вершы і артыкулы ўжо некалькі разоў друкаваліся ў «раёнцы», а адзін верш нават у «Гомельскай праўдзе», але каб цэлая нізка — такога яшчэ не было! Відаць, Толя Рагавец пастараўся. У рэдакцыі ж, апроч яго, ніхто не ведаў, што менавіта сёння Андрэю споўнілася сямнаццаць. Хацелася смяяцца і спяваць. І ён узяў у рукі гітару. У яго ўжо тады былі свае песні. Свае словы, свая мелодыя…

А потым ён слухаў прыёмнік. Не столькі слухаў, колькі шчоўкаў пераключальнікам і зноў радаваўся: гэта ж столькі радыёстанцый можна слухаць! Хочаш музыку — калі ласка, хочаш навіны — на табе навіны. А гэта… Што гэта? Дзіўная нейкая песня. І голас спевака незнаёмы:

Детей — в детдом, а стариков — на волю,
А тех, кто сил исполнен — расстрелять!
О, как же ты горька, казачья доля,
И жизнь тебе — ни мачеха, ни мать!..

Раптам у прыёмніку пачуўся трэск, шыпенне, і колькі Андрэй ні круціў ручку настройкі, разабраць можна было толькі асобныя словы:

…большевистской бандой
Велось на смерть две трети казаков.

Андрэй вырашыў увогуле не класціся спаць, пакуль не ўдасца паслухаць яшчэ што-небудзь «такое». Вельмі ж гэта было нязвыкла і цікава! Ой, як цікава! Ён ужо здагадаўся: гэта, відаць, адна з замежных, «варожых» радыёстанцый, перадачы якіх стараюцца «глушыць». Ён пра такія радыёстанцыі сёе-тое чуў ад хлопцаў. Але адна справа — чуць ад некага, і зусім іншая — паслухаць самому. Можа, гэта «Голас Амерыкі»?

Нарэшце дакучлівы шум і трэск зніклі, і мужчынскі голас з прыкметным акцэнтам прамовіў: «У эфіры радыёстанцыя “Свабодная Еўропа”. Паслухайце перадачу: “Чэкісты закасалі рукавы”».

Сёння Андрэй ужо амаль не памятае зместу той першай пачутай ім перадачы «варожай» радыёстанцыі. Памятае толькі, што размова ішла пра работу Архангельскага КДБ. Работа такой паўміфічнай (так яму тады думалася) установы зусім не цікавіла Андрэя. Можа, іншым разам выпадзе паслухаць што-небудзь больш «клёвае»?

Назаўтра ён пахваліўся сваім «адкрыццём» Шурку Цімашкову, і яны пачалі раз-пораз збірацца, каб разам паслухаць «Свабодную Еўропу». Ну вядома ж, пераважная частка таго, што яны чулі, была лухтой (прынамсі, так лічылі яны з Шуркам). Ну, напрыклад, такое: «Камуністычны лідар заявіў, што ў Савецкім Саюзе няма і не можа быць людзей, незадаволеных сваёй уладай, бо найпершым яе клопатам з’яўляецца клопат пра кожнага працоўнага чалавека. І што не трэба браць у разлік псіхічнахворых людзей, з іх неадэкватнымі меркаваннямі і паводзінамі. Такіх людзей своечасова змяшчаюць у клініку і аказваюць ім патрэбную медыцынскую дапамогу». «На самай справе, — каменціраваў дыктар, — у Савецкім Саюзе ў “псіхушку” прымусова заганяюць нармальных людзей, калі яны маюць неасцярожнасць публічна неадабральна выказацца пра дзейнасць нават нізавых органаў Савецкай улады, не кажучы ўжо пра дзейнасць вышэйшых яе эшалонаў».

Тады яны з Шуркам доўга смяяліся. Трэба ж прыдумаць такое! Нармальных людзей — у псіхушку! Вунь Моцьку Цітову час ад часу забіраюць. Дык яна ж, усе ведаюць, яшчэ з вайны «чыканутая». Ад Моцькі чаго хочаш можна чакаць. Нядаўна ледзьве хату сваю не спаліла. Устала ноччу і пачала на падлозе касцёр раскладаць. Добра, што сын з нявесткаю прачнуліся ды патушылі. А яна крычыць, што давала нашым самалётам знак, дзе знаходзяцца немцы. Аднойчы дзядзьку Пятра Мянькова туды вазілі: так дапіўся, што «на каня сеў». Толькі праз тры месяцы дадому вярнуўся.

— Андрэй, — прапанаваў аднойчы Шурка, — а давай я магнітафон прынясу і будзем самае цікавае запісваць. Няхай і іншыя паслухаюць. Вось нядаўна анекдоты вельмі смешныя перадавалі, памятаеш? Пра Брэжнева і Леніна. А я толькі адзін запомніў. І песні ў той вечар былі класныя. Давай?

Спачатку ўсё было проста захапляльнай гульнёй. Але Андрэя ўсё часцей пачала непакоіць думка: «А хіба ўсё тое, што перадае “Свабодная Еўропа”, лухта?» Цяпер ён па некалькі разоў пракручваў плёнку і сёе-тое канспектаваў у блакнотах, разам са сваімі вершамі. Ды і вершы ў яго сталі іншымі. Не пісаліся ўжо тыя ўрачыста-ўзнёслыя, што ўслаўлялі партыю, друкаваліся на першых старонках і, калі гаварыць шчыра, сваёй узнёсласцю нікога не хвалявалі. Андрэй пачаў больш уважліва прыглядацца да жыцця, да людзей. З’ўляліся новыя думкі і сумненні… Ці справядліва, напрыклад, што Шуркаў бацька другі год сядзіць у турме за тое, што адлупцаваў —

і мала! — зладзюгу Грышку Целяпня, якога заспеў у сваім доме, калі той выносіў скрадзеныя рэчы, а сын раённага чыноўніка спакойна раз’язджае на шыкоўным — бацькавым — аўтамабілі, хоць (усе гэта ведаюць) проста так, з п’янага куражу, скалечыў хлопца. Чаму ў магазіне для партыйнай эліты, куды Андрэю аднойчы выпадкова ўдалося трапіць, няма хіба толькі птушынага малака, у той час як просты люд душыцца ў чэргах за кавалкам каўбасы? І чаму сёння людзі павінны не жыць, а «змагацца за шчасце будучых пакаленняў», калі жыццё ў кожнага чалавека ўсяго толькі адно? Няўжо і сапраўды наша дзяржаўная сістэма «свайго роду гамункулус»? У нядаўняй перадачы «варожага» радыё было сказана: «Ні рабаўладальніцкі, ні феадальны, ні капіталістычны лад не будаваўся па плане, не меў пад сабою “тэорый”. Сацыялізм — штучна створаная сістэма, а ўсё штучнае — недаўгавечна».

Неяк Андрэй паказаў свае канспекты аднаму са знаёмых. Потым другому, трэцяму… Амаль усе прасілі пачытаць. Ён нікому не адмаўляў.

— Бярыце, чытайце, — абыякава гаварыў ён, — калі вас гэта цікавіць.

Але абыякавасць Андрэева была толькі знешняй. Кожны раз, калі яму вярталі прачытанае, ён з хваляваннем чакаў: што скажуць? Звычайна ніхто нічога не гаварыў, а калі Андрэй спрабаваў дапытацца пра ўражанне, няшчыра ўсміхаліся і паціскалі плячыма. Два блакноты ўвогуле згубіліся…

Толік Рагавец, пагартаўшы запісы, раптам спытаў:

— Андрэй, а ты не баішся?

— А чаго мне баяцца? — здзівіўся Андрэй. — Свабода слова ў нашай краіне гарантавана Канстытуцыяй. Хто-хто, а ты, руплівец газетнай нівы, павінен гэта ведаць.

— Таму і перасцерагаю, што сёе-тое ведаю. Ты што-небудзь чуў пра Салжаніцына?

— Ды крыху чуў. У нас гавораць і пішуць, што ён паклёпнік і здраднік, а вось па радыё «Свабодная Еўропа»…

— Ну-ну, — Рагавец палічыў за лепшае спыніць размову.

Кажуць, многія людзі ў той ці іншай ступені валодаюць здольнасцю прадчуваць нядобрае. У Андрэя такога прадчування не было. Хадзіў на працу, стараўся як мага радзей прапускаць заняткі ў вячэрняй школе — менш чым праз месяц пачнуцца экзамены, і яму трэба паспяхова здаць іх, каб атрымаць добры атэстат: ён збіраўся паступаць на факультэт журналістыкі. Праўда, у раённай газеце яму паабяцалі даць накіраванне, але перш за ўсё трэба спадзявацца на сябе. Андрэю проста неабходна паступіць у гэтым годзе. Калі ж не паступіць, такая магчымасць выпадзе яму толькі праз два гады, пасля службы ў войску, а за два гады многае можа здарыцца. Ды і рыхтавацца будзе цяжэй пасля такога перапынку. І яшчэ адно, вельмі важнае для яго: Святлана таксама будзе паступаць ва ўніверсітэт. Хоць яна збіраецца на юрыдычны, галоўнае — яны (калі, вядома, усё складзецца так, як Андрэй мяркуе) будуць жыць і вучыцца ў адным горадзе.

Вось гэта, толькі гэта павінна хваляваць яго цяпер. Усё астатняе вырашыцца само па сабе. Ён адганяў ад сябе непажаданыя думкі, стараўся радзей слухаць «Свабодную Еўропу», а блакноты з канспектамі закінуў на антрэсолі. Вядома, ён не надаў асаблівай увагі Толікавым словам — ат, баязлівец і перастрахоўшчык! — але ў душы ўжо чамусьці не было ранейшай зладнасці. Можа, яму проста рана ламаць галаву над грамадскімі праблемамі, тым больш, што хапае асабістых?

…Яны з'явіліся раніцою. Андрэй паспешліва глытаў чай — пара ўжо было ісці на працу — калі ля іхняга дому спынілася адна, потым другая машына. Андрэй зірнуў у акно. Яны ўжо ішлі ў двор. Адзін, два, тры… шэсць! Шасцёра мужчын. Двое ў вайсковай, астатнія ў цывільнай вопратцы. Бацька, на хаду выціраючы рукі (ён корпаўся ў старэнькім, відаць, ужо ад'ездзіўшым сваё матацыкле), разгублена ступіў колькі крокаў насустрач, адмоўна пахітаў галавою, паказаў на дом і пайшоў услед за няпрошанымі гасцямі. Андрэй стаяў ля стала і абедзвюма рукамі сціскаў кубак з недапітым чаем.

— Раманаў Андрэй Андрэевіч? — не вітаючыся, ці то спытаўся, ці то адзначыў цывільны з карычневай папкаю ў руках.

Андрэй разляпіў сшэрхлыя вусны:

— Так, гэта я.

Вайскоўцы здзіўлена пераглянуліся, і адзін з іх са зняважліва-недаверлівай усмешкаю прамовіў:

— Слухай, хлопчык, а ты не…

Цывільны з папкаю жэстам рукі перапыніў яго і суха загадаў Андрэю:

— Збірайся. Пойдзеш з намі.

Бацька паспрабаваў запярэчыць:

— Чаму гэта ён павінен немаведама куды і немаведама з кім ісці? Ён спазняецца на працу!

Цывільны тыцнуў бацьку ў твар чырвоную кніжачку:

— Трэба было ведаць пра тое, чым займаецца ваш сын, і думаць, да чаго гэта можа прывесці. А цяпер думаць будзем мы.

Андрэй пакорліва пайшоў да машыны. Ён яшчэ не разумеў, навошта спатрэбіўся гэтым сур'ёзным асобам.

Машына спынілася на плошчы насупраць трохпавярховага будынка. Яго павялі на другі паверх. Асляпляльнай маланкаю бліснуў нейкі надпіс на чорнай шыльдачцы, і брыдкая калматая лапка страху сціснула Андрэева сэрца.

Твар чалавека, што сядзеў за пісьмовым сталом сціпла абстаўленага кабінета, трохі заспакоіў: нічога страшнага не было ні ў мяккай ружовасці паўнаватых шчок, ні ў позірку празрыстых блакітна-шэрых вачэй. Следчы? Але паводзіў ён сябе зусім не так, як тыя, што нядаўна прывезлі Андрэя сюды. Запрасіў сесці, прапанаваў цыгарэту, пахваліў за тое, што не курыць, спытаўся, дзе працуе, чым захапляецца, ці часта бывае ў абласным цэнтры. Потым дастаў з шуфляды два блакноты:

— Табе знаёмы вось гэтыя рэчы?

Андрэй хацеў узяць блакноты, але следчы не даў:

— Дык пазнаеш ці не?

— Мае блакноты. Але адкуль яны ў вас?

— Ой, Андрэй, Андрэй! Нездарма кажуць у народзе: «Хто не быў малады, той не рабіў глупства». Але нічога… Усё яшчэ можна паправіць, калі ты будзеш шчырым. Цяпер ты мне падрабязна раскажаш, хто, калі і як уцягнуў цябе ў такую, мякка кажучы, непрыгожую справу, хто даў даручэнне распаўсюджваць вось гэтыя, — ён кіўнуў на блакноты, — паклёпніцкія матэрыялы, і якія яшчэ даручэнні ты меў ад сваёй арганізацыі.

Убачыўшы, што следчы ўжо расклаў на стале паперы і падрыхтаваўся запісваць яго «паказанні», Андрэй усміхнуўся:

— Ды што вы! Ніхто ніякіх даручэнняў мне не даваў. Гэта я слухаў па транзістары «Свабодную Еўропу» і канспектаваў. Сам канспектаваў.

Следчы ўзняў светлыя бровы:

— Слухаў «Свабодную Еўропу» і канспектаваў? Гожа. Вельмі варты занятак для камсамольца. Ты ж камсамолец?

Андрэй моўчкі кіўнуў.

— Ну вось! Камсамолец канспектуе варожую хлусню пра вырадка і адшчапенца Салжаніцына і — задаволены! Думае, што за гэта ён атрымае ордэн. Атрымаеш. Толькі не ордэн. І нават не медаль. Але размова пра іншае. Пра антысавецкую арганізацыю, дачыненне да якой табе ўсё роўна не схаваць. Таму самым лепшым выйсцем з бруднай сітуацыі, у якой ты апынуўся, будзе добраахвотнае прызнанне і жаданне, шчырае жаданне дапамагчы нам.

— Ды не ведаю я ні пра якую антысавецкую арганізацыю, паверце!

У вачах следчага ўспыхнулі халодныя агеньчыкі:

— Праверым, тады паверым!

Ён пакруціў тэлефонны дыск:

— Ну як там? Яшчэ не знайшлі? А магнітафон?

Андрэй потым даведаўся, што забралі не толькі прыёмнік і магнітафон, але і сшыткі з вершамі і чарнавікамі артыкулаў. Нават той, запаветны сшытак, дзе ўсе вершы былі прысвечаны Святлане.

Далей пачаўся допыт, цяпер ужо сапраўдны допыт. І сплыла некуды штучная добразычлівасць з ружовашчокага твару следчага, і ледзяным, жорсткім стаў позірк празрыстых блакітна-шэрых вачэй:

— Ты што з сябе дурня строіш?! Ты, відаць, думаеш, што мы нічога не ведаем? Думаеш, калі ты непаўналетні, дык на цябе не знойдзецца ўправы? Канешне, шкада, што табе няма васямнаццаці. Мы б тут доўга не размаўлялі з табою, а проста выпісалі б табе пуцёўку на Архангельскі «курорт» гадкоў на дзесяць. Але не радуйся. Тваё цябе не міне. Вось возьмем ды пасадзім цябе ў «музычную шкатулку» — чуў пра такую? — разам усё раскажаш, калі па-добраму не хочаш! Гавары!

— Мне няма чаго расказваць. Я вам ужо ўсё сказаў. Слухаў «Свабодную Еўропу». Канспектаваў. Пра тое, што ў вобласці існуе антысавецкая арганізацыя, упершыню чую ад вас.

— А вось гэта? — следчы паклаў перад Андрэем тоненькі вучнёўскі сшытак. — Гэта таксама перадавала «Свабодная Еўропа»? Заступнік народны! Чытай! Вось тут. Услых чытай!

Андрэй схіліўся над сшыткам:

Усё жыццё бабуля Ганна
Ў калгасе «Зорка» шчыравала,
Цягнула лямку беззаганна,
Дзяцей пяцёра ўзгадавала.
Калі ж страшэнная вайна
Мужоў навекі спаць паклала,
Касіла з бабамі яна
І да знямогі плуг цягала.
Ўлада нашая заўжды
Ўсё рабіла «для народа».
І тым, хто шчыра ёй служыў,
Яна дала ўзнагароду.
Таксама й Ганне. Грамат стос.
А потым пенсію. Заўважце:
Ёй паштальён ужо прынёс
Рублёў-рублёў!!! — Аж цэлых дваццаць!..

— Хопіць! — Перапыніў следчы. — Ну дык што? Гэта ў цябе адкуль?

— Гэта я напісаў сам, — ледзь чутна прамовіў Андрэй. — Гэта мае вершы. Мяне дзеля смеху папрасілі…

— Хто папрасіў? — насцярожыўся следчы. — Каму патрэбны былі такія «вершы»? Гэта ты так дзякуеш дзяржаве за тое, што вырасціла і вывучыла цябе? Рукі б табе пераламаць за такую «творчасць» ці ўвогуле галаву адкруціць. Канешне ж, цябе папрасілі. Сам бы ты не дадумаўся да такога. Я ж чытаў твае вершы і артыкулы ў раённай газеце. Там напісана зусім іншае. Апошні раз пытаюся…

— Пытайцеся, колькі хочаце. Ніякай антысавецкай арганізацыі я не ведаю. Я сам па сабе.

Яго адпусцілі толькі вечарам, папярэдзіўшы, каб нікуды з дому не адлучаўся, бо размова яшчэ не скончылася.

А на наступны дзень да яго прыехалі два міліцыянеры. Андрэй пачуў, як пад’ехала машына і сустрэў «прадстаўнікоў улады» ўжо апранутым. Яны выйшлі на вуліцу, і Андрэй аслупянеў: ля двара стаяў «варанок». Куды яго збіраюцца везці? На допыт ён прыйшоў бы сам. Навошта ж міліцыя? Навошта тут, ля іхняга дому, гэтая жахлівая машына? Маці спужалася, плача… Суседзі павыходзілі. Хто спачувае, а хто і радуецца. І не дзіва! У «варанках» возяць толькі злачынцаў. У турму возяць. А можа… Няўжо яго таксама ў турму?! Яго кінуць у цёмную турэмную камеру са зверападобнымі, страціўшымі сумленне і чалавечы воблік бандытамі! Не! Цяпер жа не трыццаць сёмы год. І якая ж тады цана сцвярджэнням і лозунгам пра «самую свабодную ў свеце краіну»?

Можа, той нахабны следчы — звычайны дурань, якому проста прымроілася нейкая антысавецкая арганізацыя? Ці, можа, кар’ерыст. Хоча выслужыцца і атрымаць чарговае павышэнне. Ну якая ж антысавецкая арганізацыя можа быць на пачатку васьмідзясятых? Вядома, не ўсе ўхваляюць дзяржаўную палітыку, бо не ўсё ў нас так ідэальна, як пра тое пішуць у газетах і гаворыцца па радыё. Ну, бурчаць некаторыя… у сябе на кухні. Ну, анекдоты складаюць. Але ж каб арганізацыя…

Сёння Андрэй папросіць дазволу пагаварыць з кім-небудзь іншым, а не з гэтым крывадушным таўстуном. Яму павінны паверыць і адпусціць дадому. Вось прыедуць яны. Дарэчы, чаму яны так доўга едуць? Да райвыканкама ж усяго нейкіх паўтара кіламетра.

Ён яшчэ нават і не здагадваўся, што яго вязуць у «псіхушку».

* * *

— Хлопец, а хлопец, пастой хвіліначку! — ускудлачаны хударлявы мужчына ў брудна-шэрай бальнічнай піжаме падазрона азірнуўся па баках і дастаў з кішэні тоненькую цёмна-сінюю кніжачку. — Паглядзі, хлопец!

Андрэй разгарнуў кніжачку, якая на самай справе аказалася зусім не кніжачкай, а толькі вокладкай ад яе. На левай палове вокладкі ён прачытаў: «Пасведчанне Тысячу Разоў Героя Сусвету. Мальцаў Рыгор Іванавіч з’яўляецца Тысячу Разоў Героем Сусвету. Мае права камандаваць усімі ўстановамі і ўсімі войскамі, насіць на левым баку ўсе медалі, ордэны, а таксама вырабы з золата, каштоўных камянёў і ўсе бліскучыя прадметы».

На правай палове вокладкі быў прыклеены фотаздымак мажнага круглатварага мужчыны ў генеральскай форме з падмалёванымі сінім алоўкам даўжэзнымі, ажно да вушэй, вусамі.

— Бачыш? — працягваў нечаканы Андрэеў суразмоўца. — Гэта мой дакумент. Цяпер яны памянялі мне галаву. Мая галава забальзаміравана. Яны схавалі яе ў кабінеце галоўнага ўрача. Тут, на здымку, я са сваёй галавой. Але нічога. Мае родзічы мяне выратуюць. Яны ўсе цяпер на кангрэсе ў Цэнтаўры. А я сам — член урада ўсіх краін. І Англіі, і Афрыкі, і Азіі. Тут яны сапсавалі мне лёгкія і сэрца, а страўнік увогуле спалілі. Але мяне вылечыць імператарскі ўрач. Толькі трэба забраць маю галаву з кабінета галоўнага ўрача. Трэба яе выкрасці. Дапамажы мне, хлопец. Я ўзнагароджу цябе самым залатым ордэнам.

Андрэй саўгануў кніжачку ў кішэню «Тысячу Разоў Герою Сусвету» і подбегам кінуўся да сваёй палаты, ледзьве не збіўшы з ног чалавека ў белым халаце. Той схапіў Андрэя ў абдымкі і засмяяўся:

— Ого! Хто цябе так спалохаў, хлопчык? Не бойся. Тут няма буйных. Яны ўсе там, у назіральнай палаце, і без нагляду іх нікуды не выпускаюць.

— Вы ўрач? — крыху апамятаўшыся, спытаўся Андрэй. — Я хачу ведаць, чаму мяне прывезлі сюды і ці хутка адпусцяць дадому? Мне ніхто нічога не гаворыць.

— Не, я не доктар. Я санітар. А хто цябе сюды прывёз?

Андрэй расчаравана махнуў рукою і адчыніў дзверы сваёй палаты. Трэці дзень ён тут, а ніхто на яго не зважае. І ўвогуле, чаму ён тут, сярод псіхічнахворых людзей? Праўда, у іхняй (яе называюць салдацкай) палаце, здаецца, зусім не хворыя. Прынамсі, хворымі яны не выглядаюць. Звычайныя, крыху старэйшыя за яго хлопцы. Каму васямнаццаць, каму дзевятнаццаць. Двое трапілі сюды з вайсковай часці. Яшчэ дваіх накіраваў ваенкамат. Іх тут абследуюць.

А вось тыя, з так званай назіральнай… Якія ж яны страшныя! Бледныя, бы ў мерцвякоў, твары. І жудасныя пустыя вочы з ліхаманкавым нечалавечым бляскам. Калі іх вядуць у сталоўку ці на працэдуры, яны рухаюцца нібы робаты, да ўсяго абыякавыя, на ўсё згодныя. Толькі ж ціхмянасць іхняя, Андрэй ужо ведае, ненадзейная, бы першы тоненькі лядок на возеры. Учора вечарам у назіральнай палаце раптам узняўся такі вэрхал! Енк, рогат, спевы, галашэнне! На калідоры адразу пачалася мітусня: забегалі дужыя санітары, урачы, медсёстры. Андрэй ажно спацеў ад страху: такое ён раней бачыў толькі ў кіно. «Эксперымент доктара Абста» — здаецца, так яно называлася. Але кіно ёсць кіно, а тут… Праўду кажуць, што калі Бог хоча пакараць чалавека, ён адбірае ў яго розум.

— І навошта ім, вось такім, жыць на свеце? — счакаўшы, пакуль нарэшце ўсталявалася цішыня, услых разважае Саша Сіўко, Андрэеў сусед па палаце. — Яны ж нават не ўсведамляюць, што жывуць. Дык зрабілі б ім па ўкольчыку, усяго па адным укольчыку, і супакоілі б назаўсёды.

— Яны табе што — солі на адно месца насыпалі? — абурана ўсклікае Міша Ліневіч, з «ваенкаматаўскіх». — Ці, можа, хлеб твой пераелі?

Сіўко кідае на Ліневіча зневажальны позірк:

— Не насыпалі, дык могуць насыпаць. Вось няхай хто-небудзь з гэтых прыдуркаў выскачыць са сваёй «назіралкі» ды схопіць цябе за гарляк! Або трэсне чымнебудзь па чарапку. Пагляджу я тады, куды твая гуманнасць падзенецца?

— Не выскачаць, не бойся! Гэта не твая паршывая «вэ-чэ», адкуль табе змыцца было — раз плюнуць. Але тут табе мазгі паправяць.

— Ніхто, акрамя Бога, не мае права забіраць у чалавека жыццё. Бог яго даў і толькі ён вырашыць, калі забраць. — Ціха загаварыў звычайна маўклівы і марудлівы Міця Вайтовіч, таксама «ваенкаматаўскі».

— Ах, ты, Ісусік няшчасны, — грэбліва скрывіў вусны Сіўко, — ах, ты, разумнік наш! Толькі ж чаму ты тут, калі такі разумны?

— Мая вера не дазваляе браць у рукі зброю. І я яе не вазьму. Няхай мяне трымаюць тут, колькі заўгодна, але вучыцца забіваць мяне не прымусіць ніхто.

Нарэшце Андрэя выклікалі да Бандарэнкі, галоўнага ўрача. Андрэй акуратна заслаў ложак, крыху пастаяў ля дзвярэй — набіраўся смеласці для маючай адбыцца рашучай размовы (навошта яго тут трымаюць?), выйшаў на калідор. Ля сцяны, насупраць іхняй палаты, стаяў высокі бландзін у бякла-блакітнай піжаме і штосьці пісаў у невялічкай кніжачцы. Кніжачка таксама была, як і ў нядаўняга «героя», у цёмна-сіняй вокладцы. Заўважыўшы Андрэя, бландзін перапыніў занятак:

— Прабачце, малады чалавек, хачу ў вас спытацца…

«Ну вось, яшчэ адзін “Тысячу Разоў Герой”, якому тут памянялі галаву ці яшчэ што-небудзь», — падумаў Андрэй і хацеў схавацца ў палаце.

Бландзін не пакінуў Андрэева памкненне без увагі і гучна засмяяўся:

— Асцярожны малады чалавек! Пахвальна! — ён ступіў крок насустрач і падаў Андрэю руку з доўгімі гнуткімі пальцамі.

— Віктар Паўлавіч. Мастак. — І прачытаўшы на Андрэевым твары недавер, дадаў: — Не-не, не «шызік». Абсалютна здаровы як фізічна, так і псіхічна. І ўвогуле, малады чалавек, запомніце: у гэтую ўстанову трапляюць не толькі тыя, хто ў лячэнні мае патрэбу. Але вы, здаецца, некуды ішлі?

— Бандарэнка выклікаў. Я яму ўсё скажу!

Новы знаёмы дакорліва зірнуў на Андрэя:

— А вось гэтага, малады чалавек, якраз і не трэба! Тут табе не сход і не мітынг. Чым больш будзеш мітынгаваць, тым горш сабе зробіш. Ну, ідзі. Мы з табой яшчэ знойдзем хвілінку пагаварыць. Чаго-чаго, а вольнага часу тут хапае.

У кабінеце, апрача галоўнага, быў яго намеснік з дзіўным прозвішчам Палубаба, двое ўрачоў, якіх Андрэй бачыў упершыню, і медсястра Даша. Бандарэнка штосьці ціха прамовіў калегам, і тыя, не тоячыся, скіравалі на Андрэя зацікаўленыя позіркі:

— Ну, як сябе адчуваеце, Раманаў? — спытаўся галоўны.

Андрэй няпэўна паціснуў плячыма: як можа адчуваць сябе нармальны чалавек, якога раптам сілком загналі ў «псіхушку»?

— Нічога не баліць?

— Дзякуй. Нічога.

— Кладзіцеся на кушэтку.

— Але ж я сказаў вам, што ў мяне нічога не баліць, — нясмела запярэчыў Андрэй.

Але медсястра ўжо набірала ў шпрыц празрыстую вадкасць. Праз некалькі хвілін галоўны, прысеўшы на крэсле ля кушэткі, прамовіў:

— А цяпер, Андрэй, давайце пагутарым.

«Гутарка» з урачом адрознівалася ад допыту хіба толькі тым, што тут на яго не крычалі, не пагражалі і час ад часу медсястра са шпрыца ўпускала ў вену правай рукі хлопца па кропельцы празрыстай вадкасці, якая патрохі кружыла галаву.

Калі Бандарэнка скончыў «гутарку», Андрэй хацеў устаць з кушэткі і не змог: галава кружылася мацней і ногі не хацелі слухацца.

— Адвядзіце яго ў палату і прасачыце, каб не ўставаў да раніцы, — распарадзіўся галоўны і выйшаў з кабінета.

Праз тыдзень паўтарылася тое ж самае. А на трэці раз, калі пасля «гутаркі» весці Андрэя ў палату мусілі ўжо двое, медсястра і санітар, бо ён увогуле не мог ісці самастойна, да яго нібы праз сон данесліся словы Бандарэнкі: «З мяне хопіць. Няхай яны займаюцца гэтым дзіцём самі».

На Андрэя зноў перасталі зважаць: ніякіх працэдур, лекаў, «гутарак». Толькі пакутлівае чаканне і цяжкае адчуванне безвыходнасці: няўжо гэта ніколі не скончыцца?!

— Так, самае страшнае — гэта няўпэўненасць, — сказаў Андрэю Віктар Паўлавіч, з якім хлопец, нягледзячы на розніцу ва ўзросце, паспеў пасябраваць. — Калі цябе садзяць у турму, ты ведаеш, што праз пэўны тэрмін выйдзеш на волю, а тут… Ты ведаеш, колькі я тут? Другі год ужо. А ўсё таму, што меў неасцярожнасць пайсці ў Міністэрства замежных спраў з просьбаю аформіць мне візу ў Канаду. Вось мне яе і афармілі. З Міністэрства і, што называецца, прамым курсам сюды.

— А навошта вам у Канаду? — здзівіўся Андрэй. — Вы ж член Саюза мастакоў і, відаць, нядрэнна зарабляеце.

— Эх, хлопча, хлопча! Мы жывём у такой краіне, дзе творчаму чалавеку… Дарэчы, ты таксама творчы чалавек. І ты, калі яшчэ не адчуў, то адчуеш, што такое наша краіна. Гэта трэба адчуць самому, і ўсялякія словы тут залішнія. Хаця… Табе не даводзілася чытаць вершы рускага паэта Мікалая Стэфановіча? Праўда, друкаваўся ён вельмі рэдка, але паэт быў выдатны, калі не сказаць больш. Чаму мала друкаваўся? А вось паслухай і паспрабуй сам здагадацца чаму:

Всё разбито, растоптано, распято,
А весна вдруг забила ключом,
Но по чувствам, точнее, по паспорту
Ты навек из весны исключён.

Прорван фронт, опрокинуто воинство.
Всё равно не сдавайся, держись:
И проигрывать надо с достоинством,
Если даже проиграна жизнь…

— Віктар Паўлавіч, а чаму вы сказалі «быў», «друкаваўся»? — парушыў узніклае маўчанне Андрэй. — Ён што — памёр?

— Так, памёр, — сумна прамовіў Віктар Паўлавіч. — Тое, што я табе чытаў, з ненадрукаванага і наўрад ці калі-небудзь будзе апублікавана. Дарэчы, зірні: вунь яшчэ адзін няўдалы дысідэнт. — Віктар Паўлавіч паказаў вачыма на сівога дзядка, што тупаў да суседняй палаты. — Кандыдат тэхнічных навук. Але яго трэба асцерагацца: «находзіць» на яго іншым разам. Асабліва не любіць, калі хто-небудзь садзіцца на яго месца ў сталоўцы. Аднойчы нейкага мужчыну табурэткай па галаве выцяў. А той таксама «псіх». Невядома, чым бы скончылася, калі б санітар побач не аказаўся. Гаварылі, што калі прывезлі яго сюды, нармальным чалавекам быў, а потым… Відаць, нервовая сістэма слабая, ды і ўзрост ужо не той, каб вытрымаць такі стрэс. У Амерыку збіраўся ехаць…

* * *

Аднойчы з самай раніцы ў аддзяленні пачалася незразумелая мітусня: хворым спешна мянялі адзенне, бялізну, санітары мылі вокны і дзверы, а ў медсясцёр і ўрачоў твары зрабіліся вельмі сур’ёзнымі і заклапочанымі.

Усюдыісны Сашка Сіўко яхіднічаў:

— Бач, закруціліся, як уюны на гарачай патэльні! Глядзі, каб са штаноў не павыскоквалі ад імпэту! А снеданне? Вы заўважылі, якое было снеданне? А абед — давайце ў заклад пойдзем! — яшчэ смачнейшы будзе. І сёння, і заўтра. Можа, нават, і паслязаўтра.

— А з якой гэта нагоды? — пацікавіўся Ліневіч. — Мо свята якое?

— Ага ж, свята. Дзень вар'ята. — Чмыхнуў Сашка і сам засмяяўся нечаканай рыфме. — Чуў пра такое свята?

— Можа, калі-небудзь пачую. Я думаю, яго ўстановяць у твой гонар. Ты лепш не крыўляйся, а скажы, у чым справа? Можа, камісія якая?

Сіўко яшчэ хвіліну памаўчаў, інтрыгуючы, а потым прамовіў урачыста, нібы немаведама якое адкрыццё рабіў:

— Важная шышка заўтра прыязджае. Прафесар з Мінска. Вось яны і хочуць пусціць пыл у вочы.

Назаўтра пасля абеду — і праўда, вельмі смачнага — у палату ўскочыла медсястра:

— Раманаў, тэрмінова ў кабінет Бандарэнкі!

«Няўжо зноў давядзецца трываць гэтыя здзекі з сябе? Няўжо ж няма ніякага выйсця? А ўрэшце, якое тут можа быць выйсце? Крычаць? Клікаць на дапамогу? Толькі яшчэ горш сабе зробіш — праўду гаварыў Паўлавіч».

Андрэй, перамагаючы хваляванне, пераступіў парог кабінета. За сталом, праглядаючы паперы, сядзела жанчына гадоў пад пяцьдзясят, светлавалосая, але з цёмна-карымі, амаль чорнымі, вачыма за тонкімі шкельцамі акуляраў у пазалочанай аправе. Перш чым прапанаваць Андрэю сесці, жанчына сказала:

— Я бачу, што ты хвалюешся. Не трэба. — Яна пасунула да стала крэсла з высокай спінкаю. — Зараз мы пазнаёмімся. Мяне завуць Ада Іванаўна. Я прыехала сюды з Мінска.

«Дык гэта і ёсць тая самая "шышка", з-за якой узняўся такі вэрхал, — непрыязна адзначыў Андрэй. — І яна таксама, відаць, будзе "гутарыць" са мною. Толькі дзе ж медсястра са шпрыцам?»

— Супакоіўся? Ну і добра, — жанчына ўсміхнулася. — Я не зраблю табе нічога дрэннага. Наадварот, магу дапамагчы. Уласна кажучы, я для таго цябе і выклікала. Ты хочаш, каб *яны* адчапіліся ад цябе? Варта мне толькі напісаць у тваёй медыцынскай картцы пэўны дыягназ, і *яны* ўжо ніколі не зачэпяць цябе. Думай. Без тваёй згоды нічога пісаць не буду. Хаця тое, што я прапаноўваю, таксама ўскладніць тваё жыццё, але, па-мойму, з дзвюх бед трэба выбіраць меншую. Вырашай сам.

Андрэй вагаўся толькі адно імгненне:

— Не, лепей няхай мяне пасадзяць у турму!

Жанчына ўважліва паглядзела Андрэю ў вочы і прамовіла:

— На тваім месцы я зрабіла б такі ж выбар. Што ж, заўтра цябе выпішуць. І… хай бароніць цябе Бог, мой хлопчык! Бывай.

…Андрэя праводзілі хлопцы з палаты і Віктар Паўлавіч. На развітанне мастак падарыў яму сваю сінюю кніжачку, у якую запісваў афарызмы і ўпадабаныя вершы. Сярод іх быў і верш рускага паэта Стэфановіча, той самы, які пачынаўся словамі: «Всё разбито, растоптано, распято...» і які Андрэй да гэтай пары ведае на памяць.

З бальніцы ён вяртаўся на той жа «страшнай» машыне. Перад тым, як адпусціць Андрэя дадому, яго гадзіны паўтары пратрымалі ў знаёмым ужо кабінеце. Следчы быў той жа самы.

— Ну, што, зрабіў высновы? — было першым яго пытаннем. — А цяпер садзіся і пішы. Будзеш пісаць тое, што я табе прадыктую. Слухай уважліва: «Я, Раманаў Андрэй Андрэевіч, цалкам усвядоміў, што памыляўся ў сваіх меркаваннях адносна палітыкі Камуністычнай Партыі і Савецкай улады. Цяпер я цвёрда ўпэўнены, што наша грамадская сістэма ёсць сістэма гуманная і справядлівая, і абяцаю ніколі ні пры якіх абставінах ні словам, ні дзеяннем не выказваць незадаволенасці існуючым ладам». Напісаў? Распішыся. Чаму ты сядзіш? Можа, зноў захацеў туды? Але на гэты раз ты трапіш не ў салдацкую, а ў назіральную палату. Там з цябе зробяць тое, што трэба, і тады ўжо ніхто не зможа даказаць, што ты быў нармальным. Падпісвай!

Андрэю хацелася крыкнуць, што менавіта цяпер ён усвядоміў зусім іншае і таму не збіраецца крывадушнічаць, але ў памяці паўсталі бяскроўныя твары з ліхаманкавым бляскам пустых, бяздумных вачэй, і яго ахапіў жах: што заўгодна, толькі не гэта…

Нейкі час ён жыў у трывожным чаканні: вось-вось зноў спыніцца ля дома «варанок» і… Але ўсё было ціха. Яго ніхто не турбаваў. Можна было вяртацца да паўсядзённага жыцця, тым больш, што праблем хапала. Пакуль ён «адпачываў», экзамены ў вячэрняй школе скончыліся, і дырэктар сказаў, што Андрэй можа здаць іх толькі ўвосень. Рушыліся ўсе яго планы. Можа, чым-небудзь дапамогуць у рэдакцыі? Заўтра ў яго выхадны. Ён сходзіць у рэдакцыю, возьме накіраванне і пагаворыць наконт экзаменаў. І трэба яшчэ зайсці да Святланы. Два разы ўжо наведваўся і два разы заспяваў толькі яе маці. Святлана, відаць, таксама знудзілася. Праўда, яна не падасць выгляду, што сумавала — яна такая. Але ж ён усё прачытае ў яе вачах: празрыста-блакітных, прамяністых. Ад гэтага позірку ў Андрэевым сэрцы кожны раз загараецца трапяткое цяпельца.

Першым, каго сустрэў ён у рэдакцыі, быў Толя Рагавец. Ён чамусьці не даў Андрэю сваё звычайнае: «Прывітанне маладым талентам» і не запрасіў да сябе ў кабінет. Крыху пакрыўджаны, Андрэй дастаў з папкі рукапіс:

— Паглядзі, калі ласка. Тут некалькі новых вершаў. Можа, падыдуць для «Літаратурнай старонкі». А я хачу зайсці да рэдактара. Ты не ведаеш, накіраванне мне ўжо напісалі?

— Н-не… здаецца, не напісалі, — Рагавец патаптаўся на месцы і апусціў вочы долу. — Ты прабач, у мяне неадкладныя справы.

— Ну, тады я забягу да цябе пазней. Дарэчы, рэдактар на месцы?

— Андрэй, — Рагавец азірнуўся па баках і паклаў руку на Андрэева плячо, — не хацеў я цябе засмучаць, але… не трэба да рэдактара. І ўвогуле, ты пакуль не прыходзь сюды. І рукапіс свой забяры. Я табе потым усё растлумачу. Не крыўдуй. Я патэлефаную на днях. А лепш ты мне. Дадому. Пачакай. Цябе ў гаркам камсамола выклікалі? Ну, добра. Пакуль.

Неўзабаве Андрэя выключылі з камсамола… за нявыплату ўзносаў. Цяпер, вядома, пра паступленне ва ўніверсітэт думаць не выпадала, нават калі б у яго быў атэстат. Але і атэстат ён атрымае толькі восенню. Што ж далей? Вясной забяруць у войска, а ў яго ніякай прафесіі. Не збіраецца ж ён усё жыццё працаваць на абрыдлай будоўлі, куды пайшоў толькі таму, што яго, «малалетку», нікуды не хацелі браць, а сядзець на шыі ў бацькоў, калі ў іх, акрамя Андрэя, яшчэ трое малодшых…

А тут яшчэ і Святлана… Што ж, няхай яна едзе ў Мінск з кім-небудзь іншым, з тым, хто больш даспадобы яе маці і ёй самой. Няма чаго падманваць сябе: не здалося яму тады, калі заходзіў апошні раз, што чуў яе голас. А маці сказала, быццам Святланы няма. Была яна дома! Значыць, знарок ад яго схавалася. І да тэлефона не

падыходзіць. Відаць, і да яе дапаўзлі чуткі пра «варанок» і пра «псіхушку», ды ўсё астатняе. Інакш і не магло быць у іхнім невялічкім гарадку. Эх, Святлана, Святлана!.. Чаму ж ты так? А можа, ты і невінавата? Можа, маці забараніла табе сустракацца са мною? Ну, гэтыя дарослыя! Заўжды яны лепш ведаюць, што трэба іхнім дзецям. Часцей бы ўспаміналі пра тое, што добрымі намерамі вымашчана дарога ў пекла. А можа, Святлана паехала ўжо ў Мінск? Так, на днях пачнуцца экзамены на першым «патоку».

* * *

Але першая ж сустрэча са Святланаю ўшчэнт разбіла і без таго кволую Андрэеву надзею. Убачыўшы яго, Святлана памкнулася перайсці на другі бок вуліцы, а калі Андрэй дагнаў яе і хацеў узяць за руку, амаль адштурхула яго, і ў вачах яе не было нават следу колішняй прамяністай радасці. Толькі холад, страх і грэблівасць.

Ён доўга стаяў ля скрыжавання. У тыя хвіліны яму хацелася аднаго — памерці. Вось цяпер, тут, кінуцца пад машыну і памерці. Андрэй уявіў сабе, як ён халодны і маўклівы будзе ляжаць у труне, як яна будзе плакаць, і… заплакаў сам: ад невыноснага болю, ад крыўды і ад пякучага жалю да сябе, памерлага. Калі б можна было памерці, але не назаўсёды! Каб пабыць мёртвым да таго часу, пакуль яна не зразумее, каго страціла, а потым ажыць і — прагнаць яе! Хай ёй пабаліць, як баліць цяпер яму. Не, Андрэй адпомсціць ёй інакш. Ён — насуперак усяму! — стане вядомым паэтам, лаўрэатам. Можа, яму нават дадуць Нобелеўскую прэмію. І тады яна будзе лічыць за гонар атрымаць Андрэеў аўтограф. А ён пройдзе міма, незалежны, горды і недасягальны для яе. Толькі чаму пройдзе? Вось ён едзе на шыкоўным аўтамабілі, а побач з ім сядзіць незвычайнай прыгажосці жанчына, ягоная жонка. Вось так!

Хутка Андрэй нечакана нават для сябе звольніўся з «абрыдлай будоўлі» і пайшоў вучыцца ў аўташколу. А што? Трэба ж будучаму лаўрэату навучыцца вадзіць машыну і ўвогуле, шафёр — вельмі патрэбная і цікавая прафесія. Якраз да прызыву ён паспее яе атрымаць.

Вучыўся Андрэй старанна, меў толькі добрыя і выдатныя адзнакі і тыдні праз два пасля свайго васямнаццацігоддзя атрымаў вадзіцельскае пасведчанне. У ваенкамаце яму чамусьці далі адтэрміноўку да восені, і ён уладкаваўся на працу ў «Сельгастэхніку». Праўда, працаваць тут яму не вельмі падабалася, але ж ён быў упэўнены: гэта часова, а ўсё лепшае яшчэ наперадзе. Непакоіла толькі, што яго амаль перасталі друкаваць у раённай газеце, а калі і друкавалі, то толькі пад псеўданімам.

— Так трэба, — гаварыў Андрэю Рагавец, па-ранейшаму пазбягаючы глядзець яму ў вочы, — так трэба.

— Каму трэба? — не стрываў аднойчы Андрэй. — Што за таямніцы Мадрыдскага двара? Ні ў маіх вершах, ні ў артыкулах няма нічога крамольнага!

— Тое, што я табе скажу, няхай застанецца паміж намі, — Рагавец паказаў пальцам на столь. — Мы атрымалі распараджэнне адтуль. Неафіцыйнае распараджэнне ўвогуле нічога твайго не друкаваць. І калі табе па-сяброўску ідуць насустрач, трэба быць удзячным. Калі там даведаюцца, хто такі А. Андрэеў, нам зальюць сала за скуру. І перш за ўсё рэдактару. Ён шкадуе цябе, ашчаджае твой талент, таму і рызыкуе. Так што пацярпі да лепшых часоў.

Дык вось яно як! Вось чаму яго перасталі запрашаць і ў школы, і ў бібліятэкі! Ён за апошнія паўгода не пабыў ні на адным мерапрыемстве! Ну, і няхай! Цяпер ён

пачне пісаць у стол. У яго ўжо даволі напісана. І «крамольнае» ёсць. Але ж цяпер ён ужо не будзе дурнем, каб спавядацца перад першым сустрэчным. Прыйдзе час (а ён абавязкова павінен прыйсці!), і яго творы прачытаюць усе. А пакуль ён будзе проста жыць. Спакойна, Андрэй, спакойна!

Але спакойна жыць не выпадала. Аднойчы, калі ён вярнуўся з працы, бацька сказаў, што прыходзіў участковы і нешта шукаў у Андрэевым пісьмовым стале.

— І ты яму дазволіў!

Бацька вінавата развёў рукамі:

— Ці ж ён пытаўся майго дазволу?

— Вось я пайду да ягонага начальства, няхай з ім разбяруцца!

— Ага, сынок, ідзі, — бацька дакорліва папікваў галавою. — Мала яшчэ з-за цябе паплакала маці. Ідзі.

— А і пайду! — заявіў Андрэй, але ўжо не так рашуча.

Урэшце, у пісьмовым стале ўсё было на месцы.

З участковым Андрэй пагаварыў. Дакладней, гаварыў участковы, які заявіўся ў той жа вечар.

— Ты ведаеш, Андрэй, я хачу з табой па-добраму. Бачу, зноў ты ўзяўся за старое. Чытаў я тваю пісаніну і хачу папрасіць цябе: кінь. Думаеш, ты адзін разумны, а ўсе астатнія дурныя і сляпыя, таму нічога не бачаць і не разумеюць? І бачаць, і разумеюць. Толькі ж, як рускія кажуць: «плетью обуха не перешибёшь». Думай. Табе на свеце жыць. Гэта я не як міліцыянер, а як чалавек табе гавару. А там я нічога не скажу, абяцаю. Але ж гэта ў апошні раз.

Але, відаць, участковы свайго абяцання не стрымаў, бо неўзабаве Андрэя выклікалі ў ваенкамат, дзе добра ўкормлены мужчына з палкоўніцкімі пагонамі спакойна сказаў:

— Вам, Раманаў, неабходна на некалькі дзён з’ездзіць у абласны псіханеўралагічны дыспансер. Справа ў тым, што вы, як стала вядома, нейкі час знаходзіліся там. Выпісалі вас з адзнакай «здаровы», так што баяцца вам няма чаго. У гэты раз абследаванне будзе кароткатэрміновым і, так бы мовіць, фармальным, але прайсці яго вам, будучаму вайскоўцу, абавязкова трэба. Такі парадак.

Абследаванне і сапраўды аказалася фармальным. За той тыдзень, які Андрэй мусіў адбыць у трэцім аддзяленні, да яго ні разу не падышоў ніхто з медыцынскага персаналу. І ўсё ж вольна Андрэй уздыхнуў толькі тады, калі яму сказалі збірацца дадому.

А ў канцы ліпеня Андрэю выдалі ваенны білет з запісам «прыгодны да нестраявой службы ў ваенны час» і з адзнакаю — 7 «б», узятай у рамку. На пытанне, што азначае гэтае загадкавае 7 «б», ваенкаматаўская медсястра адказала: «Пад такім кодам рэгіструюць псіхапатаў».

Андрэй кінуўся ў бібліятэку, дзе ў раздзеле «Медыцына» знайшоў падручнік па неўрапаталогіі і псіхіятрыі і хуценька прагартаў яго. Няўжо ён на самай справе захварэў і сам таго не ведае?! На дзвесце трыццаць першай старонцы, пад здымкам алігафрэніка пачынаўся раздзел «Псіхапатыі». Андрэй паспешліва чытаў: «Псіхапатыя — гэта анамалія характару з пераважным парушэннем эмацыянальна-валявой сферы… Назіраюцца ўспышкі гневу без дастатковай на тое прычыны. У такія моманты псіхапаты не кантралююць сябе, не адказваюць за свае дзеянні, становяцца агрэсіўнымі, кідаюцца ў бойку…»

Ну вось, прыехалі! Дажыў да васямнаццаці гадоў, ніколі ні з кім не тое што біцца, а і размаўляць груба не размаўляў і на табе — *псіхапат*! Толькі чаму ж ні на

папярэдняй, ні на наступнай камісіі, ні нават там, у дыспансеры, пра тое ніякай размовы не было? Што рабіць? У каго прасіць дапамогі ці хоць бы парады? Галава ідзе кругам. І як баліць! Ніколі ў яго яшчэ так не балела галава! Сволачы! Вось ваша свабода і гуманнасць! Вось ваша справядлівая ўлада! Цяпер гавары і пішы, што хочаш, Раманаў. Яны толькі пальцам ля скроні пакруцяць: маўляў, чаго чакаць ад псіха? Але ж трэба неяк трымацца. Урэшце, нічога страшнага не здарылася. Яму далі «белы» білет, палічылі яго нявартым такога гонару, як служба ў іхняй арміі? Ды чорт з імі! Ён сам не хоча служыць такой уладзе. Ён — паэт. І застанецца паэтам. Думаюць, ён памрэ ад гора? Не дасць ён ім такой радасці. Ён будзе жыць дзеля творчасці. І напіша многа-многа кніг. Пра сэнс жыцця. Пра сапраўднае каханне. І пра гэта таксама напіша. Абавязкова напіша. А сёння, ды і не толькі сёння, ён увогуле не хоча бачыць нікога. Калі наўкол толькі баязліўцы ды подлыя здраднікі, то ён абыдзецца без «сяброўскага асяроддзя». Ён будзе адзін…

Цяпер Андрэю цяжка нават уявіць, што ён змог амаль на два гады выключыцца з рэальнасці. Неяк адбываў рабочы дзень, а потым зачыняўся ў сваім пакойчыку, зашморгваў кваціcтыя фіранкі, садзіўся за стол і пісаў, пісаў да глыбокай ночы. А раніцай зноў ішоў на працу. Але з часам яму ўсё цяжэй станавілася пераконваць сябе, што такое існаванне задавальняе яго і што нічога іншага ён не жадае. Жыццё і маладосць бралі сваё. Паступова прыйшло заспакаенне, і Андрэй пачаў заўважаць, што яму зноў хочацца да людзей.

Аднойчы ён прачнуўся з нейкім незвычайны, неўсвядомленым пакуль, але светлым адчуваннем і хвілін колькі ляжаў нерухома, баючыся спалохаць гэтае раптоўнае, забытае ўжо адчуванне, цудоўнае адчуванне шчасця! Тоненькі праменьчык слізгануў праз шклінку паміж фіранкамі, адбіўся ў люстэрку, і па сцяне весела заскакаў сонечны зайчык. Андрэй падышоў да акна і расчыніў яго насцеж. Цёплы ветрык пяшчотна казытнуў твар, лёгенька крануў празрыста-зялёную галінку бярозы ў агародчыку, і Андрэй радасна ўсміхнуўся: гэта ж вясна! Зноў прыйшла вясна!

У тую вясну ён упершыню даслаў свае вершы ў рэспубліканскую газету, і іх там надрукавалі! Пасля той публікацыі ён атрымаў ці не з дзясятак лістоў ад дзяўчат. Ён збіраўся адвезці ў выдавецтва рукапіс паэтычнага зборніка, які ўхваліў знаёмы паэт, член Саюза пісьменнікаў, і нават згадзіўся напісаць да яго прадмову. Цяпер Андрэй увесь вольны час аддаваў працы над рукапісам, «адшліфоўваў» кожны радок, прыслухоўваўся да гучання кожнага слова. Але не толькі, а можа, не столькі гэтая апантаная праца была прычынай таго, што ён не адказваў ні на адзін ліст: ён не мог забыць Святлану… Недзе ў патаемным куточку душы, няхай ужо не так балюча, як некалі, але ўсё ж яшчэ варушылася штосьці, чаму Андрэй, як ні стараўся, не мог даць азначэння. Крыўда? Надзея? Ці ўсё яшчэ каханне?..

Тая вясна, не, увесь той год быў асаблівым. Спачатку нясмела, а потым усё больш набіраючы моц, загучала наўкол напоўненае новым, аптымістычным сэнсам доўгачаканае святло ў канцы доўгага змрочнага тунэля! Вось ён, пачатак новага жыцця! Андрэя зноў пачалі друкаваць у раёнцы (цяпер ужо без псеўданіма), запрашаць на пасяджэнні літаратурнага аб'яднання, на творчыя сустрэчы. А ў гаркаме камсамола (папярэдне патэлефанаваўшы яму: «Зайдзіце, калі ласка!»), прапанавалі аднавіць членства ў радах УЛКСМ. Андрэй у гарком зайшоў, але «узнаўляць членства» адмовіўся, чым збянтэжыў і, здаецца, нават пакрыўдзіў маладзенькую інструктарку, якая, мабыць, чакала, што, пачуўшы такую прапанову, ён затанчыць ад радасці. А ён — на табе: не толькі адмовіўся, але яшчэ і блазнаваў: «Дзякуй вялікі, але сумленне не дазваляе, адчуваю, што не варты я такога гонару…»

На пачатку лютага ў дзяржаўным выдавецтве (прыватных, што сёння пад назваю «Літаратурна-мастацкае выданне» валам валяць у свет бяздарную пісаніну, абы заказчык заплаціў грошы, тады яшчэ не было) выйшаў нарэшце доўгачаканы зборнік Андрэевых вершаў. Праўда, быў ён тоненькі, бо рэдактар добра-такі «прапалоў» рукапіс, але ж гэта быў сапраўдны, а не нейкі там самвыдатаўскі, аддрукаваны на машынцы, зборнік. І на вокладцы стаяла нязвыкла-адчужанае, і ўсё ж яго, Андрэева, прозвішча — Раманаў. Калі Андрэй узяў у рукі кніжачку ў цёмна-зялёнай вокладцы, яму здалося, што сэрца вось-вось выскачыць — так яно калацілася ад вялікай радасці, параўнаць якую можна было толькі з радасцю першага ў жыцці спаткання. Крыху засмучала толькі тое, што ў час рэдакцыйнай «праполкі» чамусьці зніклі амаль усе «перабудовачныя» вершы, якімі Андрэй асабліва ганарыўся, а засталася пераважна лірыка. Але такая дробязь нішто ў параўнанні з галоўным: ён сапраўдны паэт. У яго ёсць сапраўдная кніжка! Цяпер можна смела ісці ў рэдакцыю і браць накіраванне для паступлення на журфак.

* * *

— Паслухай, Раманаў, — механічна перагортваючы старонкі Андрэевай кніжкі, прамовіў рэдактар, — а навошта табе той журфак? Для таго, каб стаць пісьменнікам ці паэтам, зусім не абавязкова мець дыплом журналіста. Журналістыка і літаратурная справа — далёка не адно і тое ж. Я сказаў бы нават, што гэта ўзаемавыключныя прафесіі, і з таго, хто спрабуе сумяшчаць іх, звычайна не атрымліваецца ні журналіста, ні пісьменніка. Ды і вучыцца на завочным аддзяленні трэба ажно шэсць гадоў. І ўвогуле…

— Што ўвогуле? — крыўдуючы на такія непаважлівыя адносіны да сваёй кніжкі, спытаўся Андрэй. — Калі вы не хочаце даць мне накіраванне, так і скажыце. Толькі я не магу зразумець — чаму?

— Ёсць рэчы, пра якія не прынята гаварыць, але, калі вы такі, мякка кажучы, наіўны, то… Вы даўно пераглядалі свае дакументы?

— А пры чым тут дакументы?

— А пры тым. Журналістыка, акрамя пэўных творчых здольнасцей, патрабуе яшчэ шмат чаго: камунікабельнасці і абсалютнай эмацыйнай раўнавагі. А ў вас у ваенным білеце — артыкул 7 «б».

— Але ж вы ведаеце…

— Ну, я, мажа, і ведаю. Але дакументы ёсць дакументы. А ва ўніверсітэце могуць зацікавіцца. Так што…

* * *

У тую ноч заснуць Андрэю ўдалося толькі пасля таго, як праглынуў дзве таблеткі, што ўпотайкі ад маці ўзяў з яе аптэчкі. Паступаць ці то ва ўніверсітэт, ці то яшчэ куды ён перадумаў: а што калі і праўда прычэпяцца да гэтага, каб ён спрах, артыкула? Няхай усё будзе як раней: шафёрская праца і творчасць. Дыпломаў жа па спецыяльнасці «паэт» ніводная навучальная ўстанова ўсё роўна не дае.

Тым часам скончыўся тэрмін вадзіцельскай даведкі, якая была сапраўднай тры гады, і трэба праходзіць спецыяльную камісію. Вось з той камісіі і пачаліся «блуканні па пакутах». Андрэя ўважліва аглядалі неўрапатолаг і псіхіятр, задавалі яму

пытанні, якія іншым разам здаваліся ідыёцкімі, патрабавалі падрабязную характарыстыку з месца працы і доўга вагаліся перш чым напісаць у медыцынскай картцы «здаровы». У дадатак да ўсяго Андрэй мусіў праходзіць камісію штогод, у той час, як усе іншыя шафёры — раз у тры гады.

Аднойчы пасля чарговых «блуканняў» ён вырашыў плюнуць на ўсё і пайсці працаваць на завод.

— А чаму гэта вы пасля стольких гадоў шафёрскай працы захацелі пайсці да нас? — спытаўся начальнік аддзела кадраў, зазірнуўшы ў Андрэеву працоўную кніжку.

Андрэй сумеўся:

— Доўга тлумачыць. Захацеў і ўсё. Вам жа патрэбны рабочыя?

— Так. Але вы ведаеце, што перш чым вам дадуць станок, вы мусіце тры месяцы быць вучнем? Гэта вам падыходзіць?

— Я згодзен.

— Добра, пішыце заяву.

Андрэй схіліўся над стандартным аркушам, які даў яму начальнік. Але не паспеў ён напісаць і некалькіх слоў, як пачуў:

— Хвіліначку, Раманаў, хвіліначку. Не пішыце.

Андрэй узняў галаву. Начальнік трымаў у руках ваенны білет і падазрона глядзеў на Андрэя:

— Што ж вы адразу не папярэдзілі, што ў вас, скажам так, пэўныя абмежаванні? Ведаеце, наша прадпрыемства асаблівае, станкі складаныя. Не, мы не можам вас прыняць. Хіба толькі на некваліфікаваную працу.

— Прыбіральшчыкам ці што? — сумна ўсміхнуўся Андрэй. — Дзякуй. Гэта мне не падыходзіць.

Андрэй адчуваў сябе не лепшым чынам, калі праз два дні пасля таго, як звольніўся з ПМК, прыйшоў з просьбаю прыняць яго назад.

І «блуканні па пакутах» узнавіліся. Праўда, з часам, відаць, спачуваючы яму, бо ўжо добра ведалі, як ён атрымаў 7 «б», характарыстыку ўжо не патрабавалі, «ідыёцкіх» пытанняў не задавалі, але камісію па-ранейшаму праходзіў штогод. Словам, тут ужо неяк наладзілася, і Андрэй на нейкі час супакоіўся. Але былы псіхіятр Максім Віктаравіч неўзабаве пайшоў на пенсію, замест яго прыслалі Залескую. Ну, гэтая ўжо Залеская! Колькі яна папсавала яму нерваў у мінулым годзе! Спачатку ўвогуле адмовілася ставіць свой подпіс. Потым запатрабавала характарыстыку з месца працы. Прынёс. Прачытала, недаверліва чмыхнула і тут жа, у яго прысутнасці, пачала тэлефанаваць. Перш дырэктару ПМК (ці сапраўды той выдаў Раманаву такую станоўчую характарыстыку?), потым свайму калегу з суседняга раёна — кансультавалася. І ўсё гэта — раз-пораз зіркаючы на Андрэя вялікімі зеленавата-шэрымі вачыма.

«І як гэта мне раней падабаліся такія вось вочы? — непрыязна думаў Андрэй. — Яны ж як… сыроватка перастаялая. І ўвогуле, сказаць бы гэтай Залескай… Але ж ёй, відаць, толькі тое і трэба. Дык не ж! Спакойна, дружа, спакойна! Крыху павалавodзіць і падпіша».

«Валаводзіла» Залеская яшчэ хвілін дзесяць. Андрэй цярпліва чакаў. Ну, вось нарэшце:

— Вазьміце. Зойдзеце да старшыні ўрачэбнай камісіі. Без ягонага подпісу даведку вам не дадуць.

— А ў Васіля Рыгоравіча кансіліум! — чамусьці радасна аб'явіла медсястра. — Сёння ён ужо не прыйдзе.

Заўважыўшы, як спахмурнеў Андрэеў твар, яна паспяшалася дадаць:

— Вы не засмучайцеся. Давайце вашы дакументы. У мяне ўжо такіх, як вы, ажно шасцёра сабралася. Заўтра з раніцы Васіль Рыгоравіч падпіша, а я аднясу ў трыста чатырнаццаты кабінет, там аформяць, а вы падыдзіце гадзін у адзінаццаць… Дарэчы, фотаздымкі вы не забыліся? Ага, ёсць. Так што заўтра.

Калі назаўтра Андрэй у прызначаны час зайшоў у трыста чатырнаццаты кабінет, яму сказалі, што даведку не дадуць, бо старшыня камісіі супраць, а чаму — тое Раманаў павінен высветліць у Васіля Рыгоравіча асабіста.

Але старшыня камісіі быў зноў некуды выкліканы, і Андрэй мусіў ісці да ненавіснай ужо Залескай. Тое, як на гэты раз сустрэла яго Залеская, Андрэя вельмі здзівіла.

— Сядайце, калі ласка, Раманаў. — Яна крыху памаўчала. — Учора мы атрымалі новае распараджэнне наконт тых, хто мае ў дакументах такую адзнаку. І, вядома, нікому з нас не хочацца рызыкаваць сваёй пасадаю. Васілю Рыгоравічу таксама. Але пачакайце, не хвалюйцеся. — Залеская ўсміхнулася добразычлівай усмешкаю, і Андрэй нечакана для сябе адзначыў, што «ненавісная» Таццяна Георгіеўна даволі сімпатычная і, можна сказаць, прыгожая жанчына. А вочы яе сваім колерам нагадваюць колер марской хвалі. — І ўчора ж я выпадкова пачула пра вас… Словам, я ведаю вашу гісторыю. І вершы вашы я чытала. Крыху раней. Толькі думала, што гэта не вы… Не той Раманаў. Думала, проста цёзка па прозвішчы. Ну, усё ж, магчыма, у гэты раз мы як-небудзь выкруцімся. Я пагавару з Васілём Рыгоравічам. Толькі ўсё роўна вам неўзабаве давядзецца выбіраць адно з двух: ці мяняць прафесію, ці…

— Прабачце, Таццяна Георгіеўна, — перабіў Андрэй, — мяняць прафесію я не збіраюся. Гэта праклятае 7 «б» і так скалечыла ўсё маё жыццё. Ды і ўзрост не той: трыццаць пяць ужо звязаў.

— Ну, — усміхнулася Залеская, — у мужчын сапраўднае жыццё пачынаецца ў сорак.

— Мая прафесія — адзінае, што ў мяне засталося. І яшчэ вершы. Але ж каму цяпер патрэбны вершы? Я, відаць, так і застануся аўтарам адной кніжкі. Я люблю машыны, люблю дарогу. І нічога іншага шукаць больш не хачу і не буду.

— У такім разе вам трэба пазбаўляцца адзнакі ў дакументах.

— Але ж як гэта зрабіць?

— Я дам вам накіраванне. Возьмеце сваю характарыстыку (я таксама сёе-тое дапішу), пабудзеце дзён колькі, а можа, тыдзень на абследаванні, і там вам дадуць, я ў гэтым упэўнена, правільнае заключэнне. Цяпер ужо крыху іншы час, не бойцеся.

— Дзе гэта там? — наструніўся Андрэй. — Куды вы дасцё накіраванне?

— У абласны псіханеўралагічны дыспансер. Там вы звернецеся да… — Залеская ўбачыла, як раптам скамянеў Андрэеў твар і занепакоена спыталася: — Вы мяне слухаеце, Раманаў?

— Не… Не-не, я туды… — Андрэй імкліва ўзняўся з крэсла і рушыў да дзвярэй. — Да пабачэння, Таццяна Георгіеўна.

Ён хадзіў па знаёмых вуліцах, адказваў на нечыя пытанні, а сам быў там, у далёкім мінулым, якое цяпер здавалася жахлівым сном і якое так упарта не хоча адпускаць яго.

Падобна на тое, што яму сапраўды прыйдзецца развітацца са сваёй працаю. І ісці… куды? Зноў на будоўлю, на спецыяльнасць «прынясі-падай», у падручныя да пасінелых ад п'янства «прафесіяналаў»? Ці, можа, з мятлою па вуліцах? Дворнікі, кажуць, зарабляюць няблага. А то яшчэ вартаўніком (калі возьмуць). І што за жыццё такое? Толькі-толькі пачнеш спадзявацца на лепшае, а яно цябе зноў «фэйсам аб тэйбал». Мала таго, што рукапіс столькі гадоў ляжыць у выдавецтве — «спонсараў шукайце» — мала таго, што жонка ўжо не хавае зняважлівага позірку, калі Андрэй садзіцца за пісьмовы стол: «Не пераводзіў бы ты хоць паперу, вельмі ж яна дарагая! Ты чуеш, паэт?!» — і дадае брыдкае, амаль нецэнзурнае слова.

Так, яна выходзіла замуж за паэта. Чаму абрала менавіта паэта? Любіла паэзію? Наўрад. Проста яна была ўпэўнена, што паэты грошы рыдлёўкаю грабуць. Якраз перад тым, як зрабіць ёй прапанову пра замужжа, ён атрымаў ганарар з абласной газеты і купіў ёй у падарунак залатыя завушніцы. А сёння за ганарар можна купіць хіба што пляшку гарэлкі ды кавалак таннай каўбасы. Яны, ганарары, цяпер, як пенсія ў еўдакімаўскага персанажа: «добрая, толькі маленькая». Іншым разам і на пошту сорамна ісці за такім «ганарарам». Падобнымі «фінансавымі ўліваннямі» дзіркі ў сямейным бюджэце не залатаеш. Разлічваць даводзіцца толькі на заробак шафёра. А цяпер і тут…

Ух, каб Андрэй мог знайсці таго кэдэбэшніка! З якой асалодаю ён набіў бы яму тоўстую морду! А потым саўгануў у тую морду гэтае самае 7 «б», маўляў, самі разумееце, шаноўны, я, Андрэй Раманаў, псіхапат і дзеянні свае кантраляваць не магу, так што выбачайце. Але ці толькі таму кэдэбэшніку трэба «біць морду»? Колькі іх было, такіх вось «віноўнікаў» у добра наладжаным механізме пякельнай машыны, ахвярамі якой сталі мільёны. І ніхто ніколі ўжо, відаць, не будзе пакараны за адабраныя жыцці, за скалечаныя лёсы. І за яго, Андрэеў, лёс — таксама. Але чаму? А можа, таму што ніхто не патрабаваў той кары? Мастацкія творы, палымяныя публіцыстычныя артыкулы і прамовы браць у разлік не варта, бо часцей за ўсё гэта толькі «скідванне эмоцый» з прыхаваным жаданнем займець славу барацьбіта за справядлівасць. А вось каб канкрэтна: «У народны суд… — ці як там? — заява…» Заява аб прыцягненні да крымінальнай адказнасці за нанесены матэрыяльны, фізічны і маральны ўрон… Але каго — да крымінальнай адказнасці? У Андрэевым выпадку — КДБ! Гэты орган існуе і сёння… А што калі так і зрабіць? Такога раней не было? Ну і што? Будзе! Трэба ж каму-небудзь быць першым!

Думка гэтая ўсё больш авалодвала Андрэем, пакуль не вылілася ў рашэнне пайсці да юрыста, атрымаць належную кансультацыю і — хай будзе што будзе. Прынамсі, горш, чым цяпер, не будзе.

— Так, становішчу, у якое вы трапілі, не пазайздросціш, — паспачуваў Андрэю юрыст, інтэлігентнага выгляду мужчына ў вялікіх, не па модзе, акулярах, калі Андрэй скончыў свой аповед. — Вы, як я разумею, хочаце атрымаць кампенсацыю… ад КДБ і рэабілітавацца. Пазбавіцца адзнакі 7 «б» у медыцынскай картцы і ваенным білеце. Білет у вас з сабою? Дайце зірнуць.

Андрэй паклаў білет на стол. Юрыст узяў яго і хвілін колькі ўважліва разглядаў, потым штосьці чыркануў у запісной кніжачцы і ўзняў вочы на Андрэя:

— Ну што вам сказаць? Хіба толькі тое, што сёння я не магу даць вычарпальны адказ на ваша пытанне. Вельмі ж неардынарная, калі ўвогуле не выключная справа. Прынамсі, мне з такой за ўсю маю практыку сутыкацца не выпадала. Не памятаю,

каб што-небудзь падобнае было і ў маіх даведніках. Таму, па сваіх каналах звяжуся з вышэйстаячымі інстанцыямі, спачатку сам атрымаю кансультацыю, а потым ужо пракансультую вас. Думаю, што праз пару дзён я ўсё высветлю і адразу ж патэлефаную вам, калі можна будзе зайсці. Пакіньце мне нумар свайго тэлефона.

Тэлефоннага званка ад юрыста не было ні праз два, ні праз тры дні. Затое нечакана патэлефанавала Залеская і папрасіла тэрмінова зайсці да яе.

«Няўжо Таццяна Георгіеўна ўсё-такі знайшла нейкае выйсце з зачараванага кола, у якім я апынуўся? — думаў Андрэй. — Хай бы так. Інакш і сапраўды можна стаць псіхапатам, калі не ўвогуле чым-небудзь горшым».

У час, які Залеская прызначыла Андрэю, прыём хворых звычайна яшчэ не пачынаўся, але Таццяна Георгіеўна ўжо знаходзілася на месцы.

Ледзь кіўнуўшы ў адказ на Андрэева прывітанне, яна ўзяла дзверы кабінета на ключ і паказала рукою на крэсла ля стала:

— Сядайце, Раманаў. Скажыце, вы былі на днях у юрыста?

Андрэй здзівіўся:

— Так, але адкуль вы ведаеце?

— Ад юрыста. Ён учора тэлефанаваў мне, пытаўся, ці не стаіць у нас на ўліку як псіхічнахворы Раманаў Андрэй Андрэевіч.

— ?!

— А як вы думалі, шаноўны Раманаў Андрэй Андрэевіч?! У дзяржаўную ўстанову з'яўляецца чалавек і пытаецца, як бы гэта яму засудзіць КДБ! Нічога сабе задумка! Вы б хаця прозвішча свайго не называлі!

Андрэй хацеў сказаць, што прозвішча ён не называў, але ўспомніў, як уважліва разглядаў юрыст яго ваенны білет і змаўчаў.

— Паслухайце мяне, — працягвала Залеская. — Калі вы сапраўды зробіце такое глупства — будзеце патрабаваць судовага працэсу, — вас усё роўна накіруюць на псіхіятрычную экспертызу і накіруюць на законнай падставе нібыта для таго, каб пацвердзіць ці абвергнуць вашае 7 «б». Калі б вы ціха, мірна, як я раіла, паехалі туды самі, усё растлумачылі і папрасілі, усё б было нармальна. А ў такім выпадку я не магу гарантаваць, што 7 «б» не ператворыцца ў 1 «а». Вы ведаеце, што такое 1 «а»? Не ведаеце? Тады я вам растлумачу: 1 «а» — гэта ўжо не псіхапатыя і нават не шызафрэнія. Гэта… Вы ведаеце, што такое ідыятыя?

— Але ж вы самі гаварылі, што цяпер іншы час. — Разгублена прамовіў Андрэй.

— Я гаварыла крыху іншы час, — удакладніла Залеская. — Я і ўявіць сабе не магла, што вы дадумаецеся да такога!

— Вы зразумейце мяне, Таццяна Георгіеўна, не магу я туды ехаць. Калі б там не быў… але я быў там. Сорак і яшчэ сем дзён. І я гэтыя сорак сем дзён не забуду да скону. І быў я там не па сваёй ахвоце і не па сваёй віне, і нават не хворы. Вінаватыя яны. Яны шмат у чым перада мною вінаватыя. Дык вось няхай і адказваюць за сваю віну!

— Зразумейце лепш вы: яны былі, ёсць і доўга яшчэ будуць гаспадарамі жыцця. Яны толькі памянялі вопратку ды пераселі з адных кіраўнічых крэслаў у іншыя. Але, як сказаў класік — «…легкадумна непраніклівыя людзі, і чалавек у іншым кафтане здаецца ім іншым чалавекам». І легкадумна спадзявацца, што яны самі будуць судзіць сябе. Мне дзіўна, што вам, даросламу чалавеку, я павінна гэта тлумачыць. А ўрэшце, чаго яшчэ чакаць ад паэта? Паэты, прынамсі, пераважная іх большасць, жывуць у створаным іхняй фантазіяй свеце.

Андрэй хацеў запярэчыць, сказаць, што сапраўдныя паэты — не бясплодныя фантазёры, а зусім наадварот, але раптам спатыкнуўся аб выплыўшае з глыбінь падсвядомасці: «Ну, а ты? Ты, вядома ж, “з сапраўдных”»?

* * *

З таго самага дня з’едлівае «Ну, а ты?» пачало неадчэпна хадзіць за ім, амаль не пакідаючы месца іншым думкам і пасяляючы ў душы пакутлівыя сумненні.

Што ж, відаць, ён і на самай справе не з «сапраўдных», бо ён — пара ўжо ў гэтым прызнацца — звычайны баязлівец. Так, баязлівец: як прыстрашылі яго, сямнаццацігадовага хлапчука некалі, так і сядзеў ён, нібы мыш пад венікам, ды шкрабаў лірычныя вершыкі, у той час як мінулае паціхеньку, пакрысе заганяла яго ў кут. І толькі калі яно загнала яго туды канчаткова, ён зрабіў спробу ўзбунтавацца. Але адна толькі размова — усяго адна размова з раённым псіхіятрам, — і ён збаяўся. За столькі гадоў ён так і не змог пазбавіцца страху! І столькі гадоў плаціў за свой ілюзорны спакой прыніжэннем!

Аднойчы, стомлены гэтымі бясконцымі «чаму» і «няўжо», Андрэй, крыху павагаўшыся, адшкадаваў ад сваіх збяднелых запасаў некалькі аркушаў снежна-белай глянцавай — вельмі дарагой! — паперы, якую ашчаджаў толькі для самых важных момантаў, і пасунуў крэсла да пісьмовага стала.

«Генеральнаму Пракурору… — старэнькая, купленая з рук машынка паслушліва складала літары ў словы. — Прашу…»

Андрэй раптам спыніўся, зняў рукі з клавішаў і з пагардаю да сябе засмяяўся: «Прашу? І што выпрашу?»

Не, прасіць ён ужо не будзе!

Ён рашуча вышмаргнуў з машынкі бліскучы ліст, парваў яго на дробныя шматкі і, уставіўшы новы, пачаў: «Я, Раманаў Андрэй Андрэевіч, патрабую…»



*Таццяна СІВЕЦ*

# НА ЎСПАМІН ПРА КУПАЛЛЕ...



***Таццяна Сівец нарадзілася 23 чэрвеня 1982 года ў Мінску, скончыла БДПУ імя М. Танка, працавала на радыёстанцыі «Беларусь», галоўным рэдактарам часопіса «Маладосць». Цяпер — галоўны рэдактар штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». Паэт, публіцыст, драматург, перакладчык.***

* * *

Божа, выпусці мяне з рук!
Быццам дождж, прапусці скрозь пальцы.
Я сябе забяру на памяць,
Нібы пацеркі, сабяру.

Чорнай стужкаю ў валасы
Запляту я тваё дыханне.
Ты не бацька мне і не сын —
Пакахай мя…

Адпусці мяне! Цягнікі
Адыходзяць, каб не вяртацца
У цяпло беспрытульных станцый,
Дзе спаткацца не будзе з кім.

Гэта, пэўна, такі закон:
Каб застацца сабой, не кленчы!
Божа, выпусці… Матылькоў,
Пасадзіўшы няўзнак на плечы…

* * *

Ён гатовы чакаць цябе: і з Парыжу, і з тых краінаў,
Куды візы — адно вар'ятам альбо паэтам…
І, калі ты вяртаешся ранкам,
са штампамі аквамарынавымі
Праз усе рукі, ён кажа, што гэта проста цудоўна —
свая планета,
Галоўнае, каб там было болей сонца і мандарынаў…

І ты ведаеш, што аніколі яму не скажаш,
Пра тое, як потым, прайшоўшы праз межы ды амбасады,
Заплаціўшы па ўсіх рахунках,
раздаўшы свае сямітонныя сакваяжы,
Ты працуеш штоночы, адразу на дзвюх пасадах:
І Катам вясёлым, і Воінам, злым ды адважным…

Ён праводзіць цябе — да дзвярэй ці да цёмных вокнаў,
Будзе ўсміхацца на развітанне, стаяць нязрушна…
Толькі сэрца сціскаецца, ажывае, ёкае,
Калі ён глядзіць у спіну тваю вачыма Шалёнага Капялюшніка…
Табе нават крыху няёмка…

## НА ЎСПАМІН ПРА КУПАЛЛЕ...

Мы пазн*а*ем адно аднаго па знаках на нашых скронях.
У некаторых яны — валошкамі — праraслі праз скуру…
Нашыя пальцы пахнуць рамонкамі — водар такі чароўны,
што хочацца захаваць яго, затрымаць нейкай камераю-абскурай!

Мы паплывем па Свіслачы — кінутымі вянкамі...
(Ранкам — забудуць, ранкам не будзе знаку!)
Што там папараць! Калі неба спявала і плакала пад рукамі,
покуль мы выразалі з яго — нашу самую лепшую выцінанку!..

## НЕСУПАДЗЕННЕ, АЛЬБО ЯШЧЭ АДНА НАЧНАЯ РАЗМОВА

У нас супадала ўсё, разумееш? Ну, абсалютна ўсё, акрамя кахання!
Рыхтык як той, апошні, квадрацік на грані кубіка Рубіка…
Вось так, дзяўчынка! Напэўна, такая карма ў грудзі нашыя напіханая?
Іначай хто б ім дазволіў нас выпрабоўваць рознымі трэбамі, срэбнымі трубамі?..
Хто б ім сказаў, што быць з намі шчырымі — значыць, заўсёды грубымі?..
Глядзі — па іх зноў — пустэльня! А мы з табою — ахоўнікі на бархане…

Захіні мяне гэтым горадам, пачастуй мяне ўсмешкай сваёй ды салодкай кавай…
Я буду глядзець на цябе ласкава, глытаць імёны і падсвядома адсочваць паўзы,
каб потым выразаць… Мне цікава, хто першы з нас раптам скажа:
«Такое глупства, дзіцёнак! Праўда ж! Так лёгка паўз іх
глядзець заўсёды крышачку ўверх і ўправа… Якія гульні! Якія пазлы!..
Мы выраслі, чуеш, мілая? Нам болей гэта ўсё нецікава!

Тым больш, што ў іх шторазу — новыя правілы… А якія — нам з табой невядома!
Яны з’ядаюць усё — нават тое, што не ядома! Хочаш быць белай пешкай — і
наперад? Дык будзь гатовая, што прачнешся аднойчы — старой, бяздомнай
вакзальнай коткаю… Адзінота — на час цяперашні —
гэта лепшая ўзнагарода за праўду, вайну і вершыкі…»
Мы цудоўна працуем тварам, мая харошая! Мы памятаем пра Энея і пра Дзідону…



*Жанна КАПУСТА*

# ВЫ ЯШЧЭ НЕ ЧЫТАЛІ...

***Апавяданне***



***Жанна Капуста нарадзілася ў 1983 годзе на Браслаўшчыне. Скончыла філалагічны факультэт БДУ. Кандыдат філалагічных навук. Працавала ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва, а таксама рэдактарам у Нацыянальным акадэмічным канцэртным аркестры Беларусі. Друкавалася ў рэспубліканскай перыёдыцы.***

Калі з самай раніцы здарыцца нешта непрыемнае, то ўжо не чакай, што гэты дзень будзе самым удалым у тваім жыцці. Ну, а калі гэтае самае кепства здарыцца зранку ў панядзелак, то ўжо зусім дрэнь справа — прападзе тыдзень…

Вось чаму, калі літаратурнаму крытыку Ніне Жарновіч у першы дзень працоўнага тыдня, вельмі рана, не было яшчэ і дзевяці, патэлефанаваў нядаўна раскрытыкаваны ёй пісьменнік, у яе з'явілася нядобрае прадчуванне.

— «Літаратурная сталіца». Добры дзень, — завучана сказала ў слухаўку яшчэ сонным голасам Ніна.

— Добры дзень. Ці магу я пагутарыць з Нінай Жарновіч? — запытаўся прыемны мужчынскі голас.

— Калі ласка. Слухаю вас.

— А-а, гэта вы… — захваляваўся голас. — Алег Галёкаў. Аўтар аповесці, якую вы спляжылі ў апошнім нумары «Ліста» (так скарочана называлі «Літаратурную сталіцу» ў пісьменніцкім асяродку. А «спляжыць» — гэта ў разуменні большасці пісьменнікаў значыць — «зрабіць некалькі заўваг»).

— Вельмі прыемна, — прамовіла Ніна, мяркуючы, што так патрабуюць правілы ветлівасці пры знаёмстве.

— А мне не вельмі, — раздражнёна-ўзбуджана адказаў пісьменнік і прымоўк.

Ніна ўсміхнулася сама сабе і паўтарыла:

— Я слухаю вас.

— Скажыце, калі ласка, вы сапраўды думаеце пра маю аповесць так, як напісалі ў артыкуле? — Галёкаў спрабаваў гаварыць спакойна, але ў яго дрэнна атрымлівалася, Ніна чула нават перарывістае дыханне. Здзівіўшыся недарэчнасці пытання, яна адказала коратка:

— Так, сапраўды.

— У такім разе я раю вам звольніцца з той пасады, якую займаеце, — сказаў ён.

— Чаму? — пацікавілася Ніна.

— Таму, што вы пазбаўлены мастацкага густу, — прашыпеў Галёкаў і паклаў слухаўку.

Ніна паціснула плячыма і пайшла заварваць сабе каву. Маладая сімпатычная дзяўчына, нядаўняя выпускніца журфака, яна працавала ў рэдакцыі газеты «Літаратурная сталіца» нядаўна, крыху больш як год, аднак паспела ўжо прызвычаіцца да пісьменніцкіх крыўдаў. Яна мела добрае адчуванне гумару, а таму, у адрозненне ад старэйшых калег, перажывала іх лёгка, прынамсі, гэта магло яе хутчэй рассмяшыць, чым засмуціць.

Праз нейкі час Ніна ўвогуле супакоілася, бо зразумела галоўнае: пісьменнікі — людзі з невылечна хворым самалюбствам, якія абсалютна шчыра і ў нечым нават наіўна лічаць сябе геніямі. Ну, і хай сабе лічаць! У кожнага свае мухі. Яна перастала абурацца, здзіўляцца, шукаць паразуменне і аспрэчваць ісціну. А ісціна заключалася ў тым, што ўсім без выключэння пісьменнікам усіх краін свету не патрэбна праўда пра іх творчасць. А таму якім бы адэкватным і ліберальным ні падаваўся пісьменнік, дорачы сваю новую кнігу з аўтографам і просячы шчыра напісаць праўду, — верыць яму нельга. Гэта ўсяго толькі какецтва аўтара, перакананага ў шэдэўральнасці сваіх твораў.

Да таго ж, праўда — рэч адносная, бо яна, як вядома, у кожнага свая. Таму Ніна пісала не праўду, а тое, што лічыла праўдай, зрэдку згладжваючы рэзкасць выразаў з увагі на паважаны ўзрост аўтара. Часам, аднак, гэтую рэзкасць згладжвала пяро загадчыка аддзела альбо галоўнага рэдактара. Але ж і ў начальства ёсць свая праўда.

Ніна няспешна піла каву і правярала электронную пошту. Гэта быў абавязковы штодзённы рытуал, які ствараў на пэўны час ілюзію свабоды дзеянняў. Яна чула, як на калідорах пакрысе становіцца шумна: рэдакцыйныя кабінеты, як ластаўчыны гнёзды, запаўняліся гаспадарамі. Калі не было нічога тэрміновага, у першую гадзіну амаль ніхто не працаваў. Спачатку трэба было раскатурхацца: выпіць кавы, абмеркаваць апошнія плёткі, схадзіць да суседа па кабінеце ў госці — і толькі пасля вяртацца да сваіх «баранаў». У гэты час, як правіла, нават і галоўны рэдактар нікога не чапаў.

Аднак сёння ўсё было па-іншаму.

Не паспелі кава дапіцца і паведамленні ў «Аднакласніках» дачытацца, як на парозе з’явіўся Сцяпан Юр'евіч — галоўны рэдактар.

— Чула навіну? — запытаўся ён, і Ніна пачула: толькі што быў названы лаўрэат літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Дубоўкі. Чакалі гэтага вельмі доўга і нецярпліва.

— Яраслаў Панін? — натхнёна выдыхнула Ніна.

О, Яраслаў Панін — імя, адметнае ў сучаснай літаратуры. Аўтар дасканалых, вытанчаных вершаў, радкі з якіх назаўсёды застаюцца ў памяці, нават калі вы пачуеце іх толькі адзін раз у жыцці. Яраслаў Панін — чалавек, пазбаўлены крывадушнасці, які заўсёды і пра ўсіх гаворыць толькі праўду. І не за спінай паўшэптам, як гэта звычайна бывае. Ён, як той казаў, рэжа праўду-матку проста ў вочы і лепшаму сябру, і высокаму чыноўніку. Ніна паважала яго за гэта як чалавека і схіляла галаву перад яго талентам. Некалькі разоў ён прыходзіў на сустрэчы са студэнтамі журфака, і яна добра памятала яго ўзнёсла-трагічную манеру чытаць вершы.

Таму даручэнне зрабіць з ім інтэрв’ю Ніна ўспрыняла з вялікім энтузіязмам, але і з хваляваннем: Панін уяўляўся ёй нейкім недасягальным літаратурным боствам. А паколькі рэдактар згодны быў перакроіць ужо амаль звярстаны і гатовы да друку нумар, то сустракацца з лаўрэатам неабходна было тэрмінова. Сёння. То бок у яе не

мелася часу рыхтавацца. І ўсё ж яна доўга прагаворвала пра сябе фразы, якімі будзе звяртацца да Паніна, перш чым яму патэлефанаваць. Праўда, новаспечаны лаўрэат, як гэта ні дзіўна, аказаўся чалавекам зямным і вясёлым. Ён радасна прыняў віншаванні і гэтак жа радасна згадзіўся сустрэцца праз пару гадзін.

Паклаўшы слухаўку, Ніна пачала шукаць у інтэрнэце ўсю магчымую інфармацыю пра свайго будучага суразмоўцу — каб хоць крыху больш упэўнена адчуваць сябе перад такім аўтарытэтам. І тут яе проста падкінула з крэсла новая думка. Яна падбегла да люстэрка і ўголас прастагнала: «О, каб жа я толькі магла ведаць!» Не самы выкшталцоны ўбор, не самы дасканалы макіяж. Вядома, калі б сёння быў хаця б аўторак ці серада, то Ніна выглядала б значна лепш. А па панядзелках увесь свет здаваўся ёй такім халодным і няўтульным, што яна, ледзь адарваўшы галаву ад падушкі пасля пятага ці шостага званка будзільніка, хапала з шафы першае, што трапіцца пад руку, крыху падмалёўвала вочы і ляцела стрымгалоў на аўтобусны прыпынак.

А Панін быў хаця і не маладзён, аднак мужчына вельмі сімпатычны… Ён загадваў літаратурнымі справамі ў адной з самых прэстыжных рэспубліканскіх грамадска-палітычных газет «Розгалас», якая дазваляла сабе раз на два тыдні забаўляць чытачоў паэтычнай старонкай. Параўнанне інтэр’ераў рэдакцыі «Розгаласу» і рэдакцыі «Літаратурнай сталіцы» варта цэлай паэмы. Тут не ўбачыш ні падрапанага лінолеуму на падлозе, ні абы-як пафарбаваных пашарпаных дзвярэй з няспраўнымі замкамі, ні рарытэтных пісьмовых сталоў сярэдзіны сямідзясятых гадоў… Ідучы да кабінета Паніна па шыкоўнай дывановай дарожцы, уздоўж якой стаялі скураныя канапы і віселі вялікія люстэркі ў дарагіх асадах, а заадно і суадносячы ўсю гэтую раскошу з заробкамі супрацоўнікаў, Ніна пачынала разумець, як нараджаецца класавая нянавісць…

Аднак усё гэта імгненна вылецела з яе галавы, як толькі пераступіла парог кабінета Паніна. А той, убачыўшы ў дзвярах танклявую дзявочую постаць, узрушана закрычаў:

— Так ты і ёсць тая самая Ніна?! А я, прызнацца, думаў, што Ніна Жарновіч — гэта во-о такая, — пры гэтым Панін шырока развёў рукі ў бакі, — баба, якая бязлітасна меле ў сваіх жорнах пісьменніцкія душы.

І перш, чым Ніна паспела павітацца, усміхнуцца ці што-небудзь адказаць на жарт, Панін згроб яе ў абдымкі, моцна прыціснуў да сябе і чмокнуў некуды ў шыю. Настроенай на высокадухоўны паэтычны лад дзяўчыне такая фамільярнасць не спадабалася. Але разбірацца ў гэтым не было часу. «Ну, падумаеш, занадта імпульсіўны. Ён жа паэт», — тут жа прыдумала яна апраўданне і ўключыла дыктафон.

Панін гаварыў шмат, горача і натхнёна — пра паэзію і паэтаў, Беларусь і беларусаў, расказваў літаратурныя показкі і гісторыі са сваёй багатай біяграфіі. Ён чытаў вершы, выкрываў нягоднікаў, якія замест таго, каб працаваць на карысць радзімы і літаратуры, дбаюць пра свае кішэні і задавальняюць пустыя амбіцыі. «Прасвяціў» Ніну і адносна інтрыг вакол прэміі. Адным словам, тыя тры гадзіны, якія Ніна праседзела паміж Паніным і дыктафонам, былі лавінай жыццёвага і літаратурнага досведу, і шкадавала яна толькі пра тое, што не ўсё можна друкаваць.

Так, Яраславам Паніным нельга было не захапіцца, у яго нават абавязкова варта было закахацца, і Ніна амаль адчувала сябе закаханай — напоўненай жыццём,

паэзіяй, радасцю, сонцам… На крылах натхнення заляцела яна ў сваю рэдакцыю і ледзь не збіла з ног Сцяпана Юр'евіча, які акурат выходзіў на ганак пакурыць.

— Ну, як? — запытаўся ён, запальваючы цыгарэту.

— Цудоўна! Усё проста цудоўна! Будзе суперцікавы матэрыял! — праспявала Ніна.

Рэдактар неяк загадкава ўсміхнуўся і сказаў:

— Не заўсёды трэба верыць таму, што чуеш, і нават таму, што бачыш.

Раніцай наступнага дня Ніна ўжо амаль цалкам была перакананна, што закахалася ў Паніна па самыя вушы. Учора яна прадбачліва папярэдзіла рэдакцыйнае начальства, што з самага ранку павязе інтэрв'ю «на візу» і таму мела некалькі паўлегальных гадзін, каб выспацца і па поўнай праграме навесці прыгажосць.

Спыніўшыся перад дзвярыма кабінета Паніна, каб паправіць фрызуру і перавесці дыханне, яна пачула адтуль вясёлыя мужчынскія галасы. «Адзначае», — здагадалася яна і крыху засмуцілася: Панін не адзін, значыць, такой задушэўна-інтымнай размовы, як учора, не атрымаецца.

Лаўрэат сустрэў яе больш далікатна, чым учора: пацалаваў руку і, крыху абняўшы за плечы, пачаў знаёміць са сваімі гасцямі. Усіх трох Ніна ведала па фотаздымках, якія звычайна суправаджаюць публікацыі ў літаратурных часопісах: Юрэвіч, Малажай і Сальнікаў. Праўда, іх паэтычнае аблічча заставалася для яе цьмяным: зборнікаў яна ў руках не трымала, а па некалькіх часопісных публікацыях цэласнага ўражання скласці не здолела. Хіба што… Ніна прыгадала, што неяк ёй давялося пісаць рэцэнзію на калектыўны паэтычны зборнік, у якой яна зачапіла верш Юрэвіча. Праўда, ні верша таго, ні сутнасці сваіх заўваг ужо не памятала. Аднак праблема была не ў гэтым, а ў тым, што цвярозы п'янаму не таварыш. Гледзячы на ружовыя шчокі і чырвоныя насы Паніна і яго сяброў, Ніна разумела, што градус высокі.

Яе тут жа ўсадзілі за стол, налілі поўную шклянку віна, падсунулі пару цукерак і прымусілі сказаць тост. Усё гэта было настолькі нечаканым, што цалкам вывела дзяўчыну з раўнавагі. Да таго ж, віно аказалася даволі моцнае, і яе сціплы сняданак не мог забяспечыць надзейнага тылу. Свядомасць паплыла, як папяровы караблік па лужыне, і калі праз пару хвілін у кабінеце ўсчаўся гармідар, яна з цяжкасцю разумела, што адбываецца.

Асобнік інтэрв'ю, які Ніна прынесла для Паніна, апынуўся чамусьці ў руках Сальнікава. Ён уважліва чытаў кожны радок, прыдзіраўся да кожнага слова. Яму не падабалася ўсё: і назва, і стыль, і пытанні, і нават адказы.

— А вось гэта я раіў бы табе зняць, — сказаў ён Паніну, тыцкаючы пальцам у сярэдзіну аркуша. — Яно нібыта і бяскрыўдна, так бы мовіць, безадносна… Аднак, я табе кажу, абавязкова знойдуцца людзі, якія адшукаюць тут прыхаваны намёк. Навошта табе лішнія плёткі?

— А ты, здаецца, нядаўна ў «Лісце» працуеш? — звярнуўся ён гэтым разам да Ніны. — Яно, ты ведаеш, адчуваецца: неяк няўмела ўсё, каструбавата…

Сэнс гэтых слоў не дайшоў да Ніны настолькі, каб пакрыўдзіцца, і таму яна толькі неяк дурнавата пасміхнулася. Гэта пасля ўжо, праз колькі дзён, калі яна будзе ўзгадваць і асэнсоўваць, то зразумее, што Сальнікаў проста зайздросціў. Усё ў парадку было і з назвай, і са стылем, і каструбаватасці ніхто больш не адчуў. Той жа самы тэкст падаўся б яму ідэальным, калі б там замяніць толькі адно слова: Панін на Сальнікаў.

Тым часам уся кампанія, якая разбрылася па розных кутах пакоя, зноў сабралася за сталом. Тостаў ужо ніхто не казаў, але ўсе рабілі выгляд, што п'юць за поспех і здароўе Паніна, а той, расчулены, стаў расхвальваць Ніну і заклікаць да гэтага астатніх. І тут адбылося непазбежнае: Юрэвіч не мог не згадаць Ніне сваёй крыўды.

— Яна, безумоўна, дзяўчына таленавітая, — пачаў ён так, нібыта Ніны не было побач. — Аднак усё ж літаратурнага досведу ёй не стае. Вось неяк яна разнесла адзін мой верш, вырваўшы пару радкоў з кантэксту. А між тым, ніводзін чалавек, які тонка адчувае паэзію, так не зробіць. Страфу нельга разрываць там, дзе стаіць кропка ці коска. Паэтычны сінтаксіс — гэта рэч асаблівая…

Ніна слухала Юрэвіча і чырванела ад сораму. Але не таму, што не пранікласся паэтычным сінтаксісам яго паэзіі, а таму, што хоць забіце яе, не памятала ні таго верша, ні той страфы, ні тых радкоў. «Вось жа ёлкі-палкі, — збянтэжана думала яна, — напішаш і забудзешся, а чалавек паўжыцця перамацца будзе. Ну, няўжо ж яны ўсе так сур'ёзна да гэтага ставяцца?»

— Ты ведаеш, я з табой цалкам згодны, — падхапіў раптам Малажай. — Сапраўды, нейкага адмысловага адчування літаратуры ёй не хапае. Вось, напрыклад, нядаўна я скончыў друкаваць у «Маладзіку» свае дзённікавыя запісы. — Пры гэтым ён уважліва паглядзеў на сяброў, і яны дружна заківалі галовамі: маўляў, так, вядома ж, чыталі. — Дык вось, яна рабіла агляд самых значных публікацый «Маладзіка» за год, а пра мой дзённік — ні слова ні паўслова. А гэта ж досвед цэлага пакалення! Гэта ж адбіццё эпохі! Мы ж гэта для вас, маладых, робім, а ў адказ — ні пашаны, ні ўдзячнасці, — далей-болей распаляўся Малажай…

І Ніна прыгадала гэтыя дзённікавыя запісы — кароткія, у некалькі сказаў на кожны дзень, нататкі, якія калі і былі некалі цікавым дзённікам, то пасля наведвання рэдактарскай цырульні цалкам страцілі сваё адметнае аблічча. Прычым Ніна не сумнявалася, што цырульнікам быў сам аўтар. Малажай выказваў сваё стаўленне да найбольш знакавых падзей свайго часу да банальнасці высакапарна і да млоснасці паліткарэктна. Ні чагосьці цікавага, што прымусіла б задумацца, ні арыгінальнага, чаго б Ніна некалі ў некага не чытала, яна там не знайшла. А таму, прачытаўшы ўсё ад першага да апошняга слова, так і не зразумела сэнсу публікацыі.

Між тым абмеркаванне працягвалася. Ініцыятыўны Сальнікаў прапаноўваў:

— Але ж яна яшчэ можа ўсё выправіць. Зрабіць, напрыклад, асобны артыкул, прысвечаны тваім запісам. Яно нават і лепей будзе, чым у агульным аглядзе…

І тут да Ніны нарэшце вярнуўся голас:

— Можа, усё ж няварта казаць пра мяне ў трэцяй асобе, калі я сяджу насупраць, — прамовіла яна. Панін, прадчуваючы канфлікт, тут жа пачаў прасіць прабачэння і, каб зусім закрыць тэму, узяўся чытаць інтэрв'ю. «Ну, нарэшце», — з палёгкай падумала Ніна, спадзеючыся, што гэтая вар'яцкая бяседа неўзабаве скончыцца.

Панін адышоў да акна і чытаў уважліва, доўга і моўчкі. Усе таксама чамусьці прымоўклі. Таму Ніна нават уздрыгнула ад нечаканасці, калі ён падскочыў да яе і закрычаў на самае вуха:

— А чаму вершы ўсе павыкідала? Адно толькі чатырохрадкоўе засталося, а я ж столькі вершаў чытаў! Гэта ж самае галоўнае!

— Сцяпан Юр'евіч… — пачала тлумачыць Ніна, але Панін груба яе перапыніў і пазбавіў сябе тым самым магчымасці пачуць прыемную навіну пра тое, што рэдактар «Ліста» вырашыў даць у гэтым нумары вершы лаўрэата асобнай нізкай.

— Дурань твой Сцяпан Юр'евіч! Сам пісаць не ўмее і іншым не дае! Думаеш, я не ведаю, што ён проста мне зайздросціць, што вы ўсе там мне зайздросціце! Скурвілася ваша газета, даўно ўжо скурвілася! І ты таксама ўжо… Свайго тэксту адстаяць не можаш, за пару добрых вершаў пазмагацца!

Ну, гэта ўжо было занадта. Ніна павольна паднялася з крэсла і падкрэслена спакойна сказала:

— Яраслаў Андрэевіч! На жаль, я не магу больш затрымлівацца, мне трэба вяртацца ў рэдакцыю. Буду чакаць інтэрв'ю з вашымі праўкамі і заўвагамі на электронны адрас рэдакцыі сёння да канца дня. — І паколькі ўсе замаўчалі, дадала: прыемна было пазнаёміцца. Усяго найлепшага.

Усё ў тым жа маўчанні Ніна скіравалася да дзвярэй і ляпнула імі, праўда, мацней, чым хацела. На ганку яе дагнаў Панін:

— Ты пакрыўдзілася, мабыць, Ніначка? Пакрыўдзілася?

Ніна зрабіла два крокі назад, унікаючы яго абдымкаў і спакойным тонам прамовіла:

— Усё ў парадку, Яраслаў Андрэевіч. Я чакаю ад вас ліста, — развярнулася і пайшла. Панін яшчэ нешта казаў наўздагон, але Ніна зрабіла выгляд, што не чуе. Насамрэч яна не была спакойнай. Як толькі павярнулася спінай да будынка з шыкоўнымі дывановымі дарожкамі, з яе вачэй навыперадкі рынуліся слёзы. Яна не ведала, чаго ў гэтых слязах болей: расчаравання ў паэце, які здаваўся ідэальным і да якога адчула сімпатыю, ці расчаравання ў пісьменніках увогуле. Яна адчувала сябе абражанай і прыніжанай. А самае паганае было ў тым, што ў яе нават і часу не мелася па-людску выплакацца: сапраўды, трэба вяртацца ў рэдакцыю.

Калі ж праз пятнаццаць хвілін Ніна выходзіла з метро на сваёй станцыі, то дакладана ведала, што ніколі ў жыцці не выйдзе замуж за пісьменніка, нават калі ёй прапануе руку і сэрца самы таленавіты за ўсю гісторыю існавання літаратуры.

За гадзіну да канца працоўнага дня Ніна атрымала ліст ад Паніна. Праўда, правак у ім было не так многа, як чакала. Ён павыкідаў выказванні пра чыноўнікаў ад літаратуры, якія робяць больш шкоды, чым карысці, сваіх калег, якія не разумеюць, што не ўсё, што прыходзіць у галаву («зранку пасля п'янкі»), варта запісваць, а тым больш — друкаваць, значна скараціў развагі пра несуцяшальныя тэндэнцыі развіцця сучаснай беларускай паэзіі і татальнае скарачэнне чытацкай аўдыторыі ў беларускай літаратуры ўвогуле. Адным словам, пазбавіў сваё інтэрв'ю спецый, але дзякуй ужо і за тое, што пакінуў соль.

Ніна паклала абноўлены варыянт інтэрв'ю на стол галоўнага рэдактара і выправілася ў госці да сяброўкі: распавесці пра свае прыгоды і пажаліцца на лёс. А на свой лёс, вядома, можна скардзіцца бясконца, таму Ніна засталася ў сяброўкі начаваць. І раніца наступнага дня пачалася для яе з галаўнога болю (яна прыехала да сяброўкі з пляшкай віна, і тая сустрэла яе тым жа), немагчымасці адэкватна ацэньваць рэчаіснасць (спаць яны леглі каля чацвёртай гадзіны) і незадаволенасці сабой (паколькі начаваць не збіралася, то ні рэчаў, ні касметыкі з сабой не брала). Карацей кажучы, калі Ніна пераступіла парог рэдакцыі, то ў душы яе панаваў поўны раздрай. Таму карціна, якую яна заспела ў холе, падалася ёй настолькі неверагоднай, што яна нават не адразу паверыла ў яе рэальнасць.

Панін горача трос руку Сцяпану Юр'евічу і лісліва прыгаворваў:

— Чытаў вашыя апошнія апавяданні ў «Маладзіку». Ведаеце, яны мяне надзвычайна ўразілі. Гэта ж проста нейкі цуд — такое глыбокае разуменне жыцця, такое тонкае пранікненне ў жаночую псіхалогію! Вам даўно ўжо пара выдаваць новую

кнігу. Я перакананы, што прыхільнікі вашага таленту яе парадкам ужо зачакаліся… А-а, Ніначка, — нарэшце заўважыў ён агаломшаную Ніну.

Сцяпан Юр'евіч, які стаяў да яе спінай, таксама павярнуўся, каб павітацца, і Ніна ўбачыла на яго твары ўсмешку.

Аказваецца, Панін сёння таксама не выспаўся, але не таму, што паўночы адзначаў, а таму, што паўночы перачытваў інтэрв'ю, і ў яго з'явіліся новыя меркаванні. Ніна са скрухай паглядзела на спярэшчаныя ўбарыстым почыркам аркушы паперы, якія трымаў у руках Панін, і павяла яго ў свой кабінет.

На гэты раз ён не выкідаў, а дадаваў. Пераважна падзякі — сябрам, родным, калегам, асобна вылучаючы падтрымку тых, каго ў першай размове з Нінай называў свалачамі і бездарамі, а таксама паважаным дзяржаўным мужам, ад якіх у той ці іншай ступені залежаў ягоны лёс. І толькі абсалютная няздольнасць да аналітычнага мыслення, якой Ніна была абавязана ўчарашнім пасядзелкам, пазбавіла яе новай хвалі расчаравання. Яна пакорліва згаджалася на ўсё і не задавала пытанняў. Але ўсё ж адчула, што вось цяпер у словах Паніна не тое, што не засталося солі, але, наадварот, адзін цукар, ды ў такой колькасці, што аж моташна рабілася чытаючы. Аднак яна была згодна на ўсё, толькі б яе пакінулі ў спакоі: адчайна хацелася спаць, і галава балела так, нібыта да скроняў з абодвух бакоў прымацавалі па электрадрылю. А таму, калі ўсе праўкі былі ўнесены, яна рашуча паднялася з крэсла, спадзеючыся нарэшце развітацца.

Ды Паніна зноў пацягнула на лірыку:

— Эх, Ніначка! Ты такая прыгожая!

— Я ведаю, — абыякава адказала яна, і Панін, збянтэжаны, на нейкі момант змоўк. Ніна, як і адна з гераінь Буніна, не разумела, чаму мужчына, кажучы прыгожай жанчыне пра яе прыгажосць, чакае нейкай адмысловай рэакцыі: замілавання, удзячнасці, захаплення…

— Ты не любіш, калі табе робяць кампліменты? — запытаўся ўсё яшчэ крыху збянтэжаны Панін.

— Люблю. Але не лічу простую канстатацыю факта кампліментам.

Панін засмяяўся і весела сказаў:

— Ах, жартаўніца! Ты, аказваецца, не толькі прыгажуня, у цябе яшчэ і добрае пачуццё гумару! А мне, ты ведаеш, гэта вельмі ў жанчынах падабаецца, гэта робіць іх вельмі сексуальнымі… Эх, Ніначка! Закруціў бы я з табой раман!.. — натхнёна прамовіў ён і паспрабаваў абняць Ніну, аднак яна раздражнёна варухнула плячыма, адхінулася і рэзка прамовіла:

— Вашая жонка, мабыць, вельмі цешылася, калі даведалася пра такое значнае дасягненне…

Панін скрывіўся так, нібыта з'еў нешта кісла-нясмачнае:

— Ат, Ніна! Ну, мы ж з табой дарослыя людзі! Што ты, як маленькая?! Пры чым тут жонка?

— Выбачайце, Яраслаў Андрэевіч, але калі мы з вамі пагутарым яшчэ пару хвілін, я не паспею ўнесці вашыя праўкі. Нумар ужо цалкам гатовы, і затрымка толькі за гэтым матэрыялам…

О, гэта для Паніна быў аргумент. Ён адразу пачаў развітвацца, і ўсё-ткі згробшы Ніну ў абдыкі, дадаў:

— Я ведаю, што ўсе маладыя дзяўчаты любяць шакалад. Так што з мяне каньяк і цукеркі.

Праз дваццаць хвілін, калі ўсё было зроблена належным чынам, Ніна няспешна заварыла каву, уключыла камп'ютар, збіраючыся, як заўсёды, выйсці ў інтэрнэт,

і з асалодай стомленага чалавека, якога нарэшце пакінулі ў спакоі, адкінулася на спінку крэсла. Яна паставіла кубак з кавай на аркуш паперы, спісаны ўздоўж і ўпоперак почыркам Паніна, і раптам заўважыла ўверсе акуратненька прыклееную палосачку. Адчуваючы сябе дзіцём, якое нечакана натрапіла на бацькоўскую таямніцу, Ніна адставіла кубак і пачала аддзіраць палоску. Пад ёй аказалася падзяка аднаму вельмі высокаму дзяржаўнаму чыноўніку, які ніколі не меў ніякага дачынення да літаратуры. Відаць, Панін і сам схамянуўся, зразумеўшы недарэчнасць такога рэверанса. Ніна ўсміхнулася і паклала апошні праўлены Паніным варыянт інтэрв'ю, які хвіліну таму збіралася адправіць у чарнавікі, у папачку з надпісам «Для нашчадкаў». Ніна завяла гэтую папку праз пару месяцаў пасля таго, як пачала працаваць у «Лісце», і складала туды смешныя допісы пазаштатных карэспандэнтаў, паказальныя праўкі начальства ў сваіх рэцэнзіях, артыкулы вядомых пісьменнікаў да рэдагавання — адным словам, усё тое цікавае, што ў любой рэдакцыі звычайна асядае на дно шуфлядаў.

«М-да», — прамовіла ўголас маладая наіўная Ніна, якая ўсё яшчэ працягвала верыць, што гордасць і сумленне нацыі — гэта паняцці тоесныя.

Аднак на гэтым знаёмства Ніны з парадоксамі чалавечай псіхалогіі не скончылася. Праз некалькі дзён Сцяпан Юр'евіч даручыў ёй узяць інтэрв'ю ва Уладзіміра Жардзецкага. Блізілася круглая дата са дня нараджэння вядомага паэта, і хаця ён сам ужо год дзесяць спачываў у свеце лепшым, на грэшнай зямлі засталіся тыя, хто меў жаданне друкаваць пра яго ўспаміны. Такое жаданне было і ў Жардзецкага.

І ўсё б нічога, але… Нягледзячы на салідны шматгадовы літаратурны стаж, няспынны карагод хваласпеваў у свой адрас і незвычайна вялікія для кніг беларускага пісьменніка наклады, сярод людзей, у літаратурным сэнсе «цвярозых», Жардзецкі меў рэпутацыю бяздаранага пісьменніка і небяспечнага чалавека.

Да таго ж гэтае прозвішча мела для Ніны і асабісты негатыўны сэнс. Неяк у самым пачатку сваёй лістаўскай кар'еры ёй давялося пісаць рэцэнзію на кнігу апавяданняў Юльяна Балацкага, якога ўсе за вочы іранічна-ласкава называлі Юлляшай і нязменна прыгаворвалі: «піша гладка, чытаць гадка».

Тры вечары запар Ніна сумленна аддала чытанню кнігі, а тры працоўныя дні — напісанню рэцэнзіі. Кніга была абы-якая: дзвесце старонак слоўнага смецця, якое вельмі-вельмі рэдка перасыпалася трапнымі жыццёвымі назіраннямі. Адны і тыя ж параўнанні, зацяганыя эпітэты, і што ўжо ўвогуле выглядала неверагодным свінствам — адзін і той жа сюжэт ва ўсіх васямнаццаці апавяданнях. Натуральна, пра ўсё гэта Ніна напісала ў рэцэнзіі. Яна не ведала, што з Балацкім лепш не заводзіцца — сабе даражэй. Праўда, Сцяпан Юр'евіч, які гэта ведаў даўно, самыя рэзкія выказванні з яе рэцэнзіі зняў. Аднак і ў такім памяркоўным выглядзе яна Балацкага зачапіла. Ён пакрыўдзіўся і ўзняў маштабную інтэрнэт-кампанію пад назвай «Дамо адпор ворагам беларускай літаратуры!»

Начытаўшыся ў сеціве абраз, Ніна таксама пакрыўдзілася. Больш за ўсё яе здзівіла тое, што Балацкі — даволі сімпатычны, прыемны мужчына, на якога заглядаліся дзяўчаты, мог усур'ёз займацца такой лухтой. Калі здаровыя дарослыя мужчыны пачыналі плакацца і ныць, як недалашчаныя дзеўкі-векавухі, Ніне заўсёды рабілася за іх няёмка.

На наступны дзень яна заявіла рэдактару, што адмаўляецца пісаць рэцэнзіі. Праўда, Сцяпан Юр'евіч, набраўшы ў голас як мага больш лагодных бацькоўскіх інтанацый, змог яе супакоіць. Сышліся на тым, што Ніна ніколі больш не будзе пісаць пра Балацкага.

— Ты дарэмна, Ніначка, думаеш, што горш за Юлляшу ніхто ў гэтай краіне не піша, — сказаў Сцяпан Юр'евіч. — Ты яшчэ Жардзецкага не чытала.

З таго часу і павялося: як толькі ў Ніны ўзнікаў канфлікт з чарговым пакрыўджаным геніем, рэдактар усміхаўся і прыгаворваў: «Э-э, Ніначка, ты яшчэ Жардзецкага не чытала».

Жардзецкага Ніна сапраўды не чытала, але з гэтых пастаянных жартаў ёй было зразумела, што чытаць яго і няварта.

Вось чаму, выслухаўшы новае заданне рэдактара, Ніна нясмела пачала адмаўляцца. Сцяпан Юр'евіч дабрадушна, але катэгарычна перапыніў яе:

— Ну што ты плачаш! Можна падумаць, што Жардзецкі нейкі звер! Ён, дарэчы, вельмі цікавы суразмоўца. Я ж не прапаноўваю табе ацэньваць яго талент. Трэба проста ўключыць дыктафон, а пасля перапісаць на паперу байкі пра тое, як яны разам з класікам пілі гарэлку і змагаліся з графаманамі.

— А хіба Жардзецкі не графаман?

— А ты мяркуеш, што графаманы адно з адным не змагаюцца? — пакпіў у адказ рэдактар. — Разумееш, любы пісьменнік — і самы таленавіты, і самы бяздарны — да літаратуры, як раўнівы муж да жонкі, нікога не хоча падпускаць. Вось калі сама пачнеш пісаць, убачыш, як хутка табе захочацца быць лепшай і адзінай.

— З чаго вы ўзялі, што я абавязкова пачну пісаць? — здзівілася Ніна.

— На жаль, рана ці позна гэта з намі ўсімі здараецца, — шматзначна заўважыў Сцяпан Юр'евіч і неяк сумна ўсміхнуўся. А між тым, ён выдаў некалькі зборнікаў апавяданняў і аповесцей.

— Чаму — на жаль? — зноў здзівілася Ніна.

— Таму што не ва ўсіх гэта своечасова праходзіць.

Ніна ішла да Жардзецкага з самымі змрочнымі прадчуваннямі і супакойвала сябе толькі тым, што інтэрв'ю ў любым выпадку не працягнецца больш як дзве гадзіны. Яна папярэдне дамовілася з ім па тэлефоне і па яго адсутна-абыякавым тоне зразумела, што гэта чалавек напышлівы.

Ніна пагрукала ў дзверы з залатымі літарамі «Уладзімір Іванавіч Жардзецкі», і, як толькі дзверы адчыніліся, свет перакуліўся дагары нагамі. За сталом, абы-як заваленым кнігамі і рукапісамі, сядзеў і прыветна ўсміхаўся невысокі поўненькі чалавек з прыемным вусатым тварам і мяккімі пульхнымі ручкамі.

— А-а, гэта ты, зайчык! Праходзь, праходзь, чакаю, — завуркатаў ён і тут жа падбег да Ніны, каб дапамагчы зняць паліто.

Ніна не паспела ўключыць дыктафон, як ужо адчула, што ўсёй сваёй істотай трапіла пад абаянне гэтага невялікага чалавека, вельмі моцна падобнага да таўсматага хатняга ката.

Далей усё адбывалася, як ува сне. Жардзецкі прапанаваў Ніне кавы, і яна згадзілася. Пасля прапанаваў да кавы каньяка — і яна не была супраць. Ён нудна расказваў старыя барадатыя показкі, і Ніна ад душы смяялася… Пасля доўга распавядаў пра сваё сяброўства з класікам, і Ніна цалкам забылася пра тое, што нельга верыць вушам і вачам. Яна верыла кожнаму слову Жардзецкага і адчувала, як давер і павага да гэтага чалавека павялічваюцца з кожным аповедам. Калі ж ён прапанаваў Ніне разам паабедаць, яна таксама з радасцю згадзілася, а пасля яшчэ праседзела ў яго кабінеце амаль гадзіну. Жардзецкі падараваў ёй тры свае кнігі і, само сабой, Ніна згадзілася напісаць грунтоўны крытычны артыкул пра вялікі ўнёсак творчасці Уладзіміра Жардзецкага ў сучасную беларускую літаратуру. Нарэшце Жардзецкі пачаў развітвацца.

— Ну, Ніначка, спадзяюся, мы з табой неўзабаве ўбачымся.

Ніна абяцала зайсці, калі выйдзе матэрыял, а Жардзецкі на развітанне правуркатаў:

— Я ведаю, што ўсе маладыя дзяўчаты любяць шакалад. Так што з мяне каньячок і цукеркі.

Ніна няспешна ішла па вуліцы і не магла прывесці думкі да ладу. Жардзецкі аказаўся самым прыемным і мілым з усіх літаратараў, з якімі ёй даводзілася сустракацца. Прычым ён не спрабаваў да яе заляцацца, як Панін, — усё было па-рыцарску далікатна і тактоўна. А між тым, яна ведала, што Жардзецкі бяздарны пісьменнік і небяспечны чалавек.

Да рэдакцыі Ніна дабралася абсалютна выснажанай унутраным змаганнем. Яна паклала на стол тры тоўстыя шыкоўна выдадзеныя кнігі, што падараваў ёй Жардзецкі, і з жахам прыгадала сваё абяцанне напісаць рэцэнзію. Гэта ж колькі трэба мужнасці, каб усё прачытаць! Зрэшты, некаторыя яе калегі былі перакананы: для таго, каб напісаць рэцэнзію, зусім не абавязкова чытаць кнігу.

Пасля Ніна з прыкрасцю прыгадала словы Жардзецкага пра каньячок і цукеркі. Ёй было сорамна за тое, што яна так весела з ім згаджалася, сорамна ўвогуле за тое, што Жардзецкі ёй спадабаўся.

Праз некалькі хвілін у дзвярах з’явіўся Сцяпан Юр’евіч.

— Ну, як? — запытаўся ён.

— Вы мелі рацыю. Жардзецкі сапраўды вельмі цікавы суразмоўца, — стомленым голасам адказала Ніна і раптам нечакана для самой сябе ўрачыста дадала: — Сцяпан Юр’евіч! Я абяцаю вам, сабе і ўсяму беламу свету, што ніколі не буду пісаць ні вершаў, ні прозы!

— Нават калі творчы сверб пазбавіць цябе сну і апетыту?

— Ды лепш я памру з голаду! — падтрымала жарт Ніна.

Рэдактар хітра пасміхнуўся, кіўнуў галавой на кнігі Жардзецкага, што ляжалі на краі стала, і сказаў:

— Дарма ты, Ніначка, думаеш, што горш за Жардзецкага ніхто не піша ў гэтай краіне. Ты яшчэ не чытала…

***Усе чытачы кнігі выдуманыя.***
***Любое супадзенне з сапраўдным чытачом выпадковае.***
***Мілорад ПАВІЧ***



Ян РАДВАН

# РАДЗІВІЛІЯДА,[*]

## або ПРА ЖЫЦЦЁ І ДЗЕІ, СЛАЎНЫЯ ПОДЗВІГІ БЕССМЯРОТНАЙ ПАМЯЦІ НАЙСВЯТЛЕЙШАГА ПАНА Мікалая Радзівіла, князя ў Дубінках і Біржы Віленскага княства, а таксама наймацнейшага ваяводы войскаў Вялікага Княства Літоўскага

### *Кніга чацвёртая*

Хуткія крылы самкнуўшы, ляцела крылатае войска,
Проста ў паветры плыло, пралятаючы плодныя нівы,
Нейкім салодкім натхненнем ды радасцю поўняцца сэрцы,
Гучна крычаць, дружным хорам спяваюць паходныя песні.
Ды ў Радзівіла любоў да Радзімы была найвялікшай:
Так шчыраваў ён у бітве, што вораг не мог і праскочыць.
Колькі б маўклівая ноч на зямлю ні спускалася ціха,
Ён абуджаў вартавых — так служыў каралю і народу!
Люты мароз і халодныя каўры[1], што дыхаюць сцюжай,
Мужна цярпеў, каб дзясніца варожая зноў не ўзнялася;
Сам закрываў тыя подступы ў горад, дзе варта слабая.
О абаронца Айчыны, бяссмертнае памяці варты!
Ён праз варожыя станы, сярод небяспекі ваеннай
Мог караля і ліцвінаў бяспечнай дарогай правесці.
Зноў зацяжная вайна ахапіла краіну маскоўцаў;
Бедная, кленчыць яна перад Стэфанам, падае ў ногі.
Ён жа вярнуўся з трыумфам пад дахі прыгожае Вільні:
Век залаты распачаўся тады для народа ліцвінаў[2].
Знак бессмяротны — штандар пераможны — прыладзіць навечна
Бацька-кароль загадаў пад скляпеннямі годнай святыні.
Так, заключыўшы дамову аб міры, у страху маскоўцы
Браму вайны зачынілі; тады па стагоддзях навалы
Стала жыццё лагаднец і завершыўся век неспакойны.
Творца з вышыняў сусвету бясконцы прастор аглядае,
Бровамі грозна паводзіць, каб хвалі й вятры супакоіць;
Бачыць — спакойна кругом; і тады заўсміхалася неба.
Так, о вялікі кароль, мір здабыты тваім намаганнем.
Гой! Па прашэсці вякоў мы пабачылі мір дабрадатны
(Нават магутныя продкі не мелі такіх спадзяванняў) —
Мір, што прыносіць дабро, пладаноснымі робіць палеткі.

---

[*] *Працяг. Кніга чацвёртая, пачатак у № 6—12 м. г. № 1, 2, 3, 4, 5 г. г.*

[1] *Каўры* — паўночныя вятры.

[2] Глоса: «Кароль Стэфан прымусіў маскоўцаў да заключэння мірнага пагаднення».

Знік даўні грукат вайны. О найлепшы кароль, сваім словам
З вуснаў вяльможных ты змог гэты жудасны век супакоіць.
Шчырай любові людзей да цябе не скасуюць стагоддзі.
Ты, о вялікі, у памяці нашай навек застанешся,
Покуль Літва разам з Ляхіяй будуць на свеце і покуль
Наша карона блішчыць старажытным каштоўным металам.
Як для мяне, Радзівіл — наш фундамент, і Муза не спыніць
Спеў пра яго. Дык у чым для той панны з палёў Елісейскіх[1]
Лепшым ён стаўся ўва ўсім, Радзівіл: і ў жыцці, і ў спакоі?
Што ж за падзяка, скажыце, яму за святую адвагу,
Чым ён, якім рамяством, вартым памяці, вечнасць уславіў?
Ён па дарозе ідзе, што вядзе да вяршыняў Алімпа.
Высіцца толькі яна для мізэрных смяротных паўсюдна,
Дзе бессмяротныя дзеі. Ён крочыў за зменлівай славай,
Імем высокім сваім гэткім велічным подзвігам роўны.
Ён, як ніхто, у душы меў павагу да Боскае волі,
Словы Евангельскіх кніг шанаваў, і спрадвечная вера
Зноў ажывала ў радках і ў пашане ішла да народаў.
З гэтаю верай жылі нашы продкі, пазней жа абралі
Грэшны свой шлях: хоць спачатку вяла іх свяцейшая Панна,
Сталі ўшаноўваць аблудна тырана з высокага Рыму.
Розным манархам чужым не прадаў Радзівіл за багацці
Маці-Радзіму сваю. За прывабны дарунак, за грошы
Сілаю ўладу змяніць не памог ён ніколі нікому.
Ведаў, што люд — легкадумны, а гэта — загана, таму ён
Сам не ўступаў у інтрыгі — ні з людам, ні з панскаю радай.
Прага да ўлады яго не душыла, як сквапная жаба,
Пыха, мярзотная немач, яго не з'ядала заўчасна,
Пыха — вялізны магільнік дзяржаў і найлепшых законаў.
Варта здзіўлення найперш справядлівасць яго і да міру
Прага душэўная: сам у Айчыну ён войнаў не клікаў
Дый не хацеў парушаць дабрадатны спакой у краіне;
Лёгкіх да звадкі паноў заклікаў прымірыцца, і разам
Стаць пад адныя сцягі. Навальніцу, якую шалёна
Хуткі Эол закруціў, наляцеўшы на нашыя землі,
Выгнаў славуты герой і парадай, і справай найлепшай.
Ён, патрыёт, не цярпеў крывадушных прысяг ды вайсковых
Хітрыкаў розных, ліхіх да ўзаемных сутычак памкненняў.
Толькі святы дагавор ды нязломнай прысягі кляйноты
Ён шанаваў, наш герой, бессмяротная слава ліцвінаў.
Хто яшчэ гэткую славу здабыў у злачынным сусвеце?
Ён быў заранкай, якая ружовым фарбуе аблокі,
Подыхам свежага аўстра, што з неба праз хмары даходзіць,
Подыхам, што ахінае асветленых гор вяршаліны,
Потым унутр пранікае ды свет адкрывае нанова.

[1] *Панна з палёў Елісейскіх* — Празерпіна, багіня падземнага каралеўства ў старажытнарымскай міфалогіі.

Ён не ўсталёўваў і не адмяняў для кагосьці законаў;
Клопат пра гонар дзяржавы — вось гэта яго хвалявала;
Сэрца сваё гартаваў, дасканаліў душу, не аблічча;
Добрым імкнуўся ён быць, а не добранькім толькі здавацца.
Верны свайму каралю, быў да тых непрыязны, якія
Лепш раздуваюць вайну, чым бароняць у войнах Айчыну.
Велічны ў бітвах, быў дома спагадны, заўжды раўнаважны.
Досвед і спрыт здабываў ён у справах шматлікіх старанна.
Ён не ўлягаў пры суровых законах: іх ведаў настолькі,
Колькі патрэбна сенатару; з мудрасцю Боскай у сэрцы
Болей за іншых збіраў ён прыхільных у сцены святыні,
Сам дабрадатна злучаўся тады з красамоўнаю Свадай[1].
Ён вылучаўся найперш задушэўнасцю мудрай прамовы;
Звалі яго нездарма між смяротных адметнаю кветкай:
Радаваў сэрца прамовай і мноствам карысных парадаў.
Дзень, калі ён нарадзіўся, быў добры, бо Мудрасць
Розум яму надала і выдатную здольнасць прамоўцы.
Слова яго вельмі важкім было на высокіх нарадах:
Праўду заўсёды ён мог ад любое няпраўды адрозніць.
Толькі, бывала, на сойме каронным салодкія вусны
Годна адкрые — чуваць: не звычайны прамоўца гаворыць;
Можна яго прыпадобніць у гэтым адно да Пілосца[2].
Важкасцю мудрай парады і гожасцю яркай прамовы
Ён заваёўваў прыхільнасць сенатараў часта. Пры гэтым
Словамі не замяняў ён рэальнае справы, бо змалку
Быў прызвычаены радзіцца, а не спрачацца бязглузда.

---

[1] *Свада* — багіня пераканання і красамоўства.
[2] *Пілосец* — Нестар, адзін з ахейскіх правадыроў у Гамера, які адрозніваўся здольнасцямі красамоўцы.

***Пераклад з лацінскай і каментарыі***
***Жанны НЕКРАШЭВІЧ-КАРОТКАЙ***



Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

# ДА ГІСТОРЫІ РЭЦЭПЦЫІ ТВОРЧАСЦІ ЯНКІ КУПАЛЫ Ў 1920-я ГАДЫ

***Артыкул першы***

Перыяд 1920-х гадоў, згодна з меркаваннем многіх даследчыкаў, характарызуецца ўсплёскам актыўнасці ў нацыянальным літаратуразнаўстве. Паводле М. Мушынскага, толькі пасля ўтварэння ў пачатку дзесяцігоддзя навуковых цэнтраў — Інстытута беларускай культуры (1922) і Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1921) — у Беларусі з'явіліся аўтарытэтныя навукоўцы-філолагі, чыімі намаганнямі былі «закладзены трывалыя асновы беларускага савецкага літаратуразнаўства». Адпаведна, значна павысілася інтэнсіўнасць рэцэпцыі творчасці беларускіх пісьменнікаў. Разам з тым, як слушна адзначае М. Мушынскі, «напачатку задачы крытыкі асэнсоўваліся толькі ў сувязі з агульнымі праблемамі культурнага, асветніцкага характару. Па сутнасці, крытыка, а часткова і гісторыя літаратуры ўспрымалася яшчэ як састаўная частка адной навукі — беларусазнаўства».

Традыцыя «беларусазнаўства ў крытыцы» ішла з часоў нашаніўства. У 1910-я гады значна больш неабходнымі былі дэкларацыі ўтылітарнага парадку і адзнакі нацыятварэння ў творчасці таго ці іншага беларускага пісьменніка. Праблемамі нацыябудаўніцтва ў другой палове 1910-х гадоў пачаў актыўна займацца і такі эстэт, як Максім Багдановіч. Што да Янкі Купалы, то выразная сацыякрытычная афарбоўка яго лірыкі заўжды была навідавоку, а ў перыяд сусветнай і грамадзянскай войнаў толькі ўзмацнілася, набыўшы сталёвае гучанне — «Цяпер беларускай я песні ўладар».

**На культурна-гістарычнай школе засноўвалася практычна ўсё ўсходнеславянскае літаратуразнаўства XIX стагоддзя. З надыходам так званага «рубяжа вякоў» пачала адчувацца патрэба ў паглыблені існуючых методык аналізу**

Адпаведна, і нешматлікія крытыкі (Антон Навіна, Яўхім Карскі) адзначалі гэтую падкрэсленую сацыяльнасць Песняра і спалучалі яе з развагамі пра станаўленне беларускай нацыі, абуджэнне яе ад векавога сну. Натуральна, што падобная метафарычнасць з навуковай аналітычнай крытыкай мела вельмі мала агульнага.

Узнікненне навуковай крытыкі ў Беларусі можна пазначаць 1921—1922 гадамі даволі пэўна. Абгрунтоўваць гэта можна не толькі з'яўленнем аглядавых прац па гісторыі літаратуры (Я. Карскага і М. Гарэцкага), але і тым, што менавіта тады ўзніклі рэгулярныя беларускамоўныя літаратурныя часопісы, у першую чаргу часопіс «Полымя». Сама ідэя тоўстага часопіса (у адрозненне ад бягучай інфармацыйнасці «Нашай нівы») уплывала на актывізацыю аналітычнай думкі. Акрамя «Полымя», трэба не забыць і часопісы «Адраджэнне» і «Вольны Сцяг», якія ў БССР меркавалася зрабіць рэгулярнымі, але падкрэсленая нацыянальная арыентацыя іх увайшла ў пярэчанне з афіцыйнай лініяй савецкага будаўніцтва. Таму «Адраджэнне» было спынена на першым выпуску, а «Вольны Сцяг» апошні раз выйшаў на пачатку 1922 года. Нягледзячы на гэта, ідэя тоўстага часопіса ў гэтых выданнях была рэалізавана найлепшым чынам. Перш за ўсё, тут трэба гаварыць пра «Адраджэнне». Даробак літаратурнай крытыкі складаюць у ім артыкулы па гісторыі літаратуры, актуальныя рэцэнзіі і аналітычныя літаратуразнаўчыя матэрыялы. Тут былі надрукаваны артыкулы маладога

## Гаворачы пра рытмічную дамінанту ў ранняй творчасці Купалы, Барычэўскі згадвае і недахопы вершаў таго часу, іх недастатковую апрацаванасць

Уладыслава Дзяржынскага (Чаржынскага), а таксама Паўла Любецкага (Каравайчыка). Упершыню праводзіўся эстэтычны аналіз творчасці беларускіх паэтаў, у рэцэнзіях упершыню рабіліся статыстычныя вершазнаўчыя падлікі, няхай і ў межах школьнай паэтыкі (артыкул У. Дзяржынскага «Максім Багдановіч як стылізатар беларускага вершу», рэцэнзія П. Любецкага на зборнік «Спадчына» Янкі Купалы).

На нашу думку, мэтазгодна класіфікаваць навуковыя артыкулы, якія з'явіліся ў друку ў 1920-я гады па прыналежнасці да таго ці іншага літаратуразнаўчага метаду, якім карыстаўся даследчык. Паводле гэтага прынцыпу, працы 1920-х гадоў, прысвечаныя творчасці Янкі Купалы, выразна падзяляюцца на тры асноўныя групы: даследаванні, заснаваныя на 1) культурна-гістарычным метадзе, 2) фармальным (эстэтычным) метадзе, 3) сацыялагічным (марксісцкім) метадзе. У сваю чаргу, нельга не адзначыць, што дбанне пра так званую «чысціню метаду» найчасцей не ўваходзіла ў задачы крытыкаў і літаратуразнаўцаў, а таму аднясенне пэўнай асобы да той ці іншай групы звязана хутчэй з дамінантным элементам у яго падыходзе да аналізу мастацкага твора, чым з абсалютна дакладным літаратуразнаўчым метадам.

На культурна-гістарычнай школе засноўвалася практычна ўсё ўсходнеславянскае літаратуразнаўства XIX стагоддзя. З надыходам так званага «рубяжа вякоў» пачала адчувацца патрэба ў паглыбленні існуючых методык аналізу, у выніку чаго асобныя дзеячы (перадусім з кагорты літаратараў-сімвалістаў) пачалі распрацоўку праблем эстэтыкі з улікам новай сітуацыі. Можна размежаваць іх на пецярбургскую і маскоўскую школы. Пецярбургскія літаратары (Вячаслаў Іванаў, Георгій Чулкоў, часткова Аляксандр Блок) патрабавалі ўлічваць пры аналізе надмастацкія фактары, уносячы ў разуменне тэксту элемент містыкі, бо менавіта духоўны нематэрыяльны свет з'яўляўся, на іх погляд, асновай для тварэння верша. Маскоўскія тэарэтыкі (Валерый Брусаў, Андрэй Белы) прапаноўвалі, у сваю чаргу, сцыентызацыю эстэтыкі. Брусаў распрацоўваў агульныя пытанні вершаскладання, пісаў папулярныя кнігі пра тое, як правільна ствараць вершы. Белы — рабіў глыбокі статыстычны аналіз вершаў, прапаноўваў схемы пабудовы твораў мастацтва.

Да падобнага сімвалістычнага кірунку з беларусаў-гуманітарыяў належыць Яўген Барычэўскі. Узгадаваны філасофскімі кафедрамі Берліна і Масквы, ён асэнсоўваў эстэтыку і літаратурную творчасць з боку агульнакультурнага, з выкарыстаннем адцягненых паняццяў. Нягледзячы на тое, што Барычэўскі з'яўляўся, перадусім, тэарэтыкам мастацтва, ён займаўся і прыватнымі праблемамі паэтыкі. У тым ліку і творчасцю Янкі Купалы. У навуковай спадчыне Барычэўскага ёсць малавядомы артыкул, напісаны для 5-га тома маскоўскай «Літаратурнай энцыклапедыі», які выйшаў

у 1931 годзе, але быў напісаны з пазіцый незалежных ад палітычнай кан'юнктуры таго часу. Артыкул «Стыль Купалы» быў прымацаваны да асноўнага энцыклапедычнага артыкула пра Купалу аўтарства Лукаша Бэндэ, а таму амаль не згадваўся ў купалазнаўчых бібліяграфіях. Тут Барычэўскі аналізуе купалаўскую лірыку першага і трэцяга зборнікаў — «Жалейка» і «Шляхам жыцця». Вучоны падыходзіць да творчасці Купалы з пазіцый фармальнага метаду, указваючы на фармальныя адзнакі, якія лучаць вершы Купалы з народнай песняй — тэматычны і сінтаксічны паралелізм, звароткі, перайманне рытмаў. Гаворачы пра рытмічную дамінанту ў ранняй творчасці Купалы, Барычэўскі згадвае і недахопы вершаў таго часу, іх недастатковую апрацаванасць. Яўген Барычэўскі размяжоўвае двух паэтычных майстроў — Максіма Багдановіча, які «працягвае буржуазныя традыцыі еўрапейскай літаратуры», і Янку Купалу, «рытмічна і эмацыйна высока-адоранага наступніка беларускай вуснай творчасці».

Аналізуючы вытокі даследчыцкага метаду Аляксандра Вазнясенскага, неабходна адзначыць, што асновы яго закладваліся падчас навучання на гісторыка-філалагічным факультэце Варшаўскага ўніверсітэта (1909—1913). Пад кіраўніцтвам прафесара Івана Замоціна Вазнясенскі напісаў і падрыхтаваў да абароны дыпломную работу «Руская журналістыка 40-х гадоў XIX стагоддзя ў яе галоўных накірунках», за якую яму была прысуджана ступень кандыдата і дадзена магчымасць застацца пры ўніверсітэце для падрыхтоўкі да прафесарскага звання. Іван Замоцін, у літаратуразнаўчых семінарыях якога і адбывалася станаўленне Вазнясенскага-даследчыка, быў вядомым прыхільнікам культурна-гістарычнай школы ў навуцы пра літаратуру. Дыяметральна супрацьлеглае гледзішча на падыход да аналізу мастацкага твора прапаноўваў іншы прафесар Варшаўскага ўніверсітэта — Аляксандр Яўлахаў, у чыёй фундаментальнай трохтомнай працы «Уводзіны ў філасофію мастацкай творчасці» (1910—1917) праводзілася жорсткая крытыка культурна-гістарычнай школы і метадалогіі тагачаснай літаратурнай навукі ў цэлым. Яўлахаў адзначаў, што літаратуразнаўству не хапае навуковасці: «Доўгі час даследчыкі блукаюць як бы ў цемры, навобмацак: ёсць, здаецца, і дастатковая колькасць фактаў, часам удавалася іх класіфікаваць і нават сям-там устанавіць прычынную сувязь, а ў той жа час навукі ўсё яшчэ няма і не можа быць, бо няма законаў; а няма і не можа быць законаў таму, што самыя метады дадзенай галіны ведаў не адпавядаюць яе надзённым запатрабаванням, не вынікаюць з самой яе сутнасці, хаця, быць можа, і садзейнічаюць яе развіццю». Пошуку праўдзівых метадаў літаратуразнаўства і мусіў прысвяціць сябе даследчык. Разам з тым, нельга не заўважыць, што сам Аляксандр Яўлахаў не даваў адназначных адказаў на характар дэклараванай ім «новай метадалогіі», запрашаючы наступнікаў да далейшай працы ў гэтым кірунку.

На сутыку гэтых дзвюх тэндэнцый адбывалася выпрацоўка навуковага метаду Аляксандра Вазнясенскага. Засвоіўшы прынцыпы культурна-гістарычнай школы, малады даследчык узяў за мэту ажыццяўленне праграмы Яўлахава па абнаўленні метадалагічнага інструментарыя літаратуразнаўства, у выніку якога павінна была з'явіцца магчымасць пабудовы навуковай гісторыі літаратуры. Знакавай у гэтым кірунку стала першая тэарэтычная работа Вазнясенскага «Метад вывучэння літаратуры», прачытаная ў якасці ўступнай лекцыі ў БДУ 5 лістапада 1921 года, дзе адзначалася, што ў вывучэнні літаратурных тэкстаў абавязкова трэба ісці ад першакрыніцы, а не «ад адцягненых перадумоваў апрыёрнага кшталту». Тут жа даследчык заклікаў да стварэння «цэлай складанай сістэмы метадалагічных перадумоваў, з якіх кожная мела б на мэце вывучэнне асобнай грані мастацкага твора». «Я схільны думаць, што неабходная плюралістычнасць гісторыка-літаратурных метадаў», — адзначае

**Даследчык заклікаў да стварэння «цэлай складанай сістэмы метадалагічных перадумоваў, з якіх кожная мела б на мэце вывучэнне асобнай грані мастацкага твора»**

**Літаратуразнаўцы, якія прыйшлі ў навуку на хвалі абнаўленчага метадалагічнага пафасу, такім чынам, адстойвалі права на аналіз эстэтычных вартасцей твора без увагі на грамадска-культурную сітуацыю, якая спадарожнічала Янку Купалу**

філолаг, і гэтым вызначае асновы для палемікі з апалагетамі таго ці іншага «адзіна правільнага» літаратуразнаўчага метаду. Аляксандр Вазнясенскі актыўна ўдзельнічаў у палеміцы вакол фармальнага і сацыялагічнага метадаў, што адбывалася ў 1920-я гады, але разглядаў абодва падыходы ў рэчышчы сваёй аўтарскай класіфікацыі гісторыка-літаратурных метадаў. Сацыялагічны метад ён адносіў да «экзэгітуючых» метадаў, якія маюць на мэце дослед мастацкага матэрыялу з боку адносін гісторыка-культурнай «паступовасці» (такім чынам «сацыялогія» акрэслівала межы гісторыі літаратуры). Фармальны метад Аляксандр Вазнясенскі вызначаў як адзін з этапаў развіцця эстэтычнага метаду і адносіў яго да метадаў «канстатуючых», якія маюць на мэце апісанне «мастацкіх актыўнасцей» ці элементаў твора як іманентнай з'явы, у яго статычным становішчы.

Артыкул Вазнясенскага «Паэмы Янкі Купалы. Сюжэтная пабудова і стыль», змешчаны ў першым нумары «Узвышша», друкаванага органа вядомага літаб'яднання, адлюстроўвае метад аналізу паэтычнага твора, узяты ім за прыклад. Каб пазбегнуць няпэўных ацэнак гэтага метаду, трэба адзначыць, што адзінай мэтай аўтара ў гэтых артыкулах было падрабязнае і, адначасова, рознабаковае апісанне адзінкі — твора мастацтва, як гэта і было заяўлена ў яго працах па метадалогіі літаратуразнаўства («Метад вывучэння літаратуры» і іншых). Гэта азначае выкананне вучоным першага пункта сваёй праграмы пабудовы навуковай гісторыі літаратуры — дакладнага апісання асобных літаратурных твораў асобных аўтараў. Сюжэты твораў Янкі Купалы класіфікуюцца ў артыкуле Вазнясенскага паводле «матыўных» прыкмет, што збліжае метад беларускага даследчыка з паэталагічнымі штудыямі Б. Ярхо. Трэба прыгадаць, што параўнанне творчасці Янкі Купалы з фальклорам было зроблена Вазнясенскім падчас выступлення на вечары з нагоды 15-годдзя творчай дзейнасці Песняра 19 сакавіка 1922 года, што адлюстроўвалася ў «Хроніцы», змешчанай у першым нумары «Працаў БДУ» за 1922 год.

Літаратуразнаўцы, якія прыйшлі ў навуку на хвалі абнаўленчага метадалагічнага пафасу, такім чынам, адстойвалі права на аналіз эстэтычных вартасцей твора без увагі на грамадска-культурную сітуацыю, якая спадарожнічала Янку Купалу. Да гэтых вучоных — Яўгена Барычэўскага, Аляксандра Вазнясенскага — далучалася маладая беларуская крытыка, узгадаваная і на працах папярэднікаў, і на доследных артыкулах младасімвалістаў, і на форматворчым пафасе футурыстаў (Уладыслаў Дзяржынскі, Павел Любецкі). Лепшыя прадстаўнікі новага пакалення да пары да часу захоўвалі раўнавагу паміж вядомымі ў 1920-я гады «ўхіламі» — у «левым ухіле» абвінавачвалі тых, хто вёў адлік для сапраўднай літаратуры з 1917 года і адпрэчваў дасягненні дарэвалюцыйнага пісьменства; у «правым ухіле» абвінавачвалі тых, хто «нізкапаклонстваваў» перад заходнееўрапейскімі метадамі даследаваннямі твораў літаратуры і мастацтва.

Пра тых, каму раўнавагу ўтрымліваць не ўдавалася, — наш наступны артыкул.

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

# ЭПІСТАЛЯРЫЙ ВАЕННАГА ЧАСУ

***Архіўная спадчына нашага Песняра — Янкі Купалы — на сёння вывучана досыць грунтоўна. Выдадзены фундаментальны поўны збор твораў у 9 тамах (10 кнігах), каталог «Рукапісная спадчына Янкі Купалы», архіўныя зборнікі «Пуцявінамі Янкі Купалы» Генадзя Кісялёва і «Купала і Колас, вы нас гадавалі» (у 2 частках) Вячаслава Селяменева і Віталя Скалабана.***

***Адваротна прапарцыянальным па вывучанасці выглядае даробак Уладзіславы Францаўны Луцэвіч (1891—1960), жонкі Янкі Купалы. Яе велізарны архіў, які захоўваецца ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы, практычна не выкарыстоўваецца даследчыкамі — гісторыкамі і філолагамі. Між тым, сярод матэрыялаў фонду Уладзіславы Луцэвіч нямала каштоўных дакументаў, якія праліваюць святло на жыццё беларускіх пісьменнікаў, у лістах да «цёці Уладзі» літаратары часцяком успамінаюць Янку Купалу, распавядаюць пра свой побыт. З увагі на тое, што аўтары лістоў былі непараўнальна больш шчырымі і адкрытымі, тэксты гэтыя з'яўляюцца крыніцамі праўдзівай інфармацыі па «гісторыі паўсядзённасці», аналізам якой займаюцца сёння выдатныя еўрапейскія гісторыкі.***

***Для гэтага нумара часопіса «Маладосць» было вырашана падрыхтаваць лісты пісьменніка і дзяржаўнага дзеяча Міхася Лынькова (1899—1975) да Уладзіславы Луцэвіч, якія былі напісаны падчас Вялікай Айчыннай вайны (публікацыя падрыхтавана з арыгінальных дакументаў, што захоўваюцца ў фондах купалаўскага музея). Аднак гэта далёка не апошняя публікацыя. У юбілейны купалаўскі год рэдакцыяй было вырашана рэгулярна змяшчаць архіўныя матэрыялы, прысвечаныя Янку Купалу і яго атачэнню.***

## ЛІСТЫ МІХАСЯ ЛЫНЬКОВА ДА УЛАДЗІСЛАВЫ ЛУЦЭВІЧ

### № 1

Дарагая Уладзіслава Францаўна!

Атрымаў Ваш ліст з усімі Вашымі запытаннямі і трошачкі са спазненнем адказваю на яго. Раіўся я з Цімохам Сазонавічам[1] наконт некаторых Вашых пытанняў. Адносна музейных матар'ялаў[2]. Калі яны не абцяжараць Вас у дарозе, тады прывязіце іх у Маскву. Машыну[3] покуль што немэтазгодна перапраўляць сюды, няхай пабудзе ў Казані.

Цяпер аб пастамэнце[4]. Грошы ўжо гэтымі днямі пераведзены майстрам і яны абяцаюць у хуткім часе ўсё гэта зрабіць. Праўда, з трох майстроў, адзін узяты зараз у армію, так што

[1] Цімафей Гарбуноў (1904—1969) — дзяржаўны дзеяч. На той час — сакратар ЦК КПБ, галоўны рэдактар часопіса «Славяне», курыраваў культурнае жыццё ў Беларусі.

[2] Маюцца на ўвазе захаваныя матэрыялы Янкі Купалы, якія пазней стануць асновай для музея Песняра.

[3] Лынькоў згадвае ўласны аўтамабіль Янкі Купалы «Шэўрале», якім паэт валодаў з 1939 года і на якім выправіўся з Мінска ў эвакуацыю. Спачатку — у Ляўкі, потым — у Казань. Пасля смерці паэта машына захоўвалася ў Казані. Потым была перавезена ў Мінск і сёння з'ўляецца экспанатам філіяла Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы ў Ляўках.

[4] Гаворка ідзе пра пастамент для ўрны з прахам Янкі Купалы.

тыя, што засталіся, трохі павялічваюць тэрмін сканчэння работы. Што тычыцца зборніка[1], то ён яшчэ не друкуецца. Будзе друкавацца ў нашым беларускім выдавецтве, якое цяпер арганізуецца. Друкарня ўжо арганізавана.

Якія-ж яшчэ навіны ў нас? Кандрат[2] паехаў на юбілей Якуба Коласа[3] ў Ташкент. Хутка будуць у Маскве ўсе хлопцы з групы Гурскага[4]. Атрыманы невялічкія весткі аб сем'ях Любана[5] і Гурскага. Сем'і жывы, існуюць. Пятрусь[6] ездзіў у Горкі здаваць лібрэта сваёй оперы[7]. Здаў яго. Барысенка[8] адкамандыраваны цяпер ад нас, знаходзіцца ў арміі.

Вось і ўсе нашы галоўныя навіны. Вітаем Вас з дваццаць пятай гадавінай Кастрычніка і як заўсёды жадаем Вам ад усяго нашага калектыва ўсяго таго, чаго могуць пажадаць толькі свае, блізкія людзі.

Прывітанні ад Петруся, Кузьмы[9] і Максіма[10].

З шчырай павагай
Ваш Міхась Лынькоў

5/XI 1942 г.

**№ 2**

Дарагая Уладзіслава Францаўна!

Атрымаў Ваш ліст праз Цімоха Сазонавіча. Не ведаю, ці атрымалі Вы мой ліст, у якім мы пасылалі Вам вялікую падзяку за пасылку. Шчыра дзякавалі за цыбулю, а вось што тычылася пляшкі, то і не ведалі, што рабіць. Канешне, мы яе ліквідавалі за Ваша здароўе, але ў той жа час і папракалі Вас за залішнія зусім патраты, тым больш, што нам даволі цяжкавата аддзякаваць Вас чым-небудзь роўназначным.

Цяпер аб справах. Помнік патрохі пасуваецца, павінен у хуткія часы быць нарэшце закончаным. Аднатомнік[11] у Гозне[?] мае ўсе намеры выйсці ў красавіку месяцы, я чытаў

---

[1] Маецца на ўвазе зборнік выбраных вершаў Янкі Купалы «Беларускім партызанам», які пабачыў свет у выдавецтве газеты «За Савецкую Беларусь» у 1942 годзе.

[2] Кандрат Крапіва (1896—1991) — паэт-сатырык, драматург. На той час працаваў у рэдакцыі газеты «За Савецкую Беларусь».

[3] Якуб Колас (1882—1956) — класік беларускай літаратуры, паэт, празаік, публіцыст, перакладчык. 3 лістапада 1942 года ён адзначаў 60-гадовы юбілей, на святкаванне якога і ехаў Кандрат Крапіва ў Ташкент. На той час там у эвакуацыі жыў Якуб Колас з сям'ёй.

[4] Ілля Гурскі (1899—1972) — празаік, публіцыст, драматург. У час вайны — адказны сакратар газеты «За Савецкую Беларусь», рэдактар газеты «За свабодную Беларусь», часопіса «Партызанская дубінка».

[5] Ісак Любан (1906—1975) — беларускі савецкі кампазітар.

[6] Пятрусь Броўка (1905—1980) — паэт. На той час працаваў інструктарам-літаратарам у газеце «За Савецкую Беларусь» на Бранскім і Заходнім франтах.

[7] Верагодна, маецца на ўвазе опера «Алеся» («Дзяўчына з Палесся»), напісаная Броўкам у суаўтарстве з Я. Рамановічам.

[8] Васіль Барысенка (1904—1984) — крытык, літаратуразнаўца. У час вайны працаваў спецыяльным карэспандэнтам у франтавым друку.

[9] Кузьма Чорны (1900—1944) — празаік, драматург, публіцыст. На той час знаходзіўся ў эвакуацыі ў Маскве, працаваў у рэдакцыях беларускіх газет, у тым ліку сатырычнай плакат-газеце «Раздавім фашысцкую гадзіну».

[10] Верагодна, маецца на ўвазе Максім Танк (1912—1995), які на той час працаваў у газеце Лынькова «За Савецкую Беларусь». Але нельга адкідаць мажлівасці таго, што прывітанне мог перадаць і Максім Лужанін (1909—2001), які ў 1942 годзе вучыўся ў Падольскім пяхотным вучылішчы пад Масквой.

[11] Хутчэй за ўсё гаворка ідзе пра аднатомнік выбранай лірыкі Янкі Купалы ў перакладзе на рускую мову («Избранные произведения; Пер. с бел. под общ. ред. Я. Коласа, Е. Мозолькова, М.: ГИХЛ, 1943»).

ужо першыя надрукаваныя аркушы. Зборнік будзе нядрэнны — чысты, акуратны, з густам аформлены. Багата заставак, віньетак, канцовак. Кожны раздзел пачынаецца маляванай чырвонай літарай. Наогул, зборнік будзе вельмі прыемны на выгляд.

Заўчора я быў у Гізне[?], і Дзееў[1] мне сказаў, што паперу цяпер падвезлі і ніякіх асаблівых затрымак з друкаваннем не прадбачыцца. Тое-ж самае гаварыў мне і Чагін[2]. Прасіў я таксама і Цімоха Сазонавіча, каб ён таксама з свайго боку турбаваў Чагіна.

Ужо з месяц, як паехаў Колас. На лета ён пераедзе ў Клязьму. Бліжэй да Масквы перабярэцца і Акадэмія. Жывем мы цяпер з Кандратам у Акцябрскай гасцініцы, № 18 (на Пушкінскай вуліцы). Хлопцы ўсе жывы і здаровы, кланяюцца Вам.

З сардэчным прывітаннем
Міхась Лынькоў

27/III 1943 г.

*Дарагая цеця Ўладзя! Вітаю Вас ад сябе, Лёлі і Юры. Быў я ў крэматорыі. Сам бачыў, як робіцца пастамэнт. У красавіку напэўна будзе гатовы.*

*Ваш Пятрусь*[3]

**№ 3**

Дорогая Владислава Францевна!

Получил Вашу открытку от 4/III. Письмо, о котором Вы сообщаете, что послали в адрес г[остини]цы «Москва», я не получал — мы живем теперь в г[остини]це «Октябрьская» по Пушкинской улице. Я Вам послал несколько писем, не знаю получили ли Вы их. От Грубияна[4] я получил письмо. Он писал, что Вы навестили его в госпитале.

У нас особых новостей нет, живем всё по старому, живём с Кондратом попрежнему вместе.

Привет от всех наших хлопцев.

С сердечным приветом
Міхась Лынькоў

5/IV 43

**№ 4**

*Дорогая Владислава Францевна!*

Пересылаю полученное в Ваш адрес письмо от Бэндэ[5]. Послал Вам не так давно письмо, но ответа еще не получил. Грубиян приехал в Москву, привез от Вас луку для

---

[1] Магчыма, маецца на ўвазе Аркадзь Дзееў (1898—1981) — літаратуразнаўца, супрацоўнік выдавецтваў.

[2] Пётр Чагін (1898—1967) — партыйны і дзяржаўны дзеяч, журналіст. У 1939—1946 гадах — дырэктар Дзяржаўнага выдавецтва мастацкай літаратуры.

[3] Прыпіска рукой Петруся Броўкі.

[4] Мацвей Грубіян (1909—1972) — беларускі яўрэйскамоўны паэт.

[5] Лукаш Бэндэ (1903—1961) — крытык, літаратуразнаўца. У1920—1930-я гады выступаў з артыкуламі па беларускай літаратуры, напісанымі ў рэчышчы вульгарна-сацыялагічнага метаду. У тым ліку займаўся «выкрыццём» Янкі Купалы і Якуба Коласа. У час ВАВ выкладаў у афіцэрскай школе НКУС (Ленінград).

меня и Кондрата: мы уже и не знаем, каким образом сумеем отблагодарить Вас за все эти витамины.

Вчера я был у Чагина, сборник Ивана Доминиковича сейчас печатается. По всей видимости, недалеко время, когда этот сборник Вы будете иметь у себя. Петрусь Бровка послезавтра поедет в Донской проверить еще раз, как обстоят дела с постаментом.

Новостей у нас особенных нет. Есть сведения, что нашелся в живых Филипп Пестрак[1] со всей своей семьей.

Привет Вам от всех наших хлопцев.

С сердечным приветом
Міхась Лынькоў

17/IV 1943 г.

**№ 5**

Дарагая Уладыслава Францаўна!

Калі-ж гэта Вы, урэшце, звернецеся ў родны Мінск! Ці Вы думаеце зімаваць там, ці што?

Зараз мы павінны размяркоўваць кватэры, патрэбна-ж Ваша прысутнасць. З асобным дваром у нас нічога не вышла. Калі зараз не прыедзеце ў Мінск, то Саюз тады ня зможа чым-небудзь дапамагчы Вам у кватэрным пытанні. А цяпер жа я нават гараж займеў для Вашае машыны. Ня прыедзеце цяпер — адцягаюць у нас і гараж.

З сардэчным прывітаннем
Міхась Лынькоў

20/IX 1944 г.

[1] Піліп Пестрак (1903—1978) — паэт, празаік. У час вайны апынуўся на акупаванай тэрыторыі, удзельнічаў у партызанскім руху. З 1943-га — у Маскве, да канца вайны працаваў начальнікам Упраўлення па справах мастацтваў пры СНК БССР.



# КУПАЛЬСКАЯ МІСТЭРЫЯ

*Люблю я ноч, яе ўсеабдымную, абвалокваючую пяшчоту, калі, мінаючы церні дзённых клопатаў, уваскрасае душа. Сонца, ашчэрыўшыся безліччу пратуберанцаў, ваяўніча і злосна апякае і высушвае душу. Нам, як і ўсёй нашай планеце, наканавана вечна круціцца вакол яго. Усе мы — яго рабы, што не асмельваюцца нават паглядзець яму ў вочы. Матэрыяльная сутнасць дня з адвечнымі клопатамі аб падтрыманні фізічнага жыцця для мяне чужая. Ноч мне больш блізкая і родная.*

Наталля ІЛЬЮШЫНА. «Скрозь прызму ночы»

**«Паколькі наша размова прысвячаецца Купаллю, а гэта, як вядома, свята язычніцкае, то мы можам гаварыць пра рэчы містычныя і загадкавыя, ці не так? На мой погляд, тут цалкам магчыма выкарыстаць астралагічныя падыходы, тым больш што ў мінулы раз вы прадставілі мяне сваім чытачам як астрапсіхолага», — так разважаў напярэдадні размовы пра купальскую ноч Аляксей Селянінаў. Запэўніваючы, што наш чарговы дыялог ні ў якім разе не будзе паходзіць на сярэднявечнае цемрашальства: проста астралогія — гэта найбольш удалы спосаб раскрыць змест і значэнне ночы як з'явы і Купалля як традыцыі. Але паколькі размова прысвячаецца адначасова і юбілею Янкі Купалы, а народны паэт не цураўся ў сваёй творчасці звышнатуральных сіл, то чаму б нам не «пацемрашаліць»?**

**А. С.** — Пачаць хочацца з аналізу феномена купальскай ночы. Купала — гэта, па некаторых меркаваннях, высокае, магутнае боства старадаўняга славянскага пантэона. Па значнасці ён быццам бы дзеліць другое-трэцяе месцы з Вялесам, саступаючы толькі Перуну (дарэчы, гэта агульнасусветная традыцыя, калі грамавержац — Зеўс, Юпітэр, Тор ці той самы Пярун — узначальвае Пантэон). У ведамстве Купалы — земляробства і ўрадлівасць. Купальскія рытуалы ў нейкай ступені пераклікаюцца з элеўсінскімі і дыянісійскімі містэрыямі: у іх аднолькавыя архетыпічныя вытокі. Купалле святкуюць не толькі ўсходнія, але і заходнія славяне — гэта падзея сусветнага значэння. Але «заходнікі» адзначаюць яго, згодна з грыгарыянскім календаром, у ноч з 24 на 25 чэрвеня, а «ўсходнікі» — па юльянскім, з 6 на 7 ліпеня. І вось яшчэ што. Калі ўважліва паглядзець на гэтыя даты — 25 чэрвеня і 7 ліпеня, нельга не заўважыць аднаго дзіўнага супадзення: яны дыяметральна супрацьлеглыя яшчэ адной вельмі важнай падзеі сусветнага значэння — Хрыстоваму Нараджэнню, Калядам. З пункта гледжання астралогіі, гэтыя святы, Купалле і Каляды, ствараюць аспект дакладнай апазіцыі — і ў пэўным сэнсе могуць лічыцца антаганістамі.

**С. Д.** — І дзіўна пры гэтым, чаму менавіта перыяд летняга сонцавароту, калі дзень найбольш доўгі і ўладаранне Сонца, здавалася б, максімальнае, лічыцца разгулам цёмных сіл, а Нараджэнне Хрыстова, светлае свята, адзначаецца ў самы цёмны час года? Такое своеасаблівае сімвалічнае перакрыжаванне на полі адвечнай барацьбы супрацьлегласцей — дня і ночы, святла і цемры, дабра і зла.

**А. С.** — Наколькі мне вядома, з пункта гледжання зараастрыйскай касмагоніі менавіта ў перыяд летняга сонцавароту некалі адбылося ўварванне цёмных сіл на Зямлю. Тады змянілася структура Сонечнай сістэмы. А ўсё даволі проста. Хрыстова Нараджэнне ідзе за перыядам зімовага сонцавароту: ноч з 21 на 22 снежня самая доўгая, Сонца пасля яго на тры дні нібыта «завісае» — працягласць дня і ночы ў гэты час не змяняецца. А з 25 снежня дзень пачынае прыбываць — няхай і ўсяго на адну хвіліну. Таму гэту дату цалкам можна лічыць днём нараджэння святла, якое перамагло цемру. І наадварот, летні сонцаварот вызначаецца максімальнай працягласцю дня, пасля чаго пачынае павялічвацца ноч. А значыць, ужо сілы цемры пачынаюць святкаваць сваю перамогу над святлом. Гэта, прабачце за аксюмаран, дзень нараджэння ночы, якая будзе з гэтага часу павялічвацца, каб да дня асенняга раўнадзенства зраўняцца з днём і адсвяткаваць такім чынам сваю канчатковую перамогу. Дарэчы, заўважце, у перыяд летняга сонцавароту Зямля знаходзіцца на максімальнай адлегласці ад Сонца. Здаецца, лета, цеплыня, а Зямля ад Сонца аддалена. Тады як у перыяд зімовага сонцавароту, наадварот, максімальна да яго набліжана. Відаць па ўсім, у перыяд летняга сонцавароту, як ні дзіўна, абарона жыватворнага свяціла мінімальная, гэта ў поўным сэнсе трыумф ночы — цёмных, хтанічных, калі заўгодна, дэманічных сіл.

## ЧАЦВЁРТЫ ГРАДУС КАЗЯРОГА І ЦЭНТР АСАБІСТАЙ СВЯДОМАСЦІ

**С. Д.** — Нашаму вялікаму паэту надарылася сумясціць у дні свайго нараджэння і даты двух стыляў, старога і новага, і даты двух календароў. Канешне ж, у яго проста не магло быць ніякага іншага імя. Да таго ж, купальскі дзень — прабачце і мяне за ўжыванне такой неспалучальнасці — выдзелены ў календары асобна, ён не ўключаны ні ў які перыяд, ён быццам сам па сабе, як спецыяльнае прысвячэнне асабліваму боству. Ці не гэтыя абставіны асаблівым чынам адбіліся на лёсе Янкі Купалы? Але ж не ўсім народжаным на Купалле наканаваны лёс генія.

**Але, як пісаў Юнг, аўтамабіль, які заварочвае за рог, не выпараецца ў паветры. Гэтаксама і тое, што выпхнута ў падсвядомасць, — нікуды не дзяецца**

**А. С.** — Так, гэты дзень лічыцца выбраным у старажытнаславянскай астралагічнай традыцыі. І людзі, што нарадзіліся на Купалле, ужо па вызначэнні павінны з'яўляцца асаблівымі і валодаць незвычайнымі здольнасцямі, а лёсы іх, адпаведна, складацца неардынарна. Але не ўсё так проста. Калі дзень 25 снежня адпавядае чацвёртаму градусу Казярога — градусу прарокаў і боскай абароны, то супрацьлеглы яму чацвёрты градус Рака лічыцца часам уладарання дэмана-спакусніка або, па некаторых уяўленнях, градусам чорнай месы. Я не прыхільнік дэманізацыі нейкіх момантаў і тым больш прымітыўнага маніхейскага падзялення на выключна чорнае і белае: заўжды павінна быць месца для паўтонаў. Каб патлумачыць узаемаадносіны паміж днём і ноччу, злом і дабром, я заўсёды выкарыстоўваю канцэпцыю Карла Густава Юнга. А ў яго ёсць уяўленне пра такія структуры асобы, як Персона і Цень. Дык вось Персона — гэта цэнтр асабістай свядомасці, наша сацыяльнае Я, ідэалізаваныя рысы, якія мы дэманструем іншым. Гэта мадэль таго, якімі мы хочам быць свядома і якім чынам праяўляем сябе ў соцыуме. А Цень — гэта цэнтр асабістага несвядомага, сукупнасць усіх негатыўных, непажаданых, непрызнаных і таму выціснутых у падсвядомасць якасцей. Гэта тое, што нам непрыемна дэманстраваць свету. Але, як пісаў Юнг, аўтамабіль, які заварочвае за рог, не выпараецца ў паветры. Гэтаксама і тое, што выпхнута ў падсвядомасць, — нікуды не дзяецца. Яно працягвае жыць сваім жыццём. Больш за тое, менавіта ад таго, што мы яго не ўсведамляем, яно набывае над намі пэўную ўладу. Усе разбуральныя імпульсы — успышкі злобы і агрэсіі, нянавісць, незадаволенасць — узнікаюць пад уплывам Ценю. Але трэба мець на ўвазе адзін вельмі важны момант: на водкуп Ценю аддаюцца не толькі адмоўныя якасці.

З-за таго, што ў жыцці найчасцей выбіраецца нешта адно, хаця яно, жыццё, шматварыянтнае, усё астатняе — нерэалізаванае, не ажыццёўленае — таксама трапляе пад уладу Ценю. Ён, можна сказаць, сімвалізуе наша непражытае жыццё. Гэта, па сутнасці, тое, кім мы не з'яўляемся, але маглі б з'яўляцца. А значыць, згодна з Юнгам, Цень змяшчае агромністы творчы патэнцыял. Чаму творчасць немагчыма без санкцыі падсвядомага? А проста ў людзей, якія адораны багатым творчым патэнцыялам, мяжа паміж асабістым і калектыўным падсвядомым вельмі тонкая, эфемерная. З аднаго боку, такія людзі вельмі адчувальныя да архетыпаў, універсалій калектыўнага падсвядомага. З іншага боку, гэта ўмоўнасць мяжы прыводзіць да пэўных псіхалагічных акцэнтуацый…

Трэба падкрэсліць, што чалавецтву наогул уласціва дыхатамія — мы схільны ўсё падзяляць: або святло, або цень, або чорнае, або белае. Хаця на самай справе тут неабходна ўжываць злучнік «і»: і чорнае, і белае, і актыўнае, і пасіўнае, і мужчынскае, і жаночае… Псіхіка — гэта адзіны каштоўнасна-сэнсавы кантынуум: з яго нельга нешта вычленіць — адно выціснуць як непатрэбнае, а другое пакінуць і выпяціць. Усе нашы псіхалагічныя праблемы з такіх вось дыспрапорцый і вынікаюць. Выкарыстоўваючы Цень, гэтую начную іпастась, творча, мы робім тое, што Фрэйд называў сублімацыяй — пераўтварэннем у нечым дэструктыўных імпульсаў падсвядомага ў творчыя дасягненні. Цень — непражытае жыццё, а значыць, творчы патэнцыял. Менавіта ён дазваляе нам бываць у тых паралельных светах, якія хаваюцца ў містычных глыбінях нашага падсвядомага. Ноч толькі здаецца страшнай: на самай справе гэта найбольш творчы, найбольш таямнічы, найбольш загадкавы час, калі людзі з тонкай псіхікай і багатай фантазіяй адчуваюць сябе нібыта рыба ў вадзе. Менавіта ўначы яны адчуваюць творчы заклік свайго падсвядомага.

> Ноч толькі здаецца страшнай: на самай справе гэта найбольш творчы, найбольш таямнічы, найбольш загадкавы час, калі людзі з тонкай псіхікай і багатай фантазіяй адчуваюць сябе нібыта рыба ў вадзе

## НОЧ ТОЛЬКІ ЗДАЕЦЦА СТРАШНАЙ

**С. Д.** — Пасля такіх разважанняў лёгка зрабіць выснову, што ноч у шырокім сэнсе — гэта інструмент «перафармаціравання» чалавека, найбольш удалая прастора для яго эвалюцыйнага станаўлення, ператварэння з біялагічнай адзінкі, якой некалі было камфортна днём, пры святле Сонца, займацца збіральніцтвам і паляваць, у «вобраз і падабенства божае», якога ноч не палохае ні магчымасцю нападзення драпежнікаў, ні страхам перад невядомасцю цемры. Цяпер ужо толькі гістарычная памяць, гэты ў пэўным сэнсе жывёльны фундамент прымушае нас баяцца цемры і трапятаць перад ноччу. Атавізмам, відавочна, ужо можна лічыць і так званыя цыркадныя рытмы, згодна з якімі, ноч — час для сну, бо, маўляў, толькі дзень існуе для актыўных дзеянняў. Але калі прагу творчасці разглядаць як выклік прыроднаму, біялагічнаму пачатку, то ці не азначае гэта ўсё, што чалавек даўно не той, каго прызвычаіліся называць homo sapiens? Ці можна гаварыць, што адбыўся пераход чалавека на новы ўзровень развіцця?

**А. С.** — Думаю, што так і ёсць. Новая фармацыя людзей ужо існуе, гэта несумненна. Дарэчы, згодна з даследаваннямі псіхолагаў, «соў» на свеце значна больш. Гэта звыклы лад жыцця, пры якім да станка або ў офіс трэба ісці зранку, прымушае людзей рабіцца «жаўрукамі». Чалавек, асабліва творчы, можа актыўна працаваць у любы час сутак. Ноч набывае ўсё большую ўладу над чалавецтвам, але гэта ні ў якім разе не ўлада сіл ліха. Чалавецтва заслужана атрымала ключ да несвядомага, таму што авалодала ім: навучылася творча перапрацоўваць яго змест. Вось так знік першабытны, ірацыянальны страх перад сіламі прыроды. Дарэчы, з дзяцей, якія на клопат сваім матулям часта блытаюць дзень з ноччу, вырастаюць, як сведчаць вынікі даследаванняў, найбольш творчыя асобы:

**Згадзіцеся, таму чалавеку, які працуе ў офісе з дзевяці да шасці і практычна ніколі не бачыць ночы, рэдка даводзіцца разважаць пра прыярытэты духоўнасці, прыгажосці і ўзвышанасці**

яны з маленства здольны рабіць выклік заведзеным парадкам, а гэта само па сабе — ужо праяўленне творчага патэнцыялу, дадзенага Госпадам па праве нараджэння. З пункта гледжання філосафаў, паэтаў і мастакоў ноч — найбольш прадуктыўны час. Па-першае, не ціснуць ніякія паўсядзённыя справы, а па-другое, свядомасць да некаторай ступені прыглушана: Сонца, якое яе сімвалізуе, схавалася за далягляд. Ноч — царства Месяца, а ён сімвалізуе душу. Дарэчы, калі летні сонцаварот супадае з Поўняй, тады адзначаецца Вялікі Купала. А ўвогуле, Поўня ва ўсіх культурах — японскай, кітайскай, індыйскай, старажытнаяўрэйскай — заўсёды была надзелена містычным арэолам. Нездарма ж вярхоўная жрыца друідаў Норма, галоўная гераіня аднайменнай оперы Беліні, сваю знакамітую арыю Casta Diva прысвячае менавіта Поўні. Не ўсе ведаюць, што ў перакладзе гэта гучыць не як Прачыстая Дзева, а як Прачыстая Багіня. Поўню друіды лічылі галоўным сваім боствам, а час яе ўладарання — містычным перыядам.

Калі мы ўжо загаварылі пра оперны жанр, хочацца ўспомніць геніяльную оперу Моцарта «Чароўная флейта», якую музыказнаўцы лічаць духоўным завяшчаннем кампазітара чалавецтву. Загадкавая, таямнічая, яна часам нават называецца масонскай. У ёй сапраўды шмат сімвалаў, з-за якіх яе нельга ўспрымаць як казку. Па яе сюжэце Царыца Ночы супрацьстаіць сілам розуму і святла. Здавалася б, яна ўвасабляе помсту, злобу і каварнасць. Але чамусьці дзве самыя шыкоўныя арыі, вельмі папулярныя і ў нашы дні, належаць менавіта гэтай гераіні. І ніхто з музыказнаўцаў не засяроджвае ўвагу на тым факце, што менавіта Царыца Ночы дае Прынцу, галоўнаму герою оперы, своеасабліваму сімвалу юнай асобы, якая імкнецца ісці шляхам самаактуалізацыі, тую самую чароўную флейту, што дапамагае яму прайсці праз усе выпрабаванні, атрымаць вышэйшае пасвячэнне ў Храме мудрасці і з'яднацца са сваёй каханай — дарэчы, дачкой той самай Царыцы. А што такое на самай справе чароўная флейта, якую нам дорыць Царыца Ночы, уладарка падсвядомага? На мой погляд, гэта ціхі ўнутраны голас, інтуіцыя. І сакральны сэнс оперы заключаны якраз у гэтым: спалучэнне розуму, рацыянальнага пачатку, і інтуіцыі, унутранага голасу, — вось што дазваляе нам дасягнуць сапраўднай мудрасці… Як бачыце, у чалавечай псіхіцы ўсё мае права на сваё прадстаўніцтва.

## УВАСАБЛЕННЕ ЗАДУМЫ

**С. Д.** — Вернемся да адвечнай барацьбы супрацьлегласцей. Дзень і ноч, інь і ян, мужчынскае і жаночае, цёмнае і светлае, халоднае і гарачае... Не было б дабра, то не было б і ліха. Урэшце, яно нам патрэбна як субстрат, будаўнічы матэрыял — каб было з чаго рабіць дабро.

**А. С.** — Так. Чалавек дзеліць свет на добрае і дрэннае, прычым мяжа паміж імі ў яго ўяўленні часам непераадольная. А на самай справе яна ўмоўная: адно ў адно заўсёды пранікае. Тут будуць да месца астралагічныя паралелі і карэляцыі. У астралогіі задыякальныя знакі і планеты таксама дзеляцца на іньскія і янскія, мужчынскія і жаночыя. Мужчынскія, дзённыя, янскія планеты — Сонца, Марс, Юпітэр. А так званыя іньскія, жаночыя, начныя планеты — гэта, як нескладана здагадацца, Месяц, а таксама Венера і Нептун (Сонца і Месяц у астралогіі лічаца планетамі. — **Рэд.**). Што датычыць Месяца, тут усё зразумела: ён уладар падсвядомага, нашага ўнутранага жыцця. Ён адказвае за эмацыйны статус, кіруе прылівамі і адлівамі — прычым, не толькі марскімі, але і тымі, што ствараюцца ў нашым унутраным, псіхалагічным, акіяне. Менавіта пад Месяцам, мы гаворым, існуе свет. Начная Венера — планета любові, прыгажосці, гармоніі, дасканаласці. Згадзіцеся, ніякая творчая дзейнасць без гэтых

паняццяў немагчыма. Містычная, загадкавая планета Нептун кіруе натхненнем, у пэўным сэнсе творчым азарэннем, мроямі, марамі, вытанчанай паэзіяй, высокімі ідэаламі, містычнымі пошукамі, снамі, тэрыторыяй духоўнасці ўвогуле. Каб адчуць тонкія вібрацыі гэтай дзіўнай планеты, прапаную паслухаць накцюрны Шапэна, у астралагічнай карце якога менавіта Нептун адыгрывае галоўную ролю. Дарэчы, само слова «накцюрн» паходзіць ад лацінскага nocturnus, што якраз і азначае «начны». Але ў сваіх негатыўных іпастасях Месяц, Венера і асабліва Нептун могуць адказваць за ілюзіі, часам нават галюцынацыі, змененыя станы свядомасці, а таксама за схільнасць да алкаголю і наркатычных рэчываў, падарожнічання без мэты, празмерную загадкавасць… Як мы ведаем, творчыя людзі часам маюць недаступную простаму смяротнаму душэўную арганізацыю. На іх, у адрозненне ад сярэднестатыстычнага чалавека, гэтыя планеты аказваюць вялікі ўплыў. Але згадзіцеся, таму чалавеку, які вядзе звычайнае жыццё, працуе ў офісе з дзевяці да шасці і практычна ніколі не бачыць ночы, рэдка даводзіцца разважаць пра прыярытэты духоўнасці, прыгажосці і ўзвышанасці: гэта ўсё ж удзел людзей крэатыўных.

Прадукт творчасці — гэта толькі ўвасабленне задумы. Самім жа творчым працэсам кіруюць падсвядомыя сілы. Ганна Ахматава, якая нарадзілася якраз у перыяд летняга сонцавароту, 23 чэрвеня, неаднаразова гаварыла, што не можа пісаць вершы па замове, «на выпадак»: яна была здольна толькі выкладаць тое, што давалася ёй зверху — і толькі тады, калі давалася. Творчым чалавекам валодае падсвядомае, у тым ліку і калектыўнае. Ноч — час, калі няма дзённай мітусні, бо Сонца, планета розуму і рацыянальнага светаўяўлення, хаваецца за гарызонт, а над галавой з’яўляецца зорнае неба, якое прымушае думаць пра вечнае. Успомнім Канта: «Дзве рэчы не перастаюць напаўняць маю душу здзіўленнем і захапленнем — зорнае неба нада мной і маральны закон унутры мяне». Магчыма, нават не ведаючы гэтага, вялікі філосаф правёў аналогію з вядомым астралагічным прынцыпам: што зверху, тое і ўнізе. Так, менавіта ноччу прачынаецца творчы пачатак…

**С. Д.** — Наталля Ільюшына, якой я захапляюся і як паэтам, і як чалавекам, гаварыла, што думкі, пачуцці і вобразы часцей наведваюць яе менавіта па начах. Яна нават называла гэты час «чарназёмным». Месяц, з яе пункта гледжання, — гэта perpetuum mobile паэзіі, а поўня — быццам цыферблат гадзінніка, бо пад яе ўздзеяннем душа, якая ў звычайны час абмежавана трыма вымярэннямі, набывае магчымасць перамяшчацца ў прасторы і часе. «Адразаючы ад асабістай плоці хвіліны і мінуты, Месяц прыадчыняе хвалюючыя таямніцы мінулага і пранікае ў нязведаныя глыбіні будучыні», — так яна піша ў прадмове да сваёй кнігі «Скрозь прызму ночы». Але і яна задаецца пытаннем: *«Что за безумные ночи! Благословенье ль, проклятье?»* Напэўна, ад маніхейства мы так і не адыдзем: закон адзінства і барацьбы супрацьлегласцей — гэта ўсё ж закон. Але гаворачы пра палярнасць свету ва ўсіх адносінах, мы тым самым ці не апраўдваем існаванне сатаны?

**А. С.** — Заўважце: закон не толькі барацьбы, але і адзінства. А што такое сатана? З пункта гледжання аналітычнай псіхалогіі — гэта ўвасабленне калектыўнага Ценю. На ўзроўні асобных людзей вінаватыя хто? Замежнікі, тыя, хто не так апранаецца, не так думае, дысідэнты, тыя, хто хоць якнебудзь адрозніваецца. На іх праецыруецца ўсё негатыўнае, ліхое, агрэсіўнае, што змяшчаецца ў душы асобнага чалавека і нейкай часткі грамадства. Сатана — гэта персанізацыя планетарнага Ценю. І не сатана на самай справе дрэнны, а людзі. Разбурэнне адбываецца не па ўказцы д’ябла — чалавек сам (няхай і не заўсёды свядома) робіць выбар, які потым рэалізуецца не так, як яму хочацца… Ці магу я тут дазволіць сабе зусім крамольную думку?

**С. Д.** — На Купалле можна і пацемрашаліць. Тым больш я ўпэўнена: нічога дрэннага вы не скажаце.

**А. С.** — Калі мы гаворым пра Бога і д’ябла, то часам прадстаўляем іх ледзь не як роўных «контрагентаў», што, на мой погляд, няправільна. Д’ябал — гэта паўшы

Атрымліваецца, што ліха — усяго толькі адсутнасць дабра. Калі няма святла, тады насоўваецца цемра

анёл, а значыць, стварэнне, якое па вызначэнні не можа быць вышэй за Творцу ці нават роўным Яму. Захацеў бы Гасподь — і д'ябал быў бы знішчаны ў адно імгненне. Элементарная логіка гаворыць пра гэта. Але Гасподзь чамусьці не знішчае д'ябла.

**С. Д.** — Існаванне яго выгодна, гэта ж відавочна. Гэтаксама як і існаване ліха як матэрыялу для вытворчасці дабра.

**А. С.** — Так, да некаторай ступені сатана як воўк у лесе — санітар. Выконвае важную ачышчальную функцыю. Для таго каб быў відавочны кантраст, каб мы бачылі, куды не трэба хадзіць і чаго не трэба рабіць. Толькі ці трэба абвінавачваць сатану? Чалавек павінен разумець, што выбар заўсёды робіць ён сам. І адказ павінен трымаць менавіта ён, а не міфічны дэман-спакуснік. Вось як я ўяўляю гэту касмаганічную гісторыю. У той час, калі існаваў Эдэм, першапачатковы рай, чалавек яшчэ не меў свядомасці. І быццам бы па ўказцы д'ябла зрабіў выбар, які не суаднosіўся з воляй Госпада. І быў выгнаны за гэта з раю. У Сваёй вялізнай міласці і, мяркую, валодаючы выдатным пачуццём гумару, Бог сказаў д'яблу: «Ты лічыш, што ты разумнейшы? Добра. Няхай будзе патвойму. Паспрабуй зрабіць так, як табе здаецца патрэбным: праўда, я дам табе на гэта толькі нейкі пэўны час». Такім чынам, у Бога — вечнасць, у чалавека — жыццё, у д'ябла — час.

**С. Д.** — Атрымліваецца, што ліха — усяго толькі адсутнасць дабра. Калі няма святла, тады насоўваецца цемра. Ноч — гэта толькі ад таго, што не свеціць сонца. Але ноччу свецяць месяц і зоркі. Сонца не дае нам убачыць зорнае неба над намі, і толькі ноччу мы напоўніцу адчуваем маральны закон унутры нас. І вось чаму мы не спім па начах, калі навярэджана сумленне...

## ЗНАЙСЦІ ПАПАРАЦЬ-КВЕТКУ

**С. Д.** — Дзень — гэта час адной зоркі: няхай і самай важнай, галоўнай для нас, але адной. Ноч — час мірыядаў зорак, а таксама Месяца. Ці не з-за гэтага днём мы засяроджаны на асабістых пытаннях, а ноччу здольны адчуваць ледзь не ўвесь боль сусвету? Хоць часам здараецца наадварот…

**А. С.** — Дзень — сапраўды эгацэнтрычны час, тады як ноч больш дэмакратычная. Ноч здымае многія абмежаванні і стэрэатыпы. Яна разнявольвае чалавека. Вось чаму ўсе — і дыянісійскія, і купальскія — містэрыі праходзілі менавіта ноччу. Дарэчы, скачкі праз агонь — што гэта як не сімвалічнае ачышчэнне ад усяго непатрэбнага, грахоўнага? Купальскае вогнішча сімвалізуе агонь, які палае ўнутры чалавека. А знакамітая папараць-кветка? Папаратнік не квітнее, яму не дадзена квітнець, вы як біёлаг гэта добра ведаеце.

**С. Д.** — Але ж усе шукаюць, і я таксама не супраць яе знайсці. Каб разгадаць усю тую сімволіку, якая закладзена ў традыцыю пошукаў гэтай славутай кветкі…

**А. С.** — Я паспрабую вам адказаць. На мой погляд, гэта кветка нашай душы. Набыць сваё сапраўднае ўнутранае Я — вось што такое знайсці папараць-кветку. Прыйсці з ім у кантакт, раскрыць боскую іскру, дасягнуць найвышэйшага ўзроўню самаактуалізацыі — таго, што Карл Густаў Юнг называў Індывідуацыяй. У гэтых адносінах Купалле можа лічыцца самым містычным, самым незвычайным часам года. Успомніце, купальскі тыдзень яшчэ называюць русалчыным. Цёмная, інфернальная істота, таямнічая русалка… На жаль, мы ў нашы дні амаль страцілі культуру карнавальных пераўвасабленняў. А гэта што? Усе апранаюцца, прыбіраюцца ў строі і маскі — для чаго? Каб немагчыма было нікога пазнаць. Надзеўшы карнавальную маску, мы здымаем Персону — маску паўсядзённасці, ці не так? Мы можам быць іншымі, пражыць у гэты прамежак часу тое жыццё, якім не жывём. І адыграць такім чынам нейкія

ценявыя аспекты сваёй асобы. Падчас карнавалу слуга робіцца гаспадаром і наадварот, і можна як заўгодна мяняцца ролямі, паводзіць сябе таксама як заўгодна — гэта не забараняецца. Дзякуючы такім інтэнсіўным перажываванням здымаецца тое псіхалагічнае напружанне, якое з намі кожны дзень, з якім мы вымушаны не жыць, а іграць тую ці іншую ролю. Людзі, згадзіцеся, атаясамліваюць свае жыцці з пасадамі, званнямі, імёнамі, прозвішчамі — тым, чым яны на самай справе не з'яўляюцца. А ўнутранае, сапраўднае, застаецца нераскрытым. І менавіта ў перыяд карнавалу можна дазволіць сабе быць сабою, выйсці з-пад дыктату свядомасці, якая патрабуе рабіць толькі так і не інакш.

**С. Д.** — Вось чаму Купалле будзе святкавацца заўсёды. І праз тысячу гадоў яно будзе не менш актуальным, чым сёння. Недзе ў глыбіні падсвядомасці мы па-ранейшаму язычнікі. Хоць гэта і не дзіўна, бо ў хрысціянства з язычніцтва перайшло многае. І лепшае. Хрысціянства, можна сказаць, вышывалася па канве язычніцтва: на кожнае свята першага прыпадае адпаведнае свята другога. А ў нашай роднай культуры ёсць яшчэ адно чароўнае супадзенне — прычым, на вякі: Купалле і Купала. Ці не скажаце вы як астролаг, што можна распавесці пра гараскоп Янкі Купалы?

**А. С.** — На жаль, час нараджэння Янкі Купалы мне невядомы, таму дакладны гараскоп скласці немагчыма. Гэта хутчэй будзе касмаграма. Да таго ж, я рызыкую апынуцца ў ролі нерадзівага вучня, які зазірнуў у канец задачніка і цяпер падганяе рашэнне пад адказ. Тым не менш, астралагічная карта гаворыць, што асоба гэта вельмі неардынарная. Дастаткова таго факта, што ўсе вышэйшыя планеты, планеты геніяльнасці, — Уран, Нептун і Плутон — праяўлены ў яго гараскопе даволі ярка. А значыць, ён знаходзіўся пад моцнай уладай калектыўнага падсвядомага і яму было дадзена выразіць яго змест. Гэты чалавек павінен быў адрозніваецца вялікай вынаходлівасцю: гарманічная канфігурацыя з удзелам Сонца, Урана і Нептуна надзяліла яго бліскучым інтэлектам, багатым уяўленнем, творчай фантазіяй, а таксама здольнасцю лавіць — і ўвасабляць — думкі, якія нібыта лунаюць у паветры. Акрамя гэтага, сувязь Месяца (а менавіта ён кіруе знакам Рака, пад якім нарадзіўся паэт) з Плутонам гаворыць пра эмацыйную насычанасць, нават перагружанасць. Ён не мог не ствараць, не выплёскваць таго, што ішло з глыбінь яго душы. І ў той жа час гэта быў тыповы прадстаўнік задыякальнага знака Рак: мяккі, чулы, эмацыянальна адкрыты, вельмі схільны да эмпатыі. Многія сучаснікі адзначалі, што лепшага суразмоўцу цяжка было нават сабе ўявіць. Але найбольш паказальным, на мой погляд, з'яўляецца ў яго карце дакладны квадрат паміж Венерай у Ільве і Нептунам у Цяльцы (гэта ўвогуле аспект паэтаў, мастакоў і кампазітараў). Мы гаварылі, што Месяц, Венера і Нептун — планеты іньскія, начныя. У касмаграме Янкі Купалы яны праяўлены ў найбольшай ступені. Нептун наогул можа лічыцца тут самай уплывовай планетай, як кажуць астролагі, «каралём аспектаў», бо ён мае сувязі амаль з усімі іншымі «фігурантамі» астралагічнай карты. Аспект паміж Венерай і Нептунам — знак артыстызму, узнёсласці і вытанчанага светаадчування. Янка Купала быў «архетыпічным» паэтам: тонкім, ранімым — і ў той жа час здольным да драматызацыі. Па ўспамінах сяброў, Іван Дамінікавіч быў вельмі артыстычнай натурай з неперажыўзыдзеным густам. Яму былі ўласцівы вытанчаныя манеры, можна сказаць, прыроджаная шляхетнасць. Але мы ведаем, што душэўныя зрывы і псіхалагічныя крызісы таксама мелі месца ў лёсе нашага вялікага паэта. У жыцці Янкі Купалы купальская містэрыя раскрылася ў поўнай меры, а яго ранні сыход звязаны менавіта з тым, што ён вельмі ярка гарэў. Гэта быў, канешне ж, вельмі адораны, таленавіты (а праз семдзесят гадоў пасля смерці можна смела сказаць — геніяльны) творца, сапраўды народны паэт. У яго была вялікая місія, якую ён, несумненна, адчуваў і, пераадолеўшы шмат складанасцей, урэшце выканаў.

*Запісала Святлана **ДЗЯНІСАВА***

Уладзімір СОДАЛЬ

# ЯК НА СВЕТ НАРАДЗІЎСЯ ЯНКА

## *ВАНДРОЎКІ ПА ВЯЗЫНЦЫ І ЯЕ НАВАКОЛЛІ*

Пра Янку Купалу, здаецца, мы ведаем усё ці амаль усё. А ці ўсё? На гэта пытанне мяне навёў мой сват. Неяк раз прыехаў ён са свайго дубровенскага лецішча, што паблізу Вязынкі, і кажа:

— От, Іліч! Ты Купалам цікавішся. А не так даўно я напаткаў унука тае бабкі, якая калісь бабіла Янку.

Неяк у тлуме розных клопатаў я быццам і не пачуў гэтай сенсацыі. Ва ўсялякім разе, не засяродзіўся на ёй. Не распытаў, адкуль тая бабка, як яе звалі. Не выказаў і памкненне сустрэцца з яе ўнукам. Праз нейкі час гаворка ў нас зноў зайшла пра гэтую сустрэчу і пра згаданую бабку, якая ў чэрвені 1882 года прыняла на свае рукі Ясіка Луцэвіча, перарэзала пупавіну і блаславіла яго з’яўленне на белы свет.

І тут я сцяміў: гэта ж сапраўды вельмі цікава. Мала хто ведае сваіх бабак-павітух. А тут сам Бог спрыяў, каб людзі ведалі імя той, якая прыняла на свае рукі дзіця, што пазней стане гонарам і славай Беларусі.

І я пачаў прасіць свайго свата, каб ён пры нагодзе даведаўся ад таго ўнука, найперш імя ягонай бабкі. А калі можна, дык і падрабязны расповед пра яе. І праз некаторы час патрэбную мне частку звестак я атрымаў. Прозвішча таго ўнука, які пахваліўся, што ягоная бабка прымала роды, — Мікола Мацюк. А імя бабкі-павітухі сват, пакуль ехаў, забыўся, вылецела з галавы. Але нічога, трэба толькі з гэтым унукам напаткацца самому, каб пачуць тое, чаго прагнуў.

Але вось якраз тое простае нечакана ператварылася ў доўгі і пакутлівы пошук.

Ужо год ці два Міколу Мацюка не бачылі на дубровенскіх лецішчах. І ніхто не ведае, як яго знайсці. Таму я наважыўся самастойна шукаць гэтага чалавека, а разам з тым падоўжыць свае роспыты пра вязынкаўскіх бабак-павітух з часоў народзінаў Янкі Купалы.

### ЗА ШЛАГБАЎМАМ

Вязынкай падчас народзінаў Яся Луцэвіча называлі фальварак пана Станіслава Замбжыцкага. Гэта быў досыць дабротны фальварак, гарманічна зладжаны з прыгожай навакольнай прыродай. З драўлянай забудоваю пры чыгунцы.



*Парабкова хатка, у якой нарадзіўся Яська Луцэвіч — Янка Купала. Фота Сяргея Плыткевіча.*

З 1972 года з нагоды дзевяностай гадавіны народзінаў Янкі Купалы назваю Вязынка аб’ядналі дзве суседнія з Вязынкай вёскі — Сяледчыцы і Гурнавічы.

Але хоць тром розным селішчам нададзены адзін назоў, ды кожнае з іх захавала сваё аблічча. У Вязынкі яно сваё, фальваркаўскае, сядзібнае.

Яшчэ адметнасць. Купалава Вязынка — запаведнік. Яе ад суседніх

вёсак аддзяляе чорна-белы паласаты шлагбаўм.

Ды завітаем жа за гэты шлагбаўм і пацікавімся, што за ім ведаюць пра нашага слыннага песняра.

Ці жыве ў суседніх з Вязынкай вёсках Купалаў дух?

Самая блізкая ад купалаўскай Вязынкі вёска Сяледчыцы. Тут, мне сказалі, калісь жыла вельмі спрактыкаваная бабка-павітуха Агатка Сай.

Пра яе нават у Купалавай энцыклапедыі згадваецца. Агатка Сай нарадзілася ў 1861 годзе.

На час народзінаў Янкі Купалы ёй было трошкі больш за дваццаць.



*Калыска Янкі Купалы — экспанат філіяла Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы ў Вязынцы.*

Ці магла яна быць Купалавай павітухай? Звычайна павітухі былі больш сталыя, спрактыкаваныя кабеты, сямейныя, якія самі нарадзілі і выгадавалі шмат дзяцей і мелі ўжо ўнукаў. Агатка Сай, як ужо згадвалася, на час народзяніў Яся Луцэвіча мела ўсяго дваццаць адзін год, і з гэтай прычыны яна не магла быць на тую пару павітухай. Магла быць нянькай, памочніцай Бянігны. Так яно, мусіць, і было.

Пра гэта і ў энцыклапедыі запісана.

Агатка, жывучы поблізу Луцэвічаў, забягала на якую гадзінку-другую да Бянігны, каб пагуляцца з малым: пагушкаць і самой пацешыцца.

Радасць жа якая — новы чалавек на белы свет нарадзіўся!

Гэту радасць мелі ўсе ў Вязынцы, хто сябраваў з Луцэвічамі, з кім яны былі ў суседстве.

Агатка Сай напраўду была бабкай-павітухай, але значна пазней, і досыць слыннай. Яе дачка, Юзэфа Сай, згадвае, што матуля «абслугоўвала» ўсю ваколіцу. Гукалі яе на разроды і з далёкіх, і з блізкіх вёсак. Яна ўсё ўмела рабіць з пэўным разуменнем. Ведала, напрыклад, як палегчыць пакуты жанчын пры родах: найперш трэба было ўсе, якія ёсць, вузлы развязаць, усе замкі разамкнуць. Ведала, як і на чым пупавіну аддзяліць, у што яе загарнуць, дзе закапаць, як з месцам абысціся. Пупавіну, дарэчы, закопвалі звычайна пад ганкам ці пад парогам, каб любіў свой дом, свой кут. Ведала трохі і народную медыцыну. Гэта была акушэрка-самавучка.

Першае купанне немаўляткі, першае спавіванне, абрад укладвання ў калыску — усё гэта было падуладна Агатцы Сай. Да сваіх парадзіх тры дні хадзіла пасля родаў, рабіла розную працу. На хрэсьбінах бабка-павітуха была першай асобай.

Пасля народзінаў Яські Луцэвічы нядоўга пажылі ў Вязынцы. А калі б пажылі даўжэй, Агатка Сай, несумненна, сталася б для Луцэвічаў той, якой сталася Арына Радзівонаўна для Пушкіна. Але для яе і той кароткі час, які выпаў пабыць нянькай пры Яську Луцэвічу, ганаровы.

* * *

...За кіламетраў пяць-шэсць на захад ад Купалавай Вязынкі вёска, а мо нават калісь і мястэчка, Повязынь. Назва гэтая, бясспрэчна, родная Вязынцы: Вязынка — Повязынь! Я і тут паспрабаваў пашукаць Купалавай прысутнасці і найперш пацікавіўся, ці былі ў Повязыні падчас народзінаў Янкі Купалы слынныя павітухі. Паводле слоў Яніны Бокун, такой павітухай была Мар'я Дварэцкая. Пражыла яна сто чатыры гады. Памерла дзесь у 1956—1957 гадах. Ніколі нічым не хварэла. Невысокая, спрытная. Праз яе рукі прайшла ўся повязынская малеча. Гукалі яе на разроды, вядома, і ў суседнія вёскі. Бабкі-павітухі былі паважаныя ў вёсках людзі. Амаль чарадзейкі.



*Маленькі Сяржук і тая самая студня. (Архіўнае фота).*

## КАЛЫХАНКІ

Луцэвічы, як ужо згадвалася, мала пажылі ў Вязынцы пасля нараджэння сына. Але менавіта тут будучы паэт пачуў першыя калыханкі-люлянкі, якія напявала яго матуля. А якія? Ці пацікавіліся гэтым нашы фалькларысты? Ці запісалі яны вязынкаўскія калыханкі? Каб сёння мы мелі такія запісы, ім цаны б не было. Неяк у Вязынцы хтосьці з бабулек наспяваў мне пару калыханак. Думаю, з нагоды дня нараджэння нашага слыннага Янкі Купалы будзе дарэчы іх тут згадаць.

* * *

А-а-а, люлі-люлі,
Прыляцелі куры.
Селі на вароцях
У чырвоных боцях.
Боты паспіхалі
І дзеткам аддалі,
Каб босыя не хадзілі
І курак не будзілі…

* * *

А-а-а, люлі-люлі,
Усе курачкі паснулі.
Адзін коцік не спіць, гуляе,
Ходзіць па плоце
У чырвоным капоце,
З дзеткамі размаўляе.
— Апсік, каток, пад масток,
Злаві рыбку за хвасток.
Зловіць рыбку за хвасток,
Сам яе ўкусе
І дзіцятку нясе…

Калі б нашы фалькларысты запісалі ўсе вязынкаўскія калыханкі ды калыханкі навакольных з Вязынкай вёсак і выдалі іх асобным томікам — гэта была б самая яскравая вязынкаўская старонка з жыцця Янкі Купалы.

## КАЛЫСКА

Кажуць: «Дарагі той куток, дзе рэзаны твой пупок». Для Янкі Купалы такім кутком сталася Вязынка. Дзесь пад парогам тае парабковай хаткі, дзе нарадзіўся Янка Купала, і прыкапана ягоная пупавінка. Вязынка — святы куток для ўсіх беларусаў. Менавіта ў Радашкаўскім парафіяльным касцёле будучага песняра ахрысцілі і месца ягоных народзінаў у касцельнай кнізе пазначылі. Вязынка — гэта першае Купалава касмічнае адчуванне радзімы. Пад павольнае гайданне вязынкаўскай калыскі маленькаму Янку нязмушана перадаваліся беларускія рытмы ягоных будучых песень-вершаў.

Гэта Купалава калыска прываблівае і ўражвае сучасных нашых дзяцей, якія ўжо гадаваліся ў камфортных калясках-вазках. Адзін з іх Сяржук Чылікін-Садэльскі:

Ездзіў у Вязынку я,  
Купалаву хатку бачыў  
І зусім не прадбачыў,  
Што калыску ягоную ўбачу,  
У якой маленькага Янку калыхалі-люлялі.  
У той калысцы і я б пагайдаўся,  
Мо б такім, як Купала, паэтам я стаўся…

## СТУДНЯ

Як каго, а мяне ў Вязынцы здаўна, нават і сам не ведаю чаму, прываблівае куточак ля сядзібнай студні. Кожны год, кожнага разу я з кніжным набыткам размяшчаюся тут, балазе гэтая студзенка, хутчэй за ўсё, дэкаратыўная, мае шчыльную накрыўку, прымацаваную да чатырохвянковай цемры, студнявага зруба на чатыры вянкі. Студня гэтая шмат пра што мне нагадвае, распавядае. У ёй, як і ў кожнай, я ў гэтым пераканаены, тоіцца шмат чаго загадкавага, нечаканага. Не адна легенда, не адно паданне. Толькі хто мне іх распавядзе? Можа хіба толькі сённяшні вязынскі экскурсавод. Можа яна штокольвек чула?

Я разумею: згаданая вязынская студня — гэта толькі імітацыя той даўнейшай студні. Зверху, як я згадваў, глухаватая, з невялікім акенцам, накрыўка. Пры студні і над ёй расце колькі старых клёнаў. Студня з почапам праз саху. Куточак пры студні рамантычны. Нездарма ж ён прываблівае шлюбныя пары. Яны тут ладзяць свае карагоды, гульні, забавы. Пра гэта згадвае апякунка вязынкаўскага філіяла купалаўскага музея Ірына Трутнёва. Паводле яе слоў, адсюль, ад імітаванай студні, вельмі хораша глядзіцца і парабкова хата з яе падворкам. І людзі, людская да яе плынь не аціхае ўвесь божы дзень.

Мой унучак, Сяржук Чылікін-Садэльскі, ля Вязынскай студні. Паглядзіце, які ён паэтычны, натхнёны, узнёслы. Ён ужо аўтар трох кніжачак. Адну з іх ён назваў «Кветка мая Беларусь». Усе згаданыя кніжачкі ён прычакаў у свае школьныя гады. Цяпер ён ужо студэнт.

## ГАСПОДА

Вязынка! Шмат разоў я тут быў, але кожнае наведванне акрэслівае штось новае, раней не заўважанае. От неяк раз угледзеў у экспазіцыі гожы драўляны дамок з белымі аканіцамі. Пры ганку таксама белыя, з драўляных круглячкоў, калоны. Пад здымкам подпіс: «Вязынкаўская сядзібная гаспода пана Замбжыцкага». Дамок гэты мне падаўся дужа зграбным. «Але які яго лёс?» — пацікавіўся я.

«У пяцідзясятыя гады яго разабралі і кудысьці перавезлі пад клуб, балазе дрэва было сухое, моцнае». «Навошта перавезлі? — пытаюся. — Хіба ён тут быў лішні?» «Не, не лішні, — кажуць мне, — але тады былі такія часы. Хацелі падкрэсліць сялянскае паходжанне Янкі Купалы, а тут побач такая панская гаспода. То пакінулі толькі хатку арандатара ды наймітаў, каб людзі спагадалі Луцэвічам, каб за Янкам Купалам замацавалася пралетарскае паходжанне. Тады такія павевы вельмі практыкаваліся…» Я абураюся: вязынкаўская сядзіба перажыла такое ліхалецце — вайну, пажары і іншую калатнечу, дачакалася мірнага часу — і на табе, знаходзіцца нейкі разумнік і разводзіць бедных з багатымі, а праўдзіва — разбурае вязынкаўскі сядзібны мемарыял, у якім нарадзіўся наш Прарок. І цяпер мы маем скажонае ўяўленне пра гэты кут. Я яшчэ ўглядаюся ў абрысы колішняй вязынкаўскай гасподы і цікаўлюся, дзе яна калісь красавалася ў Вязынцы. «А от адразу за свірнам



*Аўтар і Летка.*

на пагорку, дзе склеп. Гэта зусім блізка ад арандатаравай хаткі, у якой нарадзіўся Ясь Луцэвіч, дзе цяпер музейная экспазіцыя». З нагоды такіх удакладненняў зусім іншай мне паўстала Вязынка.

### ЭПІЛОГ-РАЗВЯЗКА

Вандруючы па Вязынцы і яе наваколлі, распытваючы пра вязынскіх павітух з часоў народзінаў Янкі Купалы, я з галавы не выпускаў Мікалая Мацюка. Ягоны расповед у перказе майго свата прагучаў для мяне прыцягальна, магічна і, здаецца, праўдзіва. Неяк, працуючы на лецішчы Ганны Чопкі, ён прынародна сказаў: «От на гэтым месцы, Галя, дзе цяпер ваша лецішча, жыў мой дзед з бабкаю. А бабка мая — слынная павітуха. Яна прыняла і Янку Купалу». Сказаў даверліва, з годнасцю, з гонарам за сваю бабульку, якой лёсіла прыняць на свае рукі пры народзінах таго, хто станецца славай і гонарам Беларусі.

Але ж дзе дзеўся гэты Мацюк? Дзе ён запрапасціўся? Які ўжо год яго не відаць у Дуброве. Праз пэўны час Бог паслаў мне чалавека, які таксама ведаў таго Мікалая. Ад яго я пачуў: «Мікалай гэты вось ужо колькі гадоў як змёр». От такая нечаканка, нікім не прадбачаная. А, здаецца, гэтак былі блізкія да ісціны. Няўжо цяпер мы зусім страцім магчымасць знайсці яе? Нехта ж з ягоных родзічаў таксама чуў згаданую сямейную сагу. Спадзяюся, агульнымі намаганнямі мы ўсё ж даведаемся імя бабулі, якая прымала роды 25-га чэрвеня 1882 года ў Бянігны Луцэвіч. Прынамсі, пасланы мне Богам чалавек таксама заклікаў мяне не адчайвацца: напытвацца і шукаць!

Кульмінацыяй майго даследу пра Купалаву бабку-павітуху сталіся словы Купалавай пляменніцы Ядвігі Раманоўскай. У юбілейныя Купалавы дні з тэлевізійнага экрана сёмага ліпеня я пачуў ад яе: «Бабка-павітуха, якая прымала дзіця, нібыта сказала, што па ўсіх яе прыкметах гэты хлопчык, як вырасце, будзе вялікім чалавекам». Аўтограф згаданых слоў Ядвіга Юліянаўна падаравала Літаратурнаму музею Янкі Купалы. Згаданыя словы гэтак сугучныя з маімі памкненнямі. Яна нібыта ўгадала сэнс маіх намаганняў.

Ірына КЛІМКОВІЧ

# «НА ГРАНАЙ НЯДЗЕЛІ РУСАЛКІ СЯДЗЕЛІ...»

***Хто яны — прывабныя вадзяныя німфы або падманутыя ў мінулым жыцці маладыя каханкі — дзяўчыны з трагічным лёсам, якія здзейснілі самагубства? Такія вобразы русалкі вельмі пашыраны ў масавай свядомасці пад уплывам мастацкай літаратуры і фальклору. Адны даследчыкі лічылі русалку духам вады, другія даводзілі, што яна — тапелец, трэція раілі звярнуць увагу на боскую сутнасць русалкі. Давайце і мы паспрабуем разабрацца з гэтым няпростым вобразам.***

## ЗВЫЧАЙНАЯ ЖАНЧЫНА З ВЯНКОМ НА ГАЛАВЕ

У навуцы няма адзінай думкі пра тое, што азначае слова «русалка». У наш час заведзена лічыць, што яно бярэ пачатак ад антычнага свята руж «rosalia», прысвечанага душам памерлых. Свята было прымеркавана да росквіту руж і прыпадала на канец вясны — пачатак лета. Падчас яго адбываліся ахвярапрынашэнні памерлым, памінальныя частаванні на могілках, упрыгожванне магіл вянкамі з руж і іншых кветак. Пазней грэка-рымскія русаліі прыйшлі разам з хрысціянствам да нас і зліліся з мясцовымі вясновалетнімі земляробчымі абрадамі. Аднак, магчыма, вобраз русалкі спрадвечна славянскі і дайшоў да нас з глыбокай старажытнасці. Паданні пра русалак зафіксаваны ў першых славянскіх рукапісах, пачынаючы з XI стагоддзя. Пазней, калі вобраз пашырыўся і нават ператварыўся ў архетып, іх пачалі называць не толькі русалкамі, але і вадзяніцамі, азярніцамі, купалкамі, начніцамі і нават казытухамі. Кажуць, нібыта русалка можа заказытаць чалавека да смерці.

Дзякуючы літаратуры XIX стагоддзя, мы бачым русалку маладой і прывабнай дзяўчынай у вяночку, часам у белым адзенні, а часам і аголеную, з доўгімі непрыбранымі валасамі. Так апісваюць русалку шматлікія павер'і і легенды. Асабліва ў тых мясцінах, дзе вераць, што ў русалак ператвараюцца памерлыя маладыя дзяўчыны. Палешукі лічаць, нібыта замест валасоў у іх рачная асака або водарасці, а цела амаль празрыстае, пяшчотнае з вялікімі пульхнымі грудзямі. А вось блакітныя або зялёныя вочы русалак не заўсёды можна ўбачыць: русалчын твар закрываюць валасы. Калі раптам усё ж давядзецца зазірнуць у іх, раяць як мага хутчэй адвесці погляд, бо вочы робяцца шклянымі і нерухомымі, як у нябожчыка, і быццам магніт прыцягваюць да сябе ахвяру.

Як бачым, русалка ў нашых краях выглядае амаль як чалавек, прынамсі, ніякага рыбінага хваста ў яе няма. Паўжанчыны-паўрыбы, пра якіх складаюць легенды заходнія еўрапейцы, да айчынных русалак дачынення не маюць. У вёсцы Стаўбун адна жанчына казала, што яна не толькі чула пра русалку, але і бачыла яе: *«Звычайная жанчына, з вянком на галаве. Аніякага хваста ў яе няма. Да рыбы зусім не падобная. Гэта ўсё выдумкі»*.

Аднак у народнай традыцыі сустракаецца і іншы вобраз русалкі — жахлівай, пачварнай, калматай, парослай поўсцю, гарбатай, з вялікім пузам і гострымі кіпцюрамі, апранутай у лахманы. У народзе яе яшчэ завуць расамахай. У расамаху, кажуць, ператвараюцца жанчыны, якія забілі свайго дзіцёнка, а самі патапіліся. Нярэдка русалак малююць з даўгімі абвіслымі грудзямі, часам нават жалезнымі, якімі яны забіваюць людзей. Такія русалкі, кажуць, хаваюцца ў жыце ці



*«Русалкі». Карціна І. М. Крамскога.*

*«Не хадзі да калодзезя, а тое русаўка зацягне»*. Верылі, што на дне вадаёма ў рачных німф ёсць жытло. Адны кажуць, што гэта нешта накшталт птушыных гнёздаў, другія распавядаюць пра прыгожыя палацы. І сапраўды, у былічках пра русалак іх часцей можна сустрэць каля вады: яны сядзяць на платах, берагавых камянях, мыюцца і расчэсваюць свае валасы касцяным або жалезным грабеньчыкам. Расчэсваючы мокрыя валасы цягам гадзіны, русалка можа вычасаць столькі вады, што затопіць вёску. Але варта русалцы заўважыць чалавека, як яна ўмомант дасць нырца.

Існуе шмат паданняў і легенд пра тое, што ў русалак ператвараюцца маладыя дзяўчаты-самагубкі, якія патапіліся з-за няшчаснага кахання або памерлі гвалтоўнай смерцю, не дажыўшы да замужжа. Тады ў абліччы русалкі нябожчыцы «дажываюць свой зямны тэрмін», а потым адбываецца іх натуральны скон. Пры гэтым русалкі маюць такі ж выгляд, характар, звычкі і густы, якія былі ў нябожчыц. Найбольш актыўныя з іх тыя, што загінулі незадаволенымі, з якім-небудзь нявыкананым жаданнем, або тыя, што пры жыцці былі неспакойнымі. Згодна з іншымі народнымі вераваннямі, русалкамі могуць стаць душы яшчэ не народжаных немаўлят, каго праклялі ў мацярынскім улонні, або народжаных мёртвымі, ці задушаных, утопленых адразу пасля нараджэння, або душы тых дзяцей, якія прапалі без вестак ці былі праклятыя бацькамі. Пры гэтым існавала ўпэўненасць, што душы мёртванароджаных або памерлых да хрышчэння немаўлят могуць усё ж атрымаць збавенне. Калі ім спаўняецца сем гадоў, яны выходзяць з вады ў паветра і жаласліва просяць, каб іх пахрысцілі. Калі хто, пачуўшы іх, прамовіць: *«Крэшчаю вас у імя Айца і Сына, і Святага Духа»*, то гэтыя душы ўзносяцца ў неба.

каноплях і не з голымі рукамі, а са ступой і таўкачом або з качаргой ці пранікам. Імі яны *«...забіваюць людзей або таўкуць іх у сваёй жалезнай ступе». «— Не ідзі ў жыта, бо Русаўка заказыча! — А чым яна, мамачка, заказыча? — Ля, у яе цыцкі жалезныя, шылаватыя, то імі дзеці на смерць заказытвае»*.

Прыведзеныя вышэй рысы русалкі даюць падставу казаць, што перад намі, безумоўна, дэманічная істота або сапраўдны нячысцік. А ці заўсёды гэты вобраз быў адмоўным?

## НЕПРЫКАЯНЫЯ ДУШЫ

Вядома, што русалкі большую частку года праводзяць у вадзе — рэках, азёрах, балотах, крыніцах і нават калодзежах. Некаторыя мяркуюць, што русалкі залазяць у рэкі з восені і жывуць там усю зіму. Пад Сёмуху яны выходзяць з вады і застаюцца на беразе на ўсё лета. Відавочна, што раней русалак успрымалі як рачных багінь накшталт грэчаскіх німф, якія вымагалі сабе ахвяр. Нездарма ж у многіх міфах і легендах русалка зацягвае ў ваду людзей усіх узростаў, а калі ёй гэта не ўдаецца, імкнецца ўсяляк нашкодзіць чалавеку. Каб маленькія дзеткі не падыходзілі да калодзежа, іх пужалі:

У старажытнасці верылі: усе тыя людзі, каго напаткала незвычайная і раптоўная смерць, з'яўляюцца *закладнымі* нябожчыкамі. Назва пайшла ад таго, што раней гэтых нябожчыкаў хавалі не ў зямлю, а адносілі падалей ад жытла ў яры, балоты, нізінныя і топкія мясціны, там іх закідвалі-закладалі галлём, ламаччам і мохам. Паводле народных уяўленняў, памерлых ліхой смерцю не прымае зямля, з іх атрымліваюцца «хадзячыя» або «нячыстыя» нябожчыкі, прывіды, крывасмокі, русалкі і іншыя нячысцікі. У хрысціянскія часы гэта вераванне яшчэ больш умацавалася, душы раптоўна памерлых лічыліся несупакоенымі, а таму і небяспечнымі. Яны, помсцячы, усяляк імкнуліся нашкодзіць жывым. Па новай жа рэлігіі ўсё адно мусіў адбыцца традыцыйны абрад пахавання з закопваннем цела ў зямлю. Але язычніцкія перакананні забараняялі нашым продкам хаваць такіх нябожчыкаў разам з усімі памерлымі. Таму іх доўгі час хавалі не на тэрыторыі могілак, а толькі паза агароджай. Лічылася, што калі пахаваць закладнога нябожчыка на асвечанай зямлі могілак, то прырода адкажа на такую абразу сухменем або маразамі, навальніцамі, неўраджаем, морам і іншымі жахамі. Гэты звычай існаваў даволі доўга. Яшчэ ў пачатку XX стагоддзя падчас сухменю ці неўраджаяў такіх нябожчыкаў выкопвалі з магіл і перахоўвалі ў яры ці балоце або проста кідалі ў раку ці возера.

І хаця пазней раптоўна памерлых пачалі хаваць на могілках, іх усё адно лічылі небяспечнымі, шкадлівымі і ўсяляк асцерагаліся. Як русалак. *«Русалкам пахавання не робілы, зарыюць і ўсё. І вось соваецца душа непрыкаяная...»* Не зведаўшы ў жыцці шчасця кахання і мацярынства, яны зайздросцяць закаханым парам, якія гуляюць каля рэчак, і палохаюць іх. Увогуле, сустрэча з русалкай небяспечная і амаль заўсёды заканчваецца для чалавека трагічна. Асабліва неабыякавыя русалкі да маладых хлопцаў. Быццам, помсцячы ім за сваё няспраўджанае зямное каханне, яны ўсяляк імкнуцца завабіць небараку да сябе ў вадаём і ў лепшым выпадку зрабіць сваім каханкам, а ў горшым — заласкатаць да смерці.

Каб задобрыць і ўлагодзіць такія несупакоеныя душы, трэба было выканаць спецыяльныя памінальныя абрады. Звычайна яны адбываліся на Сёмуху або Тройцу, пачыналіся недзе напрыканцы траўня і працягваліся да канца чэрвеня. Верылі, што менавіта ў гэты перыяд душы дзяўчат, якія ўтапіліся, і памерлых няхрышчанымі дзетак выходзяць на зямлю і цягам тыдня бавяцца там. Гэты тыдзень так і называюць у народным календары — русальны або «граная нядзеля».

## СУСТРЭЧА РУСАЛАК

Як сцвярджаюць навукоўцы, наведванне могілак на Тройцу ў палешукоў было больш трывалым, чым на Вялікдзень. Асаблівымі днямі ў гэты перыяд з'яўляліся пятніца і субота перад Тройцай, так званыя Траецкія Дзяды, калі ўласна і паміналі закладных



*Русалка прываблівае да сябе хлопца.*



*Свята «Русалкі» на Любаншчыне.*

Тройцу беларусы ўпрыгожваюць свае падворкі і дамы зялёнымі галінкамі. Раней жа падчас траецкіх святкаванняў такі абрад быў абавязковым. Зеляніну раскладвалі па падлозе, затыкалі ў шчылінах сцен як у хаце, так і ў гаспадарчых пабудовах, рабілі з яе вянкі, якімі ўпрыгожвалі не толькі сябе, але і накідвалі іх на рогі каровам, кідалі зялёнае галлё ў гарод, закопвалі маладыя дрэўцы бярозы ў двары каля хаты, пад вокнамі, пры ўваходзе, па кутах… Рабілі так, бо верылі: менавіта ў гэты час душы памерлых родзічаў, у тым ліку і нябожчыкаў. А на Чарнігаўшчыне так і казалі: *«Топленікаў, даўленікаў памінаюць на Траецкія Дзяды — самыя галоўныя»*. Існаваў і звычай тапіць лазню для памерлых на Тройцу. Несумненна, што менавіта ад гэтага звычаю з'явілася шмат народных паказак пра сустрэчу з русалкамі ў лазні. Гэтыя памінальныя звычаі былі абавязковымі для тых сем'яў, дзе нядаўна пахавалі незамужніх дачок. У такіх дамах перад Траецкай суботай пакідалі на сталах памінальную вячэру, вешалі на паркан вопратку, што належала памерлым. Апроч гэтага, існавалі шматлікія табу на жаночую працу: забаранялася шыць, прасці, бяліць хату, пячы хлеб, працаваць у гародзе. Нельга было купацца ў рэках. Усё гэта рабілася, каб не нашкодзіць русалкам, заручыцца іх падтрымкай у будучых справах і, натуральна, каб самім не стаць іх ахвярамі. Калі не выказаць такім памерлым патрэбнай пашаны і павагі, яны былі здатны наслаць непагадзь, сапсаваць будучы ўраджай і ўвогуле нанесці непапраўныя страты людзям.

На думку навукоўцаў, сёмушныя святы былі вельмі важнымі для нашых продкаў і залежалі ад прыродных з'яў, у першую чаргу ад часу з'яўлення лісця на культавых дрэвах. Такімі лічыліся бяроза, дуб, клён, ліпа, рабіна і іншыя. Яшчэ і сёння на

русалкі, наведваюцца ў хату і хаваюцца ў прынесенай зеляніне, быццам адпачываючы там.

Але самым галоўным дрэвам на Тройцу была бяроза. У гэтыя дні ссечаная маладая бярозка павінна была стаяць перад кожным акном сялянскай хаты. А ссякалі яе як правіла дзяўчыны і маладыя жанчыны. Толькі перад гэтым яны павінны былі выканаць абрад *«завівання бярозкі»*. Дзеля гэтага ў чацвер траецкага тыдня яны ішлі ў лес і выбіралі самае прыгожае дрэўца, упрыгожвалі яго, завівалі на галінках вянкі або прыгіналі галінкі да зямлі, пераплятaлі іх з травою. А потым выконвалі абрад *кумавання*: разбіваліся па парах і праходзілі пад бярозавымі аркамі, абдымаліся, цалаваліся, пасля чаго сядалі пад дрэва і частаваліся абрадавай стравай, вадзілі карагоды, варажылі. Такім чынам, бярозавыя гаі ў гэты перыяд рабіліся свайго роду месцам духоўнай ініцыяцыі дзяўчат передшлюбнага ўзросту. Абрад завівання вянкоў на бярозе ў некаторых мясцінах Беларусі называлі *«сустрэчай русалак»*. У русальных песнях беларусаў бяроза — любімае месца баўлення часу і для русалак: яны таксама плятуць вянкі з яе галінак або гушкаюцца на іх. *«Сядзела*

*русалка // На белай бярозе. // Касу расплятала. // Дзяцей напужала».* Любяць русалкі вадзіць карагоды — там, дзе яны танчаць, трава вырастае буйнейшая.

## ПРОВАДЫ РУСАЛКІ

Калі тыдзень ушанавання русалак падыходзіў да канца, канчаўся тэрмін іх знаходжання сярод жывых, ім даводзілася пакінуць зямлю і вярнуцца на той свет. Русалкі сыходзілі ў ваду, на могілкі, у зямлю на жытнім полі або ў лес — праз тыя каналы, якімі і з'яўляліся ў свеце жывых. Таму ў канцы Русальнага тыдня ладзілі спецыяльны абрад *«провады русалкі»*, падчас якога гэту незвычайную істоту ўрачыста праводзілі за межы вёскі. Абрад быў досыць разнастайны, у кожнай мясцовасці меў свае асаблівасці, але заўсёды здзяйсняўся пасля заходу сонца і выключна жанчынамі. Звычайна ў кожнай вёсцы на ролю русалкі выбіралі маладую прывабную дзяўчыну з даўгімі валасамі. Усе ўдзельнікі абраду, у тым ліку і русалка, апраналіся ў белае адзенне, на галовах — вянкі. Русалку з ног да галавы ўпрыгожвалі зялёнымі галінкамі, кветкамі і вянком з папараці. Каб не было бачна твару, ёй распускалі валасы: так яна больш нагадвала істоту з таго свету. Часам на яе нацягвалі драную вопратку, выпацканую сажай, часам яна быццам ехала на качарзе з памялом у руцэ. У некаторых вёсках выкарыстоўвалі русалку-пудзіла — яе рабілі з ануч і саломы і апраналі ў жаночую вопратку. Часам гэта была ссечаная бярозка, апранутая як дзяўчына, упрыгожаная кветкамі і стужкамі. Тады тое пудзіла або дрэўца напрыканцы абраду *«палілі»,* або *«тапілі»,* або *«закопвалі-хавалі»*.

Удзельнікі «провадаў русалкі» ўрачыстым шэсцем праходзілі праз усю вёску: яно суправаджалася спевамі, барабанным боем у дошкі і засланкі, а завяршалася выдаленнем русалкі за межы паселішча. Яе заводзілі ў жытняе поле, лес або да ракі, возера, здымалі з яе вянок, разрывалі на ёй адзенне і збягалі. «Русалка» пляскала ў ладкі і рабіла выгляд, нібыта кідаецца ў пагоню, хоча злавіць каго-небудзь з удзельнікаў. Калі замест дзяўчыны-русалкі было пудзіла, яго, разарваўшы на кавалкі, спальвалі на вогнішчы, пры гэтым вадзілі карагоды і спявалі: *«Правадзілі мы русалачку, правадзілі // Каб яна да нас не хадзіла, // Ды нашага жыта не ламіла, // Ды нашых дзяўчынак не лавіла».* Верылі, што пасля праведзенага абраду русалкі ўжо не патурбуюць людзей да наступнага года.

Разам з «провадамі русалкі» трэба было знішчыць усю павялую траецкую зеляніну, якой былі ўпрыгожаны сялянскія падворкі, бо яна сімвалізавала саміх русалак. У некаторых рэгіёнах Беларусі яе спальвалі або на купальскім вогнішчы, або зносілі ў глухія балоцістыя мясціны, пускалі па вадзе, закідвалі на дрэвы. Зрэшты, ва ўсе тыя мясціны, дзе некалі хавалі заўчасна памерлых, і адкуль прыйшлі іх душы, і куды, як верылі, яны павінны вярнуцца напрыканцы Русальнага тыдня. На Берасцейшчыне



*Карагод вакол ссечанай бярозкі. (Архіўнае фота).*



*«Сядзела русалка... на белай бярозе».*

засохлую зяляніну прыбіралі з хаты праз тыдзень пасля Тройцы, *«а тое на ёй русалка будзе сядзець»*. На Гомельшчыне пра бярозку, якую спальвалі па заканчэнні свята, казалі, што гэта *«русалку паляць»*. Рэшткі зяляніны захоўвалі надалей у якасці абярэгаў ад шкодных сіл або для лекавых мэт, варожбаў.

## ХТО ЯНЫ, АРХАІЧНЫЯ ДЗЕВЫ ПЛОДНАСЦІ?

Узнікае пытанне: каго ці што сімвалізавала таямнічая істота? Ужо даўно некаторыя ўспрымаюць русалак як інкарнацыю душ заўчасна памерлых у дрэвы і расліны. На іх думку, расліны — адна з форм замагільнага існавання такіх памерлых. Сюды стасуецца і тэорыя пра закладных нябожчыкаў. Менавіта ў вясноваа-летні час русалкі — маладыя нябожчыцы — актывізуюцца, таму што іх душы, так бы мовіць, «прарастаюць» у раслінах. Гэта падобна да агульнаіндаеўрапейскіх архаічных вераванняў пра вясновае абуджэнне душ памерлых, якія вяртаюцца да жыцця разам з першымі палявымі кветкамі, пяшчотнай руннню і квеценню на дрэвах.

Тое, што русалак можна сустрэць на жытніх або канапляных палетках, у народзе тлумачылі па-рознаму. Адны лічылі, нібыта русалкі ахоўваюць жыта менавіта ў той час, калі яно квітнее, сочаць, каб ніхто не ламіў каласкоў, а іх танцы ў каноплях або жыце спрыяюць добраму ўраджаю. Разам з тым яны могуць нашкодзіць гаспадарам, якія парушылі табу і працавалі на свята. Тады яны вытоптваюць пасевы, «высушваюць» іх, аб'ядаюць зерне, насылаюць на палі залевы і град. На Берасцейшчыне казалі: «*Па жыце вона ходзіць: каму зародзіць добрэ, а каму — ніяк, знічтажае жыта»*. Як і іншыя нябожчыкі, якія памерлі заўчаснай смерцю, русалкі могуць кіраваць прыроднымі стыхіямі і атмасфернымі працэсамі: насылаць непагадзь, сухмень або дождж. У аграрным грамадстве ад наяўнасці вады залежыць само жыццё. Розныя магічныя дзеянні русалак кшталту гушкання на галінах дрэў спрыялі павелічэнню ўраджаю, а расчэсванне імі валасоў азначала вызваленне вільгаці. Таксама вядома, што на рытуальных ігрышчах падчас Русальнага тыдня жанчыны пераапраналіся ў русалак і выконвалі танец урадлівасці.

Аналізуючы ўвесь комплекс сёмушнатраецкіх абрадаў, міфы, паданні і павер'і пра русалак, можна прыйсці да высновы, што гэтыя звышнатуральныя істоты былі для нашых продкаў сімвалам найвышэйшага росквіту прыроды, культу ўрадлівасці і ўраджайнасці. Русалкі, якія з'яўляюцца на зямлі ў перыяд напружання ўсіх яе сіл, падчас вясновага росквіту зяляніны і паспявання збажыны, былі ва ўяўленні нашых прашчураў духамі прыроды, звязанымі з жыватворнай для расліннасці вільгаццю — сілай

**За нараджэннем заўсёды ідзе смерць — усё на Зямлі падпарадкоўваецца гэтаму закону**

вады. На пачатку лета гэтыя духі быццам з'яўляюцца з вады, зямлі, расліннасці, а потым у іх жа і сыходзяць. Можна сказаць, што русалкі — архаічныя дзевы пладаноснай прыроды і жыватворнай вільгаці, апекуны расліннасці і пасеваў.

## НАШЧАДКІ ВЯЛІКАЙ БАГІНІ

Такім чынам, ва ўяўленнях славян русалкі з'яўляюцца, па-першае, істотамі, звязанымі з духамі вады; па-другое, міфалагічнымі персанажамі культу ўрадлівасці; па-трэцяе, шкоднымі стварэннямі, набліжанымі да наўяў — ажылых нябожчыкаў.

Але ўсе гэтыя істоты адносяцца да ніжэйшай міфалогіі і маюць у асноўным адмоўныя рысы, якія сфарміраваліся ўжо ў хрысціянскія часы. Цалкам магчыма, што яшчэ ў пракаветныя часы, часы матрыярхату, калі людзі жылі родавым ладам, яны верылі ў адзінае і ўсемагутнае жаночае боства — Вялікую Багіню. Гэта самы старажытны міфалагічны вобраз — вобраз Маці, якая нараджае людзей і ўсе сілы прыроды. З часам кожная такая сіла ўспрымалася асобным боствам. Спачатку Вялікая Багіня асацыіравалася са спрадвечнымі водамі — сусветным акіянам. Пазней прыняла зямны аспект і стала Багіняй Урадлівасці, якая адказвала за пладнасць жывых істот і ўрадлівасць раслін, за прыродныя катаклізмы: навальніцы, залевы, паводкі, сухмень. З надыходам патрыярхату Вялікая Багіня адышла на другі план і ў розных вобразах стала выконваць ролю жонкі чарговага мужчынскага бога, ад якога была ва ўсім залежная. Шмат якія рысы яе магутнасці і непаўторнасці перайшлі на яго. Але нават сёння Вялікая Багіня ўсё яшчэ існуе як архетып у калектыўным падсвядомым. Цяпер яна, як у крывым люстэрку, адлюстроўваецца ў шматлікіх істотах ніжэйшай міфалогіі, да якіх належаць і русалкі.

Безумоўна, што Вялікую Багіню ўшаноўвалі як Стваральніцу і як Разбуральніцу. Яно і зразумела, за нараджэннем заўсёды ідзе смерць — усё на Зямлі падпарадкоўваецца гэтаму закону. Узгадайце саламянае або зробленае з ануч пудзіла русалкі, якое знішчалі падчас вясёлых вясновых свят, прысвечаных вегетатыўным сілам прыроды. Цікава, што

**А тое, што некаторыя беларускія русалкі маюць вялікія грудзі, часам жалезныя, таксама тлумачыцца**

падобнае пудзіла, якое беларусы рабілі на Купалле і якое таксама спальвалі або разрывалі на кавалкі, называлася Марэна або Мара. У некаторых мясцінах яго яшчэ называлі Мажанай. Таксама вядома, што ў міфалогіі беларусаў і некаторых славян існуе багіня з такім імем, якая ўвасабляла смерць і пагібель. Так, чэшская Марана атаясамлівалася з грэчаскай Гекатай — багіняй цемры, начных прывідаў і чарадзейства. У глыбокія паганскія часы гэтае боства вымагала ахвяр, у тым ліку і чалавечых, асабліва падчас войнаў і стыхійных бедстваў. Водгаласам гэтых старажытных абрадаў ахвярапрынашэння і з'яўляецца знішчэнне саламянай лялькі Марэны як сімвала той самай ахвяры, прысвечанай боству. Не выключана, што русалкі не самагубкі і выпадковыя тапельцы, а наўмысна ўтопленыя ахвяры боству пладнасці,



*Упрыгожванне хаты майскай зелянінай.*



*Палеалітычная «Венера».*

якіх пазней, у больш цывілізаваныя часы, замянілі на ляльку або пудзіла.

Магчыма, таму амаль ва ўсіх міфах пра русалак гэтая істота выступае такой злоснай і крыважэрнай, яна імкнецца адпомсціць і нашкодзіць людзям або звесці іх у тагасвет. А тое, што некаторыя беларускія русалкі маюць вялікія грудзі, часам жалезныя, таксама тлумачыцца. Пры раскопках стаянак палеаліту індаеўрапейскай цывілізацыі і ў іншых месцах былі знойдзены шматлікія жаночыя фігуркі багінь-парадзіх. Усе так званыя палеалітычныя «Венеры» мелі перабольшаныя дзетародныя органы. І гэта невыпадкова. Адна з першых функцый кожнай рэлігіі — абарона і падтрымка жыцця. Таму такую важную ролю ва ўсіх старажытных цывілізацыях мелі абрады ўрадлівасці. Каб гэта падкрэсліць, выява Багіні-Маці вельмі часта мела непамерна вялікі бюст. Натуральна, што раней Вялікая Багіня мела некалькі іпастасей. Як і кожная жанчына, яна сімвалізавала маладосць і росквіт, перыяд мацярынства і старасць. Таму невыпадковыя ў нашым фальклоры сустрэчы са старой і непрывабнай русалкай, пра якую мы пісалі вышэй.

Бясспрэчна, што ўвесь комплекс святочных рытуалаў напрыканцы вясны — пачатку лета з’яўляецца водгаласам старажытных абрадаў ушанавання магутных прыродных сіл, якія некалі належалі Вялікай Багіні і абуджаліся ў гэты час. Невыпадковымі з’яўляюцца і маніпуляцыі з бярозай. Гэтае дрэва заўсёды асацыіравалася з жаночымі боствамі, а маладая бяроза акумулявала ў сабе магічную энергію ўрадлівасці, якая неабходна ўсім жывым істотам і раслінам. Пра гэта сведчыць і звычай у некаторых рэгіёнах Беларусі закопваць сярод жытняга поля маладую бярозку, ссечаную на Тройцу. Абрад «провады русалак» нагадвае пра абрад провадаў боства прыроды, якое штогод памірае і штогод уваскрасае.

Пляценне вянкоў — звязванне галінак у кола і ваджэнне карагодаў — гэта сімвалічнае адлюстраванне кругавароту прыроды ў яе бясконцым адраджэнні ад смерці-звядання да нараджэння-красавання. Нездарма ў Сёмушных і Траецкіх абрадах удзельнічаюць у асноўным жанчыны, а галоўная роля адводзіцца дзяўчатам шлюбнага ўзросту і маладым жанчынам, якія ўжо нарадзілі, але здольны доўжыць жыццё роду. Такая традыцыя мае глыбокія і старажытныя карані: здаўна ў абрадах ушанавання боставаў урадлівасці ўдзельнічалі дзяўчаты. Яны заўсёды з’яўляліся «жрыцамі» Вялікай Багіні. У розных народаў яна мела розныя імёны: Кібела — у шумераў, Дземетра — у грэкаў, Веста — у рымлян, Ізіда — у егіпцян. А як называлі яе нашы продкі?

Прайшлі тысячагоддзі, і сёння мы можам толькі здагадвацца. Гэта магла быць і Марэна, і Мокаш, і Лада... Ясна адно: багіня мела няпростую прыроду і магла злучаць свет жывых са светам памерлых, чым і падтрымлівала сусветны парадак. Ва ўсялякім разе, у гэта верылі нашы продкі, таму і праводзілі на пачатку лета спрадвечныя абрады ўшанавання магутных сіл прыроды. З часам сутнасць абрадаў змянілася, але іх складанасць і супярэчлівасць нарадзіла ў народнай фантазіі самы складаны і супярэчлівы вобраз нашай міфалогіі — вобраз русалкі. Вобраз, які спалучае ў сабе істоту дэманічную, небяспечную і разам з тым вабіць зазірнуць у яе загадкавы свет.

Леанід ЛАЎРЭШ

# ТАЯМНІЧЫЯ ЗАМКІ ЛІДЧЫНЫ

## ЛІДСКАЯ ДАЙНАВА

Пасля таго, як быў знойдзены палац у Востраве, дзе па версіі Тэадора Нарбута было заключана знакамітае Востраўскае пагадненне 1392 года, мяне зацікавіў яшчэ адзін аб'ект каля Ліды, таксама ў старой балцкай Дайнаве, за некалькі кіламетраў на поўдзень ад Вострава.

Вялікі знаўца нашай гісторыі Адам Кіркор у «Живописной России» пісаў, што Ліда была сталіцай удзельнага княства і з'яўляецца старажытным паселішчам на мяжы ўласна Літвы і дайнаўцаў. Горад адыграў значную ролю ў гістарычных лёсах нашай дзяржавы. Кіркор лічыў, што каля Ліды магло існаваць умацаванне, а князь Гедымін ужо потым пабудаваў там замак. У кнізе «Черты из истории и жизни Литовского народа» Кіркор дапаўняе гэтую інфармацыю звесткамі пра Дайнаўскі замак, а ў заўвагах да тэксту дае вельмі цікавую інфармацыю: *«Дайнава на захад ад Ліды за 10 вёрст (вярста = 1,0668 км —* **Л. Л.***), паблізу ракі Дзітва, зараз маёнтак. Тут існаваў замак, сляды якога бачныя і цяпер у розных паглыбленнях сажалак, у грабах (дрэвах —* **Л. Л.***), якія нідзе паблізу не растуць, у камені вялізарных памераў, на якім па паданні каралі смерцю злачынцаў. Камень гэты называецца і цяпер у простага люду "кабылай" і, мяркуючы па яго месцазнаходжанні, верагодна, ляжаў на плошчы супраць палаца. Княства Дайнаўскае межавала з цяперашнімі паветамі: Гарадзенскім, Навагрудскім і Ашмянскім»*. Інфармацыя пра Дайнаўскі замак (палац) не была падмацавана пісьмовымі крыніцамі, і таму ў сур'ёзнай навуковай працы «Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX Археологического съезда. 1893» нічога не пішацца пра замак, а толькі пра былое паселішча, і ўказваецца на крыніцу інфармацыі — народную памяць.

Самы выбітны лідскі гісторык і краязнаўца XX стагоддзя Міхал Шымялевіч напісаў пра тое, як закончыўся лёс гэтага сакральнага для паганцаў каменя: *«Пры вёсцы Бельск за 6 вёрст ад Ліды на полі ляжаў велізарны камень, які звалі "Кабыла". Па паданні на гэтым камені каралі даўней злачынцаў. Магчыма, што тут у старажытнасці збіраліся копныя суды. Камень пабіты мулярамі на пачатку 1905 года»*.

Неабходна адзначыць, што Тэадор Нарбут таксама лакалізуе Дайнаўскае княства ў Лідскім павеце *«за левым (лідскім —* **Л. Л.***) берагам ракі Дзітва»* і лічыць лідскі населены пункт Дайнава, які знаходзіцца паміж Мыто і Лідай, цэнтрам княства, пра што піша ў сваіх «Дзеях...». Аднак агульнага меркавання пра лакалізацыю Дайнавы няма. Можна прыгадаць меркаванне польскага гісторыка-медыевіста Генрыка Лаўмянскага, які на падставе лакалізацыі тапонімаў граматы Міндоўга 1259 года зрабіў выснову, што Дайнаўская зямля знаходзілася паміж Мазурскімі азёрамі і ракой Бебжа, ці расейскага гісторыка Мікалая Барсава, які лічыў, што яна знаходзілася ў міжрэччы Верхняга Нёмана і Віліі. У другім томе энцыклапедыі «Вялікае Княства Літоўскае» Валерый Пазднякоў пакінуў пытанне лакалізацыі Дайнаўскага княства адкрытым.

* * *

Святыя камяні былі, напэўна, самым распаўсюджаным аб'ектам пакланення ў насельніцтва Еўропы ва ўсе часы існавання дахрысціянскіх культаў. Пакаранне смерцю на камені павінна мець карані ў балцкай міфалогіі. Звычайна камяні з назвамі



*Дайнаўскія сажалкі —
сведкі старажытнага замка і сакральнага каменя.
(Архіўнае фота).*

нараджэння), раззлаваўшыся, ужываў прымаўку: *«Адсяку галаву, як курыцы на Дайнаўскім камені»*. Ён жа, выкарыстоўваючы розныя гаспадарчыя прылады з сасны ці елкі, часта казаў: *«Вось у нас растуць грабы, якіх больш нідзе няма, вось гэта дрэва! Мацнейшае за дуб!»* Ядвіга Іосіфаўна памятае, што калі ёй было некалькі гадкоў, яе маці Міхаліна (1912 года нараджэння) расказвала казку, у якой людзі танцавалі на вялікім Дайнаўскім камені, але, на жаль, сюжэт гэтай казкі забылася. Яна распавяла, што стары панскі дом знаходзіўся паміж вёскамі Дайнава і Бельскія на выгане. Рэшткі сажалак захаваліся да нашага часу.

«кабыла», «кравец», «шавец» — гэта грубыя валуны аморфнай формы з неапрацаванай паверхняй. Тое, што валуны размяшчаліся ў паніжаных, забалочаных мясцінах, паблізу вады, і запісаныя народныя паданні, пацвярджаюць, што гэты від культавых камянёў у міфалогіі звязваўся з тытанічным боствам, якое магло ўвасабляцца ў вобразе вала або, зрэдку, каня ці змея. Пасля прыняцця хрысціянства ў народнай свядомасці гэта боства трансфармавалася ў чорта. Засталіся сляды людскога ўшанавання камянёў: знакі на іх, сляды ахвяраванняў каля іх, уключэнне камянёў у структуру больш складаных і буйных сакральных комплексаў. Шмат народных паданняў сведчыць пра «сямействы» сакральных камянёў. І нашая дайнаўская «кабыла» не была адзінокай. Да сённяшняга часу захаваўся яе напарнік — камень даўжынёй 2,45 м, шырынёй 1,8 м і вышынёй над паверхняй зямлі 1,15 м. Зверху на гэтым валуне маецца 13 выразных лунак і некалькі меркаваных. Дыяметр лунак 5-7 см, глыбіня — 1-3 см.

Вера ў цудоўную моц камянёў захавалася да нашых дзён. Спадзеючыся на краязнаўчую ўдачу, я пачаў шукаць сведак, якія захавалі паданні пра дайнаўскі камень. Такім сведкам стала Ядвіга Паўлюкевіч, 1940 года нараджэння, былая жыхарка вёскі Заполле, што ў двух кіламетрах ад былога маёнтка Дайнава. Яна расказала, што яе бацька, Іосіф Казіміравіч (1910 года

* * *

Засталося выехаць і знайсці месца легендарнага Дайнаўскага палаца, што і было зроблена напрыканцы траўня.

Ядвіга Паўлюкевіч паказала падвышэнне, дзе стаяў панскі дом Сангіноў, уся сям’я якіх з’ехала з Дайнавы прыкладна ў 1938 годзе. У першай палове XIX стагоддзя панскі двор, дзе ляжаў камень «Кабыла», належаў гаспадарам Брадоўскім (Brodowski, герба Лада). На расейскай тапаграфічнай мапе сярэдзіны XIX стагоддзя гэты фальварак названы Мазораўшчызнай (на польскай мапе 1929 года — Мазураўшчызна).

Пасля Другой сусветнай вайны ў панскім доме паслядоўна месціліся школа, сельсавет, медыцынскі пункт і дзесьці да канца 60-х гадоў панскі дом быў разбураны. Цяпер на яго месцы стаіць дом фермера, а на месцы фальварка — вялікая фермерская гаспадарка з жылым домам і гаспадарчымі пабудовамі. З паўночна-заходняга боку ад былога панскага дома захаваліся сажалкі з бачнымі яшчэ землянымі валамі. Грабаў, канешне, ужо няма. Сучасны гаспадар гэтай зямлі, фермер, і не здагадваецца, што ягоная гаспадарка стаіць на месцы, пра якое пісаў Адам Кіркор. Але нават калі Дайнаўскі замак не больш, чым легенда, гэтае месца вартае таго, каб трапіць у турыстычныя даведнікі.

## РАДУНЬСКІ ЗАМАК

Самы таямнічы аб'ект для мяне на Лідчыне — Радуньскі замак. Да нашага часу захаваліся велічныя валы. Вось яны і ўражваюць.

Першым пра Радуньскі замак напісаў Міхал Балінскі. Трошкі інфармацыі можна знайсці ў працах дырэктара Віленскага музея старажытнасцей пры канцы XIX — на пачатку XX стагоддзя Фёдара Пакроўскага. Пісалі пра замак Вандалін Шукевіч, Фрыда Гурэвіч, Георгій Штыхаў, Леанід Побаль і іншыя. Інфармацыя ёсць і ў энцыклапедыі «Вялікае Княства Літоўскае». Аднак яе, на дзіва, няшмат. Вось практычна ўсё, што ўдалося знайсці.

Балінскі ў 3-м томе сваёй «Старажытнай Польшчы» піша: *«За чвэрць мілі* (2 км — **Л. Л.**) *ад мястэчка* (Радунь — **Л. Л.**)*, на разлеглым пляцы, каля вёскі Гарадзішча ляжыць вялікі вал, і хаця месцічы называюць яго шведскім, ягоны выгляд і назва вёскі каля яго падказваюць, што гэта старажытнае гарадзішча з часоў да уніі (*Люблінскай — **Л. Л.**)».

Заснавальнік археалогіі нашага краю Вандалін Шукевіч пісаў пра Радуньскае замчышча як пра адно са старажытных гарадзішчаў паўночнай Лідчыны: *«У гэтым кутку Лідскага павету ёсць некалькі мясцовасцяў, званых народам: маякі, шведскія акопы, замчышчы і замкі каралевы Боны. Так, напрыклад, каля мястэчка Эйшышкі ёсць гарадзішча, вядомае пад назвай Маяк, другое, званае шведскімі акопамі, ляжыць у наваколлі мястэчка Радунь, пры вёсцы Гарадзішча, трэцяе на беразе возера Пеляса, пры вёсцы Дубічы носіць назву замка каралевы Боны. Чацвёртае, якое знаходзіцца на палях маёнтка Чапялюны (Каняўской воласці), і пятае паблізу фальварка Каняўка (той жа воласці), называюць пілекальніс (гарадзішча)».* Шостае гарадзішча паўночнай Лідчыны паводле Шукевіча — «замак каралевы Боны» на беразе возера Ула паблізу вёскі Рудня.

*«Гарадзішча каля Эйшышак ляжыць пры зліцці дзвюх рэчак, на паўночным беразе шырокіх балотаў. Валы яго, насыпаныя на раўніне, уяўляюць амаль правільны чатырохкутнік ... вышыні валоў 5 сажняў ... роў вакол валоў, мае 8 сажняў шырыні і 5 глыбіні ... Гарадзішча каля мястэчка Радунь ляжыць ... на беразе шырокага балота, акружанага многімі рэчкамі. Валы насыпаны на раўніне ў чатырохвугольнік. Больш дакладных звестак пра гэта гарадзішча не маецца. ... «Пілекальніс» (замчышча) паблізу фальварка Чапялюны, ляжыць на правым беразе рэчкі Асупка. Само гарадзішча, г. зн. сляды валоў, знаходзіцца на версе натуральнай горкі, да 18 сажняў вышынёй. Валы насыпаны ў два канцэнтрычныя кругі, з якіх унутраны мае 20, а знешні 22 сажні ў дыяметры».* Дадам, што Фрыда Гурэвіч пра гарадзішча ў Эйшышках пісала: *«У паўночна-ўсходнім куце маецца вежа 20 м дыяметрам, сцяна вежы з камянёў. Рэшта каменнай кладкі прасочваецца ў паўдзённай частцы вала».*

У 1890 годзе Шукевіч праводзіў пробныя раскопкі паблізу фальварка Чапялюны. Знайшоў абгарэлыя камяні, пабітыя косткі жывёл, аскепкі грубага глінянага посуду, выдатна адпаліраваны бронзавы кельт (сякеру). Археолаг прыйшоў да высновы, што *«беручы пад увагу малы памер ... гэтага гарадзішча, сляды агню... рэшткі жывёл... гара гэтая была месцам, дзе прыносіліся крывавыя ахвяры».* Верагодна, Радуньскі замак не быў адзінокі — ён адзін з многіх у гэтым рэгіёне.



*Валы радуньскага замка. (Архіўнае фота).*

А цяпер я падсумую ўсю інфармацыю, якая ёсць пра Радуньскі замак.

Рэшткі замка знаходзяцца на ўзвышшы сярод забалочанай мясцовасці на беразе ракі Радунька каля вёскі Гарадзішча сучаснага Воранаўскага раёна. Валы чатырохвугольныя, памерам 85х60 м, пляцоўка замка паднята на вышыню да 8 м над далінай ракі, валы маюць вышыню 3-5 м. Валы абкружана ровам глыбінёй 2,5-3 м і шырынёй 6-8 м, памеры рова, верагодна, вызначаны падчас раскопак, бо ўжо ў XIX стагоддзі роў быў практычна засыпаны. У паўднёва-ўсходнім вугле валоў да нашага часу бачны ўваход, там месцілася ўязная вежа-брама з пад'ёмным мостам. Гісторыкі лічылі, што аснову замкавай абароны складаў комплекс драўляна-земляных умацаванняў: вал, сцены-агароджа, вежы. Раскопкі паказваць, што замак мае культурны пласт у 0,4-0,5 м. Фёдар Пакроўскі пісаў, што *«унутры вала, па кутах гарадзішча маюцца невысокія ўзвышэнні, відаць, — рэшткі былых пабудоў, што пацвярджаецца таксама багаццем тут цагляных і кафляных абломкаў. Падчас нядаўняга разворвання гарадзішча былі знойдзены згубленыя цяпер старадаўнія манеты, піка і асаблівай формы жалезная сякера, якая знаходзіцца да гэтага часу ў вёсцы Юцюны»*. Энцыклапедыя ВКЛ удакладняе, што археолагамі была знойдзена кераміка XIV—XVII стагоддзяў, паліваная і тэракотавая кафля, жалезныя наканечнікі дзід, сякера, манеты XV—XVII стагоддзяў і іншае.

У XIV—XVII стагоддзях замак быў велікакняскай маёмасцю. Пакроўскі піша, што паводле народнага падання, пераказанага тутэйшым настаўнікам, у Радуньскім замку нейкі час жыла каралева Бона. Як было напісана вышэй, на поўначы Лідскага павета было некалькі «замкаў каралевы Боны». Вандалін Шукевіч адзначаў: *«"Замак каралевы Боны" ў Дубічах цяпер невялікі ўзгорак, акружаны валам. Ён узвышаецца на паўднёва-заходнім беразе возера і ракі Пеляса. Нарбут у сваёй "Гісторыі літоўскага народа" выказвае меркаванне, што ў гэтым месцы стаяў паляўнічы палац вялікага князя Вітаўта. Сапраўды, пры праведзеных мною тут раскопках знайшліся перагарэлыя бэлькі, цэгла старадаўняй формы, шмат смецця, вугалю і попелу. Усё дно ракі ў гэтым месцы таксама засыпана смеццем. Кажуць, што нават ляжыць там гармата, якую быццам бы ў ясныя дні рыбаловы бачылі некалькі разоў. Каля "замка" праходзіла дарога — здаецца, з Гародні ў Вільню — і на рацэ быў мост на дубовых палях, сляды якіх існуюць дагэтуль. ... пра "замак каралевы Боны", на беразе возера Ула, паблізу вёскі Рудня — ...дакладных звестак не маю»*.

Можна выказаць здагадку, што замкі, якія да пачатку XVIII стагоддзя лічыліся «замкамі каралевы Боны», пасля Паўночнай вайны сталі называцца шведскімі валамі (акопамі). З усяго комплексу гарадзішчаў на поўначы былога Лідскага павета на сучаснай тэрыторыі Беларусі знаходзіцца толькі Радуньскі замак. Тым большую гістарычную каштоўнасць ён мае.

Неабходна дадаць, што адзін з лепшых знаўцаў гісторыі Лідчыны, заснавальнік краёвай археалогіі Вандалін Шукевіч лічыў, што так званы замак Боны ў Радуні — гэта былы двор старасты, які застаўся з часоў, калі яшчэ існавала Радуньскае староства.

*Міхась КАРПЕЧАНКА*

# ЗААЗЕРСКІ «СТОЎНХЭНДЖ»

***Калі чалавек доўгі час жыве на адным месцы, бачыць вакол сябе адны і тыя ж краявіды, то перастае здзіўляцца. Ён не заўважае адметнасць наваколля — свайго асяродку пражывання. У такіх выпадках кажуць: «Замулілася вока».***

***Неяк адзін з вяскоўцаў зусім выпадкова, як бы між іншым, абмовіўся пра загадкавыыя валуны, што зарастаюць мохам у лесе. Сёння пра Заазерскі «Стоўнхэндж» не чуў хіба што глухі ды лянівы.***

* * *

Гэты комплекс камянёў «Стоўнхэнджам» ахрысцілі ўсюдыісныя журналісты. Па аналогіі з вядомым брытанскім помнікам, згадваючы пры гэтым наступныя радкі «Аўтабіяграфіі» пісьменніка і краязнаўца Міколы Целеша (1900—1974), які нарадзіўся і вырас у бялыніцкай вёсцы Заазер’е: «*...гэта невялікая вёска, сярод пушчаў і балот, на так званым Вітаўтавым шляху: Вільня, Маладзечна, Барысаў, Магілёў. У мінулым тут было аседле досыць вялікае. Аб гэтым сведчыць, апроч іншага, непамерна вялікі могільнік; на ім былі пахаванні ад XII, а можа й ранейшых стагодзьдзяў... Ад тых часоў “на Замку” каля возера, за кіламетр ад сучаснага Заазер’я, застаўся старажытны могільнік, зарослы ўжо густым лесам. Бываючы ў Заазер’і, я любіў заглянуць сюды: шатром (па чатыры) тут стаялі магутныя, у два й больш метры вышыні, камяні...*»

Прамінула з таго часу, пра які згадвае Мікола Целеш, больш як восем дзясяткаў гадоў з дзікунскімі, разбуральнымі перыядамі бязбожніцтва і няўвагі да культуры продкаў... Магутныя камяні-валуны зніклі. Самае велічнае з таго, што можна пабачыць цяпер, — вялікі каменны чатырохканцовы крыж з выяваю воўчай мызы ў пасярод-крыжжы. Ён прыцягвае ўвагу адразу — памерам, увагнутасцю паверхні, адмыслова выробленымі бакавымі перакладзінамі, якія нагадваюць рукі, што як бы хочуць ахінуць-абняць прастору перад сабой. Чалавек, прытуліўшыся да паўсферы крыжа і заплюснуўшы вочы, адразу пачынае адчуваць сваю злітнасць з ім. Складваецца такое ўражанне, што крыж адцягвае з вас адмоўную энергію, перадаючы яе на сасну, якая расце побач. Яна ўся на дзіва вузлаватая, кручаная-перакручаная, хоць астатнія дрэвы роўныя і гонкія, без прыкмет хваробы. У маёй прысутнасці, можа, з сотню чалавек станавіліся, прыхінаючыся спінаю, да крыжа, і ўсе казалі пра адчуванне злітнасці з ім і нейкую заспакоенасць.

Побач з крыжам у няпэўным парадку, бессістэмна, але напаўсферай, параскідана некалькі недапрацаваных каменных крыжоў, каля трох дзясяткаў валуноў. Многія з іх маюць ізатэрычную форму — паўсфера, куб, пласціна. Адзін нагадвае рыцарскі шалом... Некаторыя з камянёў выклікаюць зрокавыя асацыяцыі: можна ўбачыць твар чалавека, які пільна сочыць за валунамі, або галаву савы...

На паасобных камянях высечаны дванаццаці-, шасці- і чатырохканцовыя крыжыкі, стрэлка, галінка, трохкутнікі.

Найбольшую цікаўнасць выклікае валун у форме пласціны, што ляжыць на заходняй мяжы комплексу, амаль насупраць крыжа з воўчай мызаю. На ім выбіта антрапаморфная выява — «крыж-чалавечак», злева — яго



*Таямнічы крыж-волат.*

копія ў паменшаным маштабе, а над ёй фрагмент «кратаў» і нейкія іншыя знакі. Валун-пласціна можа быць фрагментам магутнага крыжа ці іншай невядомай цяпер канструкцыі. Расчытаць гэтае «пасланне далёкіх прашчураў» пакуль не ўдалося. Але выказваецца думка, што выява можа перадаваць касмалагічныя ўяўленні насельніцтва, якое жыло тут да ўзнікнення хрысціянства.

* * *

На комплексе знаходзяцца тры валуны, падобныя да следавікоў, што імітуюць абутую ступню чалавека. Цікава, што сляды на гэтых камянях не падобны адзін да аднаго ні памерамі, ні формай. І размешчаны яны па вяршынях уяўнага трохкутніка. Два следавікі знаходзяцца па краях умоўнага ўваходу на комплекс, утвараючы своеасаблівую браму. Не вядома, ці яны наўмысна пакладзены ў такім парадку, і ён праз стагоддзі захаваўся, ці такое іх размяшчэнне пазнейшае. Пра большасць следавікоў занатаваны легенды, якія зводзяцца да таго, што даўней камяні былі мяккімі, і жывёла ці птушка, людзі пакідалі на іх сляды, або гэта пакінулі на валунах свае сляды Хрыстос ці Багародзіца, калі хадзілі па зямлі. Вада са слядоў на камянях лічыцца гаючай. Падчас шматлікіх апытанняў старых заазерцаў аніводзін з іх не згадаў, каб яны ці іхнія бацькі-дзяды-прадзеды звярталіся па дапамогу да следавікоў. Відавочна, што заазерскія следавікі не ўспрымаюцца мясцовым насельніцтвам як прошча.

Яшчэ і сёння навукоўцы не прыйшлі да адзінай і пераканаўчай высновы, што такое гэтыя следавікі, калі, чаму і як яны з'явіліся. Мяркуецца, што культ іх узнік у бронзавым веку. А шведскі археолаг Бертыл Альмгрэн лічыў, што ў другой палове II тысячагоддзя да нашай эры існавала строгая забарона на стварэнне выявы боствaў. А зварот да нябачнага Бога прымушаў чалавека шукаць сляды ягонай бачнай прысутнасці. Паводле гэтага шведскага археолага, так і з'явіліся на камянях божыя сляды.

Пра Заазерскі комплекс валуноў неаднаразова распавядалася са старонак рэспубліканскай прэсы, сюжэты пра іх паказалі, бадай, усе тэлеканалы краіны. Нягледзячы на павялічаную да яго цікаўнасць, пакуль няма адзінага меркавання, што гэта такое: паганскае капішча, сярэднявечнае пахаванне, дахрысціянская «абсерваторыя» ці штосьці іншае?

* * *

Дацэнт кафедры геаграфіі і аховы прыроды Магілёўскага дзяржуніверсітэта імя А. Куляшова Ігар Шаруха перакананы, што Заазерскі «Стоўнхэндж» — паганскае капішча. «Камяні маглі стаяць у пэўным парадку, — тлумачыць географ, — у тым ліку і для назірання за сонцам, месяцам, зоркамі, каб “весці” каляндар. Кажучы спрошчана, калі сонца ўваходзіла ў зеніт, па падзенні самага кароткага ценю на працягу ўсяго года вызначаўся дзень летняга сонцавароту. Ад яго вялі адлік часу, вызначалі, калі якое свята. Аднак малаверагодна, каб такі вялікі крыж зрабілі дзеля адной мэты — вылічэння часу».

*Яшчэ адзін выкладчык МДУ імя А. Куляшова, доктар гістарычных навук Ігар Марзалюк сцвярджае, што «Заазерскі “Стоўнхэндж” нішто іншае, як грунтовы могільнік эпохі Сярэднявечча. А той вялікі крыж мне падаецца звычайным прыкладам, магільным каменем, своеасаблівым помні-*

*кам. Заазерскія камяні звязаны з эпохай хрысціянізацыі, на што ўказвае самы вялікі высечаны крыж. Апроч гэтага, на некаторых валунах выбіты класічныя для праваслаўнай традыцыі шасціканцовыя крыжы. Гэта, вядома, вельмі цікавы помнік. Але на капішча ён не падобны. Тым больш, што тут прысутнічае хрысціянская сімволіка».*

Беларускі археолаг Людміла Дучыц заўважае: *«Калі ўявіць, што некалі камяні сталі ў пэўным парадку, яны маглі адлюстроўваць нябесныя свяцілы з мэтай вядзення календара. Калі сыходзіць з напісаных літар на некаторых валунах вакол волата-крыжа, можна меркаваць, што камяні і крыж — грунтовы могільнік эпохі Сярэднявечча... Сам крыж-волат мог азначаць усыпальніцу роду, быць цэнтральнай магілай, і там хавалі, хутчэй за ўсё, шляхту. А можна аб'ядноўваць гэтыя тэорыі. Для прыкладу, камяні апрацавалі язычнікі, а затым іх скарысталі хрысціяне...»*

Вядомы факт: на некаторых бялыніцкіх могілках напрыканцы XIX стагоддзя ставіліся родавыя камяні, на якіх быў высечаны ўласны знак роду. Камень мусіў пазначаць на могілках тэрыторыю пахавання яго прадстаўнікоў. У прыватнасці, на могілках неіснуючай ужо вёскі Сныткі адзін з такіх камянёў мае акруглапірамідальную форму памерам 60х40 сантыметраў. На адным баку яго выбіты трохкутнік і адна за адной дзве стралы над ім. Валун і цяпер ляжыць, увесь зарослы мохам, пры ўваходзе на могілкі.

Разважаючы пра Заазерскі комплекс камянёў, трэба мець на ўвазе, што большая частка цяперашняга Эсьмонскага сельсавета, у складзе якога і вёска Заазер'е, ад XVII і да сярэдзіны 20-х гадоў XX стагоддзя з'яўлялася складовай часткай Забаброўскай воласці Барысаўскага староства, а потым і павета, гэта значыць была Міншчынай. Менавіта тут, на цяперашнім азёрна-балоціста-лясным сумежжы Бялыніцкага і Круглянскага (Магілёўшчына), Бярэзінскага і Крупскага (Мінская вобласць) раёнаў і сканцэнтравана найбольшая колькасць такіх помнікаў. Для прыкладу, побач з недалёкай (у добрае надвор'е чуваць, як нават пеўні спяваюць) ад Заазер'я вёскі Сомры, што на Крупшчыне, знаходзіцца Змееў камень. Паданне сцвярджае, што некалі тут жыў Змяіны цар, які на Дабравешчанне і Узвіжанне «ператвараўся» ў прыгожага юнака-музыку. На гукі яго дуды, забыўшыся на ўсе справы і клопат, збягаліся людзі. Яны знікалі з дударом перад самым заходам сонца. Таму мясцовыя жыхары і па сёння раяць не хадзіць у лес на гэтыя святы.

У тых жа мясцінах да нядаўняга часу ляжаў і валун «Божае крэсла». Камень перавезлі ў Крупкі і паставілі каля раённага краязнаўчага музея. Навошта было крата́ць яго з вякамі наседжанага месца?

* * *

У недалёкай ад Заазер'я вёсцы Майск (Бялыніцкі раён) побач з сучаснымі могілкамі захаваліся старадаўнія — з каменнымі крыжамі і валунамі паўсферычнай формы. І тут знаходзім некалькі ўнікальных помнікаў. На адной з пліт можна пабачыць высечаны крыж, побач з ім — схематычную выяву птушкі, паўмесяц і нейкі знак, што аддалена нагадвае літару «э». На іншых выбіты хвалістыя лініі, «краты», незразумелыя, быццам рунічныя, знакі суседнічаюць з кірылічнымі літарамі, чатырох- і шасціканцовымі крыжамі. Тут жа напаўляжыць, уросшы ў зямлю па «грудзі», каменны крыж, які ўяўляе найбольшую цікаўнасць і, думаецца, навуковую каштоўнасць. Ён літаральна спярэшчаны сімваламі і паасобнымі літарамі кірылічнага алфавіта. Майскі крыж мае вышыню прыкладна паўтара метра. Папярочная перакладзіна кароткая, але шырокая — ці не на трацiну вертыкальнага бруса.

Цэнтральнае месца ў кампазіцыі надпісаў належыць высечанаму шасціканцоваму крыжу на падстаўцы, па абодва бакі ад якога выбіта спалучэнне літар ИС і ХС. Яны, як вядома, чытаюцца — Ісус Хрыстос. Бліжэй да зямлі, бачым знакі — «краты», стрэлачкі, літары «ъ», «ь», «р», «и», «N» і іншыя.

Загадка заключаецца і ў тым, чаму на адным крыжы выразаны знакі, сімвалы і

**Некаторыя з камянёў выклікаюць зрокавыя асацыяцыі: можна ўбачыць твар чалавека, які пільна сочыць за валунамі, або галаву савы...**

літары, характэрныя для розных эпох. Яшчэ адзін валун пазначаны выявай «парасона» з воссю, што з'яўляецца сведчаннем балцкай прысутнасці. А менавіта гэта традыцыя на Магілёўшчыне зусім не вывучана. Заўважу, што старадаўнія пахаванні на Майскіх могілках маюць заходнюю арыентацыю, а сучасныя, якія размешчаны побач, у некаторых выпадках нават і на іх, — усходнюю. Мажліва, на старых пахаваннях прасочваецца калі не сама балцкая традыцыя, то яе ўплыў.

* * *

Прыкладна за кіламетр на поўдзень ад Заазерскага комплексу валуноў па дарозе да вёскі Мажаны (Крупскі раён) знаходзіўся яшчэ адзін каменны крыж, у сяродкрыжжы якога, па сведчанні заазерскага настаўніка-пенсіянера Пятра Ціхановіча, быў выбіты дванаццаціканцовы крыж, які называецца яшчэ «вогненны крыж», «крыж багіні Марэны» (іншае імя яе — Мажана). Побач з ім стаялі дзве адмысловыя бярозы. Спалучэнне крыжа і бяроз валодала звышнатуральнай сілай: сюды, па ўспамінах настаўніка, яшчэ ў 60-я гады прамінулага стагоддзя прыходзілі жанчыны, каб атрымаць магчымасць стаць маці. Каменны крыж скралі на самым пачатку III тысячагоддзя — цяпер на тым месцы, дзе ён некалі стаяў, засталася яміна. Пазалетась нарыхтоўшчыкі драўніны знішчылі і ўнікальныя бярозы.

Распавядаюць, што бяздзетная жанчына, выпраўляючыся да бяроз, павінна была ўзяць з сабою чыстае адзенне. Потым на каленях тройчы абыходзіла крыж і столькі ж разоў пралазіла праз «рагаткі» ці «вілачкі» гэтых дрэў. Пераапраналася ў прынесенае адзенне, а тое, у якім прыйшла, развешвала на галінках бяроз.

На Заазерскім комплексе камянёў на двух валунах выбіты дванаццаціканцовы крыжык.

Вядома, што гэты ж самы знак знаходзіўся на «грудзях» скрадзенага крыжа, які стаяў каля цудадзейных бяроз. А непадалёку працякае рэчка Можа і знаходзіцца вёска Мажаны, паблізу захаваліся адзіночны курган і тры курганныя могільнікі эпохі Старажытнай Русі з 2, 41 і 110 насыпамі, а таксама гарадзішча ранняга жалезнага веку. Хочацца думаць, што гэта мясцовасць у паганскія часы была звязана з сакральным культам багіні Мажаны. Культ яе, здаецца, быў даволі-такі пашыраны на Магілёўшчыне ажно да канца XIX стагоддзя. Прынамсі, у той час этнограф Сяргей Максімаў на Дняпры і яго прытоках толькі пад Магілёвам адшукаў пяць былых капішчаў Мары.

* * *

Мажана-Марэна-Мара ўваходзіла ў лік самых старажытных боствaў індаеўрапейцаў. Яны захавалася ў свядомасці жыхароў Прыбалтыйскіх краін, Польшчы, Скандынавіі, Англіі, Сербіі, Чэхіі, Італіі і шэрагу іншых. Першапачаткова ўяўлялася багіняй смерці, хвароб, холаду, зімы, ночы, цемры, чорнай магіі і лютасці. Усходнеславянскія язычнікі бачылі ў ёй дачку самога Сварога, лічылі жонкай Кашчэя, Вялеса. У Мажаны было некалькі дзяцей, найбольш вядомыя з іх — Крыўда, Мста, Карна, Жэля, Угамона...

Ахвяраванне ёй выконвалася на скрыжаванні дарог. Ахвяравалі моркву, рыбу, бараніну, рэпу, кісель, мёд, ялавічыну, кветкі, кашу, печыва, віно, караняплоды, аладкі, рознакаляровыя стужкі — апошнія трансфармаваліся з часам, як варыянт, у адзенне, што развешвалася на галінах дзвюх заазерскіх бяроз.

Многія этнографы і фалькларысты лічаць, што напачатку Марэна апекавалася замагільным светам, потым спрыяла працягу роду чалавечага, дапамагала жанчынам — на памяць адразу ж прыходзяць цудадзейныя бярозы ў Заазер'і.

Паводле скіфскіх легенд, пераказаных Герадотам, ад сувязі Дажджбога і Марэны нарадзіўся Славен. Апошнім нашчадкам гэтага старадаўняга роду славянскіх князёў з'яўляўся Гостамысл. Міф распавядае, што, з'яўляючыся жонкай Дажджбога

**Існуе сцверджанне,
што Мара жыве на могілках.
Чорным ценем
у нядобры час яна з'яўляецца
перад чалавекам
і пачынае душыць яго**

Сварожыча, Марэна сустрэла Кашчэя, у вобліку якога перад ёй з'явіўся Чарнабог, і закахалася ў яго. Неўзабаве Чарнабог скраў яе з Ірыю Нябеснага, а Дажджбога, які выправіўся за імі ў пагоню, завабіў у пастку і, разбіўшы ягоную сонечную калясніцу, скінуў на зямлю. Кашчэй прапанаваў Дажджбогу выбар: альбо яму назаўсёды знікнуць у наві (свеце памерлых), пазбавіўшы зямлю сонца, альбо аказацца распятым на Сусветным Дрэве. І кроў яго, сцякаючы па ствале, будзе ўмацоўваць сілы насельнікаў падзямелля. У такім разе Чарнабог паабяцаў адрамантаваць сонечную калясніцу і, прымацаваўшы да яе сонечны дыск, зноў пусціць па небе. Дажджбог Сварожыч пагадзіўся на другі варыянт. На трэці дзень пасля распяцця Род Усётрымальнік уваскрэсіў Дажджбога і загадаў Белабогу аднавіць раўнавагу ў свеце і падтрымліваць яе заўсёды. Ад таго часу Чарнабог і Марэна валадараць у падземным свеце.

Латышскі этнограф Гунціс Эніньш, які адшукаў і апісаў старажытныя наскальныя магічныя знакі ведуноў, прыводзіць сведчанне адной латгальскай сялянкі пра тое, што на камені Мары ў час летняга сонцавароту, калі гулялі вяселлі, змацоўваўся шлюб. Маладых урачыста падводзілі да гэтага старога валуна і выбівалі на ім знак багіні — дванаццаціканцовы крыж.

Як сведчаць этнографы, у беларускай дэманалогіі таксама захаваліся рэшткі першаснай сутнасці старажытнай Марэны-Мажаны. Яна ўяўляецца жанчынай, якая здатна прымаць самае рознае аблічча. Найчасцей ператвараецца ў пярэстую кабылу, аднак можа прымаць выгляд і іншай жывёлы. У яе застылы, змяіны позірк. Існуе таксама сцверджанне, што Мара жыве на могілках. Чорным ценем у нядобры час яна з'яўляецца перад чалавекам і пачынае душыць яго. Сустрэча з Мажанай нічога добрага чалавеку не абяцае: ён або захварэе, або сканае.

У фальклорных матэрыялах, сабраных на Бялыніччыне, — у вершах, песнях і абрадах, запісаных ад жыхароў вёсак Эсьмонскага сельсавета, на жаль, багіня Мажана (Мара, Марэна) не прыгадваецца. Аднак у сувязі з гэтым хочацца працытаваць выснову акадэміка Барыса Рыбакова: *«Калі зняць налёт хрысціянскага з імя Мар'я, то перад намі з'явіцца шырока распаўсюджанае ў славянскім свеце найменне персанажа веснавой аграрна-магічнай абраднасці — Марэна».*



*Загадкавы майскі крыж з выявай шасціканцовіка багіні Мажаны.*

Што ж да тапонімаў *«Можа»* і *«Мажаны»,* то яны могуць указваць і на забалочаную мясцовасць, сярод якой сустракаюцца адзінкавыя курганы, выспы. Паводле слоўніка Эдуарда Мурзаева, паняцце «мог/можа» азначае таксама каменны востраў — нагрувашчванне камянёў сярод балота. Гэта выснова суадносіцца з Заазерскім «Стоўхэнджам», які акаляе вялікае балота.

Магілёўскі географ Ігар Шаруха кажа, што культурны пласт, які існаваў да хрысціянскай эпохі, вельмі вялікі. Але, «на жаль, ён альбо страчаны, альбо непазнавальны. Таму заазерскія валуны ўяўляюцца яркімі артэфактамі, што сведчаць пра высокую культуру людзей, якія жылі тут сотні і тысячы гадоў таму. І да іх трэба адносіцца як да помнікаў».



*Адмысловыя лекавыя бярозы каля вёскі Мажаны, Крупскі раён.*

* * *

Зробім высновы. Заазерскі «Стоўнхэндж», як і старадаўнія Майскія могілкі, як і скрадзены крыж і знішчаныя цудадзейныя бярозы, — месца сакральнае, святое. У пракаветныя часы па Бялыніччыне і, зразумела, у Эсьмонскім краі, неаднаразова праходзіла мяжа рассялення плямён, суседніх археалагічных культур. Тут суіснавалі крывічы і дрыгавічы. А яшчэ раней, у перыяд з IV па першую палову VIII стагоддзя, — межавалі плямёны тушамлінскай і калочынскай груп банцараўскай культуры, што праіснавала каля трох стагоддзяў. Таму некаторыя даследчыкі мяркуюць існаванне нават дзяржаўнасці. Зазірнём у глыб сівых вякоў і пабачым, што ў XV—XI стагоддзях да нашай эры, прыкладна праз гэту мясцовасць праходзіў адзін з адрэзкаў мяжы рассялення тшцінецкай археалагічнай культуры.

Гістарычныя крыніцы паведамляюць, што, пачынаючы з VIII стагоддзя да нашай эры і да X стагоддзя нашай эры Бялыніччына ўяўляла сабой тэрыторыю памежнага суіснавання плямён самых розных археалагічных культур. Для прыкладу, на ўсход ад лініі Бабруйск—Бялынічы жылі пераважна прадстаўнікі мілаградскай культуры, а на захад — штрыхаванай керамікі.

Беларускі археолаг Аляксандр Медзвядзёў адзначае: *«З навуковага пункта гледжання дадзены рэгіён падаецца вельмі перспектыўным. Тут выяўлена значная колькасць гарадзішчаў ранняга жалезнага веку. Але раней вывучаліся толькі помнікі ў басейне ракі Бярэзіны і ўздоўж Дняпра. Паселішчы ў басейне ракі Друць вывучаліся недастаткова, разведкамі. І толькі ў 1992 годзе Міхаіл Лашанкоў правёў невялікія раскопкі на гарадзішчы каля вёскі Эсьмоны Бялыніцкага раёна. У той жа час вынікі даследванняў суседніх тэрыторый дазваляюць меркаваць, што тут была зона кантактаў асноўных культур ранняга жалезнага веку Беларусі — дняпроўска-дзвінскай, кіеўскай і штрыхаванай керамікі. Характар узаемадзеяння гэтых культур незразумелы, што, у сваю чаргу, дазваляе па-рознаму падыходзіць да вырашэння праблем этнагенезу насельніцтва Беларусі».* Надзвычай перспектыўнай уяўляецца і праца па дэшыфроўцы, інтэрпрэтацыі надпісаў і выяў на валунах і крыжах у Заазер'і і Майску.

***...Цікава жыць, калі ўсведамляеш, што за тваімі плячыма шмат тысячагоддзяў, і людзі, якія былі тут да цябе, пакінулі багатую спадчыну. Ёсць сэнс задумацца: а што застанецца пасля нас? Тыя, хто жыў тут у сівыя часы і пакінуў у зямной вечнасці свае знакі-тайніцы, мабыць, шчыра верылі, што іх спадчыннікі па крыві і духу будуць заўсёды знаходзіць духоўныя абярэгі, атрымліваць ад роднай зямліцы маральную падтрымку душы. І гэта дазволіць ім не зламацца ў цяжкіх варунках жыццёвых нягод.***

*Іван ЖДАНОВІЧ*

# ЗЯЛЁНАЯ ДУША І... ТРЫДЗЯСЯТАЕ ЦАРСТВА

## *Нататкі з пешага хаджэння вакол Беларусі*

***Ідэя нашага падарожжа, здзейсненага ў красавіку-жніўні 1996 года, нарадзілася ў многім дзякуючы святой Еўфрасінні Полацкай. Так сталася, што вясной 1995 года мы, яшчэ працуючы ў рэдакцыі часопіса «Роднае слова», арганізавалі і здзейснілі пешае «паломніцтва ў Полацк». Падчас яго і ўзнікла, а потым крышталізавалася, абрастала рэальнымі дэталямі ідэя: абысці пешшу ўсю Беларусь. Стварыць вакол яе гэткі духоўны абярэг. Пра тое паломніцтва можна пачытаць у артыкуле «Паломніцтва ў Полацак — гэта шлях да вытокаў, шлях да саміх сябе», ён быў змешчаны пад рубрыкай «Беларусь — зямля святая» ў 5-м нумары часопіса за 1996 год — тады мы ўжо былі ў новай, значна больш працяглай вандроўцы.***

***У Еўфрасінні Полацкай мы і прасілі блаславення перад пачаткам вандроўкі ў сярэдзіне красавіка 1996-га. Для гэтага спецыяльна па дарозе з Мінска ў Друю, дзе пачыналася наша «Хаджэнне ў трыдзясятае царства», заехалі ў Полацк. У першы дзень Вялікадня хадзілі да мошчаў святой Еўфрасінні і прасілі ў яе блаславення ў доўгую дарогу. Варта заўважыць, што яе нябачную падтрымку мы і сапраўды адчувалі на працягу 120-дзённага пешага падарожжа, начлегаў у чыстым полі, густым лесе — у розных жыццёвых абставінах.***

***Прапаную ўвазе чытачоў «Маладосці» невялічкі майскі ўрывак з падарожных нататак.***

Кажуць, у нябачным чалавечаму воку трыдзясятым царстве, куды мы выправіліся ў «Хаджэнне», час разгортваецца крыху інакш, чым у зямной рэальнасці. Там усё адбываецца як сёння, там няма ні мінулага, ні будучыні. І на першы погляд можа падацца: тое, што апісваецца ў гэтым тэксце, было ў мінулым. Усё было ў вельмі рэальны, зафіксаваны ў падарожным дзённіку час: 4-5 мая 1996 года. Аднак мне падаецца, што гэта — рэальнасць і сённяшняга дня.

### ДЗЕ ЖЫВЕ ДЫРЭКТАР-КАМБАЙНЕР?

Калісьці даўным-даўно блукалі ў нашым краі ў пошуках лепшае долі ды месца пад новае селішча некалькі мужыкоў. І забрылі ў такія глухія мясціны, дзе толькі ваўкі вылі ды вецер у вершалінах дрэў шугаў. Аднак агледзеліся — і ўбачылі на зямлі мноства невялічкіх слядоў: гэта лані хадзілі.

— Ну, калі хадзілі лані, значыць, і мы тут жыць зможам...

Так вырашылі вандроўнікі ды збудавалі там першыя хаты.

— І назва Хадзілоні вядзе гісторыю ад словаў «хадзілі лані», — такую мясцовую версію паходжання вёскі расказала нам настаўніца-філолаг Марыя Іванаўна Глаўніцкая. Яна выкладае ў Хадзілонскай базавай школе (Шчучынскі раён) беларускую мову і літаратуру, надпіс на памяць у нашым дзённіку зрабіла па-беларуску: «Удзячны той сіле, якая пралажыла Вашу дарогу праз нашы Хадзілоні. Шчаслівай дарогі!»

Дваццатую раніцу нашага «Хаджэння ў трыдзясятае царства» мы сустрэлі ў адным з класаў вясковай школы. І вечарам, і кароткаю майскаю ноччу не змаўкалі ў садах хадзілонскія салаўі. Нам іх добра было чуваць. А вызначыў нас на «песенны» начлег сам дырэктар Антон Мацвеевіч








Антухевіч. Яшчэ з вечара мы ведалі: школа чакае летняга капрамонту, бо «падлогі ўсе паеў грыбок». Таму на тэрыторыі вакол школы — дошкі, лагі, цэгла... І тыя кучы камянёў, якія па дамоўленасці з калгасам школьнікі пасля ўрокаў вызбірвалі на мясцовых палях, Антухевіч таксама намерваўся пусціць у справу. Гаспадар!

— Вельмі важна з людзьмі шукаць паразуменне, у прыватнасці, педагогам — з кіраўніцтвам калгаса, — такое жыццёвае крэда ў дырэктара. — А як жа інакш! Калі жывём тут, карыстаемся паслугамі, то й аддаваць павінны зямлі, людзям, якія нам дапамагаюць.

У Антона Мацвеевіча, гісторыка па адукацыі, вялікі педагагічны вопыт: яшчэ да арміі, у 1965-м, «неабстралянага» выпускніка Бераставіцкага педвучылішча накіравалі дырэктарам у адну з пачатковых школ на Дзятлаўшчыну. Падчас нашага візіту ў Хадзілоні ў падначаленні школьнага камандзіра было 90 вучняў і 17 настаўнікаў. Сваю дырэктарскую пасаду ён, аднак, успрымае досыць крытычна: маўляў, адны страты ад яе, «тры дні ўпіраўся, не хацеў ісці». Яно і зразумела: вясковаму ж настаўніку трэба сваю гаспадарку весці, а не толькі школьную. Ды і сыну якраз Мацвеевіч дапамагаў на ногі стаць — хату яму будавалі.

А настаўнікі хадзілонскія такому дырэктару рады! Так і казалі жартам: Антухевіч вялікі воз школьных спраў таму так спраўна вязе, што ў яго ёсць свой трактар.

Як аказалася, ёсць не толькі трактар, але і да трактара: прычэп, плуг, культыватар, капалка... Ёсць яшчэ, па словах Мацвеевіча, некалькі матацыклаў і аўтамабіль «Масквіч» (у якім і мы крыху пакаталіся).

Жыццё так складваецца, дзяліўся думкамі дырэктар, што, жывучы на зямлі, трэба быць гаспадаром. Інакш не выжыць. І ўвесь гэты «машынны парк», у многім падняты Мацвеевічам з металалому, пры неабходнасці скарыстоўваецца на патрэбы школы, настаўнікаў. Больш таго: дырэктар улетку — калгасны камбайнер, і «Ніва» ягоная нават пасля 12 гадоў работы была ўзорнапаказальнаю. Працаваў з сынамі, адзін сезон браў да сябе ў памочнікі мясцовага хлопцасірату — той зарабляў сабе пасля школы на далейшую вучобу.

Потым мы разважалі між сабою: што ёсць талент у чалавека? І ці не ёсць адным са складнікаў сапраўднага педагагічнага таленту ўменне пераадольваць абставіны, добра арыентавацца ў паўсядзённым жыцці, як тое ўмее хадзілонскі дырэктар-камбайнер? Упэўнены: маючы такі арыгінальны прыклад перад вачыма, многія маладыя хадзілонцы зрабілі ў жыцці правільны выбар. У сэнсе прафесіі, філасофіі ды стылю жыцця. Вось дзе, напэўна, варта праводзіць педагагічныя семінары і канферэнцыі! Бо прафесія педагога сёння, мусіць, як ніводная іншая грунтуецца на энтузіязме.

І мы рады хоць такою згадкаю ў нашых вандроўных нататках аддаць належнае нашым таленавітым вясковым настаўнікам, іхняй вялікай жыццёвай сіле. Робім гэта, паверце, не толькі таму, што Антухевіч даў нам начлег ды звазіў нас на сваім «масквічку» (разам з Марыяй Іванаўнай Глаўніцкай) у вёску Стары Двор, на магілу Алаізы Пашкевіч (пісьменніцы Цёткі). Тут гаворка — пра ўдзячнасць значна большага маштабу.





## ДА МАГІЛЫ ЦЁТКІ

Зварочваць з маршруту ў Стары Двор не ўваходзіла ў нашы «пешыя» планы. А з’ездзіць на машыне, пакінуўшы рэчы ў школе, — гэта можна, бо чысціні ідэі пешага падарожжа такое адхіленне не парушае. Дарэчы, яшчэ раней, калі рухаліся пад Ашмяны ды Гальшаны, мы пракаціліся на возе, назад па пройдзеным шляху, ад вёскі Каменка да хутара мясцовага дзеда-лекара. Пазней, ужо летам, перапраўляліся ў лодцы цераз Дняпро ў Лоеве, потым цераз Прыпяць — у Барбарове, цераз Дзвіну — на пароме ў расійскім Суражы, і зноў жа цераз яе — на лодцы ў Балінах, пад Бігосава. Вось, бадай, і ўсе нашыя «пад’езды» за 120 дзён пешай вандроўкі. А астатнія 2810 кіламетраў, адлічаных веласпідометрам на калясцы пад канец «Хаджэння ў трыдзясятае царства», — пешшу, на сваіх двух...

Хутка едзе машына — але ж і ўражанні ад такой дарогі імгненна вылятаюць...



*«...Гэта як для каго... Асабіста я — за аўтападарожжы: хутка, і ў скарбонку памяці лішняе не трапляе. А калі што ўразіла падчас руху, заўсёды можна прыпыніцца.*

*Што тычыць нашага аўтарэйду на старадворскія могілкі... М-м-м, я ледзь не замыкала ўслых ад асалоды ў машыне дырэктара — так прыемна было ехаць! Аж слоў, каб перадаць пачуцці, не хапала. Я звычайна ў падарожных размовах не падтрымлівала Іванавых разваг наконт пераваг пешых вандровак. А калі мы зрэдку траплялі на тое, што вязе, я ад шчасця замаўкала і проста слухала ўдзячнасць, якую выпраменьвала маё цела».*

Такія згадкі пакінула ў рукапісе нататак Валянціна, а ў падарожны дзённік патрапілі хіба што пару слоў пра зайца-русака, які даў дзёру ад машыны па майскім зялёным канюшынавым дыване. Спадарожнікі нашыя на гэта заўважылі, што звяр'я ў хадзілонскіх ваколіцах шмат. І козы дзікія (лані?) ходзяць, і дзікі, і зайцоў шмат. Аднаго разу нават, гаварыў дырэктар, зубр заходзіў на поле, дзе жанчыны выбіралі буракі. Хоць да ягонай вотчыны, Белавежскай пушчы, няблізка: мо з сотня кіламетраў.

Могілкі ў Старым Двары падаліся нам закінутымі, хоць і відаць было, што ўвесну іх прыбіралі.

А на магіле Цёткі яшчэ заставалася пры помніку чырвонае Велікоднае яйка. Значыць, памятаюць...

Побач з магілай ляжала нядаўна зрэзанае бензапілой дрэва, мы паднялі вільготны яшчэ спіл-клінок ад яго ствала. Настаўнікі патлумачылі, што на магіле рос дубок, але яго нехта падсек — і ён ссох. Потым вырас ясень, які, убраўшыся ў сілу, ледзь не разбурыў каранямі надмагілле. Таму дрэва давялося ў 1996 годзе спілаваць, калі рыхтаваліся да свята (тады Беларусь адзначала 120-гадовы юбілей паэткі-рэвалюцыянеркі). Алаіза Пашкевіч, хоць і нарадзілася ў фальварку Пешчын, але родавыя карані мела ў Старым Двары. Дарэчы, побач з Алаізай Сцяпанаўнай пахавана яе пляменніца.

Сфатаграфавалі мы на зваротным шляху бюст-помнік Цётцы ля былой Шастакоўскай базавай школы. Планавалася да свята перавезці яго ў Хадзілоні, Марыя Іванаўна марыла стварыць гісторыка-этнаграфічную экспазіцыю паводле матэрыялаў з радзімы паэтэсы. Спадзяемся, так яно і сталася.

А праз пару дзён пасля паездкі ў Стары Двор у мяне нарадзіўся верш «Зялёная душа». Што цікава: я потым недзе чуў, быццам у адным з вершаў Цёткі ёсць такі радок: «На магіле дубком прарасту...»

**ЗЯЛЁНАЯ ДУША**

*На магіле Цёткі ў вёсцы Стары Двор*
*Шчучынскага раёна*

З холаду і мораку магілы
Рос дубок — зялёная душа.
Спавядалі сонца лісце-крылы,
Змахваючы пыл зямны з крыжа.

Рос дубок — а з ім дужэла вера:
У жыцця ёсць патаемны бок.
Ды бязвер'е гахнула сякерай —
І панік той парастак-дубок.

А душа — жаданняў не зраклася
Вырвацца з нямоцця й цішыні:
Вырас на магіле дзіўны ясень —
Цешыў вочы, з сонцам гаманіў.

Рос — і ўпяўся ў холад цамантовы,
Распраміўшы крону й карані:
…Так душа й праз холад стогадовы
Прагне слова, волі, вышыні.

...Ох, не быці ясеню ў нябёсах...
Кран прыгналі з доўгаю стралой,
Рукі заламалі колкім тросам,
Завалілі ў пыл бензапілой...

Колькі гордых галавы зладжыла,
Колькі сілаў паглынуў пясок!
...Я знайшоў ля Цётчынай магілы
З ясеня вільготны спіл-клінок.

У Старым Двары загасла свечка
Тых жывых, упартых душаў-жыл,
Без якіх мы — мітусня і пыл.
...Нехта Велікоднае яечка
На магілу Цёткі палажыў.

Слова роднае, ўваскрэсні! Годзе болю!
Камень зрушыш надмагільны ты:
З ясеню клінок яшчэ расколе
Холад забыцця і нематы.

*Мястэчка Парэчча, 6.05.1996*

### «...І НЕ АДЧУВАЮ ЦЕЛА»

Тымі днямі хвалявалася-непакоілася надвор'е, трывога працінала паветра. Было, паводле дзённіка, і «першае прывітанне ад камароў і мух назойлівых» — як непазбежныя выдаткі цеплыні, і «вялізная пылавая бура ў ваколіцах вёскі Новы Двор» — моцны паўднёвы вецер ледзь з ног не зносіў па дарозе ў Бершты, але доўгія віхуры-языкі пылу нас абышлі. Потым рэзка пахаладала. І нават задажджыла.

Настрой хіліўся да днёўкі: хацелася хоць дзень адпачыць ад стамляючай хады. Уранні, хутаючыся ў ватнік, Валя запісала:

*«5.05.96, дзень 21-шы. Учора прайшлі 28 км. Начавалі ў лесе пры возеры. Думалі зрабіць днёўку, але — што карысці з яе, калі холадна? Дождж ішоў усю ноч. Рушым далей. Возера берштаўскае вялікае, вакол яго цудоўны сасновы лес з кустамі ядлоўцу. У палатцы, захіленай цэлафанам, удала пастаўленай у нізінцы, спаць было цёпла».*

А вось яе цяперашні каментар:

*— Як цяпер узгадваю, там, за вёскай, было страшнавата, у гэтым бязлюддзі берштаўскіх пясчаных прастораў, сярод невысокіх сосен. Каб не прыцягваць лішняе ўвагі, Іван нават голас прыцішваў, сухое голле для вогнішча ссякаў асцярожна, без шуму. Павячэралі мы ў той вечар адно што гарбатай з хлебам, адразу загасілі вогнішча. Сцямнела рана, і ноч была тады надзвычай цёмнай, жудаснаватай, трывожнай, як гэта часам паказваюць у якасна адзнятым трылеры.*

*Памятаю, у мяне чамусьці аж дыханне перахапіла, калі адышла трохі прыцемкамі ад месца нашага начлегу. Верхам лесу, у вершалінах соснаў, гудзеў вецер, а ніжэй даўка вісела шчыльная цішыня. Палая ігліца мякка паглынала крокі, а трэск галінак пад нагамі, здавалася, прабіваў абарончую абалонку цела. Б-р-р, аж унутры халадзела... Прыгадваўся яшчэ той адзіны чалавек (на матацыкле з каляскай), што праехаў міма па лясной дарозе. І недарэчныя думкі страшылі адна адну: а раптам ён нядобры?.. а збярэ вясковую «банду» ды прывядзе сюды... а што, калі ім нашыя грошы спатрэбяцца?..*

*Нягледзячы на ўвесь гэты неспакой, стома ўзяла сваё, спалася мне моцна, і ўранні тыя страхі падаліся камічнымі. А лес — казачным. І хацелася ў ім, ля таго вялікага возера, яшчэ затрымацца...*

Глебы ў ваколіцах Берштаў — адно пясок, і гэта, як лічаць берштаўцы, паспрыяла ўзнікненню назвы вёскі. Быццам бы некалі два паны нават і не спрачаліся за гэтую зямлю, а велікадушна саступалі яе адно аднаму: «Бярэш ты?» — з надзеяй пытаў адзін. «А можа бярэш ты?» — аднекваўся другі, як цяпер прадпрымальнікі ад нерэнтабельных калгасаў, якія ім настойліва раяць браць пад апеку.

У Берштаўскай базавай школе мы даведаліся пра народны песенны калектыў «Бершты», якому было ўжо больш як 40 гадоў. Першым ягоным кіраўніком быў настаўнік Іван Русілка. Тут паважаюць народную песню. А самадзейныя артысты выступалі за савецкім часам і ў Мінску, і ў Латвіі.



*Бюст-помнік Цётцы.*



*Вярнуліся ў Мінск 13 жніўня 1996 года. Фота ля рэдакцыі газеты «Вечерний Минск».*

Пачуўшы знаёмае прозвішча, мы пацікавіліся: ці не бацька то выкладчыцы і паэтэсы з Віцебска Вольгі Русілкі, знаёмай нам па рабоце ў часопісе «Роднае слова»? Так, бацька. І маці яе, Любоў Русілка, настаўніцай там, у вёсцы Бершты Шчучынскага раёна, працавала.

Тут да месца будзе згадаць, што ў інтэрнэце я пабачыў тэкст пра прэзентацыю ў Віцебскім дзяржуніверсітэце імя П. М. Машэрава паэтычнага зборніка Вольгі Русілкі «ВІР», названага так па ініцыялах паэтэсы. Чытаем: «Слова на вечарыне ўзялі і студэнты, і выпускнікі, якіх вучыла В. І. Русілка. Вольга Іванаўна ўжо 25(!) гадоў працуе выкладчыцай беларускай літаратуры ў нашай альма-матар. Пад яе кіраўніцтвам на факультэце беларускай філалогіі і культуры працуе літаратурны гурток «Зараначка», вершы маладых выдаюцца ў факультэцкіх зборніках паэзіі, не без дапамогі выкладчыцы студэнты розных факультэтаў маюць магчымасць друкавацца ў абласных і рэспубліканскіх СМІ, ёй жа вядзецца і навуковая праца». А карані педагагічнага і паэтычнага талентаў Вольгі Іванаўны — адтуль, з вёскі на Шчучыншчыне.

Бершты падаліся нам хоць і вялікай, сям-там аздобленай новымі катэджамі вёскай, але з яўнымі прыкметамі заняпаду. І ў вачах мясцовай цёткі, што пачаставала нас малаком, была глыбокая стома. Ды такая, што мы міжволі прыхавалі сваю ўнутраную радасць — звычайны для нашага вандроўнага жыцця стан у сонечную раніцу. І асадак нейкай лёгкай тугі пасля Берштаў на душы застаўся. Можа, гэта й наша нявдзейсненая днёўка, цялесная стома давалі пра сябе знаць?..

З вялікімі высілкамі кацілі мы нашу каляску Лялечку па пясчанай лясной дарозе на Новую Руду. Знаходзілі радасць хіба што ў абароненасці лесам ад халоднага пранізлівага ветру.

Што мы тады адчувалі? У дзённіку надзвычай цікава занатавана, як Валя апісвала стан сваёй душы на адным з нашых прывалаў:

*— Ляжу — і не адчуваю цела... Рукі, галава, спіна — усё, акрамя ног, якія гудуць ад стомы, злілося з зямлёй. Гэты момант «растварэння» цела прыемны. Гукі навакольныя — птушыныя галасы, шорхат лесу, парыпванне дрэў пад ветрам — ідуць*

*фонам... Вось ляжала пару хвілін у поўнай, абсалютнай адсутнасці ўсялякіх думак, пачуццяў — на няўлоўным памежжы, у стане пераходу ў сон.*

Гэткае самапаглыбленне Валі перадаецца і мне, я на тым жа прывале спрабую апісаць «трыдзясятае царства»:

*«Трыдзясятае царства — гэта душэўны стан такі, стан шчаслівага, гарманічнага, суладнага жыцця. Спачатку царства гэтае трэба знайсці альбо адбудаваць у самім сабе. У глыбінях сваёй свядомасці, душы. Але ж усе казачныя героі вяртаюцца потым з таго трыдзясятага царства дадому, у свет фізічны, бачны. Ды яшчэ прыносяць з сабой нейкія чароўныя рэчы — мусіць, яны і сімвалізуюць новую якасць светаўспрымання падарожніка, яго новае стаўленне да жыцця.*

*Далей варта паспрабаваць прыўносіць “горні дух”, дух трыдзясятага царства — шчасця, гармоніі, суладнасці — ва ўсё жыццё. Ва ўсё-усё, з чым судакранаешся! Адладжваць гармонію з рэчамі, раслінамі, жывёламі. З мушкамі й мурашамі. З дарогай, якою ідзеш. І з дзіравымі кедамі, у якія засыпаецца пясок. З промнікам сонца, які гуляе па стомленым твары. З пластыкавай бутэлькай ці цукерачнай абгорткай, якімі не трэба засмечваць прыроду, нават за сотню кіламетраў ад людзей — проста ад пампкнення да прыгажосці. Бо чысціня і парадак патрэбны ў першую чаргу — нам самім, калі мы жывём у чароўным трыдзясятым царстве.*

*А калі яшчэ навучыцца дух трыдзясятага царства прыўносіць і ў зносіны з людзьмі... Гэта, напэўна, самае цяжкае пасля вяртання ў жорсткую рэальнасць. Бо іншы чалавек — гэта заўсёды зусім іншы свет, хай сабе і блізкі табе па духу. А гармонія ўзнікае тады, калі ёсць у аснове касмічны прынцып узаемапавагі. Калі не выяўляюцца “наотмашь” толькі свае эгаістычныя жаданні, а здзяйсняецца паступовае збліжэнне двух сусветаў. Па прынцыпе Экзюперы, яго знакамітых Маленькага прынца і Ліса: зрабіў крок насустрач — трохі адступі...»*

Валя далей піша, патлумачвае і мне, і сабе:

*«Я разумею, пра што ты кажаш. У гэтым набліжэнні Маленькага прынца і Ліса не “мой” закон галоўны, і не “твой”. Пры гэтым ты дзелішся са мной тым каштоўным, чаго я не маю, і наадварот. Пры гэтым мы — дзве самакаштоўныя адзінкі, кожны — са сваёй праўдай, і толькі ў трыдзясятым царстве мы суладныя».*

Можа, па гэтае разуменне мы і выправіліся ў вандроўку, у тое трыдзясятае царства? Нехта ж цікава сказаў: чалавек вандруе па свеце, каб адшукаць, што яму патрэбна, і вяртаецца дамоў, каб знайсці гэта.

Ой, як няпроста даецца тое суладдзе паміж людзьмі-сусветамі! Тым жа вечарам адчулі, што называецца, на ўласнай скуры. Спыніліся на начлег непадалёк ад мястэчка Парэчча — ля возера Малочнага, пад соснамі, пры плоце нейкай турбазы. А вартаўніку ж так хацелася паказаць нам сваю ўладу! Спачатку спрабавалі гутарыць з ім міралюбна — але ён так пёр, ну, як танк, міліцыяй пужаў. І рэзка перамяніўся, пакінуў нас у спакоі, калі пабачыў у мяне ў руках яркачырвонае пасведчанне журналіста: гэтак часам звяглівы сабака падціскае хвост і збягае, пабачыўшы палку.

Над возерам вечарэла. Пасля невялічкага адпачынку Валя згатавала смачны-смачны боршч, мы няспешна вячэралі ля вогнішча, любаваліся ціхім заходам сонца. Сапсаваны вартаўніком настрой пакрыху аднаўляўся, як спакой патрывожанай каменем вады.

Ранішні запіс у дзённіку:

*«Гэты ваяўнічы вартаўнік спавядае прынцып “без бумажки ты — букашка, а с бумажкой — человек”. Можа, пасада зрабіла яго такім? Ва ўсякім разе гэта — яскравы сімвал варожага, высакамернага стаўлення да людзей. Ці не з такіх прататыпаў Булгакаў ляпіў вобраз Шарыкава? У некаторых прыўладных людзях пасада актывізуе нейкія вірусы варожасці, падазронасці. Не дарма мой тата кажа: “Не дай Бог свінні рогі, а мужыку — панства”. Такія “начальнікі» любяць, каб ім прад’яўлялі дакумент: без паперкі чалавек ім — вораг. Важны дакумент ставіць іх на месца: то хам, то раб...»*

Возера Малочнае ўранні апраўдала сваю назву: было ўсё ў малочнай смузе туману. Вада — халаднюшчая, але я адкрыў-такі наш купальны сезон: акунуўся з галавой. Мы на возеры былі не адны, бо прыплыў да нашага берага прыгожы лебедзь. Валя вельмі хацела пакарміць яго з рукі, а ён, беручы

хлеб, рэзка сыкнуў на яе і нават крыху спужаў, калі шырока раскінуў крылле. А я тым часам паспеў гэтае адладжванне зносін сфатаграфаваць.

Цудоўная мясціна! Потым у вандроўцы мы не аднойчы згадвалі начлег пад Парэччам, і ціхі вечар, і няспешную раніцу над возерам. А побач з паэтычнымі развагамі пра трыдзясятае царства ў дзённіку суседзіць грунтоўная проза жыцця:

*«Валя намыла кучу нашых шкарпэтак. Учора і сёння выходзім пазней, і таму яна згодна спісаць адну днёўку».*

Праходзячы праз Парэчча, бачылі спачатку карпусы санаторыя, а затым і прыгожы вакзал. Ён, дарэчы, узведзены падчас будаўніцтва чыгункі Санкт-Пецярбург—Варшава ў 1863 годзе. Можа, і Якуб Колас падгледзеў некалі тут назву «Парэчча», якая паэтычна легла ў тканку «Новай зямлі»? Даследчыкі ж сцярджаюць, што пад ёй прыхавана прыгожае наднёманскае мястэчка Стары Свержань. Зрэшты, назвы такія ёсць і ў іншых месцах Беларусі.

## ПАСЛЯСЛОЎЕ

Рыхтуючы нататкі да друку ў сакавіку 2012-га, я патэлефанаваў у школу ў Хадзілоні: як там героі гэтых нататак сябе пачуваюць? Да тэлефона паклікалі Марыю Іванаўну Глаўніцкую. На пытанне, ці памятае яна вандроўнікаў з 1996 года, настаўніца бадзёра адказала: «Вядома ж, помню! І як вы ў нашай школле начавалі, і як з вучнямі сустракаліся, і што ішлі вы са сваёй каляскай Лялечкай». Гэтая дэталь, пра назву каляскі, мяне асабліва ўразіла — пэўна, як некалі і мы ўразілі хадзілонскіх жыхароў. А тое, што ўражвае, надоўга застаецца ў памяці. Далей Марыя Іванаўна расказала, што ўжо на пенсіі, але прадаўжае працаваць: «Школа на месцы. Падлогу ў ёй памянялі. У нас цяпер свая кацельня, таму ў класах цёпла і ўтульна». Антон Антухевіч ужо на пенсіі, але часта заходзіць у школу. Там цяпер дырэктарам працуе яго сын Анатоль Антонавіч, гэта былы вучань Марыі Іванаўны, ён выкладчык фізкультуры. Школа невялікая, у ёй усяго 36 вучняў з 1 па 9 клас.

Марыя Іванаўна расказала, што ў школьным кабінеце беларускай мовы і літаратуры па гэты час захоўваюцца нашы з Валянцінай аўтографы з падарожнай візіткай. Падзякавала, што памятаем пра іх родныя мясціны. Згадаўшы, як разам мы ездзілі на магілу Цёткі, дадала: «У 2006-м, да 130-годдзя са дня нараджэння Цёткі, там усё было абноўлена, і мы падтрымліваем парадак: высаджваем кветкі, праполваем іх. А помнік-бюст, як і планавалася, перавезлі ў Хадзілоні, ён стаіць ля школы. А ў будынку школы ў Шастаках жывуць людзі». У школе ёсць прысвечаны знакамітай зямлячцы-пісьменніцы куток. Альбом, распачаты яшчэ да 90-х яе ўгодкаў, вядзецца і цяпер — у яго заносіцца ўсё, што мае дачыненне да ўшанавання памяці Цёткі. Дарэчы, у Хадзілонскую школу часцяком заязджаюць літаратары: Марыя Іванаўна назвала гродзенцаў Алу Петрушэвіч, Алену Руцкую, Дзмітрыя Лебядзевіча, мовазнаўца Паўла Сцяцко. Быў і яе настаўнік Аляксей Рагуля. Калі яна вучылася ў Мінскім педуніверсітэце, ён выкладаў і на яе курсе беларускую літаратуру.

Я перадаў прывітанне, удзячнасць Антону Мацвеевічу за наш колішні начлег і пацікавіўся: а ці не звяліся салаўі ў Хадзілонях? «Салаўі па-ранейшаму ўвесну хораша співаюць, прыязджайце паслухаць, але саду калгаснага ля школы ўжо няма — састарэў, і яго выкарчавалі два гады таму, — адказала Марыя Іванаўна. — І ліпы каля дарогі сталі ўбіраць, бо яны надта старыя і некаторыя ў ветранае надвор'е падалі. Традыцыі дапамогі мясцовай гаспадарцы ў школьнікаў застаюцца: цяпер вучні больш дапамагаюць на зборцы цукровых буракоў. Цяпер гэта ўжо іншая гаспадарка — СВК "Першамайск-Агра", да якой далучылі ранейшы калгас імя Фрунзэ». Такое ўзбуйненне, аднак, зрабіла Хадзілоні вёскай не перспектыўнай: там ужо закрыліся фельчарска-акушэрскі пункт, дзіцячы садок, пустуе і вялікі адміністрацыйны будынак ля школы.

Мы ж памятаем Хадзілоні з вялікім садам, старымі ліпамі, веснавым сонцам. І я спадзяюся, што вёска яшчэ знойдзе ў сабе сілы, каб ацалець і развівацца ў плыні сучаснага жыцця.

***Фота аўтара***

Нэлі КСЯНЕВІЧ

# ПОМСТА

***Самае вялікае пакаранне для крыўдзіцеля — дараванне.***

***— Ды вы што? — усклікнула заплаканая жанчына, — вы сапраўды лічыце, што такое можна дараваць!***



Цяпер ёй колькі заўгодна можна тлумачыць, што здрада ў шлюбе не такая ўжо і рэдкасць, што ўвогуле гэта далёка не здрадніцтва, а часам проста прага новых адчуванняў, банальная боязь перад узроставымі зменамі, морак, нарэшце. Словы будуць адскокваць ад яе крыўды, як гумавыя мячыкі, боль, як серная кіслата, раз'есць здаровы сэнс, самы пераканаўчы довад страціць сваю значнасць перад пытаннем: «Як ён мог?» Гэта «забойнае» пытанне будзе паўставаць зноў і зноў, і адказу на яго не будзе. Будзе іншае: істэрыкі, сваркі, скасаванне шлюбу, зневажальны дзялёж маёмасці… Ён — выжыве. Яна — пастарэе і аддасць сябе хваробам.

Згодна з парадоксам помсты недараванне карае таго, хто не здолеў падняцца над сітуацыяй і адпусціць крыўду ад сябе. Сумна, але факт.

## ДЗІЦЯЧЫМІ ВУСНАМІ

Дараваць трэба, рэдка хто з гэтым спрачаецца. Але ЯК гэта зрабіць? Крыўда — гэта ж прыніжэнне, разбураная самаацэнка, адчуванне непатрэбнасці. Чалавеку так важна ведаць, што яго любяць, што ён патрэбны — і менавіта па гэтых пазіцыях б'е крыўда.

Ёсць у мяне вясёлая кампанія сяброў, дзясятак свавольнікаў ва ўзросце ад васьмі да дванаццаці. Мы збіраемся два разы на месяц, гуляем, вучым адно аднаго. Вось ім я і задала пытанне пра тое, як абыходзіцца з крыўдзіцелямі.

— Падумаць трэба.

— Пра што?

— Пра тое, што той, хто мяне крыўдзіць, хоча, каб мне было дрэнна.

— І што?

— Калі я крыўдую, то мне робіцца дрэнна, і ўсё атрымліваецца так, як ён хацеў, а гэта няправільна.

— А як правільна?

— Правільна зрабіць так, каб у яго нічога не атрымалася. Таму я крыўдаваць не буду, дарую яму і буду весяліцца, тады не мне будзе дрэнна, а яму.

— А калі цябе пакрыўдзілі выпадкова, без ліхога намеру?

Згодна з парадоксам
помсты недараванне
карае таго, хто не здолеў
падняцца над сітуацыяй
і адпусціць крыўду ад сябе.
Сумна, але факт





— Тады тым больш няма чаго псаваць сабе настрой. Чалавек жа проста памыліўся і будзе ўдзячны мне за тое, што я дарую яму яго памылку…

## «Як ён мог?» Гэта «забойнае» пытанне будзе паўставаць зноў і зноў, і адказу на яго не будзе

### НЕХТА ІНШЫ

Аднойчы да Буды прыйшоў чалавек і пачаў гаварыць яму крыўдныя словы. Але Прасветлены толькі глядзеў спачувальна і пасміхаўся. Нарэшце, скончыўшы запас брудных слоў, зневажанняў і злосці, няшчасны пайшоў, але паводзіны Буды прымусілі яго задумацца і зрабілі ў яго душы сапраўдны пераварот. Назаўтра ён ізноў пайшоў у храм і папрасіў прабачыць.

— Мне не трэба гэта рабіць, — такі быў яму адказ. — Сёння перада мною стаіць іншы чалавек, бо той, хто ўчора імкнуўся мяне зняважыць, учора ж і памёр.

Калі мы не даруем чалавеку, мы адбіраем у яго шанец на прызнанне сваіх памылак, на змену ў лепшы бок, і за гэта пакрыўджаны сам расплочваецца разбуральнымі эмоцыямі. Хто ведае, можа якраз з гэтага віртуальнага каменя на сэрцы ўтвараюцца сапраўдныя камяні — у нырках, напрыклад. Адпусціўшы крыўду, мы адкрываем шлях да лепшага і сабе, і таму, хто стаў крыўдзіцелем, воляй ці няволяй. Выбар за намі.

### ПРА ПІТА, ІРЛАНДЦА

Нейкі ірландзец Піт не любіў яўрэяў. Аднойчы ён сустрэў рабіна і стаў гаварыць дрэннае і па яго самога, і па яго рэлігію. Калі ж нарэшце ён змоўк, рабін спытаў:

— А што ты, Піт, робіш, калі табе прапануюць непатрэбны тавар?

— Дурное пытанне. Канешне, я адмаўляюся ад яго.

— Вось і я адмаўляюся прымаць твае знявагі. Пакінь іх сабе.

У крытыцы існуе правіла дзесяці хвілін: дзесяць хвілін той, хто нападае з крытычнымі заўвагамі, гаворыць пра вас, а ўсё астатняе — гэта ён ужо пра сябе. Так можна даведацца шмат цікавага — пра агрэсіўных людзей і ўвогуле… Чапляе і абурае тое, на што ты і сам здольны, таму характар крытыкі і выдае сябе з такой лёгкасцю.

*Мікола КАНДРАТАЎ*

# ЖЫЦЦЁВЫ КАЛІДОР ВАСІЛЯ БЫКАВА

Блізняты (♊) — трэці па ліку знак Задыяка. Сімвалічным вобразам яго з'яўляюцца два браты-блізняты, што трымаюцца за рукі. Іншы вобраз — чалавек стаіць перад люстэркам, у якім бачыць свой адбітак. Гэтыя вобразы сімвалізуюць адлюстраванне сапраўднай карціны свету праз стасункі і сутыкненні з сабе падобнымі, а таксама папярэджваюць пра небяспеку стаць толькі адбіткам, які нясе павярхоўную, а значыць: зманлівую інфармацыю. Кантакт — ключавое слова Блізнят. Кіраўнікамі знака з'яўляюцца планеты Меркурый (☿) (сімвалізуе інтэлект, сувязь, кантакт, пісьмо, слова, гаворку, навучанне) і Празерпіна (]·[) (адказвае за абавязак, служэнне, сумленне, працу, улік дробязей).



*Васіль Быкаў.*

Пад знакам Блізнят нарадзіўся Васіль Быкаў. З'явіўся ён на свет 19.06.1924 года (недзе каля 20 гадзін 47 хвілін) у вёсцы Бычкі Ушацкага раёна на Віцебшчыне. У яго касмаграме можна вылучыць дзве канфігурацыі аспектаў *Ветразь*. Асабліва важная першая з іх: Сонца (☉) ў знаку Блізнят і Узыходзячы Вузел (☊) у знаку Льва (♌) спрыялі пісьменніцкай творчасці, Сатурн (♄) у знаку Шаляў (♎) даваў магчымасць росту прафесійнага майстэрства, Заходзячы Вузел (☋) у злучэнні з планетай Марс (♂) у знаку Вадаліва (♒), дзе таксама знаходзіцца Белы Месяц (⯓), абумоўлівалі наватарскі для савецкага часу паказ Быкавым праўды пра вайну.

Хочацца спыніцца на іншай цікавай асаблівасці касмаграмы пісьменніка. Звернем увагу на знакі Задыяка, не запоўненая планетамі. Згодна Авесце, самі па сабе задыякальныя знакі — носьбіты чыстай інфармацыі, а планеты маюць падвойны характар, бо апаганены Сатаной. Трапляючы ў пэўны знак, яны ствараюць па функцыях гэтага знака праблемы, якія чалавек вымушаны ў сваім жыцці вырашаць.

Пусты задыякальны знак, як вакуум, утойвае ў сабе нябачныя магчымасці, напоўнены вышэйшым глыбінным сэнсам, утрымлівае патэнцыял велізарных і невычарпальных энергарэсурсаў. Калі ў гараскопе чалавека ёсць такія знакі, то ён можа ад гэтага вакууму ўзяць столькі, колькі яму трэба:



*Касмаграма Васіля Быкава.*

гэта бяздонны рэзерв. А напоўнены планетамі знак — заўсёды вычарпальны. Але каб карыстацца пустым знакам, як вакуумам з гіганцкім патэнцыялам, чалавеку трэба самому знаходзіцца ў стане вакууму, гэта значыць, быць вольным ад любых праблем і праяў па функцыях знака: не думаць, не планаваць, не ставіць пэўныя мэты — жыць, падобна птушкам нябёсным, як сказана ў Бібліі. Тады чалавеку даецца ўсё, што яму патрэбна. У экстрэмальных абставінах яму дапамагае цуд.

Калі ж два процілеглыя знакі Задыяка пустыя, яны ўтвараюць так званы *Калідор люстэркаў*. А гэта ўжо падвойны вакуум. Калідор люстэркаў у пэўных абставінах дае чалавеку дадатковае выйсце, паўнавартаснасць, магчымасць змяніць свой лёс, атрымаць дапамогу звыш. Калідор люстэркаў — гэта напоўненасць цудам усяго жыцця, але пры ўмове быць вольным ад праблем абодвух яго знакаў. Праўда, для праявы калідора люстэркаў на поўніцу неабходна, каб яго процілеглыя знакі былі звязаны праз сваіх кіраўнікоў.

**Пусты задыякальны знак, як вакуум, утойвае ў сабе нябачныя магчымасці, напоўнены вышэйшым глыбінным сэнсам**

**Калідор люстэркаў у пэўных абставінах дае чалавеку дадатковае выйсце, паўнавартаснасць, магчымасць змяніць свой лёс, атрымаць дапамогу звыш**

Калідор люстэркаў сустракаецца зрэдчас: ён бывае ў гараскопах святых. У касмаграме Васіля Быкава такі калідор утвараюць знакі Цялец (♉ — назапашванне) і Скарпіён (♏ — пераадольванне). Пры гэтым кіраўнік Цяльца — Венера (♀) знаходзіцца ў злучэнні з кіраўніком Скарпіёна — Плутонам (♇) у знаку Рака (♋). Каб гэты калідор праявіўся, пісьменніку патрэбна было: па Цяльцу — не будаваць матэрыяльных планаў, не марыць пра дабрабыт, не думаць, як разбагацець; а па Скарпіёну — не думаць ні пра што дурное, не жадаць каму-небудзь смерці, не праклінаць. Тады ў цяжкіх сітуацыях не тое што малітва — простая просьба Быкава магла лёгка даходзіць да нябёсаў, і светлыя сілы маглі даваць яму для жыцця роўна столькі, колькі трэба, або адводзіць ад яўнай смерці.

Напэўна, так яно і было, бо ў кнізе-споведзі «Доўгая дарога дадому» аўтар прыгадаў каля паўтара дзясятка выпадкаў, калі яго жыццё вісела на валаску і ён уратаваўся цудам.

Напачатку вайны Васіль адстаў ад калоны 17—18-гадовых юнакоў, якая адступала на ўсход, і быў арыштаваны каменданцкім патрулём. Быкаву не паверылі і пасля нядоўгіх дазнанняў хацелі расстраляць. Але сталы чырвонаармеец, які павінен быў выканаць загад, пашкадаваў яго: «Пацан, бяжы! Хутка!» і стрэліў угару. Потым дзівосным чынам будучаму пісьменніку пашчасціла дагнаць сваю калону. І хаця дакументы засталіся ў камендатуры, яго прызналі, усё абышлося.

Другі ваенны выпадак. Малады выпускнік Саратаўскага пяхотнага вучылішча малодшы лейтэнант Васіль Быкаў трапіў на фронт. На пачатку 1944 года ён быў

паранены ў нагу. З вялікімі цяжкасцямі выбраўся з поля бою. Пасля ўсіх параненых вывозілі ў тыл на брані танкаў. Аднак пры чарговым артабстрэле Васіль не ўтрымаўся і скаціўся на дол. Танкі пайшлі далей, і ён вырашыў пераначаваць у вясковай хаце. Раніцой вёску занялі немцы. Быкаў прытаіўся з пісталетам у сенцах каля дзвярэй. Раптам пачуліся крокі, і дзверы адчыніліся. На парозе стаяў нямецкі салдат з аўтаматам у адной руцэ. Ён заўважыў Быкава, які нацэліў на яго свой пісталет. Немец замёр, пасля павярнуўся і зачыніў дзверы. Сваіх ён не паклікаў, і праз нейкі час паранены зразумеў, што немцы сышлі — па вёсцы паехалі нашы машыны.

Трэці выпадак. Лейтэнант Быкаў ваяваў ужо на тэрыторыі Венгрыі камандзірам узвода. Савецкія войскі занялі вялікае сяло. Але нямецкія танкі пачалі наступ. Быкаў атрымаў загад спыніць іх. Ён быў верхам на кані і паскакаў па вуліцы да ўскрайку вёскі. Аднак звесткі пра немцаў запазніліся, і вершнік выскачыў за паваротам вуліцы прама на танк. Той падаснуў кулямётнай чаргой па каню. Падаючы, конь перакінуў Быкава праз агароджу і будучы пісьменнік ацалеў. На другі дзень салдаты знялі з каня сядло: яно ўсё было пасечана кулямі.

На парозе стаяў нямецкі салдат з аўтаматам у адной руцэ. Ён заўважыў Быкава, які нацэліў на яго свой пісталет

Трэба адзначыць, што з прызыву 1923—1924 гадоў у вайну ацалела толькі тры адсоткі малодшых афіцэраў. А з 80 чалавек, выпушчаных Саратаўскім пяхотным ваенным вучылішчам восенню 1943 года, засталося ў жывых разам з Быкавым чатыры чалавекі. Калідор люстэркаў ратаваў яго некалькі разоў і ў пасляваенны час.

А што датычыць знака Цяльца, то Васіль Быкаў за час вайны набыў важны ваенны досвед, які змог скарыстаць пазней у сваіх творах. У мірны час матэрыяльныя праблемы Быкава ў цэлым вырашаліся станоўчым чынам. Так было і з працай, і з атрыманнем кватэр — у Гародні, а пасля ў Мінску. Пісьменнік за свае творы атрымаў ці не ўсе магчымыя савецкія літаратурныя прэміі. Яго творы друкаваліся, хоць і з цяжкасцю, як у савецкай краіне, так і за мяжой. Варта заўважыць, што пры гэтым ён не здраджваў творчай праўдзе і заставаўся сумленным, унутрана свабодным.



# ЛІТАРАТУРНЫЯ МЯСЦІНЫ БЕЛАРУСІ*

## СЛУЦКІ РАЁН

**Вёска Замосце** Покрашаўскага сельсавета

**Плуга Адама** (сапр. Антоні Пяткевіч; 23.10.1823—2.11.1903), польскага і беларускага пісьменніка і журналіста, радзіма. Нарадзіўся ў шляхецкай сям'і. У 1831 г. яго бацька атрымаў пасаду падлоўчага ў радзівілаўскіх уладаннях, і сям'я пераехала ў в. Жукаў Барок (цяпер Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл.). У 1835—1842 гг. вучыўся ў Слуцкай гімназіі. У час летніх канікулаў у 1840 г. пазнаёміўся з сынам арандатара суседняга прынёманскага фальварка Залуча Людвікам Кандратовічам (Уладзіславам Сыракомлем). Скончыўшы гімназію, Плуг працаваў хатнім настаўнікам на Падоллі. У 1845—1846 гг. вучыўся ў Кіеўскім універсітэце, вучобу ў якім з-за недахопу матэрыяльных сродкаў вымушаны быў спыніць і вярнуцца да настаўніцкай працы ў Джурыне (Падолле). У 1856 г. прыязджаў у Вільню, быў у Мінску, пазнаёміўся з В. Дунінім-Марцінкевічам, у кастрычніку наведаў Сыракомлю ў фальварку Барэйкаўшчына. Ажаніўся ў 1857 г. з Людвікай Сержпутоўскай, узяў у арэнду в. Паток каля Вінніцы, але ў 1859 г. адмовіўся ад арэнды і пераехаў у Жытомір. Там разам з жонкай заснаваў мужчынскую гімназію, аднак у 1861 г. улады пазбавілі іх правоў утрымліваць гэтую асветную установу. У 1862 г. жонка Плуга была арыштавана за ўдзел у антыўрадавых маніфестацыях і зняволена ў Оўручы, а ў 1864—1866 гг. і сам Плуг знаходзіўся пад арыштам у Жытоміры, потым у Кіеве. Не маючы магчымасці з-за палітычнай ненадзейнасці знайсці работу на больш-менш працяглы тэрмін, ён часта мяняў месца жыхарства, займаўся гувернёрскай працай. У 1868 г. памерла яго жонка. Са снежня 1874 г. Плуг жыў у Варшаве. У 1875—1879 г. быў сурэдактарам, а ў 1879—1890 гг. — рэдактарам часопіса «Kiosy» («Каласы»), затым галоўным рэдактарам «Вялікай усеагульнай ілюстраванай энцыклапедыі» (1891—1903), адначасова працаваў літаратурным кіраўніком часопіса «Wakdrowiec» («Вандроўнік», 1894—1899), уваходзіў у склад рэдакцыі газеты «Kurjer Wąrszawski» («Варшаўскі веснік», 1899—1903). Памёр у Варшаве. У варшаўскім касцёле св. Крыжа ўстаноўлены бюст Плуга. Друкаваўся з 1847 г. Аўтар гутарак-успамінаў «Жукаў Барок», «Родная песенька»; празаічных твораў «Споведзь», «Дзетазабойца». Польскія творы А. Плуга выдадзены ў многіх кнігах. У 1849 г. Плуг напісаў на беларускай мове 4 апавяданні (з якіх захавалася толькі адно — «Кручаная баба») і адну легенду.

**Вёска Казловічы**, цэнтр сельсавета

**Марціновіча Алеся** (н. 18.8.1946), літаратуразнаўца, крытыка, публіцыста, радзіма. Скончыў БДУ (1968). Працаваў у раённым друку. З 1972 г. — у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва». Друкуецца з 1964 г. Каля трыццаці гадоў (1972—2001, 2007) працаваў у газеце «Літаратура і мастацтва» (з 1972 г. — карэспандэнт аддзела літаратуры. З 1981 г. — загадчык аддзела інфармацыі і літаратурнага жыцця). У лістападзе 1999 г. адначасова пачаў працаваць у часопісе «Беларуская думка» (1999—2007): рэдактар аддзела літаратуры і мас-



* Працяг. Пачатак у № 10—12 за 2007 г., № 1—12 за 2008 г., № 1—10, 12 за 2009 г., № 1—7, 9—12 за 2010 г., № 1—11 за 2011 г., № 3, 4, 5 за 2012 г.

тацтва, намеснік галоўнага рэдактара, першы намеснік галоўнага рэдактара. У далейшым намеснік галоўнага рэдактара часопісаў «Нёман» (2008—2009) і «Маладосць» (2009—2011). З 2011 г. — загадчык аддзела крытыкі часопіса «Полымя». Аўтар зборнікаў літаратурна-крытычных артыкулаў «Далучанасць», «Пад небам вечнасці» (абодва 1990), «Дарога ў запаветнае» (1992), «Шляхам праўды», «Сувязь» (абодва 1994), «Дзе ж ты, храм праўды?» (1996), «Святло чароўнага ліхтарыка» (кн. 1—2, 1997—1998). Аўтар краязнаўчай кнігі «Ля Каменкі бруістай» (1992), зборнікаў гістарычных нарысаў і эсэ «Зерне да зерня» (1996, Дзяржаўная прэмія Беларусі імя К. Каліноўскага, 1998), «Хто мы, адкуль мы...» (ч. 1—2, 1996—1998), «У часе прасветленыя твары: Гістарычныя эсэ, нарысы» (1999), «Элегіі забытых дарог: Гістарычныя нарысы, эсэ» (2001), «Сполахі далёкіх зарніц: гісторыя ў асобах: эсэ, нарысы» (2005), «Свечка на золкім ветры: эсэ» (2006), «Птушкі з пакінутых гнёздаў: Гісторыя ў асобах: эсэ, нарысы» (2007), «Рагнеда і Рагнедзічы: Гісторыя ў асобах: нарысы» (2010), «Пяшчота апалага лісця» (2010); кніг для дзяцей «Віця Неслух у краіне Мурашоў» (1995, з Т. Мушынскай), «Святая Еўфрасіння» (1999) і інш. Складальнік кніг публіцыстыкі «“Свабоднае” грамадства зблізку» (1986), паэзіі «Мы і яны» (1986) і «Слова міру і праўды» (1987), кнігі «Іван Чыгрынаў» (1999), «Адсюль выток, адсюль натхненне…: Шклоўшчына літаратурная: проза, паэзія, публіцыстыка» (2007), «Свяці, зорка, свяці: Дзецям пра Максіма Багдановіча: нарысы» (2011) і інш. Гістарычнай аповесці «Нежность звёздного неба» (2011). Старшыня бюро секцыі крытыкі і літаратуразнаўства Саюза пісьменнікаў Беларусі.

**Вёска Клешава (Клешаў)** Маяцкага сельсавета

**Жука Алеся** (н. 1.4.1947), пісьменніка, радзіма. Нарадзіўся ў сям’і служачага. Скончыў БДУ (1970). Працаваў у выдавецтве «Мастацкая літаратура», часопісе «Маладосць», у апараце ЦК КПБ, галоўным рэдактарам газеты «Літаратура і мастацтва», у часопісе «Полымя», галоўным рэдактарам часопісаў «Нёман», «Беларусь». Друкуецца з 1965 г. Аўтар кніг прозы «Асеннія халады» (1972), «Паляванне на старых азёрах» (1975), «Зоркі над палігонам» (1977, прэмія Ленінскага камсамола Беларусі, 1978), «Не забывай мяне» (1978), «На саннай дарозе» (1979), «Паўстанак вяртання» (1981, Літаратурная прэмія імя І. Мележа, 1982), «Паляванне на Апошняга Жураўля» (1982), «Чорны павой» (1986), «На дазорнай сцяжыне» (1990), «Помста матылькоў» (1991), «Праклятая любоў» (1991, Дзяржаўная прэмія Беларусі імя Якуба Коласа, 1992), выбраных твораў у 2 тамах (1993—1994), «Над чыстым небам» (1999), «Вечаровае сонца» (2006). Перакладае з рускай мовы.

**Вёска Круглае** Сорагскага сельсавета

**Пенязя Аркадзя** (н. 6.7.1938), паэта, радзіма. Скончыў Сорагскую сямігодку, Старадарожскую вячэрнюю сярэднюю школу, двухгадовыя курсы 23-га Чырванасцяжнага атрада імя А. С. Папова (г. Кранштат). Дваццаць шэсць гадоў праслужыў ва Узброеных Сілах прапаршчыкам. Быў у Афганістане. Жыве ў Старых Дарогах. Аўтар зборнікаў вершаў «Афганскі сшытак» (2004), вершаў і прозы «Афганскія матывы» (2004), «Афганістан амаль не бачны» (2006).

**Вёска Ліпнікі** (раней засценак Даманшчына) Вясейскага сельсавета

**Васілевіч Алены** (н. 22.12.1922), пісьменніцы, радзіма. Скончыла Рагачоўскі настаўніцкі інстытут (1941) і БДУ (1946). Працавала ў курскім абласным выдавецтве, часопісе «Работніца і сялянка» (1950—1972), выдавецтвах «Мастацкая літаратура» і «Юнацтва» (1972—1983). Заслужаны работнік культуры БССР (1977). Друкуецца з 1947 г. Аўтар кніг «У прасторах жыцця» (1947), «Шляхі-дарогі» (1950), «Блізкія знаёмыя» (1954), «Заўтра ў школу» (1956), «Сябры» (1958), «Падслухала сэрца» (1960), «Калінавая рукавічка» (1963), «Пісар страявой часці» (1969), «Адно імгненне» (1974), «Мыс Добрай Надзеі» (1977), «Шурка Рэмзікаў» (1985), «Люблю, хвалююся — жыву...» (1986), «Элегія» (1988), выбраных твораў у 3 тамах (1982—1983). На багатым аўтабіяграфічным матэрыяле напісала тэтрало-

гію «Пачакай, затрымайся...» (аповесці «Расці, Ганка» (1966), «Доля знойдзе цябе» (1967), «Новы свет» (1968), «Пачакай, затрымайся...» (1970, Дзяржаўная прэмія БССР, 1976).

**Вёска Лучнікі** Сяражскага сельсавета

**Золака Янкі** (сапр. Антон Даніловіч; 1(14).11.1912—?), пісьменніка, радзіма. Брат **Алеся Змагара.** Скончыў Мінскі педтэхнікум (1935). З 1935 г. працаваў настаўнікам у школах Бабруйскага раёна, адначасова вучыўся ў Аршанскім настаўніцкім інстытуце. У пачатку Вялікай Айчыннай вайны вярнуўся ў родную вёску, выкладаў у школе, працаваў у аддзеле самапомачы і ў рэдакцыі «Газэты Случчыны». У 1944 г. выехаў у Германію, з 1952 г. жыў у ЗША. Друкаваўся з 1930 г. Аўтар зборнікаў «За чужы грэх» (1958), «Агонь душы» (1979), аповесцей «Т.Д.Ч.» і «Ціхі Стаў», «Твораў» (т. 1—2, 1979—1981), «Вятрыска з радзімай краіны: Зборнік выбраных твораў» (Мн., 1996).

**Случаніна Лявона** (сапр. Шпакоўскі; 3(15).10.1914—25.10.1995), паэта, радзіма. Вучыўся ў Слуцкім педагагічным тэхнікуме, Мінскім тэатральным вучылішчы. Скончыў Мінскі вышэйшы педагагічны інстытут (1936). Настаўнічаў. У 1937 г. быў рэпрэсіраваны. Пакаранне адбываў на Беламорканале. У 1939 г. вызвалены, вярнуўся на радзіму. Настаўнічаў. У час Вялікай Айчыннай вайны працаваў школьным інспектарам на Случчыне. З 1944 г. — у Германіі. Працаваў на фабрыцы, у часопісе «Малады змагар» (Берлін, 1944—1945). З 1945 г. у Беларусі. Зноў быў арыштаваны. Асуджаны на 15 гадоў. Пакаранне адбываў на Поўначы. У 1955—73 гг. загадваў кансультацыйным пунктам рэспубліканскай завочнай школы Комі. У 1973 г. вярнуўся ў Беларусь. Друкаваўся з 1936 г. Яго вершы змешчаны ў калектыўным зборніку «Песняры Случчыны» (1943). Аўтар гістарычнай паэмы «Рагнеда» (1944), аўтабіяграфічнага рамана ў вершах «Алесь Няміра» (нап. 1962—1985, апублікаваны часткова ў 1991 г.) і інш.

**Вёска Лясішча** Кіраўскага сельсавета

**Каржанеўскай Галіны** (н. 27.8.1950), пісьменніцы, радзіма. Нарадзілася ў сям'і служачага. Скончыла БДУ (1973). Настаўнічала. У 1980—1982 гг. — на Беларускім тэлебачанні, з 1984 г. — у газеце «Літаратура і мастацтва». Друкуецца з 1967 г. Аўтар кніг «На мове шчасця» (1973), «Мой сад» (1976), «Званы гадоў» (1980), «Жыла-была...» (1983), «Вечны водгук» (1988), «Невымоўнае» (1991); п'ес «Іван Світаннік» (паст. у 1981), «Шукайце кветку-папараць» (паст. у 1985), «Зуб мудрасці» (1984), «Мора, аддай пярсцёнак» (1987), «А як жа Непаседа?», «Чарнабог» (абедзве паст. у 1996); зборнікаў вершаў для дзяцей «Сінічка на балконе» (1989), «Рэчы для малечы» (1996) і інш. Аўтар чытанак для 1-2-га класаў «Акрайчык» (1995, з М. Яфімавай) і для 3-4-га класаў «Сцяжынка» (1997). Выступае як публіцыст, крытык, перакладчык. Жыве ў Мінску.

**Вёска Манькова,** не існуе, месца знаходжання не ўстаноўлена

**Трафімавай** (сапр. Янучок) **Ларысы** (н. 21.1.1955), пісьменніцы, журналісткі, радзіма. З сям'і настаўніка. Скончыла Мінскае педвучылішча (1974), Маскоўскі народны ўніверсітэт мастацтваў (1975, завочна), факультэт журналістыкі БДУ (1992). Працавала ў дзіцячых садах г. Маладзечна, Мінскім абласным драматычным тэатры, гарадскім Цэнтры эстэтычнага выхавання дзяцей і падлеткаў, кіраўніком літаратурнага аб'яднання «Узлёт» («Літаратурнай гасцёўні Таісіі Трафімавай»), Маладзечанскім музычным вучылішчы. З 2007 г. жыве ў Мінску. Працавала ў часопісе «Маладосць». Цяпер — у Літаратурным музеі імя Максіма Багдановіча. Друкуецца з 1970 г. У маладзечанскай раённай газеце друкавалася пад псеўданімам Т. Іванова. У часопісе «Вожык» пад псеўданімам Тася Манькоўская. Аўтар паэтычных зборнікаў «Усміхніся вятрам» (1998), «Зёлкі ад пакут» (1998), «Паспелі вішні» (2005).

Родным мясцінам прысвяціла вершы «Случчане», «Брату Рыгору», «Аднавяскоўка», «Хутарок маленства», «Ад Слуцкіх крыніц», «Дзе баі грукаталі…», «Выток жыццёвы», «Адна зямля», «Музыка-пясняр», «Вяртанне» і інш.

**Вёска Машчыцы** Акцябрскага сельсавета

**Вечара Алеся** (12(25).3.1905—4.4.1985), біяхіміка, паэта, вучонага, радзіма. Акадэмік АН БССР (1966). Пачатковую адукацыю атрымаў у Слуцку. У 1923 г. паступіў у Слуцкі сельгастэхнікум. У 1925—1929 гг. вучыўся на агранамічным факультэце Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі (Горкі). У 1930—1931 гг. працаваў выкладчыкам у Гарадоцкім тэхнікуме механізацыі сельскай гаспадаркі. У 1931 г. паводле абвінавачання ў прыналежнасці да кулацкай сям'і выключаны з КП(б)Б. У пошуках працы выехаў за межы Беларусі. У 1932—1933 гг. працаваў аграхімікам Сочынскай заалагічнай доследнай станцыі. У 1933 г. вярнуўся ў Беларусь. З 1933 г. — у НДІ харчовай прамысловасці БССР, з 1937 г. — у інстытуце харчовай прамысловасці ў Краснадары, з 1959 г. — у Інстытуце біялогіі АН БССР, адначасова з 1963 г. — у БДУ, з 1970 г. — у Інстытуце эксперыментальнай батанікі АН БССР. Першыя вершы надрукаваў у 1926 г. Выдаў зборнікі вершаў «Кола дзён» (1930) і «Зварот да слова» (1977), паэмы «Мая гімназія» (часопіс «Полымя», 1979). Аўтар прац па біяхіміі раслін і тэхнічнай біяхіміі. Пахаваны на Усходніх могілках.

**Вёска Набушава** Вясейскага сельсавета

**Пашкевіча Алеся** (н. 11.9.1972), паэта, празаіка, літаратуразнаўца, публіцыста, радзіма. Закончыў філфак БДУ (1994) і аспірантуру пры ім. З 2002 г. — старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў. Аўтар кнігі паэзіі «Нябесная сірвента» (1994), дакументальна-гістарычнага рамана пра станаўленне беларускай дзяржаўнасці ў 10—20-х гадах XX стагоддзя «Пляц волі» (2001), рамана «Круг» (2006), літаратуразнаўчых манаграфій «Зваротныя дарогі» (2001) і «Канцэпцыя нацыянальнага быцця ў беларускай літаратуры» (2002), асобных публікацый у друку.

**Вёска Навадворцы** Кіраўскага сельсавета

**Кохана Яўхіма (**21.1(3.2).1912 — ?), паэта, радзіма. Жыў у Багародзіцку Тульскай вобл. З 1928 да 1984 г. друкаваўся ў беларускай перыёдыцы.

**Вёска Новы Двор** Кіраўскага сельсавета
Тут жыў **Якуб Колас** у 1921 г.

***Вёска Покрашава,*** цэнтр сельсавета

**Кавыля Міхася** (сапр. Язэп Лешчанка, іншыя псеўданімы — В'юрок, Я. Ляшчына, Я. Маёвы; н. 1.2.1915), празаіка, паэта, драматурга, крытыка, радзіма. Вучыўся ў Грэскай і Грозаўскай школах. У 1930 г. паступіў у Белпедтэхнікум. Друкуецца з 1929 г. Асуджаны ў 1933 г. Адбываў пакаранне ў ГУЛАГу на Далёкім Усходзе. Вызвалены ў 1936 г. Жыў у Варонежы. Удзельнічаў у Вялікай Айчыннай вайне. Трапіў у палон у баях за Харкаў. У 1943 г. вярнуўся ў Мінск. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну, затым у Бельгію. З 1948 г. зноў у Германіі. У 1947 г. у Рэгенсбургу выйшаў яго першы зборнік вершаў «Ростань». З 1950 г. жыў ў ЗША, у г. Саўт-Рывер (штат Нью-Джэрсі). Быў рэдактарам часопіса «Беларуская думка». Аўтар кніг «Пад зоркамі белымі» (Нью-Ёрк, 1954), «Першая рана» (Манчэсцер, 1960), «Цяжкія думы» (Нью-Ёрк, 1961), «Міжагнёўе» (Нью-Ёрк, 1990), аўтар рамана «Із агню ды ў полымя» (друкаваўся ў часопісе «Беларуская думка» ў 1988—1992 гг.); успамінаў «Казённы дом і далёкая дарога». У змястоўных паэмах «Пад небам Случчыны каханай», «Міжагнёўе», «Непакорныя» апісаў лёс свайго пакалення і лёс Бацькаўшчыны. Займаўся перакладамі, быў рэдактарам часопіса «Беларуская думка», пісаў публіцыстычныя і крытычныя артыкулы, рэцэнзіі, апавяданні. У аўтабіяграфічным рамане «Із агню ды ў полымя» паказаў падзеі вайны на акупаванай Беларусі.

**Вёска Працавічы** Кіраўскага сельсавета

**Шырына Лявона** (1.1.1930—14.5.1994), дзіцячага пісьменніка, паэта, крытыка, радзіма. Скончыў БДУ (1962), працаваў дырэктарам Мяцявіцкай СШ Салігорскага р-на. Друкуецца з 1956 г. Аўтар зборнікаў «Мы дзеці шахцёраў» (1978), «Песні ручая» (1980).

**Вёска Рачкавіцы,** цэнтр сельсавета

**Залескі Бранiслаў**, мастак, пісьменнік, ураджэнец в. *Вызна* Слуцкага павета (цяпер г. п. *Чырвоная Слабада* Салігорскага р-на), у 1856 г. жыў тут, перапісваўся з Т. Шаўчэнкам, запрашаў яго пераехаць сюды жыць.

**Вёска Славінск** Ленінскага сельсавета

**Дайліды Віктара** (н. 28.9.1930), празаіка, радзіма. Скончыў Баранавіцкі настаўніцкі (1952) і Мінскі (1957) педінстытуты. Настаўнічаў, працаваў дырэктарам школ у Баранавіцкім і Слуцкім раёнах. У 1973—1982 гг. — намеснік дырэктара Бюро прапаганды мастацкай літаратуры СП БССР. Друкуецца з 1953 г. Аўтар кніг «Вясна была ранняя...» (1968), «Вясна, хлопцы, вясна» (1966), «Была вайна...» (1969), «Буслы над вёскай» (1979), «Сустрэча з маленствам» (1980), «Пыжыкавая шапка: Гумарэскі» (1986), «Гарох пры дарозе: Аповесці і апавяданні» (1991). Жыве ў Мінску.

**Вёска Старцавічы** (з 1964 г. Знамя), цэнтр сельсавета

**Місько Паўла** (псеўд. П. Андрэеў, П. Жытнёвы, П. Шумскі, Эхінопсіс Вульгарыс; 14.3.1931—9.6.2011), празаіка, радзіма. Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Да вайны скончыў 2 класы, у 1947 г. — Старцавіцкую НСШ, у 1950 г. — СШ № 10 г. Слуцка, у 1955 г. — аддзяленне журналістыкі БДУ. У 1955—1959 гг. працаваў у давыд-гарадоцкай раённай газеце «Сцяг Леніна» адказным сакратаром, намеснікам рэдактара. З 1959 да 1964 г. — уласны карэспандэнт газеты «Звязда» па Гродзенскай вобл., жыў у Гродне. Затым пераехаў у Мінск. Працаваў у «Сельскай газеце». У 1967—1971 гг. — загадчык аддзела культуры рэдакцыі штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», затым загадчык аддзела навукі і мастацтва часопіса «Полымя» (1971—1972), загадчык рэдакцыі прозы выдавецтва «Мастацкая літаратура» (1972—1976), намеснік галоўнага рэдактара гэтага выдавецтва (1976—1980). З 1980 г. на творчай рабоце. Друкаваўся з 1954 г. Аўтар кніг «Адмаўленне ад крыжа» (1964), «Калодзеж» (1967), «Гаспадыні свайго лёсу» (1968), «Падарожжа ў калгас» (1970), «Зямля ў нас такая» (1971), «Дзівак-чалавек» (1972), «Навасёлы» (1972), «Дрэва жыцця» (1973), «Калянае лісце» (1974), «Мора Герадота» (1976, 1981), «Прыгоды Бульбобаў» (1977), «Чэрці ў коміне» (1978), «Градабой» (1980), «Вясельны марафон» (1984), «Грот афаліны» (1985), «Між мінулым і будучым» (1986), «Эрпіды на планеце Зямля» (1987), «Лекцыя з падвывам» (1988), «Хлопцы, чые вы будзеце?» (1990), Выбраных твораў у 2 т. (1991), «Развітальная гастроль» (1991), «Акрабат у бутэльцы» (1994), «Ружовыя ліўні» (2001), «Пакуль зямлю мілуе сонца» (2005). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя М. Лынькова (1994).

***Дзмітрый КРЫВАШЭЙ, Адам МАЛЬДЗІС***

***Працяг у наступным нумары***





# Бярозка

№ 6/2012(1009)









**bjarozka@mail.ru**
**vk.com/club 34570145**





● **Верасок**

# Малінаўскія галасы



***На базе бібліятэкі № 15 Мінска існуе літаратурны гурток пад зычнай назвай «Малінаўскія галасы». Сюды прыходзяць як вучні старшых класаў школ мікрараёна, так і значна меншыя па ўзросце. Іх аб'ядноўвае любоў да мастацкага слова і жаданне быць пачутымі ў бязмежнай літаратурнай прасторы. Творчы кіраўнік гуртка — паэтэса Іна Фралова.***

* * *

Па вуліцы цёмнай іду я —
Няма ні людзей, ні машын.
Чарней чорнай ночы пануе
Настрой у самотнай душы.

Шкрабецца параненым зверам,
Душу на кавалкі ірве,
І топіць сваім недаверам,
Нібыта я ў чорнай дрыгве.

Чаромхавай квеццю завею
Услед на душу нацкуе,
Бо розум шчэ цепліць надзею,
І сэрца малітву пяе.

*Ганна УРОНСКАЯ,*
*11 клас, СШ № 215, Мінск*

* * *

Бягуць да хат імкліва па двары
Даўно знаёмыя «чужыя» чаравікі.
Ніхто, на жаль, не бачыць, як стары —
Стары сабака іх вядзе падлікі.

На лапы ціхенька паклаўшы галаву,
Саромячыся слёз — хавае вочы.
«Стрыжэ» хвастом пажоўклую траву,
Калі пагладзіць знойдзецца ахвочы.

Такі, відаць, сабачы выпаў лёс —
Век дажываць нябогам беспрытульным.
Ніхто сабачых не заўважыць слёз...
Усё б нічога! Дзе б куток утульны?!

Дварняк галодны з сумам уздыхне:
— Якія могуць быць з жыццём разлікі?!
І ад пачатку самага пачне
Лічыць знаёмыя «чужыя» чаравікі.

***Марына МАРОЗАВА,***
***11 клас, СШ № 215, Мінск***

* * *

Засумаваўшы ў гавані, прымроіў карабель
Калісьці напатканую ў вандроўцы паралель.
І тут жа сябра-вецер узяўся памагчы —
Напоўніў туга ветразь і ўсеўся на плячы.

Спяшаецца нястомна да мэты карабель,
А сябра-вецер верны вядзе сваю дуэль —
Да сіпаты змагаецца з шалёнаю вадой
І песенькай вясёлаю ўздымае ў хваль настрой.

Якой цяжкой вандроўка б на моры не была,
Але для сябра вецер не шкадаваў крыла.
Імкненне да прыгодаў — адвагі іх сакрэт,
Вітаў сяброў далёкі бязмежна-сіні свет.

***Сёстры Марыя і Наталля КОЧАТАВЫ,***
***9 клас, СШ № 207, Мінск***

# У мяне няма каханага! Чаму?



*Фота Рагнеда Малахоўскага.*

Мне ўжо пятнаццаць. Або яшчэ пятнаццаць. І ў мяне няма каханага хлопца. Я не вельмі хвалююся з-за гэтага. Але, ведаеце, здараюцца моманты, калі сяброўкі з захапленнем расказваюць пра свайго незвычайнага Мікіту, прыгожага Жэню, клапатлівага Дзіму... А мне застаецца толькі ківаць галавой і як мага шырэй усміхацца. У такіх сітуацыях я пачуваюся слімакомпустэльнікам... І задаю сабе пытанне: «Чаму ў мяне няма хлопца?» Я ж маладая. І душа патрабуе кахання!

Каб быў хлопец, трэба яго знайсці. Але як? Вядома, у маім асяроддзі ёсць шмат асоб мужчынскага полу. Але праблема ў тым, што Артур любіць выключна сябе (на такіх, як ён, у мяне жудасная алергія). Рома, наадварот, самааддана кахае ўсіх навокал. У Міхася адна любоў на ўсё жыццё — гісторыя, а ў Лёшы — Вераніка. Вова занадта прыгожы для мяне. З Антосем мы проста сябруем. Андрэй малады, а Аляксандр — дарослы. Паша дзіўны. Стэфану я падабаюся, але гэта неўзаемна. На жаль... А вось Ягор мне сімпатызуе, і я яму таксама. Але ён жыве ў іншым горадзе.

Занадта шмат увагі мы надаём сёння знешнасці. У пагоні за моднымі джынсамі мы забываем, што кахаюць не знешнасць, а душу. Так, я ніколі не была ідэальнай. І не трэба. Мне падабаецца маё рабацінне і мая постаць, хоць яна і не адпавядае агульнапрынятым стандартам. Я не прачынаюся штораніцы ў 6.30, каб нафарбавацца і падабраць спадніцу ў тон шкарпэткам.

А разуменне кахання, стаўленне да адносін? У кожнага яно сваё. Напрыклад, мая сяброўка Юля лічыць, што каханне прыходзіць раз у жыцці і не ў пятнаццаць гадоў. Таму, калі ёй прызнаюцца ў каханні, яна загадкава маўчыць. Вераніка таксама падабаецца многім хлопцам, але для яе цяпер важней вывучаць уласцівасці серавадароду і ўнутраную будову чалавека. Каця знайшла каханне на ўсё жыццё і сустракаецца з хлопцам ужо 2 гады. Даша ўвесь час у пошуках шчасця. Шукае, знаходзіць, памыляецца і зноў шукае. Для яе каханне — гэта жыццё.

А ўвогуле... Я яшчэ не закахалася! І гэта самая галоўная прычына, чаму ў мяне няма хлопца. Я веру, што каханне — гэта нешта асаблівае, вышэйшае. Сам лёс сутыкае нас з патрэбнымі людзьмі ў патрэбны час. Не трэба шукаць у кожным сваё каханне. І калі цяпер я не закаханая, значыць, не сустрэла свайго чалавека. Значыць, час яшчэ не прыйшоў.

*Настасся ГОРБАТ,*
*15 гадоў, Маладзечна*

* * *

«Я памятаю першую сустрэчу,
Калі збянтэжаная я стаяла,
І мне хацелася стаяць так вечна...
Той момант паўтарыць бы я жадала!» —

Так думала звычайная дзяўчына,
Што ўпершыню кахала, адчувала.
Такая нечаканая навіна,
Што ўсё ў яе жыцці шчаслівым стала.

А Ён? А што яму?
Яна не першая, ды й не апошняя.
Не мог «нашкодзіць» ён жыццю свайму.
Яго расстанне не кранула слёзнае.

Не плач, дзяўчына, не трэба...
Не варты тваіх Ён крыштальных слёз.
Каханне... Яно ад неба.
Складанасці гэткай Ён не панёс.

Але ты, дзяўчына, ведай:
Забудзеш усмешку Яго.
Нямала Ён зведае бедаў
І ўспомніць шчэ, страціў каго.

Нялёгка ў жыцці Яму будзе,
Ды гэтак, усё ж, справядліва.
Кахаць хай спяшаюцца людзі,
Ад любві не бягуць баязліва!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Так бывае:
Позна разумеем мы,
Што для сябе губляем
Кропельку душы.

***Юлія МАШАРА, 11 клас,***
***в. Юндзялова Віцебскай вобласці***

# Разгадваць святую таямніцу жыцця з пляцаком за спінай*

## Сёння шумнае лета ў Бамбеі, заўтра — цішыня зімовага Кіева

Прыгожае, глыбокае і моцнае перажыванне жыцця — хіба не гэтым падарожжа ў першую чаргу слаўнае? Ну, як кіно ў кінатэатры глядзіш і захапляешся... У дарогах часам бывае цяжка, сумна, нудотна. Калі чатыры гадзіны «вісець» на трасе альбо цэлы дзень у кабіне фуры сядзець... Калі тры дні запар дажджы, а твой дом — гэта лес і вільготны намёт... Але, па-першае, і гэта перажыванні такія, вельмі сапраўдныя, не штучныя, такіх не перажыць на гарадской кухні, па-другое, жыццё ўзнагароджвае за «пакуты»: мерзнеш тры гадзіны на трасе, а потым цябе «падбірае» добрая сям'я, яшчэ і ў госці запрашае на абед. І радасна-радасна неяк!.. Альбо надыходзіць ноч, а ты ўсё яшчэ з дальнабойшчыкам у фуры імчышся па зімовым заснежаным лесе. І нейкая чароўная, добрая і на дзіва прыемная містыка начной трасы ахоплівае. Дальнабойшчык, родам з Балгарыіі, ставіць кружэлку з нацыянальнай музыкай. Цёплая, захапляльная гутарка завязваецца.


*У Паўднёвай Індыі.*

Памятаю, як моцна і востра перажывалася снежная зіма пасля двух месяцаў у Індыі.

Мая Індыя — гэта таксама вольнае падарожжа: праўда, без аўтастопа, бо гэта ўвогуле вельмі часта немагчыма на паўвостраве Індастан, але ж і без турфірмы. Адна... Надакучыла быць залежнай, шукаць і не знаходзіць спадарожніка — паляцела ў Бамбей без сябра-таварыша, без сябра-таварыша і вярнулася.

Адзінае, што заставалася нязменым на працягу двух адметных месяцаў жыцця ў краіне кастаў і

* Працяг. Пачатак у № 5 за 2012 г.



каляровых сары — гэта я сама ды пляцак за спінай. А зрэшты, толькі пляцак, бо і я змянялася, перажываючы разнастайную палітру станаў: «Сонечныя індыйскія ранкі — проста цуд!», «Да самалёта цэлых паўмесяца! Як усё бязглузда, як больш не хочацца вандраваць і жыць у гест-хаўсе...», «Свяшчэнная Ганга! Я і не думала, што яна так уразіць!»



*У лесе на Карэльскім перашыйку пад Піцерам.*

Мая Індыя — гэта сельскі аўтобус, у якім нават англійскую мову не ведае ніхто. Неверагодна шумныя і хаатычныя гарады з каровамі на вуліцах, што без сораму сунуць пысу ў сметніцу. Жанчыны ў стракатых і каляровых сары, паўсюднае смецце, свежы сок з зялёнага какоса, бананы штодзень, малпы, зграі пацукоў на індыйскай чыгунцы. Каларытныя, часта вельмі шчаслівыя, але прагныя да грошай недатыкальныя. Ежа, якая ў індыйскіх гарадах абавязкова вострая. Індыйскі акіян; зрэшты, пяць дзён на Індыйскім акіяне, а потым чаканне на брудным індыйскім вакзале, дзе натуральна ляжаць на падлозе, і цягнік, зноў цягнік... Два месяцы падарожжа па краіне: больш, чым на пяць дзён, на адным месцы я не затрымлівалася.

Карацей кажучы, Індыя — надзвычай уражвальнае кіно для беларуса. Але і з гэтай стракатай краінай звычайная справа: спачатку яна — Адкрыццё, а потым так сабе. Некаторым, хто праводзіць кожную зіму на паўвостраве Індастан (а гэта цяпер папулярная практыка сярод рускіх і асабліва сярод еўрапейцаў), ужо і вандраваць па краіне лянотна і нецікава. Тады можна спакойна зімаваць на ўзбярэжжы акіяна дзе-небудзь на пляжах неахіповага Гоа, зарабляючы грошы танцамі альбо музыкай, калі на тое здольны.

У заснежаны (і пасля Індыі такі спакойны і ціхі) Кіеў я прыляцела ў сярэдзіне марознага студзеня. Вяртанне ў родную зіму — гэта было сумна, але прыгожа, звонка і вельмі не будзённа. Як дзяцінства, як палатно жывапісца.

У сонечным Бамбеі было плюс трыццаць, у Кіеве, куды прылятаў самалёт, — мінус сямнаццаць, шэрыя зімовыя курткі, аніякага сонца. Як холадна ў Кіеве і як тужліва-незразумела!

Чамусьці (па звычцы, відаць) у сямнаццаціградусны мароз я паехала аўтастопам — з родным пляцаком за спінай, прыгожа вышытай торбай з Гоа, а ў торбе — вялікая скрынка з улюбёнай індыйскай масала-гарбатай... «Вісела»



*На беразе Паўночнага мора ў Нідэрландах.*

гадзіны тры на мяжы, за-мяр-за-ла! Дальнабойшчык, які нечага чакаў, не пажадаў ратаваць, ніхто не пажадаў ратаваць. Але я за-мяр-за-ла! Папрасілася пагрэцца ў кабіне фуры: у выніку дальнабойшчык давёз да самага Мінска. І ехалі праз ноч па заснежаным лесе, прыпыняліся ў дарожнай сталоўцы, дзе так шэра, па-постсавецку сціпла. Я гутарыла па мабільным тэлефоне з бацькамі, не магла стрымаць слёз — такая шчымлівая радасць унутры!.. Увогуле ж, мне было сумна. Але сум гэты быў на дзіва сапраўдным, як гэты снежны і некрануты горадам начны лес.

## І цябе стала болей!..

Роля «вольны вандроўнік» узбуйняе раўчук жыцця: ён пашыраецца, паглыбляецца, цячэ смялей, весялей. І, здаецца, цябе стала болей! Па-рознаму можна жыць: у кватэры, у намёце, у лесе.

У першых падарожжах я востра сумавала па доме. А потым ужо менш атаясамлівала сябе са сваім горадам, са сваім родным пакоем. І стала цікава час ад часу знаходзіць адчуванне: дарога, па сутнасці, нічога не мяняе, бо дом паўсюль. Ды і кола знаёмых узнікла ў «чужых» гарадах.



Мне здаецца, што некаторыя сусветы пачалі адкрывацца дзякуючы менавіта далучанасці да святой стыхіі дарогі. Павандраваўшы па Еўропе, я пачала сур'ёзней цікавіцца выяўленчым мастацтвам.

А яшчэ як жа пазнавальна не толькі самому вандраваць, але і прымаць гасцей! Часам я «падбірала» вандроўнікаў проста на вуліцы. І вось усяго на тры ночы падзяліўся дахам, але, аказваецца, паспееў за гэты час палюбіць госця, прывязацца да яго і цэлае жыццё з ім перажыць. З'язджае чалавек, а табе сумна. І пачынаеш адчуваць захапляльнасць жыцця, бо развітвацца з маляўнічым, як захад, сумам і, можа, больш не ўбачыцца ніколі, — гэта кранальна. Аддаеш назаўжды госцю адзін са сваіх улюбёных швэдараў, бо свой ён згубіў недзе ў дарозе...

## «Праходзіць, не пакідаючы і ценю на сцяне»

Бывае, можа падацца, што «надакучыла!» — вывучаць гарады, ездзіць на які-небудзь фестываль альбо ўвогуле вандраваць. Можа, і на самай справе надакучыла. А можа, усяго настрой такі, які абавязкова зменіцца супрацьлеглым. Ці час прыспеў займацца чымсьці іншым, а потым зноў у стыхію дарогі вярнуцца. Мудрыя людзі, што жывуць з расціснутымі кулакамі, пагаджаюцца з усімі праявамі жыцця.

Навандравацца, рэалізаваць сваю прагу прыгод — ад гэтага робішся больш спакойным, а значыць, мудрэйшым. Ужо так, як раней, не турбуешся, што ў гэтым жыцці можна прапусціць нешта грандыёзнае.

Мне ўжо не шаснаццаць, мне дваццаць чатыры. Я люблю сваю біяграфію — біяграфію аўтастопшчыцы, дзяўчынкі з пляцаком, дзяўчынкі з хіповымі фенькамі.

Біяграфія гэтай дзяўчынкі — таленавітае, як само жыццё, кіно. Яго не перадасі часопіснай публікацыяй альбо фотаздымкамі. І разгортваецца гэта кіно выключна ў *маёй* галаве. Яно прыгожае і таемнае, бы начныя мятлікі ўлетку, што ляцяць на святло загараднай веранды. Кожны ведае гэты ціхі, але ап'янальны і не будзённы водар успамінаў.

Любая дарога заканчваецца цьмянай і цеснай прасторай знаёмага ліфта. Мінулае — гэта *мінулае*. Мінулае — гэта выдумка розуму, кіно выключна ў *маёй* галаве.

Я выдумала гэтую дзяўчынку з пляцаком. Але я люблю яе. Гераіню кінастужкі пра дарогі. Пра жытнёвыя палі ля трас. Пра гарбату ў кабіне фуры — са стомленым і добрым дзядзькам дальнабойшчыкам.

***Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ,***
***фота аўтара***

***Сябры! А якія падарожжы адбываліся з вамі? І што яны дапамаглі вам зразумець? Адкрываць усё новыя сусветы можна не толькі ў Мірскім замку альбо ў Парыжы, але і ў беларускай вёсачцы. Ліструйце, выказвайце сваё меркаванне на старонках нашага часопіса!***

# Так не хапае сцэны



Гэта сумнае пачуццё, якое точыць цябе знутры, калі сядзіш за кулісамі ці ў зале і глядзіш на тое дзеянне, што адбываецца там — у святле сафітаў і ў хвалі чалавечых эмоцый...

Успамінаеш, як раней плакалі, дакаралі бацькоў за «страчанае дзяцінства», злаваліся з-за частых канцэртаў, недахопу часу, нервовых рэпетыцый і летаніны. Пяціхвіліннае, але такое непаўторнае адчуванне дзікага ўсплёску эмоцый у душы пасля выступлення хутка згладжвалася і «заядалася» іншымі праблемамі.

Потым сталелі і проста «адмазваліся» ад усяго гэтага, спасылаючыся на неіснуючыя важныя справы.

І вось праходзіць час — зусім няшмат, літаральна год ці два, і ты разумееш, што ўсё гэта — дадзена перажыць не кожнаму, што аднойчы пабываўшы на сцэне, пракраўшыся ў таямніцы рэпетыцый і пачуўшы апладысменты, адрасаваныя табе і тваёй творчасці, ты ніколі не зможаш гэтага забыць.

Адразу хочацца гэтак жа, як і артысты, выйсці на сцэну, «зарадзіць» публіку і атрымаць асалоду самому. Пабыць зноў у той мітусні...

Мне хапіла паўгода, каб зразумець, як моцна буду па ўсім гэтым сумаваць...

*Ганна САСНОЎСКАЯ,*
*17 гадоў*

● **Дынамік**

# Сцёбны кабацкі рок-н-рол, r'n'b ды інш.

Прыкіньце: сядзіце гэтак з сябрамі ў кавярні і дзень нараджэння адзначаеце, а вакол якасны беларускі музон без асаблівай загрузкі — добра! І вось яно, але ўпершыню ў гэтай плыні («РСП», «ЛТ»), нарэшце абышлося без трасянкі, а значыць і без люмпенізацыі кабацкіх забаў. Праўда, быў яшчэ «Камэлот», куды збіраліся пісьменныя, адукаваныя людзі, якіх не задаволіш стылістыкай kalhaz-rock. Але ж і «Кальмары» вызначылі сабе больш высокую планку, дзе можна абысціся без самапрыніжэння нават у кабацкай кампаніі. Ці справіліся? Гэта давёў прэзентацыйны канцэрт альбома «Пад піва» ў сталічным клубе «Re:Public», калі «Кальмары» выступілі ў агульным канцэрце з бярозаўскім жа «:B:N:».

Як удалося нейкім пачаткоўцам прабіцца на такі прэстыжны канцэрт? Ніякага вонкавага пратэкцыянізму, бо тым «пачаткоўцам» знаёмая ўжо і сцэна клуба «Reactor» яшчэ з 2008 года, дый хто ж не ведае іхні мега-хіт:

Падышоў да дзяўчыначкі,
Каб напіцца са скрыначкі.
Яна пасвіла сто жывёл
І гуляла у бадмінтон.
Дык сказала яна тады:
«Гэй, хлапеча, ідзі сюды,
На жаданне згуляй са мной,
Пераможаш, буду тваёй...»
Ох, як яна гуляла ў бадмінтон!




Гэта ўжо амаль класіка беларускай песні, ажно аўтар славутых «Ручнікоў» Мікола Пятрэнка здрыгануўся. Твор выдаваўся на шматлікіх складанках і, безумоўна, трапіў бонусам у альбом «Пад піва» (трэк са шчаслівым нумарам 13).

А чытаю ў буклеце выдання склад тых «пачаткоўцаў», дык там практычна ўвесь «:B:N:», былы і цяперашні: Сяргей Машковіч (вакал, ён у абодвух гуртах і тэксты піша),



*Гурт «Кальмары».*

Максім Шолахаў (басіст, граў у першым альбоме «:B:N:»), Максім Літвінец (вакал, у «:B:N:» на рытм-гітары), а за бубнамі — сам фронтмэн і гітарыст Алесь Лютыч. Але ўсё ж «Кальмары» — не «:B:N:», бо гітарыст Генадзь Чарныш, трубач Аляксей Цуркан, акардэаніст Алесь Яровіч упершыню на сталічнай сцэне. Але хапіла досведу вартасна адзначыцца. Дый у альбоме сола на акардэоне напрыканцы песні «Пакаленне пепсі-кола» або на трубе ў песні «Чырвоны капялюш» пацвярджае выдатны клас музыкаў. А гітарыст Генадзь Чарныш дык і ўвогуле музыку сам піша («Сантэхнік», сапраўдны хіт «Выпускніцы», «Чырвоны капялюш» з Яровічам, «Ён і яна» з Лютычам). Атрымліваецца ў яго не горш за Лютыча («Бадмінтон», «Імпарт-экспарт», «Party», «Жоўтыя тухлі», «Калдыры», «Пакаленне пепсі-кола»).

Усе чатырнаццаць трэкаў альбома «Пад піва» — узорная лёгкая музыка з выразна незагрузнымі рыфмамі кшталту «кіно/даміно, п’яны/стаканы, зарплаты/дахаты» («Ён і яна»), «твары/мары, бутэлькі/нядзелькі, двары/пары/калдыры, зімой/добры настрой, людзі/добра будзе» («Калдыры»), «чаркі/шкваркі, абшары/кальмары, мроі/напоі, піва/шчасліва» (апошняе, натуральна, з фірменнай стартавай песні «Кальмары»). І ўсё гэта — пад танцавальныя рытмы полечкі, танга, хіп-хопу ці босса-новы. Нямала ў альбоме і пазнавальных рэтра-цытат са стылістыкі часоў рок-н-рола, бугі-вугі ды нават hard-rocku. А часам «Кальмары» наўпрост ідуць на жартаўлівую беларусізацыю знакамітых сусветных зонгаў (напрыклад, «Амбрэла» ад спявачкі Rihanna, зоркі амерыканскага r’n’b). Але варта яшчэ заўважыць, што сэнс песень пры тым відавочна не прыніжана-алкагольны, а цалкам здаровы: «колькі можна ужо піці,/ лепей ешце болей, людзі,/ і тады ўсё будзе добра,/ і тады ўсё добра будзе».

Асабняком бы паставіў я хіт «Хлопчыкі з Бярозы», у якім выяўлена традыцыйная беларуская любоў да сваёй «малой» радзімы. Без самапрыніжэння перад «цэнтрам», без боязі клішэ правінцыялізму, з трывалым асэнсаваннем паняцця «наш край» як цэласць.



Дождж, падаюць кроплі
З неба на дахі,
І мы, быццам птахі.
Лятаем між іх.
Ты была незвычайнай,
Прыгожай, імклівай,
Затое, мажліва,
Не плакала ў слізь.
А па вачах тваіх
Бягуць маўкліва слёзы,
А я — адзіны з тых...
Тых хлопчыкаў з Бярозы.

Я, праўда, не ўпэўнены, што азначае назоўнік «слізь», бо запісваў цытату на слых, але ж відавочна нешта склізкае або слязлівае, але непаразумення ў слухача не выклікае. Каму ж яшчэ, як не чыстакроўным беларусам (крывічам, лютычам, ліцвінам, літвінцам) прыдумваць неалагізмы беларускія!

Калі адзін мой сябра-меламан наракаў, што нібыта ў альбоме «Пад піва» не хапае нейкай навізны, няма да чаго прыслухоўвацца, я адказаў: «Схадзі ў оперу, але ж і там пад піва табе не дадуць прыслухацца. Гэта музыка адпачынку, у ёй выразныя танцавальныя рытмы. Яны кепска сыграны?» — «Не.» — «Дык не пакутуй, адпачывай. Гэта не для слухання, а для адпачынку». Не ведаю, наколькі я быў пераканаўчым, але часта ў дарозе, едучы машынай, вельмі прагну менавіта такой музыкі, якая не дасць заснуць, але здыме любую стому. 47 хвілін такой музыкі вы знойдзеце акурат у альбоме «Пад піва» бярозаўскага гурта «Кальмары».

А тое, што прадукт сур'ёзны пры ўсёй сваёй лёгкасці, гаворыць факт, што мастацкай аздобай «кальмараўскага» альбома «Пад піва» займаўся гітарыст «IQ48» Яўген Бузоўскі, які выкарыстаў здымкі Анастасіі Сушчэвіч. Ну проста як у ваду глядзеў.

Але ж як яна гуляла ў бадмінтон!

*Вітаўт МАРТЫНЕНКА,*
*музычны крытык*



● **Слоўнік-алоўнік**

# Глум, глуміць

**Глум** — пра што-небудзь папсаванае, марна страчанае.

**Глуміць** — марна траціць, псаваць.

**Пайсці на глум** — фразеалагізм, што значыць «псавацца».

*Пад восень паны з лесавых урочышчаў пачалі скардзіцца на часты* ***глум*** *лесу мужыкамі.*

Рыгор МУРАШКА

*Восень* ***глуміць***
*Усе кветкі, ўсе галінкі,*
*Ўсё змятае да сцяблінкі.*

Цётка

*Калі жыццё* ***пайшло на глум****, трэба пастарацца, прынамсі, прыгожа памерці.*

Фрэдэрык БЕГБЭДЭР





На гэты раз беларускія слоўкі «Бярозка» вучыла разам з 8 «В» класам мінскай гімназіі № 56. Падлеткі атрымалі творчае заданне: напісаць выказванне ці прыдумаць гісторыю, выкарыстаўшы словы **«глум, глуміць»**.

У мяне было багата сяброў. Усе яны былі прыветнымі, вясёлымі і харошымі людзьмі. Аднойчы іх не стала ў мяне. Бо маё здароўе пайшло **на глум**, і многія з сяброў адвярнуліся ад мяне. У такія моманты разумееш, хто сапраўды быў табе сябрам. Яны нават перасталі размаўляць са мной, і гэта, безумоўна, **глуміць** маё добрае меркаванне пра іх.



***Соф'я ЛЯВЫКІНА.***

Жыў-быў на свеце хлопчык. Яго звалі Мішам. І была ў Мішы мянушка **Глум**. Мянушку яму далі за тое, што ён псаваў усё, да чаго дакранаўся, хаця і хлопчыкам ён быў на самай справе добрым. Была ў **Глума** мара — стаць вучнем. І вось аднойчы ён пазнаёміўся з адной жанчынай. Яна ўбачыла надзею ў яго вачах і дапамагла пайсці ў школу, дзе ён навучыўся ўсяму, чаму хацеў. Калі **Глум... Глум**? Ды не, цяпер ужо не Глум, а проста Міша! Калі Міша скончыў школу, то стаў вельмі працавітым чалавекам, які дапамагаў людзям у іх жыццёвых справах.



***Ігар САКАВЕЦ.***

У людзей адносіны часта ідуць **на глум**, таму яны не заўважаюць адно аднаго і не размаўляюць, але гэта не добра, таму што кожны мусіць звяртаць увагу адно на аднаго.



***Кірыл ЛІСТУНОЎ.***

***Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ,***
***малюнак Вольгі Алейнікавай,***
***7 клас, гімназія № 25, Мінск***

# Вялікі конкурс школьных сачыненняў



*Ілюстрацыя да кнігі Джэрома Сэлінджэра «Над безданню ў жыце».*

## Дзяліцеся сабой

***Сябры! Мы вельмі ўсцешаны вашымі новымі сачыненнямі ў нашай паштовай скрынцы. Але, на вялікі жаль, не кожнае з іх трапіць на старонкі «Бярозкі». Стандартныя памылкі першых літаратурных і журналісцкіх спроб: не раскрыць тэму ды замест цэласнага і глыбокага твора, даслаць нам усяго толькі павярхневыя накіды. Згубіць сваю ўнікальнасць у вельмі абстрактных, банальных і бясформенна «размазаных» разважаннях. Скарыстоўвайце яркія і канкрэтныя факты, шукайце штосьці незвычайнае. Распавядайце цікавыя жыццёвыя гісторыі людзей, бо, як той казаў, людзям больш за ўсё цікавыя людзі! Імкніцеся заўважаць дэталі. І... дзяліцеся сабой на старонках «Бярозкі»: гэта цікава і прыемна!***

*Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ*

З дзяцінства бацькі Паліны Бучэль выхоўвалі ў ёй любоў да кніг. Правесці вечар за чытаннем — лепшы адпачынак. Амаль усё жыццё Паліна прыдумляла розныя гісторыі і апавяданні, старанна іх запісвала. Любімыя прадметы ў школе — гісторыя і літаратура. Паліна Бучэль марыць стаць журналістам. Лічыць, што галоўнае ў жыцці не здавацца і верыць у свае сілы.

## Маё люстэрка Холдэн Колфілд

Цудоўных кніг напісана багата. І, на жаль, прачытаць іх усе не змог бы ніхто з нас. Кнігі — гэта непаўторныя гісторыі і густы кожнай эпохі. Многія з іх застаюцца папулярнымі на працягу стагоддзяў, становяцца класікай, іншыя актуальныя толькі ў межах цяперашняга часу. Але кожны пісьменнік марыць



пра тое, каб яго твор знаходзіў адгалоскі і праз шмат гадоў.

Калі б мяне спыталі пра тое, якую кнігу я лічу самай любімай, я б разгубілася. Кожную прачытаную кнігу я вельмі люблю. Усе яны адкрывалі для мяне нешта новае, прымушалі вучыцца ў галоўных герояў, хваляваца, спачуваць. Але ўсё ж ёсць адзін твор, вельмі значны для мяне, вельмі асаблівы.



*Паліна Бучэль.*

Раман Джэрома Сэлінджэра «Над безданню ў жыце» я прачытала ў 16 гадоў. Калі перагарнула апошнюю старонку, глыбока ўздыхнула. Здавалася, што аўтар увесь гэты час сачыў за маім жыццём, нейкім неверагодным чынам лавіў мой настрой і эмоцыі ды старанна гэта запісваў. Галоўны герой Холдэн Колфілд здаваўся мне часткай мяне самой. Я разумела літаральна ўсе яго думкі, улоўлівала ўсе перажыванні і засмучалася з-за яго няўдач.

Холдэн — сямнаццацігадовы юнак, які жыве ў Амерыцы 50-х гадоў мінулага стагоддзя. Ён ставіцца да людзей з пагардай, не імкнецца «згладжваць» выразы і кажа тое, што думае. Такая адкрытасць і просталінейнасць — раскоша, якую не кожны дарослы можа сабе дазволіць. З-за гэтага Холдэна выключаюць з многіх навучальных устаноў. Але гэта не змяняе яго прынцыпаў. Хлопца раздражняюць крывадушнасць і хлусня. Усё вакол здаецца яму прытворствам.

Але на працягу твора ён, трапляючы ў розныя складаныя сітуацыі і знаходзячы выйсце з іх, вучыцца чамусьці, робіць некаторыя высновы. Спрабуе разабрацца ў сабе і сваіх жаданнях. У канцы рамана Холдэн разумее, што для яго сапраўды важна. Усведамляе, для чаго яму варта жыць.

Галоўнаму герою Сэлінджэра, як і шматлікім падлеткам, уласцівы максімалізм. Але ўсё ж ён валодае тымі якасцямі, якіх многім дарослым так не стае: сумленнасць, адкрытасць, шчырасць і цвёрдае пачуццё справядлівасці. Калі б гэтымі якасцямі валодалі дарослыя, мне здаецца, свет стаў бы значна дабрэйшым.

Раман «Над безданню ў жыце», напэўна, нікога не пакіне абыякавым. Любы малады чалавек зможа пазнаць сябе ва ўчынках, думках і выказваннях галоўнага героя. А даросламу гэтая кніга нагадае пра тое, што ён таксама быў неспрактыкаваным падлеткам, які задаваўся пытаннямі, адказы на якія так цяжка знайсці. Гэты раман нагадае, што мы занадта часта бачым складанае ў простым і зразумелым. І, магчыма, прымусіць нас стаць крышачку лепшымі.

***Паліна БУЧЭЛЬ,***
***17 гадоў, Мінск***



● Вернісаж

# Завітаць у госці да мастачкі Сашы





***На мой погляд, на свеце няма такога чалавека, які б не быў хоць у чымсьці таленавітым. Адзін добра ведае матэматыку, рашае складаныя задачы. Другі мае вялікі поспех у спорце, трэці займаецца музыкай, чацвёрты піша вершы...***

У маёй гімназіі № 25 горада Мінска таксама ёсць вялікая колькасць таленавітых дзяцей. Але я хачу звярнуць асаблівую ўвагу на адну дзяўчынку з майго класа — **Аляксандру Нікалаеву**. Летась яна скончыла музычную школу, цяпер займаецца ў мастацкай. У кожную сваю работу яна ўкладае ўсю сваю душу, таму газеты і плакаты, малюнкі і мініяцюры, якія дзяўчынка намалявала для конкурсаў у нашай гімназіі, займаюць першыя месцы і заўсёды адзначаюцца як лепшыя. Калі ў нас узнікаюць пытанні наконт таго, як лепш штосьці ўпрыгожыць, Саша заўсёды параіць, дапаможа і прапануе крэатыўную ідэю.

— Я адчула ўжо ў раннім дзяцінстве, што ў мяне добра атрымліваецца маляваць. Але таксама хачу сказаць вялікі дзякуй сваім бацькам, якія заўважылі гэтыя здольнасці і правільна накіравалі мяне, аддаўшы ў мастацкую школу.

**— А ўвогуле, ты захапляешся высокім мастацтвам?**

— Так. Летась з бацькамі наведала «Эрмітаж» у Пецярбургу. Маю цікавую калекцыю кніг «Вялікія мастакі». Больш за ўсё мяне захапляюць палотны Леанарда да Вінчы, у асаблівасці «Мона Ліза». Мастацтва аказвае



мне вялікую дапамогу: дазваляе ажыццявіць мары, выразіць пачуцці і адпачыць душою.

**— Ці забяспечана ты ўсім, што патрэбна для творчасці?**

— У мяне ёсць усе, што неабходна для творчасці. А падтрымліваюць мяне ў гэтым бацькі і сябры.

**— А вось розныя хатнія заданні ў школе... Яны ж адбіраюць твой творчы час!**

— Выкананне хатніх заданняў, канешне, адбірае шмат вольнага часу, але я спраўляюся з усім. Час ад часу мне вельмі хочацца адпачыць пасля мастацкай школы, але я ведаю, што яшчэ трэба зрабіць заданні і для школы. Нікуды не падзецца ад гэтага. Хачу ўсюды паспець, хоць гэта і вельмі цяжка.



**— А калі б не было грошай на фарбы і ўсё астанняе?**

— Я заўсёды знайду альтэрнатыўны варыянт. Чагосьці не будзе — зраблю нешта іншае.

А цяпер апынемся ў яе пакоі... Сапраўды, адразу заўважаем, што тут жыве творчы чалавек! Вось сінтэзатар, на якім Саша цудоўна грае, вось мальберт. А колькі тут фарбаў!.. І гуаш, і акварэль, і фарбы для шкла. А для стварэння цікавых лічбавых выяў Саша выкарыстоўвае камп'ютар. Сучасныя лічбавыя тэхналогіі таксама дапамагаюць у творчасці. На маё пытанне, у чым заключаецца сакрэт поспеху, Саша адказала, што галоўнае — гэта адданасць сваёй справе, працалюбства і аптымізм. «Рабі, што трэба, і не адчайвайся. Калі што не атрымалася — спрабуй зноў!»



Кожны дасягае мэты па-свойму. Калі маеш пэўны талент, то выбірай свой шлях яго развіцця! Хто ведае, можа ў будучыні мы пачуем і тваё імя.

*Мар'яна ЯЦЭВІЧ,*
*16 гадоў, фота Андрэя Нікалаева*